CENTRUM EDUKACJI OBYWATELSKIEJ POLSKA — BIAŁORUŚ

W powstaniu książki pomogły środki z projektu dofinansowanego przez Departament Stanu USA

Беласток 2024

Рэдактар / Аліна Сыч    Карэктура / Алеся Мярэжка    Тэхнічны рэдактар / Адам Паўлоўскі

ISBN 978-83-62857-14-2

Друк / Koncept Białystok

## Змест



Падчас паслявыбарчых пратэстаў.
Менск, 6 верасня 2020 года

## За беларускае жыццё — Нобелеўская прэмія міру!

Пятніца 7 кастрычніка 2022 года напэўна трывала запішацца ў гісторыі беларускай дзяржавы і беларускага народа, нягледзячы на месца пражывання.

«Лаўрэаты Нобелеўскай прэміі міру гэтага года нагадваюць нам аб тым, што нават у цяжкія дні вайны, перад тварам запалохвання і прыгнёту немагчыма пагасіць агульнае чалавечае імкненне да правоў і годнасці. На працягу многіх гадоў яны нястомна змагаліся за правы чалавека і асноўныя свабоды, у тым ліку за права свабодна выказвацца і адкрыта крытыкаваць. Яны выконвалі сваю місію з запалам і настойлівасцю... Алесь Бяляцкі ніколі не адмаўляўся ад патрабавання дэмакратычных свабод, якіх заслугоўвае беларускі народ, нават знаходзячыся ў зняволенні. Алесь Бяляцкі, Цэнтр грамадзянскіх свабод і «Мемарыял» заслугоўваюць прызнання за праведзеную імі працу», — гаворыцца ў заяве прэзідэнта ЗША Джо Байдэна.

«Аж не верыцца, што такое дзееца, — мільганула мне ў галаве думка, калі ўсе стужкі навін разгарэліся да чырвані, — Алесь Бяляцкі сярод трох лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі!»

Паводле мяне, самае найважнейшае і галоўнае ў выпадку Алеся Бяляцкага — гэта тое, што з пачатку 1980-х гадоў ён упэўнена ўступіў на шлях змагання за незалежную, дэмакратычную беларускую Беларусь. Ягоная асоба персаніфікуе

не толькі апошнія два гады, час пасля выбараў 2020 года, але і той шлях ды тых аднадумцаў — усіх старэйшых змагароў і праваабаронцаў, якія знішчаліся за змаганне за беларускасць. Ён — пераемнік пачаткаў незалежнага беларускага антыкамуністычнага падполля васьмідзясятых гадоў, які па сёння застаўся ў цэнтры палітычных віхраў і сваіх антыдыктатарскіх поглядаў. За сваю дзейнасць пяць разоў вылучаўся на ганаровае званне лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру.

Я памятаю, што калі мы былі студэнтамі і слухалі інфармацыю пра разгон першых мітынгаў — Дзядоў, шэсцяў у абарону Курапатаў, то менавіта яго прозвішча і фота з’яўлялася сярод суарганізатараў, а таксама тых, хто рэзка, значыць фізічна, даваў адпор міліцыянтам. І мо з майго боку прагучыць гэта як сарказм, але, здаецца, паводле сённяшніх стандартаў праваабаронцаў ён не мог бы быць занесены ў спіс палітычных вязняў, бо... аказваў сілавы супраціў міліцыянтам і кагэбістам. Ну што ж, іронія гісторыі ці проста агульначалавечае разбурэнне паняццяў і каштоўнасцяў, якое з’ядае нас кожнага дня ў сваіх бюракратычных дробязях. Але як і тады ў васьмідзясятых гадах мінулага стагоддзя, так і зараз сам беларускі народ ёсць і будзе адзіным суддзёю ў справе сваіх герояў, лідараў, палітычных зняволеных, а не нейкія «аб’ектывізаваныя, бюракратычныя патрабаванні»...

Гэта не ўсё, у чым удзельнічаў у свае маладыя і дарослыя гады Алесь Бяляцкі. Знакамітыя арганізатарскія ўмеласці ў пары з павагай да міжчалавечых суадносін выбудоўвалі і яго аўтарытэт.

Здаецца, што першай яго марай было стаць навуковым даследчыкам беларускай літаратуры і літаратурным крытыкам. Нічога затым дзіўнага, што ягонае прозвішча віднее сярод стваральнікаў легендарнай літаратурнай групы «Тутэйшыя», а выданнем у 1991 годзе сваёй працы «Літаратура і нацыя» ён адназначна расставіў акцэнты для літаратурных выклікаў. Выбудаваны, створаны і кіраваны ім Музей Максіма Багдановіча стаў месцам не музейнай сырасці, але пляцоўкай інтэлектуальных, грамадскіх, нацыянальных і еўрапейскіх выклікаў.

Патрэба жыць актыўна ў беларускай грамадскай прасторы вядзе яго ў дэпутаты гарадскога савета Менска, які завесіць бел-чырвона-белы сцяг над менскім магістратам. А таксама памятайма пра ягоную актыўнасць у Беларускім народным фронце, які вярнуў беларусам годнасць і Незалежнасць. То ён будзе таксама адным са сустаршынь гэтай арганізацыі і не адзін, і не два разы будзе вадзіць велізарныя дэманстрацыі па вуліцах Менска.

Школа падпольнага і палітычнага дзеяння была той зарукай разумення саміх беларусаў з нацыянальнага пункту гледжання, а не толькі з апалітычнага, праваабарончага погляду клерка ці то мясцовага, ці міжнароднага маштабу. Аднак цягам усяго жыцця не згубіў ён кантактаў з літаратурным, пісаным словам. Аўтабіяграфічныя ўспаміны са зняволення і сваіх праваабарончых вандровак — гэта ўклад Алеся як пісьменніка ў нашую літаратурную, духоўную спадчыну.

Нобелеўская прэмія Алесю Бяляцкаму — вялікая падзея для ўсяго пакалення, якое вяло змаганне спачатку сіламі ў некалькі дзясяткаў асоб. Потым сталі іх сотні, тысячы, а зараз мільёны заўсёды верных бел-чырвона-беламу сцягу і гербу «Пагоня». Ад гэтага ніколі менавіта Алесь Бяляцкі не адракаўся.

Ствараючы ў 1996 годзе праваабарончую арганізацыю «Вясна», у яе аснову паклаў прынцып абароны нішчанай беларускасці. Было гэта адным з яе адрозненняў, а калектыў людзей, сарганізаваны Алесем, меў выразна нацыянальную, беларускую афарбоўку. Гэта менавіта не дазваляла паніжаць




Лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру гэтага года — **Алесь Бяляцкі** — нагадвае нам пра тое, што нават у цяжкія дні вайны, перад тварам запалохвання і прыгнёту немагчыма пагасіць агульнае чалавечае імкненне да правоў і годнасці.
Осла, 10 снежня 2022 года

і ганьбаваць беларускасць не толькі з боку лукашыстаў, але і «истинно демократических кругов Белоруссии». Алесь Бяляцкі — адзін з тых сябраў беларускай нацыянальнай меншасці, які жыў нашымі справамі, бываючы і гасцюючы ў нас на Беласточчыне. Ён не толькі рэгулярна чытаў «Ніву», калі быў на волі, нашыя беларускія літаратурныя і гістарычныя выданні, але заўсёды выступаў у нашай абароне і заступаўся за нас перад польскімі ўладамі і міжнароднымі структурамі. У «сумна славутай» справе абвінавачання нашага тыднёвіка ў парушэнні фінансавай дысцыпліны, калі былі прад'яўленыя пракурорскія закіды, у яго асобе і другіх беларусаў мы атрымалі доказы рэальнай бязмежнай, беларускай салідарнасці. На жаль, з-за фінансавых абвінавачанняў сам сядзеў ён першы раз у турме, так як і зараз, апынуўшыся за кратамі. Таму памятайма і падтрымлівайма Алеся, але і ўсіх зняволеных, асуджаных, праследаваных і выкінутых з Беларусі. Гэта проста наш маральны нацыянальны абавязак.

Паводле больш ці менш неафіцыйных вестак, навіна пра прысуджаную прэмію дайшла ў турму да Алеся. Як бы ўлады ні скрывалі гэтую інфармацыю, але яна пранікне праз турэмныя муры і драты ў калоніях да ўсіх, хто апынуўся ў зняволенні з-за свайго права на думанне і волю. Гэта той прамень надзеі, што ніхто не будзе пакінуты, пра ўсіх будзем памятаць і ўсё будзе менавіта зроблена дзеля таго, каб не адчувалі яны сябе ў самоце і паніжэнні. Таксама гэта зарад надзеі і для ўсіх тых людзей, якія мусілі з'ехаць з роднай краіны. А той лозунг, які лунаў у 2020 годзе і раней, «Верым! Можам! Пераможам!», дае новую сілу і гучанне. Раней ці пазней, але тая перамога мусіць быць! Зараз Нобель Алесю Бяляцкаму — гэта адзін з найважнейшых фактараў у гэтым напрамку! Ягоная аддасць беларускай і дэмакратычнай справе абароны чалавечых

правоў не была б магчымая без ягонай жыццёвай і сямейнай спадарожніцы, Наталлі. Каханне маладосці вытрымала ўсеціскі, буры гісторыі і палітыкі.

Беларуская мова на сёння павінна быць усім беларусам той зброяй супраціву, якую можна хутка прымяніць ва ўласнае, сямейна-духоўнае карыстанне. Без зразумення той самай простай, але найвышэйшай істотнай справы нашай самаідэнтыфікацыі і дэмакратычнай, незалежнай Беларусі не пойдзем уперад з вырашэннем такой колькасці навіслых над намі пагроз. Гэта праз усё сваё жыццё выдатна разумее Алесь Бяляцкі. Таксама ягоная жонка Наталля Пінчук, атрымліваючы Нобелеўскую прэмію, у сваім пятнаццаціхвілінным выступленні на беларускай мове 10 снежня 2022 года ў Осла даказала, што мысленне па-беларуску і з беларускага пункту гледжання ёсць той найважнейшай каштоўнасцю, ад якой не маем права адступацца. Гэта нашае асноўнае Права на Волю! Калі я слухаў яе выступ, а таксама зачытаныя ёю думкі, зафіксаваныя самім Алесем, слёзы проста плылі мне з вачэй...

Дзякуй табе, Алесь, што пашчасціла нам сустрэцца па дарозе і прагаварыць ды памарыць пра нашае, беларускае. Дзякуючы табе многія людзі не трапілі ў безнадзейнасць. А зараз Ты, як сапраўдны капітан, не пакінуў свайго любімага карабля — Беларусі. Яна апынулася ў трыкутніку сённяшняй вайны Беларусь — Расея — Украіна.

Супраць воінаў цемры мы маем ужо пару беларускіх нобелеўскіх лаўрэатаў: Святлану Алексіевіч у галіне літаратуры з 2015 года, а зараз Алеся Бяляцкага — за беларускае жыццё — з кастрычніка 2022 года.

Жыве Беларусь!

***Яўген Вапа***
*«Ніва», кастрычнік — снежань 2022 года*



## Вочы ў вочы з Алесем Бяляцкім

*Праграма «Вочы ў вочы» была запісаная ў 2016 годзе. Яна складалася з шэрагу гутарак, што выходзілі кожныя два тыдні і закраналі розныя тэмы: літаратуру, смяротнае пакаранне, службу ў савецкім войску, моладзевую музыку пачатку васьмідзясятых, вяртанне да беларускай мовы і захапленне беларускай культурай, Беларусь і беларусаў, польска-беларускія адносіны.*

*На хвалях Беларускага Радыё Рацыя з Алесем Бяляцкім размаўляў журналіст і літаратар Міхал Андрасюк.*

### Пра Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя»

**Міхал Андрасюк:** Алесь, Таварыства было заснаванае ў 1986-м — ці ў 1987 годзе? Бо я сустракаю і такую дату, і такую.

**Алесь Бяляцкі:** Мы сабраліся першы раз у снежні 1986 года. І гэта была група з сямі-васьмі чалавек, маладых пісьменнікаў. Некаторыя з тых, хто яшчэ толькі хацеў пісаць, у каго, можа, была адна-дзве публікацыі. Гэты дзень мне запомніўся, бо збіраліся мы ў Доме літаратара. Перагаварылі і вырашылі паехаць да Анатоля Сыса, у інтэрнат, дзе ён жыў. І вось у яго пакоі фактычна і адбылося першае паседжанне, дзе мы распавялі адзін

пра аднаго, што мы пішам, як мы пішам, куды мы збіраемся ісці далей. Арганізатарамі «Тутэйшых» былі Анатоль Сыс і я. Таму што мы, з аднаго боку, працуючы ў гэтых падпольных арганізацыях, хацелі развіваць нейкія легальныя формы грамадскай працы. І я разумеў, што натуральным было б, каб маладыя літаратары маглі арганізаваць легальную арганізацыю, якая б адначасна магла ставіць не толькі творчыя, літаратурныя пытанні, але і грамадскія пытанні, пытанні развіцця мовы, культуры — тое, што тады нас вельмі турбавала. Таму што, зразумела, літаратура будуецца на мове народа, на культуры народа. А ў нас ішло змаганне з беларускай мовай, знішчэнне беларускай мовы. Гэта была вельмі балючая праблема, якая турбавала багата каго з маладых літаратараў. Таму адразу мы заклалі ў аснову працы «Тутэйшых» не толькі чыста літаратурную працу, але і актыўную грамадскую дзейнасць. Мы хацелі гаварыць пра тыя балючыя праблемы з беларускай мовай, з беларускай культурай, якія існавалі ў савецкай Беларусі. І, нам на дзіва, да нас дастаткова хутка далучаліся маладыя літаратары. І хутка мы сталі манапалістамі, я сказаў бы так.

**Міхал Андрасюк:** У кнізе «Асвечаныя Беларушчынай» я знайшоў, што Таварыства налічвала пад восемдзесят сябраў.

**Алесь Бяляцкі:** Сапраўды, гэта так. І мы ўвесь час падцягвалі новых людзей. Добра памятаю, як да нас прыйшоў Віктар Чаропка, якога знайшоў Анатоль Сыс, які тады працаваў на заводзе ў сталеліцейным цэху, якому вельмі карцела пісаць. Прыйшлі студэнты з БДУ — Міхась Скобла і іншыя. Прыйшла група Адама Глобуса. Уладзімір Сцяпан, Максім Клімковіч і Уладзімір Сіўчыкаў. Усе яны далучаліся. Усе нашыя нонканфармісцкія ідэі былі падхопленыя на ўра. Гэта быў і Андрэй Федарэнка





Запіс першай размовы з Міхасём Андрасюком на Беларускім Радыё Рацыя ў цыкле «Вочы ў вочы» пра Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». Белавежа, 14 сакавіка 2016 года

з Інстытута культуры, і браты Дэбішы, Васіль і Анатоль. Паліна Сцепаненка, маладая студэнтка. І гэтыя кантакты, мне здаецца, багата што далі. І гэтая ідэя нонканфармізму здолела аб'яднаць дзясяткі і дзясяткі маладых літаратараў. Мы праводзілі розныя мерапрыемствы, мы праводзілі чыткі твораў, мы разбіралі творы, крытыкавалі творы. Вельмі часта адбываліся ідэалагічныя спрэчкі.

**Міхал Андрасюк:** Сыс і Глобус былі, бадай, першыя антаганісты?

**Алесь Бяляцкі:** Адам Глобус прапагандаваў больш прафесійную літаратуру, якая была б адхіленая ад тагачасных грамадскіх працэсаў. Ён прапаноўваў больш займацца кшталтаваннем, скажам, пісьменніцкага почырку. А Анатоль Сыс быў больш грамадска заангажаваны чалавек. Ён разумеў, што беларуская літаратура з'яўляецца часткай тагачаснага грамадскага жыцця. І ён прапаноўваў больш актыўную грамадскую пазіцыю «Тутэйшых». І я гэта падтрымліваў. Бо я таксама лічыў, што беларуская літаратура і пазіцыя маладых беларускіх літаратараў вельмі важная ў тагачасным грамадскім жыцці.

**Міхал Андрасюк:** Алесь Аркуш, які быў шараговым сябрам, піша: «Доўгі час я лічыў, што „Тутэйшыя" паўсталі выключна з ініцыятывы Бяляцкага і Сыса — сяброў па Гомельскім універы. Але пазней, у сярэдзіне дзевяностых, Генадзь Сагановіч паведаміў мне, што Бяляцкі і Сыс былі ўсяго толькі выканаўцамі, а ідэя стварэння суполкі належала іншаму чалавеку, які насамрэч кіраваў ёю». Ці была таямніца ля вытокаў «Тутэйшых»?





**Алесь Бяляцкі:** Не, гэтая тэорыя змовы не мае нейкага падмурку, сур'ёзных аргументаў і фактаў пра яе існаванне. Я ўжо пісаў пра гэта. Так, сапраўды, збіраючыся вузкай групай нацыянальна арыентаванай моладзі, мы паставілі сабе задачу стварыць як мага больш легальных груповак, якія далі б магчымасць прапагандаваць беларускую ідэю. А магчымасці для працы кожны выбіраў сам. Ці «Талака» гэта была, ці іншыя легальныя суполкі, ці «Тутэйшыя». Але аднаго жадання стварыць «Тутэйшых» не хапіла б тады. Ну сабраліся б мы ўтрох-учатырох адзін раз, два, тры — і ўсё. І гэта не мела б ніякага развіцця. Але вось гэтая ідэя, стварыць незалежнае Таварыства маладых літаратараў, упала на вельмі добрую глебу. Бо прыйшоў час мяняць стандарты, мяняць каноны. Багата моладзі было незадаволена тым, што адбываецца ў закансерваванай сістэме беларускай літаратуры і падпарадкаванні беларускіх пісьменнікаў агульнаму сацыялістычнаму канону. Таму гэтая нашая ідэя магла спраўдзіцца, а магла і не. Ніхто не ведаў, чым гэта скончыцца, калі мы пачыналі. Але, як аказалася, гэта было вельмі запатрабаваным на тыя часы. І гэта вельмі хутка атрымала развіццё. Таму казаць пра канкрэтнага чалавека — не. Ідэя была, насамрэч, Анатоля і мая. Насамрэч, гэта з ім мы абмеркавалі. І насамрэч, калі гэта ўсё пачало развівацца, то мы, канечне ж, далучылі сябраў «Тутэйшых» да агульнанацыянальных моладзевых акцый. Мы плавалі і па Дзвіне, бралі ўдзел у сходах нефармальных моладзевых суполак. Мы пачалі браць удзел і ў грамадскім жыцці. Мы прымалі ад свайго імя заявы, пратэсныя лісты, якія накіроўваліся ў Маскву супраць знішчэння беларускай мовы, за развіццё беларускай адукацыі. Мы хадзілі агітаваць за першы беларускі клас, які тады адкрываўся ў Шабанах. Нашыя маладыя пісьменнікі далучыліся да грамадскага жыцця — і мы разам

з імі. І Анатоль, і я, і тая частка, якая лічыла, што гэта вельмі патрэбна. Гэта быў цікавы час і даволі складаны працэс, таму што той жа Адам Глобус, нягледзячы на тое, што сыпаліся іскры паміж ім і Анатолем Сысам, таксама пагадзіўся працаваць у гэтым кірунку.

Сама па сабе з'ява «Тутэйшых» унікальная таму, што гэтага не было доўгія гады перад намі, фактычна з дваццатых гадоў, калі былі аб'яднанні маладых пісьменнікаў у савецкай Беларусі. Мы ведаем «Маладняк», «Полымя» і іншыя аб'яднанні. Таксама — аб'яднанні пісьменнікаў Заходняй Беларусі ў трыццатыя гады. Пасля гэтага была паўза. Савецкая забюракратызаваная машына Саюза пісьменнікаў падмяла пад сябе ўсё. І пасля гэтага адбыўся такі нечаканы выбух са сваёй праграмай, са сваім поглядам, са сваёй канцэпцыяй развіцця, якое прапанавалі «Тутэйшыя» для маладых літаратараў. Яно адыграла, я лічу, для нашай культуры вельмі важную ролю. І пасля нас, на жаль, таксама нейкіх бліскучых з'яў, асаблівых, цяжка назваць. Усе іншыя арганізацыі, усе іншыя каманды займелі больш постмадэрновы сэнс. І рэзка звузілі сваё грамадскае значэнне. Яны больш заняліся літаратурай і калялітаратурным працэсам. Але ў грамадскім плане яны ўжо не адыгрывалі такой ролі, якую адыгрывалі «Тутэйшыя» ў канцы васьмідзясятых гадоў.

**Міхал Андрасюк:** Аксана Бязлепкіна ў кнізе «Разам і пасобку: Таварыства „Тутэйшыя": гісторыя, асобы, жанры» ставіла такое пытанне: сапраўднае Таварыства «Тутэйшыя» існавала да Дзядоў 1988 года — ці пасля? Бо менавіта тады можна казаць пра нейкі раскол, што частка «Тутэйшых» засяродзілася на літаратуры, частка — на палітычнай дзейнасці.





**Алесь Бяляцкі:** Не, такога падзелу не было. І гэтая кніжка — першая, якая была напісаная пра «Тутэйшых», але, спадзяюся, не апошняя. Насамрэч развіццё «Тутэйшых» было паэтапнае і лагічнае. Пачалося ў снежні 1986 года і паступова згасла пад канец 1989 года. Такім чынам, два з паловай года такога паўнацэннага існавання ў нас было. А там далей лёс арганізатараў, актывістаў ужо мяняўся.

**Міхал Андрасюк:** «Тутэйшыя» таксама выдавалі свой альманах «Літаратура». Ён рыхтаваўся ў Менску, друкаваўся ў Вільні.

**Алесь Бяляцкі:** Мы таксама выдавалі свой бюлетэньчык «Кантроль», які абмяркоўваў тыя ці іншыя пытанні, звязаныя з працай «Тутэйшых». Але гісторыя ішла вельмі хутка. І, скажам, ужо ў 1989 годзе, улічваючы тое, што частка сябраў «Тутэйшых» уступіла ў Саюз пісьменнікаў, тое, што пачаліся актыўна развівацца грамадскія працэсы, з'явіліся арганізацыі, якія пераняла на сябе ролю такога грамадскага трыбуна, «Тутэйшыя» проста перасталі існаваць. 1989 год — гэта хіба што год, калі мы проста распусціліся. З'явіліся іншыя патрэбы, іншыя задачы — і «Тутэйшыя» засталіся толькі ў гісторыі.

**Міхал Андрасюк:** Я чуў такое меркаванне, што суполка існавала, пакуль была нейкая рызыка, таямнічасць. А калі «Тутэйшыя» легалізаваліся пры Саюзе пісьменнікаў БССР, гэта стала нецікава.

**Алесь Бяляцкі:** Так, у 1989 годзе ў нас з'явіліся проста розныя інтарэсы. Анатоль Сыс уступіў у Саюз пісьменнікаў, я пайшоў працаваць у Музей гісторыі беларускай літаратуры, з'явіўся Беларускі народны фронт, які забіраў багата часу. Фактычна

проста не стала каму арганізоўваць літаратурны працэс і зніклі ідэі. Бо калі ёсць ідэі — ідзе нейкая дзейнасць. Хаця сяброўства паміж намі заставалася. І цяпер застаецца багата паміж кім, закладзенае яшчэ з тых часоў.

**Міхал Андрасюк:** Будзем адзначаць трыццацігоддзе ў снежні.

**Алесь Бяляцкі:** Будзем адзначаць. І я спадзяюся, што мы зможам падрыхтаваць зборнік успамінаў, які сапраўды пакажа рух «Тутэйшых» і нашую дзейнасць з розных бакоў. Бо памяць чалавека абмежаваная і багата з таго, што адбывалася, я ўжо не памятаю. Мне нагадваюць, што гэта было. Падрыхтуем зборнік. Мы зробім, канечне, вечарыну. Паспрабуем зрабіць фотавыставу. Нейкім чынам адзначыць гэта ў культурнай, літаратурнай прасторы Беларусі, што такое было, і паназіраць, якія вынікі, якія ўплывы аказалі «Тутэйшыя» на развіццё ўсёй беларускай літаратуры ў наступныя трыццаць гадоў.

## Пра беларускія міфы — у тым ліку пра міфы ў беларускай літаратуры

**Міхал Андрасюк:** З Алесем Бяляцкім паразмаўляем пра беларускія міфы — у тым ліку пра міфы ў беларускай літаратуры.

Першае, што мне прыходзіць на думку: калі я ў дзіцячым узросце пачынаў вывучаць беларускую мову ў школе, застаўся ў памяці вершык:





*Я мужык-беларус, —*
*Пан сахі і касы...*

І нам доўга ўяўлялася, што беларус — гэта мужык, беларусы — гэта мужыцкая нацыя. Міф? Праўда?

**Алесь Бяляцкі:** У пэўнай ступені міфы, якія ўтвараюцца пісьменнікамі, базуюцца на рэчаіснасці. На тым, што яны бачаць, уяўляюць. І погляды Янкі Купалы былі, вядома, народна-рэвалюцыйныя. Ён, думаючы пра беларусаў, пішучы пра Беларусь, абапіраўся ў першую чаргу на носьбітаў беларускай культуры, носьбітаў беларускай мовы, на тых, хто лічыў сябе беларусамі. І ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя багата каму з беларускай інтэлігенцыі ўяўлялася базай, асновай беларускага народа менавіта сялянства. Што, дарэчы, і адпавядала рэчаіснасці. Таму што дастаткова паглядзець на працэнтныя суадносіны беларусаў у гарадах таго часу, якое не перавышала дзесяці працэнтаў. Беларусы сапраўды былі сялянскай нацыяй. Гэта было звязана і гістарычна ў пэўным сэнсе, таму што адбывалася спальшчэнне шляхты доўгі час, адбывалася русіфікацыя пэўнай часткі шляхты, хаця па статыстыцы лічбы былі не такія кепскія. Прыкладна больш як палова беларускай шляхты лічылася беларусамі, што, дарэчы, мала хто ведае. Але тым не менш міф народнай нацыі, сялянскай нацыі, мужыцкай нацыі актыўна развіваўся беларускімі пісьменнікамі ў пачатку XX стагоддзя. Што абсалютна някепска, таму што побач з намі былі такія ж самыя сялянскія нацыі: літоўцы, латышы. І калі паглядзець у еўрапейскім маштабе, можна прывесці шэраг прыкладаў. Можа быць, у пэўнай ступені, калі бальшавікі прыйшлі да ўлады, яны перавялічылі гэты міф. Яны ўзвялі яго ў непахісную схему, што беларусы — сялянская

нацыя, якая не мела іншай культуры, апроч сялянскай. І тут ужо наступным пакаленням пісьменнікаў, скажам так, постсталінскага часу, разбіваць гэты міф беларускай сялянскай нацыі. Тым больш пасля таго, як адбылася індустрыялізацыя, большасць беларусаў пераехала ў гарады. І, можа быць, гэты міф не стаў такім прывабным, як трэба было б для далейшага кшталтавання беларускай нацыі, што было спыненае ў камуністычныя часы.

**Міхал Андрасюк:** Нам, малым хлопцам у Польшчы, не хацелася быць «мужыкамі», бо мы вучыліся ў польскай школе. Польская літаратура прапанавала свае міфы. Не толькі літаратура, кіно таксама. Нам хацелася быць танкістамі, як «Чатыры танкісты і сабака», нам хацелася быць, як Завіша Чарны — славуты польскі рыцар... Была беларуская шляхта, былі беларускія рыцары, але гэтыя факты не знайшлі адлюстравання ў беларускай літаратуры. Так, спрабаваў рабіць штосьці ў гэтым напрамку Уладзімір Караткевіч.

**Алесь Бяляцкі:** Я яшчэ звярнуўся б да перыяду камуністычнага часу, вось такога маладога часу камуністычнай ідэі дваццатых — трыццатых гадоў, якая прапанавала таксама свой міф беларуса, які будуе камуністычную будучыню. І маладога чалавека, які гатовы ахвяраваць дзеля гэтай камуністычнай будучыні ўсім старым, усім непатрэбным. У тым ліку і сялянскімі каштоўнасцямі, якія спрабавалі ўзвысіць беларускія пісьменнікі-нашаніўцы. Паэма Якуба Коласа «Новая зямля» — гэта таксама міф узвелічэння сялянскай працы і ўзняцця гэтай сялянскай працы на эстэтычную вышыню. І апроч верша «Я мужык-беларус» Янка Купала пісаў іншыя вершы, ён пісаў і паэмы — паэмы, прысвечаныя каханню. Ягоны верш





«Жнейка», напрыклад. Рамантычныя вершы, што глядзяць на селяніна не як на чалавека, які займаецца цяжкой працай, не бачыць свету, а як на чалавека, які разумее, што такое прыгажосць. Дык вось дваццатыя і асабліва трыццатыя гады фактычна знішчылі гэты духоўны пачатак, чалавечае «я» ў беларускай літаратуры. Там з’явіўся вельмі схематычны камсамолец, які гатовы дзеля камуністычнай ідэі не толькі забыць пра духоўныя каштоўнасці беларускага сялянства, беларускага чалавека, які жыве на зямлі. І падчас пабудовы заводаў, новага будучага, як гэта паказвалася ў тагачасных вершах, раманах, людзі гублялі і маральныя якасці. Прычым гэта апісвалася з поўным перакананнем, што ідзе пабудова не толькі індустрыйнага свету Беларусі, але і пабудова новага чалавека. Што можна зрабіць асобны тып чалавека, у якога пачуццё адказнасці перад камуністычнай будучыняй значна большае за асабістыя перажыванні і пачуцці. І тут мне згадваецца аповесць Хвядоса Шынклера «Сонца пад шпалы», дзе ён паказваў будаўніцтва чыгункі на Палессі і тое, якія бяздушныя перспектывы мае чалавек, выкшталтаваны ў савецкія часы. І ў той жа час усё, звязанае з мінулым, паказвалася ім у чорным свеце. І людзей, у якіх заставалася любоў да зямлі (тады іх называлі кулакамі, падкулачнікамі), паказвалі ў чорным свеце. Фактычна ўвесь маральны запас і эстэтычны ровень, назапашаны беларускімі пісьменнікамі пачатку XX стагоддзя, быў перакрэслены. Таму літаратары пяцідзясятых — шасцідзясятых гадоў апынуліся ў нейкай ступені адкінутымі далёка назад. Яны вымушаныя былі шукаць сабе апірышча: ці вяртацца на пазіцыі беларускіх пісьменнікаў пачатку XX стагоддзя, ці шукаць штосьці іншае. І эпоха рамантычнага асэнсавання мінулага, якое пачынаў Янка Купала, не скончылася ў беларускай літаратуры. Яна была затарможаная ці

штучна спыненая. Яна дала магчымасць Уладзіміру Караткевічу шукаць новае апірышча на новыя міфы, якія былі б запатрабаваныя, актуальныя, якія б дапамагалі кшталтаваць беларускую нацыю. Бо ўсё ж такі асноўная задача, якую ён ставіў сабе ў сваіх творах, ідэалагічная задача, не мастацкая, — гэта ўзняць нацыянальную свядомасць беларусаў. І дзеля гэтага такі рамантычны падыход погляду на беларускую гісторыю — шлях ужо дастаткова правераны польскімі пісьменнікамі і іншымі пісьменнікамі, прадстаўнікамі малых народаў, якія станавіліся на ногі. Уладзімір Караткевіч працягнуў гэты шлях у сваіх творах.

**Міхал Андрасюк:** І яшчэ адзін пасляваенны міф: усе беларусы — партызаны, усе беларусы змагаліся. Вядома, з кім змагаліся — змагаліся з нямецкім фашызмам. А вось пытанне: за што змагаліся? За Беларусь? За Савецкі Саюз? За свой дом?

**Алесь Бяляцкі:** Гэты міф, сапраўды, знайшоў свой адбітак у беларускай літаратуры, але абапіраўся ён ужо не на рамантычны пачатак, хоць былі і такія спробы. У беларускай літаратуры міф Беларусі партызанскай грунтуецца на суперрэалізме. І калі згадваць найлепшыя беларускія творы, прысвечаныя вайне, мне прыходзіць у галаў, напрыклад, адразу аповесць Алеся Адамовіча. Дзе паказаны суперрэалістычныя, супержахлівыя карціны, якія адбываліся падчас вайны. І гэту традыцыю строгага рэалізму, прысвечаную партызанскай вайне ў Беларусі, працягнуў Васіль Быкаў. У шэрагу сваіх аповесцяў ён таксама паказаў трагізм тагачасны. Ягоныя аповесці «Пайсці і не вярнуцца», «Круглянскі мост» і іншыя лепш, чым што, паказваюць сітуацыю безнадзейнасці і часам вельмі няпростага выбару. «У тумане» (аповесць, якая была экранізаваная) чалавек стаяў перад вельмі жорсткім выбарам: ці заставалася ў ягоным жыцці штосьці маральнае — ці вымушаны быў ад гэтага адыходзіць і здраджваць дзеля захавання свайго жыцця, здраджваць сваім ідэалам. Тая ж аповесць «Сотнікаў»... І трэба сказаць, што Беларусь партызанская, як савецкі міф, хутчэй зацвердзілася ў папсовай свядомасці. У шырокай, неглыбокай свядомасці. Яна актыўна эксплуатуецца сённяшнімі ўладамі Беларусі. І папсовасць гэтая партызанскага часу, Беларусі партызанскай, актыўна эксплуатуецца ў палітычных мэтах. Калі сённяшнія ўлады будуюць на гэтым, у пэўнай ступені, сваю ідэалогію. Дастаткова паглядзець, напрыклад, на новы будынак Музея Вялікай Айчыннай вайны, пабудаваны ў форме Рэйхстага. На ім стаіць чырвоны сцяг як сімвал перамогі падчас вайны. І гэтая папсовая гераічнасць мае мала чаго беларускага. Яна хутчэй савецкага кшталту. Гэта савецкі ўзор, які распрацоўваўся яшчэ ў савецкія часы. А вось сапраўдная Беларусь партызанская сапраўды перадаецца ў беларускай літаратуры, у найлепшых творах беларускіх літаратараў.

**Міхал Андрасюк:** Мне прыходзіць на думку яшчэ адзін міф. Ён, напэўна, не савецкі. Я сказаў бы, гэты нават сучасны міф. Беларуская Вільня — як залатая краіна беларускай культуры і літаратуры, як самыя светлыя кнігі беларускай культуры. Чамусьці асацыюецца і ў мяне: самае светлае ў беларускай культуры — не Менск, а Вільня.

**Алесь Бяляцкі:** Бо мы мелі гэты рамантычны час пачатку новай беларускай літаратуры, пачатку выдання «Нашай Нівы», шматлікіх кніжак, гадавікоў, якія выходзілі яшчэ ў дарэвалюцыйнай Вільні. А потым — у Вільні ранніх дваццатых гадоў, да пачатку масавых рэпрэсій супраць беларускай інтэлігенцыі,

якія хутка пачаліся пасля таго, як Вільня адышла да польскай дзяржавы. Тым не менш, мабыць, адсутнасць масавых забойстваў, якія адбываліся ў Менску ў трыццатыя гады, дае пэўны шарм і шанц заставацца культурнай і, безумоўна, гістарычнай сталіцай Беларусі. Вось гэты міф Вільні як гістарычнай сталіцы, Мекі беларусаў. Калі ў нас ёсць Медына — гэта Менск, Мека — гэта Вільня. Пра гэта вельмі добра напісаў у свой час Уладзімір Жылка. Я думаю, што гэты міф мае магчымасць для далейшага развіцця. Мне цяжка сказаць, хто сапраўды з вядомых беларускіх літаратараў не атрымаў уплыву ад Вільні, а ў апошнія гады Вільня ўсё больш і больш уваходзіць у літаратурны абсяг беларускіх пісьменнікаў. Можа быць, дзякуючы таму, што цяпер дастаткова проста можна зноў патрапіць у Вільню. А гістарычнае значэнне Вільні — гэты міф яшчэ да канца не распрацаваны. Ёсць сацыяльны заказ, ёсць заказ народа на адбудову беларускіх міфаў — і гістарычных, і культурных, і моўных. Пакуль ідзе фармаванне любой нацыі, ёсць запатрабаванне ў міфах, якія дапамаглі б выкшталтаваць нацыянальную свядомасць народа.

### Пра шляхі да Беларусі і беларускасці

**Міхал Андрасюк:** Ты нарадзіўся ў Карэліі ў мястэчку Вяртсіля, далёка ад Радзімы.

**Алесь Бяляцкі:** Так, сапраўды. Бо бацькі мае воляй лёсу апынуліся ў Карэліі ў розны час. Бацька — яшчэ перад вайною, разам з сям'ёю. Яны жылі недалёка ад Рагачова, недалёка ад Дняпра. І ўжо к канцу трыццатых гадоў, як стварылі калгасы,





ужо не было чаго есці. Адзіная магчымасць уцячы адтуль — некуды выехаць. На нейкую будоўлю ці на вярбоўку. Завербавацца, як тады казалі. А пасля вайны з Фінляндыяй, якую СССР вёў у 1940 годзе, яны адхапілі гэты кавалак зямель за Ленінградам і каля Ладажскага возера і далей трошку, каб адсунуць мяжу ад Ленінграда. І абвясцілі вярбоўку людзей туды, каб засяліць тыя землі. Гэта была адзіная магчымасць выскачыць з гэтай галоднай вёскі. Бо, як мне распавядаў бацька, дзеці ўжо пачалі пухнуць ад голаду. У 1940 годзе дзед схапіў сям'ю, бацька быў самы старэйшы, яму было дзесяць гадоў, і яны паехалі на гэтыя новыя землі. І такім чынам я нарадзіўся, можна сказаць, на акупаваных землях, якія Савецкі Саюз адцяпаў у Фінляндыі. А маці паехала туды пасля вайны. Ізноў жа, пашпартоў на рукі ніхто не даваў, людзі жылі як у прыгоне. Ізноў жа, адзіная магчымасць — гэта з'ехаць на вялікую будоўлю. А гэтыя пустыя землі ў Карэліі ўсё яшчэ патрабавалі людзей. Іх засялялі з усяго СССР. І там было вельмі багата беларусаў. І цяпер беларусы займаюць у працэнтных адносінах трэцяе месца пасля рускіх і карэлаў. І там бацькі пазнаёміліся, ажаніліся. Гэтае мястэчка я смутна памятаю. Вярнуліся, калі мне было два з паловай года. Бацькоў увесь час цягнула ў Беларусь.

**Міхал Андрасюк:** Вярнуліся, бо была туга па Бацькаўшчыне?

**Алесь Бяляцкі:** Была, па-першае, туга, бо тут заставаліся свае шматлікія, свая зямля. Але магчымасць вяртацца — куды? На пачатку шасцідзясятых гадоў пачалася індустрыялізацыя, пачалі будавацца вялізныя заводы ў Беларусі, узнікаць новыя гарады. Фактычна, Светлагорск і ёсць такі горад, які ўзнік. Ён з'еў вельмі старажытнае мястэчка Шацілкі, якое было, а назву змянілі, не пакінулі. Назвалі — Светлы горад,

горад камуністычнай будучыні. Хрушчоў абяцаў, што вельмі хутка Савецкі Саюз пабудуе камунізм. І што людзі дажывуць да гэтага камунізму. Атрымалася так, што ён найбліжэй быў з такіх індустрыйных гарадоў да радзімы бацькі і радзімы маці, бо маці была з Нараўлянскага раёна, бацька — з Рагачоўскага. І потым усе летнія вакацыі я фактычна праводзіў у бабулі ў Нараўлянскім раёне, на вёсцы.

**Міхал Андрасюк:** Ты быў малы, калі вярнуўся. Але ці адсачыў неяк адрозненні паміж Карэліяй і Светлагорскам?

**Алесь Бяляцкі:** Што тычыцца адрозненняў, вядома, я нічога не памятаю. І першыя гады ў нас былі цяжкія, бо кватэры не давалі і бацька проста з дошак скалаціў нейкую халабуду, курэнь. І ў гэтым курані мы жылі пяць гадоў, пакуль не атрымалі кватэру. Гэтае жыццё было паўпартызанскае, таму што ўсе гэтыя «времянки» будаваліся паўз чыгунку, у сасновым лесе. Вось у гэтым лесе я фактычна першыя гады і рос. Лазіў па соснах высока, губляўся неаднаразова, потым знаходзіўся. Розныя прыгоды ў нас былі. А гэты карэльскі перыяд застаўся з двума-трыма ўспамінамі вельмі ранняга дзяцінства. Цяпер, калі пераваліла за пяцьдзясят, мне хочацца пабываць на месцы нараджэння. Я залез у інтэрнэт, знайшоў дакладна, дзе знаходзіцца гэтае мястэчка, і вычытаў, што гэта адзін з самых актыўных памежных пераходаў паміж Расіяй і Фінляндыяй. За год праз гэтае Вяртсіля праходзіць больш чым мільён чалавек. І таксама напісана, што ў іх там дзве вядомыя рэчы: бюст Леніна каля нейкага заводзіка, які яшчэ ў свой час шведы пабудавалі. І напісана, што там нарадзіўся я. Для гэтага мястэчка на дзве з паловай тысячы чалавек я ў іх — знакамітасць. То мне цікава там пабываць, паглядзець. І мае цёткі





там жывуць, родныя сёстры бацькі, яны жывуць у большых гарадах Карэліі. То хацелася б выцягнуць хоць адну з іх, каб яна паказала, дзе мы жылі.

**Міхал Андрасюк:** А ў Светлагорску ўжо — дзіцячы садок, школа, маладосць?

**Алесь Бяляцкі:** Дзіцячы сад і школа, і там менавіта я захапіўся ў першую чаргу беларускай літаратурай. Я вельмі багата чытаў беларускай літаратуры ў апошніх класах, і там саспела гэтае адчуванне пэўнай несправядлівасці, скажам, у адносінах да беларускай культуры, беларускай мовы. Таму што, з аднаго боку, гэта быў інтэрнацыянальны кацёл, прыязджалі людзі з усяго Саюза, працавалі там і ўкраінцы, і расіяне, і марыйцы, чувашы... Але большасць усё роўна былі беларусы, якія прыязджалі з мясцовых вёсак. І дзеці нараджаліся ўжо ў горадзе, але нічога з беларускай культуры там не захоўвалася і не культывавалася, не прапагандавалася. З нас штампавалі сярэднесавецкіх дзяцей.

**Міхал Андрасюк:** На якой мове размаўлялі вы дома?

**Алесь Бяляцкі:** Па-руску. Бацька з дзесяці гадоў жыў у Расіі, то ён гаварыў па-руску, а маці гаварыла на мяшанцы. А ў вёсцы, куды я прыязджаў да бабулі, была чысцюткая беларуская мова. Не ведалі рускіх слоў, ім было смешна, калі я гаварыў па-руску. Яны смяяліся. Для іх гэта была экзотыка. Там была найчысцейшая усходнепалеская гаворка, на якой Іван Мележ пісаў кніжкі. Таму, калі я прачытаў Караткевіча, вядома, ён мяне вельмі моцна зачапіў з нацыянальнага пункту погляду. Не толькі тым, што там беларуская літаратура прыгожая,

што пісьменнікі пішуць пра Беларусь і па-беларуску. Але ён упершыню паставіў пытанне: хто мы такія? І адразу паўстала пытанне: чаму мы гэтага не захоўваем? І мне, канечне, было крыўдна. Гэта было пэўным штуршком, чаму я пайшоў вучыцца на гісторыка-філалагічны факультэт. Бо хацелася, па-першае, дасканала вывучыць беларускую мову, якой я не ведаў добра.

**Міхал Андрасюк:** Я памятаю, калі я пайшоў у пачатковую школу, у нас з другога класа было абавязковае навучанне беларускай мове. Прынцып быў просты, гэта ўлады вызначалі. Праваслаўны — беларус, каталік — паляк. Калі ты праваслаўны, ты мусіш хадзіць на ўрокі беларускай мовы. А ў тваёй першай школе былі ўрокі беларускай мовы?

**Алесь Бяляцкі:** Урокі беларускай мовы былі з трэцяга класа. Яны ў нас былі, але яны не давалі дастатковых ведаў, каб дзеці маглі вольна гаварыць па-беларуску пасля заканчэння школы. Тым больш што ўсё ж такі мова трошку была ў тэлевізіі, трошкі ў радыё. Газеты выходзілі па-беларуску. Актыўна размаўляць ніхто з нашых дзяцей не мог. І я ў тым ліку. Нягледзячы на тое, што я вельмі багата чытаў беларускіх кніжак. Я прачытаў рэальна сотні гэтых кніжак. Любы чалавек, які хоча вывучыць беларускую мову ў Беларусі, можа гэта зрабіць за месяц. Тут галоўнае, каб было жаданне і разуменне, дзеля чаго гэта патрэбна. То ў мяне такое жаданне ўзнікла якраз у дзясятым класе, нармальна вывучыць. І хацелася працаваць дзеля гэтай мовы, можа, дзеля гэтай літаратуры, але тады яшчэ рана было пра гэта казаць. Але адназначна — неяк развіваць ці старацца захаваць, паказаць яе найлепшыя бакі.





**Міхал Андрасюк:** У 1981 годзе ты зрабіў вялікую вандроўку па Беларусі. У тваёй кнізе я знайшоў такі запіс: «Беларуская мова жыве, на ёй размаўлялі паўсюль вёскі і мястэчкі».

**Алесь Бяляцкі:** Сапраўды так было. І было яшчэ добрых гадоў дзесяць-дваццаць, калі спрэс у вёсках, мястэчках у нас гаварылі па-беларуску. Гэта, дарэчы, не знікла і цяпер. Але тады і моладзь гаварыла, дзеці гаварылі, усе проста. Добра ведаючы асяроддзе ў Нараўлянскім раёне і праехаўшы па Усходнім Палессі, па Заходнім Палессі, па цэнтральнай Беларусі, а потым па Гарадзеншчыне, я ўбачыў, што беларуская культура, народная стыхія, існуе. Мяне гэта вельмі ўзмацніла тады. І стала зразумела, што індустрыйныя рускамоўныя гарады былі ачагамі разбурэння беларускай культуры, але культура яшчэ трымалася на сярэднім узроўні і на вясковым узроўні. І таксама тады стала зразумела: калі не развіваць беларускую культуру ў гарадах — паступова гэтая беларуская культура знікне. Таму што гарады дыктуюць, у Беларусі асабліва, шляхі культурнага развіцця. І тады гэта таксама мне стала зразумела. І я падчас той вандроўкі сустрэў мастакоў, у тым ліку Міколу Купаву. Яны прыехалі маляваць да стагоддзя Якуба Коласа замоўленыя краявіды — Акінчыцы, Мікалаеўшчыну. І калі я пачуў мастакоў, якія гавораць па-беларуску, мяне як быццам праняло токам. Бо я ўбачыў людзей, якія не толькі за грошы, як выкладчыкі беларускай мовы, што гаварылі па-беларуску — а калі выходзілі з лекцыі, то пераходзілі адразу на рускую мову. А я ўбачыў людзей, якія проста гавораць па-беларуску. Гэта былі людзі з вышэйшай адукацыяй, мастакі, можна сказаць, эліта. Мяне гэта вельмі моцна зачапіла. Так зачапіла, што я проста слупом прастаяў ля іх, можа, дзве гадзіны, пакуль урэшце Купава не звярнуў на мяне ўвагу і не

пазнаёміўся са мной. Запрасіў мяне прыехаць у Менск, дзе прапанаваў пазнаёміцца з беларускімі актыўнымі хлопцамі. І гэта настолькі тады супадала з маім унутраным станам! Бо мне хацелася не толькі асэнсоўваць беларушчыну, глядзець на яе, але хацелася ўжо штосьці рабіць на яе карысць. Таму праз тыдзень, калі я прыехаў у Менск, Купава пазнаёміў мяне з Вінцуком Вячоркам — і завязаліся вельмі шчыльныя кантакты з менскім асяроддзем. Яны тады сфармавалі сваю групу, якая працавала ў «Майстроўні» — так звалася іх легальная арганізацыя па прапагандзе беларускай культуры, мовы, народных традыцый, фальклору, якая была такім катлом для беларускай моладзі, для фармавання нейкай актыўнай павесткі, беларускай павесткі ў тагачасным рускамоўным горадзе.

### Пра студэнцкае жыццё ў сямідзясятыя і васьмідзясятыя гады ў Гомелі

**Міхал Андрасюк:** Прапаную гутарку пра студэнцкае жыццё на зломе сямідзясятых — васьмідзясятых гадоў XX стагоддзя ў Гомелі. Студэнцкае асяроддзе было беларускае?

**Алесь Бяляцкі:** На жаль, не. Былі хлопцы, дзяўчаткі, якія пісалі па-беларуску вершы, спрабавалі нешта пісаць — але гэта былі адзінкі. Кожны паасобку недзе тусаваўся і далей раскрыцця творчых здольнасцяў гэта не ішло. Я згадваю зараз, напрыклад, Алеся Лозку, які вучыўся ў нас у Гомелі на сем-восем гадоў раней за нас. Ці той жа Святаслаў Крупенька. Алесь Лозка пісаў вершы, Святаслаў Крупенька пісаў пародыі. Гэтыя хлопцы засталіся ў беларускай культуры. Крупенька





зараз выкладчык у Гомельскім універсітэце, Алесь Лозка выкладае ў менскім педінстытуце, вядомы фальклярыст, і мае багата кніжак па беларускай традыцыйнай культуры. Выкладчыкам у нас працаваў Віктар Ярац — беларускі паэт, вядомы тым, што ў 1968 годзе быў адным з падпісантаў ліста за ўвядзенне беларускамоўнага навучання на філфаку ў менскім універсітэце. Тады, калі Алесь Разанаў, Віктар Ярац і яшчэ некалькі чалавек арганізавалі такі калектыўны ліст, скончылася гэта тым, што іх папераводзілі ў педінстытуты ў тыя мясціны, адкуль яны родам. І Ярац — адзіны з нямногіх тады, хто паслядоўна размаўляў па-беларуску. Я паспеў яшчэ захапіць выкладанне прафесара Міколы Грынчыка, які таксама быў свядомым беларусам і размаўляў увесь час па-беларуску. Гэтых людзей можна было пералічыць на пальцах. А падругое, яны трымаліся паасобку. Бо часы былі такія. Падчас выкладання беларускай мовы, падчас лекцый — я ж цікаўны быў хлопец, у шаснаццаць гадоў паступіў... Я спытаўся ў паважанага прафесара беларускай мовы: а чаму газета «Звязда» так называецца? Па-беларуску звязда можа быць толькі калядная. А па-нармальнаму — зорка мусіла быць. І спытаўся гэта падчас лекцыі, дзе сядзела каля ста чалавек. Ён нічога мне не адказаў, а пасля лекцый папрасіў падысці да яго. Ён крышку заікаўся і сказаў: «Паважаны Алесь, я цябе прашу, калі ты хочаш давучыцца да канца, больш такіх пытанняў не задавай». Прычым сказаў гэта шчыра, ён мяне не палохаў. Ён проста баяўся за мяне, што органы КГБ маглі зацікавіцца правакацыйнымі, з яго пункту погляду, пытаннямі, чаму рэспубліканская беларускамоўная газета называлася «Звязда», а не «Зорка». Людзі яшчэ баяліся гэтай беларушчыны і памяталі трыццатыя гады, калі за беларускую мову пісьменнікаў і свядомых беларусаў рэпрэсавалі. Іх засталіся рэальна адзінкі.

Таму нейкі моладзевы рух у Гомелі сапраўды пачыналі мы. Прычым не ведаючы пра тое, што ў тым жа Гомелі жыве Цімох Вострыкаў, якога скідвалі на самалёце ў Налібоцкую пушчу ў пяцідзясятыя гады разам з дыверсійнай групай БНР. Яны шукалі кантакты з партызанамі, але тут нічога ўжо не было і іх хутка схапілі. Ён, адседзеўшы свой тэрмін, жыў у Гомелі. Там таксама жыў адзін з удзельнікаў лагернага паўстання ў пяцідзясятыя гады, Рыгор Клімовіч. Але ўсе гэтыя людзі сталі вядомыя крышку пазней. Калі можна было падняць галаву. Тая ж жонка Аляксандра Уласава — пачынальніка газеты «Наша Ніва» — таксама жыла ў Гомелі. Але ўсе яны трымаліся самі па сабе. Яны баяліся галаву падняць.

А мы маладыя былі. Энергіі было багата. Не было столькі страху гэтага, засцярогі, таму мы ўвайшлі ў гэтую беларушчыну вельмі шчыра.

**Міхал Андрасюк:** Але пачатак васьмідзясятых у Савецкім Саюзе — гэта яшчэ далёкі ад свабоды час.

**Алесь Бяляцкі:** Пачатак васьмідзясятых гадоў — гэта, я сказаў бы, змрочныя часы для ўвогуле любых дэмакратычных і нацыянальных рухаў. Тысячы людзей паехалі ў лагеры на тыя часы. А ў гэтыя часы ў нас якраз станавіўся нацыянальны рух у Беларусі, моладзевы. Вось такі парадокс пэўны. Канечне, хваля рэпрэсій супраць нацыянальных рухаў, якая пракацілася па Украіне, дзе сотні чалавек былі асуджаныя, рэпрэсаваныя, не зачапіла Беларусь. Ну, можа, камуністы думалі, што тут ужо ўсё вытаптана і ўсё так у Беларусі адрэгулявана, што ніякія моладзевыя гурткі ці фальклорныя пачынанні не могуць змяніць хады гісторыі.





**Міхал Андрасюк:** Тым не менш рана-позна, але КГБ зацікавіўся і вашым рухам.

**Алесь Бяляцкі:** Яны прышлі ва ўніверсітэт летам, калі мы ўжо скончылі яго, у 1984 годзе. Прыходзіў загадчык кафедры Іван Штэйнер, з якім мы сябравалі, ён нам неяк дапамагаў, сам ён з Палесся, з вёскі. І ён казаў, што на кафедру прыходзілі кагэбісты, пыталіся пра мяне. Але ў гэты час мы атрымалі размеркаванне і разляцеліся па вёсках Гомельшчыны. Таму Бог нас бараніў. За гэты час, з 1981-га па 1984 год, мы рэальна стварылі беларускамоўную плынь людзей, для якіх словы «беларуская мова», «беларуская культура», «беларуская гісторыя» не былі пустым гукам.

**Міхал Андрасюк:** Не пусты гук. А што за ім хаваецца? Што значыла быць беларусам у гэтым шматнацыянальным савецкім катле ў пачатку васьмідзясятых гадоў XX стагоддзя?

**Алесь Бяляцкі:** Гэтае пытанне мы задавалі сабе. І трэба сказаць, што кожны адказваў па-рознаму. І, напрыклад, у 1984 годзе, калі мы сыходзілі з універсітэта, па-беларуску ў нас размаўляла чалавек сорак з нашага асяроддзя. Мы пачыналі ўвогуле ўдвух — я і Едрусь Акулін. Анатоль Сыс пасля да нас далучыўся, які спачатку смяяўся з нас, бо гаварыў на сваёй рэчыцкай мяшанцы. Яна вельмі сакавітая, але там багата русізмаў. І калі мы перайшлі на літаратурную мову, ён проста смяяўся з мяне і казаў, маўляў, не выпендрывайся, а гавары як ты гаворыш. Таму што яшчэ на першым курсе ва ўніверсітэце размаўляў па-руску. А з другога курса я перайшоў на беларускую мову. Яго гэта забаўляла. Але праз месяц ужо ўсе забыліся, што я гаварыў па-руску, бо я перайшоў адразу і назаўсёды.

Быў, так бы мовіць, рэзкі пераход, без усялякіх пераходных перыядаў. Я проста пасля сустрэчы з Міколам Купавам пачаў размаўляць па-беларуску. І гэта засталося назаўсёды. І гэтае выказванне беларускасці адбывалася па-рознаму. Напрыклад, быў такі час, калі мы прыходзілі ва ўніверсітэт у куфайках вясковых, чыстых, але тым не менш. З кірзавымі торбамі-планшэтамі, як у той час у нас хадзілі леснікі і пастухі. Прыходзілі ў чобатах на заняткі. Як бы рабілі такі падкрэслена, з выклікам, стыль людзей з народу, вясковы. І размаўлялі гучна па-беларуску. Падчас перапынку маглі дастаць дошчачку-дзёнку, нарэзаць на ёй сала, з'есці хлеба з цыбулькаю ў аўдыторыі, дзе сядзяць сто пяцьдзясят студэнтаў. І добрая частка з іх — гэта гомельскія дзеці, якія глядзелі на нас дзікімі вачыма. Але яны разумелі, што гэта пэўны антураж.

**Міхал Андрасюк:** Цяпер бы гэта назвалі перформансам?

**Алесь Бяляцкі:** Так. І спявалі песні беларускія. Сядзелі, народныя песні спявалі ўголас. Нас двое-трое было, такіх байцоў. Гэта была адна з формаў пэўнага пратэсту супраць русіфікацыі, якая ў той час паўсюль буяла.

**Міхал Андрасюк:** Але вы былі ў меншасці. А як ставіліся да вас усе астатнія студэнты?

**Алесь Бяляцкі:** Студэнты разумелі, падтрымлівалі нас. Прынамсі, ніякага адрынання ці варожага стаўлення да нас не было. І пасля таго, як нашае кола стала павялічвацца, а яно дастаткова хутка стала павялічвацца, і Анатоль Сыс перайшоў на беларускую мову. Асабліва пасля таго, як ён прыйшоў да войска і пабачыў, што нас ужо цэлы гурт вялікі, ён ужо цалкам





перайшоў на літаратурную мову. То маючы такіх актыўных зуброў, якія ўжо мелі пэўныя поспехі ў літаратуры (Сыс адназначна быў аўтарытэтным хлопцам сярод студэнцтва), нашая беларушчына заняла нармальныя пазіцыі. Мы выступалі на навуковых канферэнцыях, калі трэба было спрачацца пра «русский мир», бо гэтыя спрэчкі ўжо тады былі. Мы спрабавалі адбіваць гэтыя атакі. Казаць, што, прабачце, «русский мир» — гэта дзесьці не тут, гэта ў іншым месцы, а ў нас свая гісторыя, тая ж Гомельшчына — гэта кавалак ВКЛ. Гэта замак, што быў пабудаваны як супраць набегаў казакаў, з аднаго боку, з поўдня, так і супраць расіян з усходу. І даходзіла да таго, што адна з выкладчыкаў рускай мовы проста ў істэрыцы кідалася на мяне і казала, маўляў, чаму вы выступаеце супраць такой дасканалай мовы, на якой пісаў Пушкін, Талстой і Маякоўскі? На што я адказваў: на ёй жа таксама размаўлялі Сталін і Берыя, хоць яны і не былі рускія. У нас ішлі такія ідэалагічныя спрэчкі ў розных плоскасцях. З аднаго боку, з расійскім асяроддзем, якое душыла беларушчыну, наступала на яе па ўсіх кірунках. З другога боку, з савецкай, камуністычнай ідэалогіяй. Бо тое ж самае было на занятках навуковага камунізму. Калі выкладчык камунізму крычаў нам з Едрусем Акулінам: нацыяналісты! А мы сядзелі на задніх лаўках. А мы яму крычалі: шавініст! І гэта ўсё насілася над галовамі бедных студэнтаў, якія круцілі імі ад жаху. І прыходзілася шукаць нейкія аргументы, каб бараніць сваю пазіцыю. Тады мы былі хітрэйшыя (навучыліся ў менскіх хлопцаў) і проста вырывалі цытаты з Леніна, які займаў вельмі розную пазіцыю на той час у адносінах да развіцця нацыянальных моваў, культур да пэўнага часу. Ён нават падтрымліваў гэта. То, адпаведна, менавіта гэтымі цытатамі мы адбіваліся ад гэтага агрэсіўнага выкладчыка. І казалі: а вось Уладзімір Ільіч Ленін казаў вось

так — і цытавалі Леніна. На што ён не мог нічога адказаць і замаўкаў. А мы тады трыумфавалі, бо мы яго білі ягонай жа зброяй камуністычнай.

**Міхал Андрасюк:** Пярэчыць Леніну не мог нават універсітэцкі выкладчык. А дарэчы, Эдзік Акулін распавядаў мне пра тваю з ім студэнцкую кватэру ў інтэрнаце.

**Алесь Бяляцкі:** Калі мы ўжо былі на чацвёртым курсе, нас з Едрусем Акуліным пасялілі ў іншы інтэрнат кватэрнага тыпу, дзе ў двух пакоях жылі сем студэнтаў. Там была асобная кухня, асобная лазня. І нам туды падсялілі пяць першакурснікаў. Гэта былі чатыры гісторыкі і адзін эканаміст. І калі яны прыйшлі да нас, а хлопцы ўсе з вёсак гомельскіх, яны ўжо «чигирикали» — гаварылі па-руску. Бо ўжо патрапілі ў горад і разумелі, што тут трэба падладкоўвацца пад гарадское жыццё. І першае, што яны пачулі ад нас, — што ў гэтай кватэры ўсе размаўляюць па-беларуску. Гэта было выстаўлена ва ўльтыматыўнай форме. Праз тры дні ў нас уся кватэра была беларускамоўнай. Ніхто рускага слова ў нас не чуў. Гэта была фірмовая марка нашай кватэры цягам двух гадоў, пакуль мы не скончылі ўніверсітэт. І трэба сказаць, што гэтыя хлопцы, атрымаўшы такую беларускую прышчэпку, захавалі яе, прынамсі тыя, з якімі мы трымаем кантакты. Я ведаю, што яны засталіся беларускамоўнымі. Для іх беларуская мова засталася ў жыцці. Усе гэтыя смешныя, гумарыстычныя рэчы, пра якія я распавядаю, тым не менш кшталтавалі наш характар. І мы рыхтавалі сябе на той час: і Едрусь Акулін, і я, і іншыя — група гэтых студэнтаў была дастаткова вялікая, мы рыхтаваліся для беларускай работы.



З маці Нінай. Светлагорск, 1970 год



З бацькам Віктарам.
Карэлія, Вяртсіля,
17 сакавіка 1963 года



Падчас навучання
ў сярэдняй школе № 5.
Светлагорск,
1970-ыя гады




Каля магілы
Максіма Багдановіча.
Ялта, 1979 год



Студэнт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта. 1980-ыя гады

## Пра першую працу, пра вяртанне ў Менск і пра службу ў Савецкай арміі

**Міхал Андрасюк:** Першая праца была па размеркаванні?

**Алесь Бяляцкі:** Так, я паехаў у вёску, гэта Лельчыцкі раён. Усходняе Палессе, вёска Грабяні. Кіламетраў дзесяць да ўкраінскай мяжы. Чыстая, прыгожая паляшуцкая беларуская мова. Школа-дзесяцігодка, было пад сто пяцьдзясят дзяцей. Я жыў у хаце загадчыка гаспадаркі. Гэта было некалькі цікавых месяцаў жыцця. Там было багата грыбоў, там была некранутая прырода. Калі мы з дзецьмі выходзілі на бульбу (настаўнікі з дзецьмі дапамагалі калгасу збіраць яе ў верасні — кастрычніку), па палях хадзіла столькі жураваў, колькі я ў жыцці не бачыў!

**Міхал Андрасюк:** Тым не менш сваю будучыню ты бачыў у горадзе, у Менску.

**Алесь Бяляцкі:** Я разумеў, што ў мяне былі два шляхі наперадзе. Ці заставацца ў вёсцы, збіраць, захоўваць скарбы беларускай мовы, бо мова там была абсалютна жывой, я яшчэ паспеў запісаць там дзясяткі прыказак, прымавак, вельмі цікавыя словы рэгіянальныя. Ці ўсё ж такі вучыцца далей і спрабаваць зрабіць штосьці ў беларускай культуры на гарадскім роўні. Таму, пажыўшы там пару месяцаў, я напісаў заяву ў аспірантуру ў Менск і паступіў, у Інстытут літаратуры. Так атрымалася, што з першага разу. Бо мэтанакіравана я займаўся беларускай літаратурай. Пры паступленні мая беларускасць была заўважаная, бо, напрыклад, адным з сябраў прыёмнай камісіі быў Адам Мальдзіс — вядомы беларускі

літаратуразнаўца, пісьменнік. Які быў вялікі аматар значкоў, ён збіраў усе значкі, датычныя беларускай тэматыкі. І на той час была зробленая маленькая партыя (можа, сто самаробных значкоў) з партрэтам Уладзіміра Караткевіча. Адразу пасля яго смерці гэтыя значкі былі зробленыя. Яны былі вялікай рэдкасцю для збіральнікаў. І нейкім чынам мне гэты значок патрапіў. І я пайшоў на іспыт з ім. І калі Адам Мальдзіс убачыў значок Караткевіча на маім пінжаку, для яго гэта быў канкрэтны пароль, што гэта свой! Бо ніхто з чужых, ніхто не з беларусаў такіх значкоў не меў. Таму Адам Восіпавіч падтрымліваў мяне рукамі і нагамі, пакуль я паступаў. Паступіў я ў аспірантуру і пераехаў Менск. Гэта было ў 1984 годзе. І тут, канечне, я адразу патрапіў у асяроддзе менскіх хлапцоў — актывістаў беларускіх, таму што для мяне гэта было вельмі важна. Вінцук Вячорка, Сяргей Сокалаў-Воюш, Алесь Суша, Віктар Івашкевіч... Вось гэты асяродак, у якім я ўжо жыў усе наступныя гады. Гэта мае сябры.

**Міхал Андрасюк:** Палова васьмідзясятых гадоў XX стагоддзя ў Менску. Беларускае асяроддзе было ўжо адкрытае — ці бліжэй да падполля?

**Алесь Бяляцкі:** Трэба сказаць, што мы праводзілі закрытыя беларускія сустрэчы, бо беларуская праца была не толькі адкрытай, але і закрытай. Была створаная фактычна падпольная арганізацыя, мы называлі яе партыяй, хоць колькасць людзей там ніколі не была большай за пятнаццаць. Тым не менш у нас быў свой статут, распрацаваная свая праграма. І гэта была ўжо цалкам незалежніцкая праграма. Цалкам незалежніцкі статут арганізацыі. Мары пра незалежнасць былі ў нас і ў Гомелі. Я ніколі не забуду тыя моманты. З Анатолем Казловым, пісьменнікам беларускім, з якім мы разам вучыліся (ён на курс маладзейшы быў за мяне), мы жылі ў адным пакоі. І я яму задаваў пытанні перад самым сном: «Анатоль, а ці дажывём мы, калі Беларусь будзе незалежнай краінай?» На што ён заўсёды казаў: «А, плюнь, не дажывём!» Мы і думаць не маглі, што праз дзесяць гадоў Беларусь стане незалежнай. Але для сябе ўнутрана я выбудаваў праграму, што я ўсё жыццё буду працаваць на незалежнасць Беларусі. Хай я не дажыву, можа, мае дзеці не дажывуць — але ўнукі мае да гэтага дажывуць. Вось такую мэту я сабе паставіў яшчэ ў васямнаццаць гадоў. Я разумеў, што гэта праца не аднаго года. Таму што было дастаткова паглядзець, наколькі моцная была, па-першае, савецкая сістэма, камуністычная сістэма. І наколькі мазгі беларускіх людзей былі прамытыя гэтай сістэмай за пакаленні. Ва Усходняй Беларусі савецкая ўлада прыйшла ў 1920 годзе фактычна. Беларусізацыя скончылася на пачатку трыццатых гадоў. Быў такі перыяд з 1926-га па 1931-ы, калі беларуская мова, культура ўздымалі галаву, калі ўрэшце Гомельшчына была прыяднаная да савецкай Беларусі. Бо гэта была частка Расіі. Уз'яднанне Гомеля з Беларуссю адбылося ў 1926 годзе.

**Міхал Андрасюк:** Калі не памыляюся, быў таксама план далучэння Смаленшчыны да Беларусі?

**Алесь Бяляцкі:** Наступны крок, які мусіў быць, — прыяднанне Смаленшчыны. Ён не адбыўся. Бо рыхтавалі прыяднанне Смаленшчыны ў 1929—1930 годзе да Беларусі. Але пачаліся рэпрэсіі — і, напрыклад, уся беларуская гомельская інтэлігенцыя была рэпрэсаваная, знішчаная. Гэта студэнты, якія вучыліся ў Гомельскім пединстытуце, у тэхнікумах, маладыя пісьменнікі. Усе былі рэпрэсаваныя. І таго ж Аўгена

Калубовіча, які родам з Гомельшчыны, рэпрэсавалі ў 1930 годзе. Усіх падчышчалі.

**Міхал Андрасюк:** А затым — Другая сусветная вайна, якая не паспрыяла развіццю беларускай ідэі.

**Алесь Бяляцкі:** Вайна, якая выбіла, асабліва на прыфрантавых тэрыторыях, вельмі багата людзей. Людзі гінулі дзясяткамі тысяч. Гэта проста як мор было. Мая маці, якая перажыла акупацыю дзіцём сямі гадоў, глядзіць на тое, што яе сям'я засталася жывой, як на цуд. Таму што настолькі багата людзей гінула вакол, у суседніх вёсках! Яе бацька загінуў на вайне, але сям'я, дзеці засталіся жывыя. Пасля гэтай маральнай траўмы гаварыць пра нейкія духоўныя каштоўнасці на тым кавалку зямлі было дастаткова складана. І, напрыклад, калі мой дзядзька пытаўся ў мяне, дзе я працую, я адказваў, што я — дырэктар музея. І ён, вясковы дзядзька, які ўсё жыццё прапрацаваў ляснічым, пытаўся: а на халеру гэтыя музеі патрэбныя?! А я спрабаваў яму патлумачыць такім чынам:
— Слухай, музеі — гэта тая ж школа. А школы патрэбныя?
Ён пагаджаўся.
— Ну дык і музеі патрэбныя, калі школы патрэбныя!
Вось такі ровень разумення нашай духоўнай культуры на той час быў у сярэдніх савецкіх беларусаў.

**Міхал Андрасюк:** Сёння хацеў бы пачуць колькі слоў пра службу ў арміі. У 1985 годзе ўспомніла пра цябе Савецкая армія.

**Алесь Бяляцкі:** Сапраўды, гэта было крыху дзіўнавата, што ўжо пасля ўніверсітэта, як паступіў у аспірантуру, адвучыўся паўгода, мяне прызвалі ў армію. І мне не хацелася туды ісці,



Свярдлоўск,
вайсковая частка 63746,
1986 год



Аспірант Інстытута літаратуры Акадэміі навук са значком Пагоні на світцы. Менск, 1987 год

бо я адчуваў, што гэта будуць страчаныя гады. Бо маё грамадскае жыццё было звязанае з моладзевым рухам Беларусі. І сыходзіць у войска — гэта была, канечне, ссылка для мяне. Можна сказаць, пакута. Але куды было дзявацца? І патрапіў служыць на Урал за цяперашні Екацярынбург, тады ён называўся Свярдлоўскам. Там вучэбка была, дзе нас вучылі на механікаў-вадзіцеляў самаходных гармат ці браніраваных цягачоў. Яны былі распаўсюджаныя ва ўсіх войсках тагачаснага савецкага блоку. З двухсот пяцідзесяці курсантаў, якія ў нас былі, з вышэйшай адукацыяй было чалавек пяць. Усе астатнія хлопцы былі трактарысты, механікі, шафёры з усяго Саюзу, багата людзей было з Сярэдняй Азіі. Беларусаў сярод нас было чалавек шэсць. Мы стараліся трымацца гуртом, канечне. Я іх спрабаваў згуртаваць, бо меў беларускі досвед. Я казаў: хлопцы, мы ж беларусы, мы мусім дапамагаць адзін аднаму, трымацца адзін аднаго. І ў прынцыпе гэта працавала. Мы сапраўды стараліся адбівацца ад больш агрэсіўных нацыянальных груповак, азербайджанцаў ці з Паўночнага Каўказа, якія спрабавалі сесці на галаву ўсім астатнім.

**Міхал Андрасюк:** Ці было ў гэтай арміі нейкае адзінства, адчуванне, што мы — супольнасць, у нас самая вялікая дзяржава? Ці ўсё ж такі ў кожнага было сваё: у грузінаў — сваё, беларусаў — сваё адчуванне малой айчыны?

**Алесь Бяляцкі:** 1985—1986 гады — гэта было войска, якое рэальна перамалочвала ў сабе ўсе нацыянальныя групы. І там ніхто асабліва не разбіраўся, якой ты нацыянальнасці. Вучыліся пэўнай спецыяльнасці. І пасля нашай вучэбкі людзі раз’язджаліся ў самыя розныя кропкі: і ў Афганістан, і ў Германію служыць, у Польшчу, частка заставалася ў Расіі. Гэта

была добра адладжаная машына, якая функцыянавала пасля вайны фактычна без збояў да канца васьмідзясятых гадоў. Савецкае войска пачало развальвацца пасля таго, як узмацніліся нацыянальныя працэсы ў нацыянальных краінах. Пачаліся масавыя дэзерцірствы пасля таго, як краіны абвясцілі свой суверэнітэт. Гэта 1990—1991 гады. А да гэтага часу гэта была адна машына. Там людзі розных нацыянальнасцяў жылі сваімі камандамі, сваімі зямляцтвамі, дапамагалі адзін аднаму. І я гэта адчуваў увесь час, паўтара года сваёй службы. І мне дапамагалі, і я дапамагаў. Прычым гэта было на такім ўзроўні, што я і ведаць не ведаў. Пасля шасці месяцаў вучэбкі было размеркаванне па вайсковых частках. І восемдзесят працэнтаў усіх курсантаў паслалі служыць у Германію. А гэта закрытыя цалкам часткі, агароджаныя калючым дротам, дзе іх трымалі, і вечныя вучэнні. А мяне пакінулі служыць у Расіі, у вайсковай частцы на ўскраіне Свярдлоўска. Пакінулі мяне і яшчэ двух беларусаў. І толькі потым я зразумеў, што начальнік штаба гэтай вучэбкі быў беларусам. Ён размяркоўваў, каму ехаць у Афганістан, а каму заставацца служыць на Урале. І гэта, канечне, аблегчыла маё жыццё. А камусьці з маіх аднагодкаў, як Алесю Пушкіну, прыйшлося ехаць у Афганістан.

**Міхал Андрасюк:** Пра палітычную працу з жаўнерамі ці прапагандысцкую: канечне, кожнай арміі неабходны вораг. Хто быў у той час першым ворагам Савецкай арміі?

**Алесь Бяляцкі:** Гэта НАТА. І нас вымуштроўвалі супраць НАТА і вайны ў Афганістане. Таму што гэта час вайны ў Афганістане. Псіхалагічна рыхтавалі, што ў любы момант мы можам паехаць служыць туды. Сама сутнасць гэтай вучэбкі, як я зразумеў пасля заканчэння, была не толькі навучыць цябе вайсковай спецыяльнасці, а выбіць з мазгоў усё чалавечае. Нас ператваралі ў канкрэтныя вайсковыя адзінкі, нівелявалі нейкія адрознасці чалавечыя і даводзілі людзей да аўтаматызму. Яны даводзілі людзей да такога стану, што гэтыя людзі маглі страляць ва ўсё, што варушыцца, шэсць месяцаў. Сістэма была адладжаная. І гэтую бесчалавечную сутнасць войска я разумеў, таму што ў мяне была ўжо ўніверсітэцкая адукацыя, я займаў крытычную пазіцыю ўвогуле да савецкага ладу. А гэтыя дзеці, якім было па васямнаццаць гадоў, як яны маглі зарыентавацца? З іх рабілі фактычна гарматнае мяса — людзей, якія маглі б па першым загадзе страляць туды, куды ім паказалі. Сістэма ідэальнага бяздумнага жаўнера, якой жадае дабіцца, мабыць, любое войска. І трэба сказаць, што савецкае войска дабівалася такой зладжанасці, няважна, якой ты быў нацыянальнасці. Цябе, як маленькую шрубку, ставілі на пэўнае месца — і ты мусіў круціцца. І такім чынам круціўся ўвесь вялізны механізм гэтага войска. І калі я служыў ужо ў лінейных частках, у нашым дывізіёне — супрацьтанкавым знішчальным дывізіёне — было шэсць беларусаў. І зноў я іх згуртаваў. І атрымалася так, што мы былі самай вялікай нацыянальнай групоўкай. І дайшло да таго, што перад заканчэннем службы, напрыклад, у мяне адзін з маладых жаўнераў, які сам быў татарын, ужо па-беларуску з намі разумеўся. Таму што мы паміж сабой гаварылі па-беларуску, я хутка пераключыў усіх сваіх хлопцаў на беларускую мову. Ім гэта спадабалася, бо нас ніхто не мог зразумець. Але ўрэшце і татарын з намі мог перакідвацца беларускімі словамі. Мы там пэўную беларускую марку трымалі. Для мяне гэта было адхланне, выйсце з настальгіі штодзённай, якая там мяне душыла. Таму што вельмі цяжкі для мяне быў гэты тэрмін адарвання ад Беларусі. Паўтара года цягнуліся бясконца доўга. Я нават параўноўваў

свой лагерны трохгадовы тэрмін, які я адсядзеў у турме. Шчыра скажу, мне тут было лягчэй. Мне было псіхалагічна лягчэй, таму што я сядзеў сярод беларусаў. У Беларусі. І я гэта адчуваў: вось гэта — людзі майго складу ў нацыянальным плане, ментальным плане. Яны такія ж, як я. Я тут быў сапраўды як сярод сваіх. Па нейкіх маральных момантах — турма ёсць турма. Тут розныя людзі трапляюцца. Але я не адчуваў сябе адрэзаным ад жыцця. А там рэальна быў іншы свет. Там рэальна лічыў кожны дзень. І як толькі надарылася магчымасць, я паспрабаваў выскачыць адтуль як мага хутчэй. Усё роўна атрымалася, што паўтара года я там адслужыў. Але тым не менш войска дало пэўную загартоўку фізічную, таму што там былі вялікія фізічныя, псіхалагічныя нагрузкі, дзе сапраўды яны здымалі гэтую стружку і рабілі з усіх балваноў. Гэты вопыт мне вельмі моцна прыдаўся, калі я сядзеў у калоніі. Бо я ўжо рэальна ведаў, як робіцца псіхалагічная атака на чалавека, як знішчаюць чалавечую асобу. І ведаў, як супрацьстаяць гэтаму. Таму, я так думаю ўжо з сённяшніх гадоў, што б там жыццё ні давала чалавеку — мабыць, гэта ўсё ж не дарэмна. І вельмі часта праходзіць пэўны час — і тое, што ты ўспрымаеш сёння як негатыў, дае пэўны плюс свой. Таму такія фізічныя і псіхалагічныя выпрабаванні, якія ў мяне былі ў войску, дапамаглі мне потым у турэмным жыцці.

## Беларусь напярэдадні Незалежнасці

**Міхал Андрасюк:** Прапаную паразмаўляць пра той час, калі Алесь Бяляцкі вярнуўся з арміі — гэта другая палова васьмідзясятых гадоў XX стагоддзя ў Менску і Беларусі.





**Алесь Бяляцкі:** Гэта былі тыя часы, асабліва першая палова васьмідзясятых, да 1988 года, калі мы ўсе ведалі адзін аднаго, усе сведамыя беларусы. Так, як цяпер на Беласточчыне, так у той час у Менску — мы ўсе адзін аднаго ведалі. Цяпер сотні тысяч маладых людзей, якія працуюць у беларускім кірунку больш-менш актыўна, штосьці робяць: і пішуць, і гавораць, і малююць, і гісторыяй займаюцца, і так далей. Раней такога не было. Мы ўсе былі на пералік.

**Міхал Андрасюк:** Тым не менш гэтыя лічаныя свядомыя беларусы ў 1987 годзе ўпершыню зладзілі Дзяды.

**Алесь Бяляцкі:** У 1987 годзе было першае адзначэнне. Яно прайшло адносна спакойна. Таму што ўлады не чакалі, што хоць нейкая акцыя будзе. Гэта была адная з першых масавых акцый, якая ўвогуле была ў Беларусі. Тады каля помніка Купалу сабралася чалавек дзвесце-трыста. Прыйшлі новыя людзі — тая ж самая Валя Якімовіч тады прыйшла першы раз, вядомая актывістка канца васьмідзясятых — пачатку дзевяностых гадоў. Яна была ўражаная тым, што адбывалася. Для яе гэта быў пераломны дзень, Дзяды 1987 года. Фармальна заяўку на правядзенне Дзядоў падавалі «Тутэйшыя», бо мы былі адзінай з так званых нефармальных арганізацый, якая мела хоць нейкую легітымнасць. Таму што мы былі пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі. На гэтую заяўку нам ніхто нічога не адказаў. Улады ніякім чынам не адрэагавалі. Для іх гэта была нейкая новая справа. Усё было распісана шэсцьдзесят гадоў: 1 Мая, 9 Мая, 7 Лістапада — Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі. Вось гэтыя афіцыйныя святы былі распісаныя. Ну і Новы год, які пачалі адзначаць пасля вайны фактычна. А тут нейкія новыя ініцыятывы. Новыя святы. Яны проста змаўчалі. І трэба сказаць, што сама

традыцыя святкавання Дзядоў у Беларусі ўжо амаль сышла на нішто. Таму што і савецкая ўлада пратэставала супраць рэлігійных святаў, і паступова гэта забывалася. І ў вялікіх гарадах гэта ўжо амаль не адзначалася. Таму мы бачылі гэта як пэўную рэканструкцыю народнага свята памінання продкаў. І ў той жа час падкладвалі пад яе грамадскі змест, грамадскі сэнс, таму што мы пратэставалі супраць сталінскай сістэмы, якая масава знішчала. Сотні тысяч, мільёны беларусаў былі забітыя.

**Міхал Андрасюк:** Першыя Дзяды прайшлі адносна спакойна. Але другія — ужо не.

**Алесь Бяляцкі:** Дзяды 1988 года выклікалі яшчэ большы рэзананс. Таму што гэта былі масавыя захопы міліцыяй, гэта была цэлая аперацыя, распрацаваная кампартыяй, якая падключыла пракуратуру і МУС. Былі сагнаныя некалькі тысяч міліцыянтаў. Яны спрабавалі арыштаваць актывістаў арганізацыі акцыі, але не ўсіх. Засталіся кіраўнікі тым не менш, застаўся Зянон Пазняк, Уладзя Арлоў і яшчэ некалькі чалавек, якія здолелі давесці гэтую акцыю да канца.

**Міхал Андрасюк:** Для цябе гэта быў першы арышт і першы штраф?

**Алесь Бяляцкі:** Так, гэта было першае затрыманне. І там мы ўжо лоб у лоб сутыкнуліся з гэтай сістэмай, калі адчулі, што і нам адступаць няма куды, і што не той момант быў, каб мы сапраўды адступалі.

**Міхал Андрасюк:** 200 савецкіх рублёў — якія гэта былі грошы на той час?





З Міхасём Талочкам падчас беларуска-латышскага экалагічнага ралі «Дзвіна-Daugava-87». Бераг Дзвіны, травень 1987 года




Керамічны медаль удзельніка экалагічнага ралі «Дзвіна-Daugava-87» 29 красавіка — 3 траўня 1987 года



З сябрамі Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя» Анатолем Сысам, Андрэем Федарэнкам падчас Каардынацыйнай нарады беларускіх суполак у Полацку. 17 кастрычніка 1987 года.
*Аўтар фота: Мікола Таранда*



Затрыманне Алеся Бяляцкага падчас традыцыйнага дня ўшанавання памяці продкаў Дзяды. Менск, 30 кастрычніка 1988 года



УВАГА! УВАГА! УВАГА!

Д З Я Д Ы

Таварыства маладых лiтаратарау пры СП БССР "ТУТЭЙШЫЯ" [illegible] 30 кастрычнiка /нядзеля/, у 14 гадзiнау ладзiць Дзень памяцi продкау, мiтынг — ДЗЯДЫ i запрашае усiх, хто яшчэ не забыуся адкуль ен родам, аддаць данiну павагi нашым продкам, нашаму славутаму i трагiчнаму мiнуламу.

Мiтынг адбудзецца у нядзелю, у скверы каля Маскоускiх могiлак.

Дабiрацца — метро, канечная станцыя "Усход".

УВАГА! УВАГА! УВАГА!

Д З Я Д Ы

Таварыства маладых лiтаратарау пры СП БССР "ТУТЭЙШЫЯ" [illegible] 30 кастрычнiка /нядзеля/, у 14 гадзiнау ладзiць Дзень памяцi продкау, мiтынг — ДЗЯДЫ i запрашае усiх, хто яшчэ не забыуся адкуль ен родам, аддаць данiну павагi нашым продкам, нашаму славутаму i трагiчнаму мiнуламу.

Мiтынг адбудзецца у нядзелю, у скверы каля Маскоускiх могiлак.

Дабiрацца — метро, канечная станцыя "Усход".

Абвестка з запрашэннем на Дзяды ў 1988 годзе. Тысячы такіх абвестак былі распаўсюджаныя ў Менску



Керамічны медаль удзельніка традыцыйнага дня ўшанавання памяці продкаў Дзяды. Менск, 30 кастрычніка 1988 года




Эмблема Таварыства
маладых літаратараў «Тутэйшыя».
*Аўтар малюнка: Сяргей Харэўскі*

Шлюб з Наталляй Пінчук. 1987 год



**Алесь Бяляцкі:** Я атрымліваў стыпендыю 110 рублёў як аспірант. Гэта такі добры заробак на той час працаўніка. Грошы мне гэтыя сабралі супрацоўнікі Інстытута літаратуры, у якім я працаваў. І сам дырэктар мне іх перадаў. Вось гэта — таксама змена часу, якая паказвала пэўныя настроі ў грамадстве, калі людзі пачалі, прынамсі, не баяцца дапамагаць адзін аднаму. Яны, можа, самі не актыўнічалі, але салідарнасць выказвалі. Гэта было вельмі важна.

**Міхал Андрасюк:** Дарэчы, пра салідарнасць. Ці можна казаць пра супрацу ў канцы васьмідзясятых гадоў маладога пакалення і старэйшага — або ўсё ж такі надалей кожны рабіў сваё?

**Алесь Бяляцкі:** У 1988 годзе адбылося з’яднанне моладзевых актывістаў з беларускімі актывістамі старэйшага пакалення. Пакаленне Зянона Пазняка, скажам так, куды адносіўся і Міхась Чарняўскі, і Мікола Купава, і Яўген Кулік, і Міхась Ткачоў — гарадзенскі гісторык. Яны даўно вялі сваю беларускую справу з пераменным поспехам. Мы ведаем, што былі рэпрэсіі супраць гэтай групы гісторыкаў-філолагаў у сямідзясятыя гады, я маю на ўвазе групу Міхася Чарняўскага. Некалькі чалавек проста выгналі з Акадэміі навук за нацыяналізм. І была пэўная пазіцыя Зянона Пазняка, які таксама спрабаваў супраціўляцца і разбурэнню старога Менска як гісторык і адстойваў беларускія традыцыі, культуру, наколькі мог у сямідзясятыя — васьмідзясятыя гады. Яны глядзелі на нас з пэўным недаверам: вось моладзь, яны шумяць, іх, відаць, хутка паарыштоўваюць і хутка ўсё гэта прыкрыюць... Ніхто не верыў, што ўрэшце гэтая беларуская справа чарговая мае нейкія перспектывы. Усе думалі, што вельмі хутка ўсё гэта будзе прыпынена. Занадта моцнымі былі антыбеларускія сілы: і КГБ, і кампартыя. Але тым не

менш месяц за месяцам, год за годам мы ўмацоўваліся. І калі ў краінах Балтыі абвясцілі пра стварэнне народных франтоў , у першую чаргу ў Эстоніі, то гэтая ідэя пачала лунаць у паветры і ў Беларусі ў 1988 годзе. І адбылася яшчэ дастаткова сур'ёзная падзея — гэта артыкул Зянона Пазняка і Яўгена Шмыгалёва пра Курапаты летам 1988 года, які выклікаў вельмі моцны грамадскі рэзананс. Гэтую газету літаральна па руках расцягвалі, гэты артыкул быў надрукаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва». Дзясяткі людзей чыталі адзін экзэмпляр, таму што гэта была новая інфармацыя пра масавыя рэпрэсіі. І адназначна — інфармацыя, якую хавалі камуністычныя ўлады, бо яна была невыгодная для іх. Яны не прызнавалі гэтых памылак трыццатых гадоў, стараліся проста замаўчаць гэтую сітуацыю. Таму гэта быў выбух, які выклікаў актыўнасць людзей. Тады адбылася адная з першых дэманстрацый у Курапатах, калі людзі пайшлі з плакатамі. І асноўная частка ўдзельнікаў дэманстрацый якраз і былі сябры моладзевых арганізацый. І адбылося вось гэтае знаёмства і ўжо супольная праца па пэўных акцыях у 1988 годзе, калі мы працавалі ўжо разам са старэйшымі. Гэтыя сустрэчы адбываліся ў культурнай камісіі Фонду культуры, якая была на той час найбольш прагрэсіўнай. Там упершыню пачала абмяркоўвацца ідэя стварэння Беларускага народнага фронту як арганізацыі, што магла б аб'яднаць дэмакратычныя, нацыянальныя, прагрэсіўныя сілы ў Беларусі і прапанаваць іншую праграму развіцця для Беларусі. Таму што камуністы нічога не прапаноўвалі на той час.

**Міхал Андрасюк:** А па дарозе быў яшчэ і Чарнобыль.

**Алесь Бяляцкі:** Гэта быў таксама моцны ўдар для ўсіх людзей. Мне тады пісалі мае сябры (а я ж у войску служыў у той час), што ўлады нічога не робяць, яны абураліся гэтым. Людзі ўсе бачылі, што ўлады разгубленыя, улады не ў стане рэагаваць адпаведным чынам на гэтую катасрофу. І ахвяруючы жыццём і здароўем людзей, яны спрабавалі захаваць свой імідж. Гэта яшчэ раз паказала кансерватызм беларускай партыйнай, камуністычнай эліты. І дзясяткі тысяч людзей засталіся на заражаных Чарнобылем тэрыторыях. І гэта была наступная тэма, якую здолеў падняць БНФ у 1989 годзе. Таму што 1989 год прайшоў пад зоркай Чарнобыля, калі пра гэтую тэму актыўна гаварылі. І прымусілі ўлады пачаць працэс эвакуацыі людзей з заражаных тэрыторый. Таму што гэтая інфармацыя хавалася, яшчэ дзясяткі тысяч беларусаў пасля першай эвакуацыі заставаліся жыць на тэрыторыях, на якіх небяспечна было жыць. Яны елі тое, што расло ў іх на агародах, яны пілі стронцыевае малако, дыхалі гэтым паветрам, радыеактыўным пылам. І рэзка ўзняліся тады хваробы на рак, сярод дзяцей — на шчытападобную залозу. І тое, што Фронт зрабіў у 1989 годзе — гэта гістарычная заслуга Фронту па выратаванні жыццяў людзей. Таму што дзясяткі тысяч людзей пасля былі адселеныя з гэтых тэрыторый і дзякуючы гэтаму захавалі сваё здароўе.

**Міхал Андрасюк:** Але прапанова ўтварэння БНФ прагучала ўвосень 1988 года падчас сходу гісторыка-асветніцкага таварыства «Мартыралог Беларусі». І з гэтай прапановай выступіў Зянон Пазняк.

**Алесь Бяляцкі:** Хаця гэта таксама было не так проста, бо штосьці падобнае спрабавала стварыць Камуністычная партыя Беларусі як альтэрнатыву, каб выпусціць пару. Арганізацыю, якая была б падкантрольнай камуністам. Таму ідэя

стварэння БНФ круцілася таксама і ў калідорах ЦК КПБ, але мы іх апярэдзілі. Мы здолелі арганізавацца ў кастрычніку 1988 года, дзякуючы ў першую чаргу творчым саюзам: Саюзу пісьменнікаў, Саюзу кінематаграфістаў, Саюзу журналістаў — найбольш актыўным часткам гэтых саюзаў. Плюс далучылася актыўная творчая моладзь нефармальных суполак — і талакоўцы, і тутэйшаўцы, і іншыя нашы сябры, якія працавалі ў рэгіёнах. Нам удалося стварыць першыя структуры БНФ — масавай арганізацыі, якая адыграла вельмі важнае значэнне ў гісторыі Беларусі ў наступныя пяць гадоў. І ў 1989 годзе тэма змагання з Чарнобылем дала яшчэ больш вядомасці Фронту. І значная частка беларусаў падтрымлівала дэмакратычная змены ў Беларусі. Першыя выбары ў Вярхоўны Савет СССР, напрыклад, далі першых дэмакратычных дэпутатаў. Бо дасюль у нас дэмакратычных дэпутатаў не было. А дэпутаты, якія ўвайшлі ў Вярхоўны Савет СССР (там быў Васіль Быкаў, Аляксандр Дабравольскі, яшчэ некалькі дэмакратычна настроеных людзей) стварылі сітуацыю, калі ў нас з’явілася першая антыкамуністычная апазіцыя. Людзі, якія яшчэ не выступалі катэгарычна супраць камуністычнай улады, але якія ўжо прапаноўвалі сістэму плюралізму, параўладкаванне нашай сістэмы на дэмакратычны капыл. Але адназначна антыкамуністычны, незалежніцкі і нацыянальны імпэт быў згуртаваны вакол сябраў БНФ. І выбары, што адбыліся ў Вярхоўны Савет БССР, далі першую фракцыю БНФ у Вярхоўным Савеце, якая потым здолела давесці сітуацыю да абвяшчэння незалежнай Беларусі ў 1991 годзе.

**Міхал Андрасюк:** І такім чынам, 2016 год для беларускай дзяржаўнасці — юбілейны.





**Алесь Бяляцкі:** У гэтым годзе — дваццаць пяць гадоў незалежнасці Беларусі. І трэба сказаць, што нашыя мары збыліся. Я тады сам не мог паверыць у тое, што гэта ўсё рэальнае. Як бы мая беларуская праца са студэнцкіх часоў, якая заключалася ў нейкіх размовах з людзьмі, калі ты размаўляў са ста людзьмі, мог пераканаць толькі аднаго, напрыклад, а дзевяноста дзевяць смяяліся і казалі, што ты дурны, маўляў, куды ты лезеш супраць гэтай махіны, гэта немагчыма. Было поўнае бязвер’е. І вось атрымалася, што праз дзесяць гадоў, у 1991 годзе, Беларусь абвясціла незалежнасць. І ў гэтым быў наш унёсак. Можа, была б іншая сітуацыя гістарычная, эканамічная, можа, гэта нічым бы не скончылася. Але ўсё гэта супала — і мы атрымалі незалежнасць. І быў такі гістарычны цуд.

**Міхал Андрасюк:** Але незалежнасць не даюць раз і назаўсёды...

**Алесь Бяляцкі:** І гэтая боязь страціць і незалежнасць, і беларускі кірунак, што тады дало беларусам шанц развіцця, была ў мяне заўсёды. Мабыць, гэта сыходзіла з вопыту разумення таго грамадства, у якім мы жывём, сярод якога мы працавалі ўсе гэтыя гады. Тады, на пачатку дзевяностых, багата хто, асабліва з беларускіх літаратараў, інтэлігенцыі, інтэлектуальнай эліты Беларусі, адышоў ад актыўнай грамадскай дзейнасці. Мы атрымалі незалежнасць, краіна адзін за адным прымала дэмакратычныя законы, падключыліся дзясяткі тысяч новых людзей, якія пачалі гаварыць па-беларуску, якім цікава было займацца палітыкай. Тыя, з кім мы пачыналі маладзевую, грамадскую працу, пайшлі ў бізнес, у літаратуру, яны адышлі ад актыўнай грамадскай дзейнасці. І мяне гэта турбавала, таму што я не адчуваў пэўнасці, што гэтыя змены,

якія прыйшлі на пачатку дзевяностых гадоў, назаўсёды. Гэты час і гэты дзень беларускі мы можам страціць, калі далей не будзем працаваць у нашым кірунку. Ну і трэба сказаць, што ў пэўным сэнсе гэтыя страты ў нас адбыліся ў 1994 годзе, калі да ўлады прыйшоў Лукашэнка. Вядома, мы былі адкінутыя далёка назад.

### Пра перамены 1989 года ў Беларусі

**Міхал Андрасюк:** Хачу вярнуцца да 1989 года. Ва Усходняй Еўропе пачынаюцца непазбежныя перамены, развальваецца савецкі лагер. Беларусь усё яшчэ існуе як БССР. Тым не менш, і сюды даходзіць подых свабоды. Шмат чаго таксама мяняецца ў жыцці Алеся Бяляцкага.

**Алесь Бяляцкі:** У 1989 годзе мяне выбралі дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Гэта быў такі цікавы перыяд, бо гэта быў яшчэ Савецкі Саюз. Але пайшла хваля выбараў, калі выбіралі кіраўнікоў прадпрыемстваў, дырэктараў заводаў. Камуністы хацелі гэтыя выбары кантраляваць, але вельмі часта яны выходзілі з-пад кантролю — і тады дырэктарамі заводаў выбіралі папулярных начальнікаў цэхаў ці людзей, папулярных на сваіх прадпрыемствах. Я пасля заканчэння аспірантуры працаваў у Музеі гісторыі беларускай літаратуры ў Менску. Гэта 1989 год. Пасля аспірантуры мяне мусілі размеркаваць. Акадэмія пакідаць мяне не хацела пасля актыўнасці ў «Тутэйшых». Яны як бы бачылі маю нядобранадзейнасць. І мне па чарзе прапаноўвалі розныя гарады, дзе былі ўніверсітэты ці пэдінстытуты, кафедры беларускай літаратуры, бо па спецыяльнасці я быў літаратуразнаўца. Ад мяне адмовіліся Горадня, Віцебск, Магілёў, і застаўся адзін Гомель. І калі дырэктар Інстытута літаратуры пазваніў туды рэктару і сказаў, маўляў, ён жа з вашага ўніверсітэту, прыміце яго назад, бо яму тут месца няма нідзе, а мы ж яго павінны працаўладкаваць. На што рэктар Гомельскага ўніверсітэта яму адказаў, матам, праўда, накшталт такога: ну хрэн з ім, няхай едзе. Але потым так атрымалася, што адная з маіх сяброўак па моладзевых арганізацыях, актыўная талакоўка Ірына Марачкіна, працавала ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры. Яна сказала, маўляў, ёсць такая магчымасць, давай да нас, застанешся ў Менску, заробак самы мінімальны, але тым не менш ты застанешся ў Менску. Я, падумаўшы, параіўшыся з жонкай, вырашыў, што чаму не, спроба не хвароба. Можа, штосьці атрымаецца. Я пачаў працаваць у музеі. І літаральна праз некалькі месяцаў абвясцілі конкурс у Музеі Максіма Багдановіча на дырэктарства, я падаў заяўку — і калектыў мяне выбраў. Гэта было вельмі цікава, таму што на той час, у 1989 годзе, мне было 27 гадоў. І я быў хіба што самы малады дырэктар музеяў за апошнія некалькі дзесяцігоддзяў. Вопыту музейнага ў мяне было небагата, але быў літаратурны вопыт пэўны: я ведаў, што такое беларуская літаратура, я любіў Максіма Багдановіча, у мяне ўжо былі літаратурныя публікацыі. Я ўжо ведаў, чым я буду там займацца. Хаця атрымалася так, што займацца прыйшлося зусім іншым. Бо якраз перад стагоддзем з дня нараджэння Максіма Багдановіча (ён нарадзіўся ў 1891 годзе) вырашылі адкрыць музей у Траецкім прадмесці, адчыніць «Беларускую хатку». І гэта быў час пабудовы музеяў. Я прыйшоў у 1989 годзе, і ўсе гэтыя гады мы актыўна будавалі музеі. Мы адчынілі ў 1991 годзе «Беларускую хатку», экспазіцыю, на само стагоддзе адчынілі музей у Траецкім прадмесці,

потым мы адчынілі Музей Максіма Багдановіча ў Яраслаўлі. І ўсе гэтыя гады будавалі таксама філію музея ў Ракуцёўшчыне Маладачанскага раёна, дзе пэўны час адпачываў Багдановіч. Ён напісаў там багата вельмі прыгожых вершаў.

**Міхал Андрасюк:** Гэта была каласальная змена, бо атрымліваеш магчымасць легальна працаваць для беларускай Беларусі.

**Алесь Бяляцкі:** Калі я стаў дырэктарам музея, для мяне гэта было крыху дзіўна, бо мне за беларускую працу яшчэ плацілі грошы. Бо ўвесь час гэта была грамадская праца. Мы самі скідваліся, куплялі друкавальныя машынкі, куплялі паперу для часопісаў, капірку. У нас былі зборкі па пяць рублёў на месяц. Нягледзячы, трыццаць рублёў у цябе была стыпендыя ці сорак, але пяць рублёў ты мусіў заплаціць на беларускую справу. І ўрэшце я дажыўся да такога часу, калі мне пачалі плаціць за маю беларускую справу. Гэта было незвычайна. А з іншага боку, я разумеў, што так і мусіць быць у нармальнай нацыянальнай дзяржаве. Грамадства табе мусіць дапамагаць, даваць табе шанц працаваць.

**Міхал Андрасюк:** Калі ты быў дырэктарам, гэта быў своеасаблівы музей — гэта было не толькі месца, дзе можна было паглядзець мёртвыя экспанаты. Акрамя музейнай, там вялася і іншая дзейнасць.

**Алесь Бяляцкі***:* Адразу, безумоўна, калі я пагадзіўся і пайшоў на гэтую пасаду, то я стаў яе выкарыстоўваць у жывых нацыянальных, дэмакратычных ініцыятывах, якія тады ў нас развіваліся. І музей сапраўды стаў цэнтрам грамадскай дзейнасці, пэўны час там сядзела рэдакцыя «Свабоды», потым



На археалагічных раскопках. Вёска Струга Столінскага раёна, ліпень 1988 года



Напярэдадні Дня Волі дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Алесь Бяляцкі з інжынерам Алесем Астраўцовым вывешваюць на балконе бел-чырвона-белы сцяг. Менск, 24 сакавіка 1991 года. *Аўтар фота: Сяргей Чырык*

рэдакцыя «Нашай Нівы», там было зарэгістравана некалькі дзясяткаў няўрадавых арганізацый, якім быў патрэбны юрыдычны адрас. А музей меў такую магчымасць. Я раздаваў яго ўсім направа і налева. І ўсе яны былі запісаныя ў адным пакойчыку, на шасці квадратных метраў. Там праходзілі сходы нацыянальнай інтэлігенцыі, мы ладзілі розныя нацыянальныя імпрэзы. У «Беларускай хатцы» пэўны час праходзілі сходы Сойма БНФ. Дзесьці паўтара года, пакуль яны не атрымалі сталага памяшкання, Управа і Сойм Фронту збіраліся там. Амаль адразу мы пачалі выкарыстоўваць нацыянальную сімволіку ўжо як музей. Свята ў Ракуцёўшчыне ў 1990 годзе ішло пад бел-чырвона-белым сцягам, мясцовае начальства напалохалася, але я як дырэктар музея сказаў, што так трэба. І добра памятаю Сокалава-Воюша, які з бел-чырвона-белым сцягам хадзіў. І мясцовае начальства проста аслупянела, яны не ведалі, што сказаць і што рабіць. І гэты сцяг мы паставілі ў фае музея. І ён заўсёды стаяў пры ўваходзе яшчэ перад тым, як стаў нацыянальным сцягам.

**Міхал Андрасюк:** Гэты сцяг сыграе яшчэ сваю ролю, але каб сказаць пра гэта, трэба пачаць з выбараў у Менскі гарсавет. Дэпутатам гарсавета ты быў абраны ў 1990 годзе, гэта быў канец СССР. Як выглядалі гэтыя выбары? Ці дазвалялася весці выбарчую кампанію, агітацыю?

**Алесь Бяляцкі:** Гэта былі першыя з сапраўды дэмакратычных выбараў. У нас ужо не было абавязковай квоты для, напрыклад, ветэранаў, як гэта было ў Вярхоўным Савеце. Гэта былі спаборныя дэмакратычныя выбары. І трэба сказаць, што галасы падлічваліся дастаткова аб'ектыўна. Я думаю, працэнтаў пяць-сем рэальна нашая камуністычная хеўра магла сабе яшчэ

нейкім чынам дапісаць, але не больш. У нас у гарсавеце было некалькі этапаў выбараў. Трэба было набраць пяцьдзясят працэнтаў плюс адзін голас, вось тады ты станавіўся дэпутатам.

**Міхал Андрасюк:** Колькі кандыдатаў змагалася за адно месца?

**Алесь Бяляцкі:** У нас было дзесьці чалавек дванаццаць на адно месца па маёй акрузе. Але самым сур'ёзным супернікам для мяне быў асабісты сакратар Філарэта, іераманах Серафім. У той час яны ўдзельнічалі ў выбарах, і Філарэт удзельнічаў у выбарах. Філарэт ішоў у Вярхоўны Савет, а сакратар — у гарсавет. Гэта, думаю, было ўзгоднена з камуністамі. Бо часы былі дастаткова ліберальныя, нейкую квоту царкве яны вырашылі аддаць. Бо і ў Маскве тое самае было, калі сядзелі гэтыя царкоўнікі ў першых больш-менш дэмакратычных саветах. Яны тады яшчэ не прынялі правіла не ўдзельнічаць у выбарах, якое потым спрацавала, прынамсі, праваслаўныя. Ксяндзам каталіцкім нельга было, але іх яшчэ і мала было ў нас тады. І, канечне, змагацца на выбарах са святаром дастаткова цяжка. Таму што аўтарытэт царквы быў дастаткова высокі. Асабліва людзі старэйшага пакалення галасавалі за гэтага сакратара. Трэба сказаць, што на гэтых выбарах ніхто не набраў пяцідзесяці працэнтаў плюс адзін голас. Мы з гэтым іераманахам удвух выйшлі ў другі тур. Я тады прадстаўляў БНФ, у мяне была нацыянальная праграма за дэмакратычныя змены, за незалежную Беларусь фактычна ўсё падводзілася, хаця гэта быў яшчэ Савецкі Саюз. Але мы тады ўжо адкрытым тэкстам гаварылі пра незалежнасць. І прагаласавалі трошкі больш за мяне, але ніхто не набраў пяцідзесяці працэнтаў плюс адзін голас. Таму першыя выбары ў нас скончыліся нічым. На другія выбары я зноў пайшоў, а іераманах ужо не пайшоў — мабыць, вырашыў, што няма сэнсу змагацца з дэмакратычнымі





актывістамі. І на другіх выбарах мяне выбралі. Я набраў дзесьці пяцьдзясят тры, пяцьдзясят чатыры працэнты. І я стаў дэпутатам з другога разу.

**Міхал Андрасюк:** Якая рада атрымалася ў выніку гэтых, па вялікім рахунку, дэмакратычных выбараў?

**Алесь Бяляцкі:** З двухсот адна траціна была дэмакратычная частка гарсавета, адна траціна — камуністы і тыя, каго яны кантралявалі, і прыкладна адна траціна — сярэдзіна, якая хісталася то туды, то сюды. Але ўлічваючы агульны настрой непрыхільнасці да тагачаснай улады, улічваючы раззлаванасць людзей, якія аказаліся фактычна голымі, у якіх згарэлі ўсе ашчаджэнні, улічваючы страшны дэфіцыт, бо нічога нельга было купіць, канечне, людзі былі страшна злыя на тагачасную ўладу. І гэта давала нам магчымасць гэтай трацінай гарсавета прасоўваць дастаткова дэмакратычныя змены ў горадзе. Выканаўчая ўлада ў горадзе не магла штосьці змяніць без рашэння гарсавета, мы кантралявалі большасць гарадскіх камісій, у тым ліку камісіі па культуры, па адукацыі і так далей. Старшыні камісій былі прадстаўнікамі дэмакратычнага ладу.

**Міхал Андрасюк:** І тут быў добры момант, каб вярнуцца да размовы пра бел-чырвона-белы сцяг, які стаяў у Музеі Максіма Багдановіча, чакаючы свайго часу.

**Алесь Бяляцкі:** Я ведаў, што гэты пункт будзе абмяркоўвацца, таму зранку я прыцягнуў гэты сцяг з музея, я яго пакінуў на першым паверсе каля міліцэйскага паста і сказаў: хлопцы, глядзіце, гэта мой. І калі трэба, я прыйду і забяру яго. І пайшоў на паседжанне гарсавета, на якім мусіла абмяркоўвацца гэтае

пытанне. І калі ўрэшце прынялі рашэнне пра тое, што трэба замяніць сцяг над гарсаветам, павесіць бел-чырвона-белы, я спусціўся, узяў сцяг і прынёс у залу. Гэта была сапраўды такая памятная хвіліна. І яго не трэба было шукаць, шыць, ён быў ужо гатовы. І тады, дарэчы, нам чатырох галасоў не хапіла для прыняцця рэзалюцыі, у якой мы звярталіся да Вярхоўнага Савета, каб перайменаваць Мінск у Менск. Мы хацелі вярнуць гораду нашую беларускую назву. Крышку нам не хапіла, інакш мы мелі б такі гістарычны прэцэдэнт, ізноў вяртання да гэтай назвы, бо Менскам горад называўся да вайны. Толькі перад самай вайной яго перайменавалі ў Мінск.

**Міхал Андрасюк:** Алесь, калі падводзіць вынікі і зрабіць рэзюмэ гэтага кароткага далукашэнкаўскага перыяду беларусізацыі Беларусі і ролі дэмакратычнага гарсавета, на што ты звярнуў бы ўвагу?

**Алесь Бяляцкі:** Праца Менскага гарадскога савета па беларусізацыі была дастаткова значнай. Таму што мы, напрыклад, прынялі праграму беларусізацыі адукацыі ў Менску. І ў 1990 годзе ў Менску на беларускай мове працавала некалькі класаў. У 1994 годзе пяцьдзясят два працэнты дзяцей вучыліся ў беларускіх класах. Мы фактычна за чатыры гады большую частку адукацыі ў Менску зрабілі беларускамоўнай. Прычым гэта не выклікала ніякага пратэсту ў бацькоў. Большасць бацькоў пагаджалася з гэтым шляхам. Яны разумелі, і мы іх пераконвалі: сёння школа, заўтра ўніверсітэт, пакуль вашыя дзеці давучацца да адзінаццатага класа — у нас будуць беларускія ўніверсітэты. І вашыя дзеці змогуць атрымаць нармальную вышэйшую адукацыю на беларускай мове. І гэта быў пэўны стымул для бацькоў. Пасля таго, як да ўлады прыйшоў





Лукашэнка, ён правёў гэты рэферэндум супраць дзяржаўнай беларускай мовы — і стала зразумелай сацыяльная бесперспектыўнасць для беларускай мовы. Вось тады пасыпалася беларускае навучанне ў нас у Менску і, на жаль, толькі астаткі засталіся, на сённяшні дзень усяго паўтара працэнта дзяцей у Менску вучацца ў беларускіх школах.

**Міхал Андрасюк:** А чым у гарадской радзе займаўся ты?

**Алесь Бяляцкі***:* Я бачыў сваю місію ў гарсавеце, цвяроза ацаніўшы сітуацыю, у двух момантах. Першы — зрабіць як мага больш прадстаўнікоў нашай дэмакратычнай плыні на нейкіх пасадах, якія маглі ўплываць на жыццё горада: старшынямі камісій, намеснікамі старшынь камісій і гэтак далей. І другі момант — гэта даць магчымасць музею развіцца. Гэта якраз час, калі адчыняўся Музей Максіма Багдановіча. Пры тым страшэнным дэфіцыце без гарадскіх паўнамоцтваў, я думаю, мы яго проста не адчынілі б. Гэта быў час, калі нават цвіка нельга было купіць проста так у краме. Усё было распісана, усё было па блаце, па знаёмстве. І я выкарыстоўваў гэтыя дэпутацкія «корачкі» дзеля таго, каб запрацавалі нашыя музеі, каб запрацавала «Беларуская хатка», запрацаваў музей у Траецкім прадмесці. Натуральна, што яны мне дазвалялі прыкрываць усе дэмакратычныя мерапрыемствы ў музеі. І натуральна, што я ўдзельнічаў у працы БНФ, выкарыстоўваў гэта на карысць дэмакратычных змен у Беларусі. Хаця асабліва моцна ў працу камісій не ўваходзіў, бо і так абавязкаў па лініі БНФ, па культурніцкай працы музеяў мне было дастаткова. Таму нейкай кар'еры дэпутацкай я сабе не ставіў задачы рабіць. Маё дэпутацтва адыграла сваю ролю потым, у 1995—1996 гадах. Таму што выбары ў гарсавет у нас прайшлі

дастаткова позна, у 1996 годзе. Мы шэсць гадоў былі дэпутатамі. Зацягнуўся перыяд перавыбараў. І ў 1995—1996 гады, калі пачаўся наступ на дэмакратычныя свабоды, ужо будучы сакратаром Управы Фронту, канечне ж, я выкарыстоўваў гэтыя «корачкі» дэпутацкія для правядзення акцый, пікетаў, дэманстрацый, падпісваў багата заявак на правядзенне гэтых акцый. І мяне не маглі пасадзіць, таму што ў мяне была дэпутацкая недатыкальнасць. І дазвол на тое, каб мяне пасадзілі на суткі, мусіў даваць гарсавет. А ўлічваючы такі склад гарсавета, кожны раз міліцэйскія пратаколы хавалі, ім не давалі ходу. Такім чынам я быў такім запраўскім падпісантам акцый у 1995—1996 гады.

**Міхал Андрасюк:** І вось пройдзе няшмат часу — і дэпутацкая недатыкальнасць у Беларусі стане гісторыяй. З'явіцца шмат працы для праваабаронцаў і ўзнікне неабходнасць паклікаць праваабарончыя цэнтры, у тым ліку і ПЦ «Вясна». Але пра гэта — у чарговай сустрэчы.

## Пра смяротнае пакаранне

**Міхал Андрасюк:** Хачу паразмаўляць пра дзейнасць у праваабароне і пра непазбежную тэму — смяротнае пакаранне ў Беларусі. Алесь, калі ты зразумеў, што ты ўжо не палітык, што літаратуразнаўства — гэта ўжо таксама не самае асноўнае? Калі ты зразумеў, што ты — праваабаронца?

**Алесь Бяляцкі:** Гэта адбывалася, з аднаго боку, увесь час, таму што тыя задачы, якія мы ставілі яшчэ студэнтамі ў сваёй





працы, датычыліся таксама правоў і свабод чалавека. І мы меркавалі, што, можа быць, палітычнымі сродкамі гэта можна зрабіць хутчэй і эфектыўней. Але гэты працэс цягнуўся і пасля 1996 года. Бо ў 1996 годзе мы стварылі «групу хуткага рэагавання». Каб рэагаваць на парушэнні правоў чалавека, якія пачалі адбывацца ў Беларусі ўсё часцей і часцей. У нас з'явіліся палітзняволеныя, у нас былі бясконцыя затрыманні. Трэба было складаць спісы затрыманых, фіксаваць гэта ўсё. І гэтая праца рабілася спачатку адначасна з іншымі працамі. Ніхто мяне ад абавязкаў дырэктара музея не вызваляў. Мы працягвалі арганізоўваць акцыі пратэсту супраць парушэнняў правоў чалавека ў рамках БНФ. У 1997 годзе я адседзеў трое сутак. Калі скончыліся мае дэпутацкія паўнамоцтвы ў 1996 годзе, то ў 1997-м мяне ўжо пасадзілі. І сітуацыя была даволі дзіўная. Я быў дырэктарам музея і сядзеў на сутках. І маё начальства ў Міністэрстве культуры пра гэта ведала — але мяне тым не менш не выганялі. Але ў 1998 годзе перада мною паставілі адназначны выбар. Намеснік міністра выклікаў мяне ў міністэрства і сказаў, што я мушу выбіраць: або заставацца дырэктарам і не займацца актыўнай грамадскай дзейнасцю — або, калі працягваю займацца, то будзем, маўляў, думаць, што рабіць. Намякнуў, што мяне могуць звольніць. І я тады зрабіў канчатковы выбар у 1998 годзе. Напісаў заяву, што сыходжу з пасады дырэктара музея, бо я ніколі не трымаўся за гэтую пасаду як за пасаду. Для мяне яна была важнай кропкай для актыўнай грамадскай дзейнасці. Беларускай дзейнасці. Калі пачаліся такія абмежаванні з боку міністэрства, я зразумеў, што час, мабыць, сыходзіць. І з 1998 года я працаваў ужо ў Праваабарончым цэнтры «Вясна». Але ў той жа час я яшчэ актыўна займаўся палітыкай. І пэўны час быў намеснікам старшыні Фронту, калі да кіраўніцтва Фронтам прыйшоў мой

сябар, паплечнік Вінцук Вячорка. І да 2000 года я спалучаў дзейнасць палітычную і праваабарончую. І дзесьці ў 2000 годзе я зразумеў, што зноў трэба рабіць унутраны выбар: ці заставацца ў палітыцы — ці цалкам сыходзіць у праваабарону. Бо нельга займацца эфектыўна і тым, і тым. Таму дзесьці з 2000 года я ўжо цалкам адышоў у праваабарончую дзейнасць. Фактычна адмовіўшыся ад актыўнай палітычнай дзейнасці.

**Міхал Андрасюк:** Тым не менш, праваабаронцу ў Беларусі не ўцячы ад палітыкі. Ён уладамі ў Беларусі ўспрымаецца як палітычны апанент.

**Алесь Бяляцкі:** Улады не разбіраюцца, палітыка ці праваабарона. Яны лупяць адным махам. І лупяць вельмі балюча. І праваабаронцам застаецца, можа, нават болей, чым палітыкам. Таму што яны бачаць рэальную небяспеку нашай працы. Бо мы прынцыповыя, мы дастаткова крытычныя да таго, што робіцца ў нашай дзяржаве. Мы заўсёды стараемся гаварыць гучна, каб нас чулі. І гэта іх страшна нервуе, раздражняе — і сказваецца на ўмовах нашай працы і нашага жыцця. Большасць вясноўцаў нідзе не працуе, таму што не мае такой магчымасці. Іх нідзе не бяруць.

**Міхал Андрасюк:** Беларусь — гэта адзіная краіна ў Еўропе, дзе функцыянуе яшчэ смяротнае пакаранне.

**Алесь Бяляцкі**: Гэта так, і мы сутыкнуліся з гэтай тэмай упершыню, так бы мовіць, навобмацак. Мы пачыналі сваю праваабарончую працу яшчэ ў дзевяностыя гады, мы сутыкнуліся з людзьмі, якія прасілі ў нас дапамогі. Часам нам прыносілі





лісты, якія былі напісаныя і перададзеныя таемна, ад смяротнікаў, якія пісалі пра страшныя ўмовы ўтрымання, пра здзекі, пра збіццё, калі іх трымалі там на ўзроўні жывёлаў. І гэтая тэма неяк пастунова ўваходзіла ў наш кругагляд. І ў 1999 годзе дзесьці мы дабіліся перагляду ўжо вынесенага прысуду ў Вярхоўным Судзе. Ён адмяніў смяротнае пакаранне, перапрызначыў турэмны тэрмін. Гэта была пэўная перамога, бо тады мы рэальна адчулі, што выратавалі чалавека ад смерці.

**Міхал Андрасюк:** У незалежнай Беларусі было вынесена больш за 300 смяротных прысудаў. І гэтыя лічбы таксама выглядаюць цікава. У 1990 годзе іх было 15, у 1995-м — ужо больш за 30. А самыя жудасныя — 1996—1997 гады, там 50 амаль штогод. 1995—1997 гады — таксама час, калі вельмі жорстка разганяліся палітычныя і грамадскія дэманстрацыі, мітынгі, збіццё на вуліцах. Ці маюць штосьці супольнае гэтыя лічбы: такая велізарная колькасць смяротных прысудаў — і гэты палітычны ціск?

**Алесь Бяляцкі:** Гэта трэба вывучаць і глядзець, чаму гэта так. Але сапраўды такі ўсплёск быў. І на пачатку двухтысячных гадоў адбылася судовая рэформа. У нас увялі пажыццёвае зняволенне. І тое, што яно з'явілася, скараціла рэзка колькасць смяротных прысудаў. Таму што людзей, якія зрабілі асабліва цяжкія злачынствы, пачалі асуджаць пажыццёва.

**Міхал Андрасюк:** Смяротнае пакаранне — гэта прысуд, які ў выпадку памылкі нельга ўжо выправіць. А гісторыя кажа, што здараліся такія судовыя памылкі. І вядомая ў Беларусі яшчэ за савецкім часам справа Міхасевіча — чалавека, абвінавачанага ў забойстве больш за трыццаці жанчын. І як пасля

аказалася, шмат хто невінаваты сядзеў за ягоныя забойствы. А адзін з асуджаных нават атрымаў смяротны прысуд. І быў расстраляны.

**Алесь Бяляцкі:** Безумоўна. Гэта адна з прычын, чаму мы выступаем супраць смяротнага пакарання. Таму што людзі — і тыя хто судзіць, і асуджаныя — вельмі часта моцна суб'ектыўныя. Яны часам неадэкватныя. Мы цяпер мелі такую сітуацыю, дастаткова драматычную, калі адзін чалавек, які быў абвінавачаны ў забойстве свайго брата, трапіў у турму, адсядзеў сем гадоў, выйшаў на волю, а потым аказалася, што гэтае забойства зрабіў зусім іншы чалавек. А той, каго абвінавацілі, прызнаўся. Таму што ён быў у такім стане, п'яны, нават не памятаў: ён забіў, не ён забіў... Калі яму мясцовая міліцыя сказала, што гэта ён, ён пагадзіўся. А потым аказалася, што гэта не ён. І такія выпадкі памылак рэальныя. Бо людзі розныя, некаторыя псіхічна неўраўнаважаныя. У турме седзячы, я багата людзей пабачыў самых розных. І ведаеш, ты так не прыдумаеш, як часам чалавечы лёс складае гэты пасьянс. І потым аказваецца, што чалавеку вельмі цяжка, ён сам не хоча, а часам не верыць, што гэтага не зрабіў. А потым аказваецца, што гэта не яго злачынства. І ў мяне заўсёды выклікала здзіўленне, чаму гэтага чалавека прыгаворваюць да смяротнага пакарання, а іншаму, які фактычна зрабіў тое ж самае, даюць іншы прысуд. І гэты суб'ектывізм у рашэнні суда заўсёды прысутнічае. Са мной сядзелі не анёлы, скажам так. Сядзеў хлопец, які забіў двух чалавек. Ён атрымаў 24 гады зняволення. І незразумела, чаму іншага за такое ж злачынства расстрэльваюць. А яму далі такі тэрмін — і ён урэшце, можа, дажыве да сваёй волі. І смяротнае пакаранне выключае магчымасць перагляду справы.





**Міхал Андрасюк:** Усё ж такі ў беларускім грамадстве стаўленне да смяротнага пакарання мяняецца. Няма ўжо такой падтрымкі, як падчас рэферэндуму ў дзевяностыя гады.

**Алесь Бяляцкі:** Як мне падаецца, нам удалося за апошнія гадоў пяць-сем, калі мы шчыльна займаемся гэтай тэмай, выклікаць нейкія абмеркаванні ў грамадстве. І ўсё больш і больш людзей пачынаюць сумнявацца, што смяротнае пакаранне мае рацыю, што яно мусіць быць. Сацыялагічныя даследаванні паказваюць, што ў грамадстве адбыўся гэты рух у параўнанні з дзевяностымі гадамі. Цяпер амаль палова беларусаў выступаюць супраць смяротнага пакарання. Нягледзячы на тое, што дзяржава не праводзіць ніякай агітацыі супраць. Дзяржава выконвае яго фактычна. Але тым не менш, грамадства ў Беларусі стала больш спачувальным. І больш разумным. Хоць пытанне няпростае і, зразумела, выклікае багата самых розных эмоцый. Мне падаецца, што і сярод чыноўніцтва, тых людзей, якія працуюць у адміністрацыі, судах, таксама няма цвёрдага пераканання, што яно патрэбнае. На сённяшні дзень улады Беларусі сярэдняга ўзроўню ці кіраўніцтва судоў гатовыя былі б увесці マараторый супраць смяротнага пакарання — але Лукашэнка гаворыць цвёрдае «не».

**Міхал Андрасюк:** Чаму?

**Алесь Бяляцкі:** А вось чаму ён гэта робіць — іншае пытанне. Тут ёсць у мяне некалькі адказаў, можа быць, хоць адзін з іх будзе правільны. Я мяркую, што, па-першае, ён не хоча саступаць ні ў чым. Ён стараецца трымацца да апошняга ва ўсіх тых увядзеннях, якія ён зрабіў за апошнія дваццаць гадоў. А смяротнае пакаранне для яго ператварылася яшчэ і ў пэў-

ную функцыю валодання чалавечымі лёсамі. Бо паводле нашай сістэмы піша чалавек скаргу, абскарджвае рашэнне аб смяротным пакаранні ці не — усё роўна прэзідэнт ставіць апошні свой подпіс на тым, згодны ён са смяротным пакараннем ці, можа, чалавека памілаваць. Вось гэтае адчуванне бязмежнай улады, якое дае яму прэзідэнцкая пасада, і дае магчымасць фактычна браць удзел у гэтым працэсе смяротнага пакарання. Для яго, мне падаецца, яно вельмі важнае з пункту погляду псіхалагічнага. Калі ён сапраўды з'яўляецца ўладаром чалавечага жыцця. Тым не менш трэба сказаць, пазіцыя міжнароднай супольнасці тут адназначная. І ўсе размовы пра паляпшэнне сітуацыі ў Беларусі, пра дэмакратызацыю сітуацыі ў Беларусі абавязкова ўтрымліваюць і пытанне смяротнага пакарання. Таму, думаю, можа быць, мы і дажывём да таго часу, калі гэтае пытанне будзе вырашанае станоўча і ў нас будзе ўведзены мараторый. Паглядзім, наколькі будуць развівацца гэтыя палітычныя падзеі, наколькі Лукашэнку будзе патрэбная фінансавая заходняя дапамога. Для атрымання гэтай фінансавай дапамогі ўлады Беларусі вымушаныя будуць пайсці на некаторыя саступкі. І пытанне смяротнага пакарання для іх, можа, не самае галоўнае. Гэта не пытанне ўлады — гэта пытанне псіхалогіі асабіста Лукашэнкі. Я думаю, таму чыноўнікі гатовыя здаць гэтае пытанне, можа, хутчэй, чым якое іншае. Таму што правесці для іх дэмакратычныя выбары значна больш небяспечна з пункту гледжання захавання ўлады, чым адмяніць ці ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне.

**Міхал Андрасюк:** Ці здаралася табе сустракацца ў сваёй праваабарончай працы з сем'ямі прысуджаных да смяротнага пакарання — з маці, скажам?





**Алесь Бяляцкі:** Я сустракаўся некалькі разоў з гэтымі жанчынамі. Мне сапраўды шкада гэтых людзей. Хто аказваецца найменш вінаватым у тым, што адбылося, і найбольш цярпіць з гэтай сітуацыі — гэта сем'і расстраляных, прыгавораных да смерці. Хаця б з той прычыны, што сем'ям не выдаюць целаў забітых. Іх проста хаваюць безыменна дзесьці. І асабліва для мацірок гэта страшны момант. Бо яны не могуць нармальна ні прыйсці на магілку, ні памаліцца. І гэта трагедыя, што пераносіцца на сям'ю, якая, па вялікім рахунку, не адказвае за злачынства, якое зрабіў гэты чалавек. І мне шкада гэтых людзей, бо яны губляюць надзею. І любы іншы варыянт: пажыццёвага зняволення, вялізнага тэрміну — яны заўсёды ўспрымаюць як значна лепшы варыянт, чым той, калі дзяржава забівае сына ці іншага блізкага чалавека. І трэба сказаць, што нягледзячы на гэтыя трагедыі, некаторыя з мацярок актыўна з намі супрацоўнічаюць. Яны выступаюць, даюць інтэрв'ю, расказваюць пра гэтую праблему. Яны расказваюць пра тое, што ў іх адбываецца ўнутры, з чалавечага пункту гледжання. Яны пачынаюць працаваць у кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання», хоць асабіста для іх ужо закрэслены лёс іхніх дзяцей, многія ўспрымаюць гэта і як сваю асабістую смерць. Кажуць: я яшчэ жыву, але я ўжо памерла, таму што маё дзіця загінула. Мне яшчэ больш становіцца зразумела, што гэта абсалютна нармальныя людзі. Так складваецца лёс, што яны апынаюцца ў такіх жудасных сітуацыях.

**Міхал Андрасюк:** Калі не памыляюся, Аляксандр Лукашэнка толькі адзін раз скарыстаўся правам памілаваць прысуджанага да смерці.

**Алесь Бяляцкі:** Так, фактычна ўсе гэтыя прысуды былі падпісаныя ім. Таму пэўная адказнасць за выкананне смяротных пакаранняў ляжыць на Лукашэнку.

## Пра польскі досвед

**Міхал Андрасюк:** Прапаную паразмаўляць пра нашыя польска-беларускія суадносіны, і беластоцка-беларускія. А спачатку хачу вярнуцца да 1989 года, калі ў Польшчы пачаліся бурлівыя палітычныя перамены. Польшча і Беларусь — гэта ж суседкі. І як з другога боку мяжы ўспрымаліся гэтыя польскія падзеі?

**Алесь Бяляцкі:** Мы сапраўды адсочвалі ўсе падзеі, якія адбываліся ў Польшчы, з вельмі вялікай увагай. Таму што Польшча была адной з першых краін, якая спрабавала вырвацца з сацыялістычнага лагеру краін, якія ўваходзілі і ў вайсковы саюз, у Варшаўскую дамову, і ў эканамічны саюз. І тое, што палякі праяўлялі такую смеласць і адвагу, у нас выклікала вялізнае захапленне. Апроч таго, былі і канкрэтныя сувязі з грамадскімі дзеячамі, у першую чаргу — беларускімі дзеячамі, якія працавалі на Беласточчыне і праводзілі сваю, і беларускую, і дэмакратычную, працу. І бачылі сябе ў новай сітуацыі па-іншаму. Яны не звязвалі свайго існавання з камуністычнай Польшчай, якая ўжо развальвалася, памірала. Для мяне асабіста на той час былі вельмі важныя кантакты з беластоцкім моладзевым асяродкам, з нашымі равеснікамі фактычна, якія пачалі беларускую працу тут у васьмідзясятыя гады — і водгукі пра якіх мы атрымлівалі практычна цягам усіх васьмідзясятых гадоў.





Пазнаёміцца не ўдавалася. Бо мяжа была ўсё ж зачыненай, была фактычна жалезнай. І гэтыя знаёмствы адбываліся толькі праз пераказы пісьменнікаў, напрыклад, якія маглі часам ездзіць туды, на Беласточчыну. Ці хтосьці з Беласточчыны прыязджаў сюды. То мы ведалі, што мы не адныя і на Беласточчыне таксама ёсць беларуская моладзь, якая праводзіць дэмакратычную беларускую працу. З гэтым былі звязаныя і канкрэтныя першыя рухі па выпуску друкаванай нелегальнай беларускай прадукцыі. Мы ў 1988 годзе падрыхтавалі беларускі часопіс, у падрыхтоўцы бралі ўдзел некалькі чалавек. Ён быў адфатаграфаваны на фотастужку, гэтая стужка была перавезеная ў Варшаву, дзе быў раздрукаваны гэты часопіс. Наклад невялічкі быў, штосьці каля пяцідзесяці-ста асобнікаў. І потым ён часткамі быў вернуты ў Беларусь. Гэта 1988 год, калі ўжо можна было вазіць такую нелегальную, можна сказаць, беларускую літаратуру. Мы яшчэ не мелі магчымасці гэта рабіць у Беларусі. У Беларусі гэта ўсё рабілася на друкавальных машынках. І там ішоў голы тэкст — а ў Польшчы нам яго зрабілі з малюнкамі, фотаздымкамі. Гэта быў ужо рэальны часопіс. Таму, канечне ж, дэмакратычныя змены ў Польшчы мы ўспрымалі як моцную падтрымку дэмакратычнага руху ў Беларусі. Мы разумелі: калі ў палякаў пойдзе — то, па-першае, гэта будзе адбівацца нейкім чынам на дэмакратызацыі беларускага жыцця на Беласточчыне. А па-другое, дасць моцную падтрымку для нашых змен у Беларусі. Таму што мы атрымаем такога натуральнага саюзніка ў дэмакратычных зменах. І ўсё гэта было паралельна з дэмакратычнымі працэсамі, якія праходзілі ў нас у Беларусі і Літве. Там ствараліся народныя франты — і ў нас яны ствараліся. На першы з’езд «Саюдзіса» я ездзіў — і ўсё бурліла, увесь рэгіён бурліў. Польшча не была выключэннем. Вядома, працэс змагання

за дэмакратыю там быў большы, чым у нас. Але ў той жа час мы падключыліся і хутка наганялі. Суседзі Польшчы: Латвія, Літва і Беларусь — мы ўсе круціліся на адной тэрыторыі ў адным кірунку. І таму, калі ў 1989 годзе адбыўся мірны пераход улады, звязаны з выбарамі, канечне, гэта быў моцны поспех, які паказваў, што і нам трэба ісці ў далейшым кірунку барацьбы за дэмакратыю ў Беларусі.

**Міхал Андрасюк:** Але польскія дэмакратычныя перамены пачаліся нашмат раней. Можна сказаць, не было б польскай дэмакратыі без масавага руху «Салідарнасці» ў пачатку васьмідзясятых гадоў.

**Алесь Бяляцкі:** Што датычыцца першапачаткова ўтварэння «Салідарнасці», я скажу, што на мяне асабіста гэта аказала вялізны ўплыў. Я проста рэальна ўбачыў, што змаганне адзінак можа перарасці ў змаганне масаў. У змаганне вялікай колькасці людзей, якія дабіваюцца пастаўленых мэтаў і задач. І хаця потым быў доўгі перыяд рэакцыі ў Польшчы, «Салідарнасць» афіцыйна была забароненая, багата хто сядзеў у турме, але гэтая ахвярнасць лідараў «Салідарнасці» і нам перадавала флюіды ахвярнасці. І мы таксама займаліся гэтай працай і не ведалі: апынёмся мы ў турме, не апынёмся, здадуць нас у КГБ, не здадуць, знойдзецца сярод нас правакатар, не знойдзецца... Ніхто гэтага не ведаў — але мы працавалі, таму што мы бачылі, што ёсць і ў Польшчы лідары, людзі адважныя, бясстрашныя, якія не баяцца выступаць за антысавецкі шлях развіцця грамадства, за які выступалі тады і мы. Першыя падпольныя выданні, прычым шматлікія, я ўбачыў у сярэдзіне васьмідзясятых гадоў, хтосьці прывёз іх з Польшчы. Іх паказаў Алесь Суша. Гэта былі такія бібулы, надрукаваныя самым розным чынам.





Але ў мяне загарэліся вочы, таму што я ўбачыў падпольную літаратуру, прычым самыя розныя яе варыянты. І не чыста дысідэнцкага зместу, як гэта рабілася, напрыклад, у Маскве, а гэта была літаратура змагання, якая спрабавала ўплываць на масы, прапаноўвала нейкія іншыя, не савецкія шляхі развіцця. А не толькі літаратура плачу, так бы мовіць, натавання праблем. І гэты энтузіястычны імпэт, які мы атрымалі, трымаючы ў руках польскія падпольныя салідарнасцёўскія выданні з розных рэгіёнаў, таксама даваў добры прыклад, што нам трэба рабіць штосьці падобнае. І фактычна свой часопіс «Бурачок», які мы тады пачалі рабіць, мы рабілі, абапіраючыся на вопыт падпольных салідарнасцёўскіх выданняў. Таму для нас гэты энтузіязм і гэты імпэт змагання з камуністычнай сістэмай, які існаваў у васьмідзясятыя гады ў Польшчы, быў моцнай ідэйнай падтрымкай. Мы ведалі, што мы ідзём у адным кірунку, што робім правільна, што мы не адныя, што ёсць іншыя. Больш моцныя за нас — але мы ідзём разам. Таму гэты беларускі складнік, беластоцкі складнік і складнік барацьбы «Салідарнасці» за дэмакратыю ў Польшчы былі натуральнымі складнікамі нашага змагання за Беларусь у васьмідзясятыя гады.

**Міхал Андрасюк:** Калі мы ўжо зазірнулі ў Польшчу, то такое пытанне: а калі ты ўпершыню даведаўся, што ў Польшчы, на Беласточчыне, жывуць беларусы, прычым кампактна?

**Алесь Бяляцкі:** Чытаючы кніжкі і выданні, якія выходзілі на Беласточчыне. Да нас траплялі асобныя кніжкі Сакрата Яновіча і іншых беларускіх пісьменнікаў. І літаратурныя альманахі, якія выдаваліся пры «Ніве», і сама «Ніва» часам трапляла да нас. Яшчэ як я быў студэнтам, памятаю, мы нават скідваліся, збіралі грошы на цаглінкі для пабудовы Беларускага

музея ў Гайнаўцы. Мы таксама рабілі, мы скідвалі гэтыя беларускія, савецкія рублі, каб нейкім чынам падтрымаць беларускую справу на Гайнаўцы. Бо мы разумелі гэта як натуральную справу, натуральны наш беларускі працяг. Мы разумелі, што беларусы там з'явіліся не як эмігранты, што яны там былі заўсёды. І што гэтая мяжа, якая ўзнікла паміж Беласточчынай і ўсёй Беларуссю, з'яўлялася больш палітычнай мяжой, а не мяжой паміж намі як паміж адным народам.

**Міхал Андрасюк:** У Беларускім музеі ў Гайнаўцы, калі добра памятаю, мы сустрэліся першы раз пры нагодзе першага літаратурнага семінара «Бязмежжа».

**Алесь Бяляцкі:** Так, гэта былі ўжо больш сталыя кантакты. І больш актыўныя кантакты. Я вельмі рады і вельмі ўсцешаны тым, што беларускае жыццё на Беласточчыне працягвае развівацца, здабыло дастаткова важнае месца ўвогуле ў культурным беларускім жыцці. На сённяшні дзень Беласточчына не адрэзаная, не ізаляваная ад усёй Беларусі. Тое, што робяць тут, на Беласточчыне, беларускія дзеячы, аказвае рэальна моцны ўплыў на развіццё ўсёй беларускай культуры, усёй беларускай справы ў Беларусі. Для мяне Беласточчына з'яўляецца пэўным прыкладам, якім чынам мусяць развівацца беларускія рэгіёны. Як развіваць мясцовую беларускую прэсу, як развіваць захаванне мясцовых традыцый, як развіваць мясцовую культуру, павагу да сваёй культуры, да сябе. Гэтага ў нас вельмі мала. Хваля русіфікацыі, якая апанавала на сённяшні дзень і заліла Беларусь, знішчае беларускую самабытнасць, беларускую адметнасць. Інтэлігенцыя з'язджае з раёнаў, усе перабіраюцца ў вялікія гарады, большасць сабралася ў Менску. Беларусь застаецца як бы без беларускага духу.





І ў гэтым плане, можа быць, сітуацыя памежжа можа быць вельмі і вельмі важнай школай для ўсёй Беларусі. Сітуацыя, якая прымушае вас рэальна змагацца за сваю беларускасць, за выжыванне беларускасці ў такіх няпростых умовах — таму што нацыянальнай меншасці заўсёды цяжэй выжываць, цяжэй мацавацца. Канечне, патрэбная палітычная воля самой Беларусі, патрэбна, каб там жыццё разняволілася, таму што на сённяшні дзень грамадскае, палітычнае жыццё Беларусі пакрытае тоўстым слоем лёду. Мы ўсе скаваныя гэтай афіцыйнай аўтарытарнай сістэмай, якая не дае развівацца беларускаму ва ўсёй Беларусі. Якая зрабіла з Беларусі фактычна пратэктарат Расіі, якая душыць беларускае слова, беларускую думку, беларускую культуру.

**Міхал Андрасюк:** А мне здаецца, што ўсё такі без Беларусі нам, у замежжы, не выжыць. Мы, можа, выстаім яшчэ дзесяцігоддзе, два ці тры, але тым не менш не бясконцасць.

**Алесь Бяляцкі:** Дай Бог, каб і Беларусь выстаяла дзесяцігоддзе, два і тры. Бо з таго, як цяпер развіваецца, напрыклад, беларускае школьніцтва, я думаю, што праз трыццаць гадоў беларускіх школ у Беларусі ўжо ўвогуле не будзе. Працэнт кожны год падае і падае, вясковыя беларускія школы зачыняюцца, гарадскія не адчыняюцца. І я згодны, што калі развіваецца і квітнее метраполія, тады значна лепей тым нацыянальным групам, якія падтрымліваюцца гэтай метраполіяй. Цяпер мы маем іншую карціну. І рэзрух, гэтая нацыянальная трагедыя з беларускай культурай, якая адбываецца ў Беларусі, не дае перспектыў увогуле беларусам, дзе б яны ні жылі. Гэта сітуацыя ненармальная, але я вельмі спадзяюся, што ўсё ж такі ў беларусаў хопіць здаровага розуму і сэнсу,

каб устаць на шлях выжывання, на шлях самавыжывання. Што мы здолеем адстаяць сваю культуру, адстаяць сваю мову. І што нашыя дзяржаўныя магчымасці дадуць нейкі імпэт для падтрымкі, развіцця беларусаў, якія жывуць у іншых краінах: і ў Літве, і ў Латвіі, і ў Польшчы, і ў той жа Карэліі, і яшчэ багата дзе.

### Пра «БАСКаў»

**Міхал Андрасюк:** Паразмаўляем пра «БАСКаў». У гэтым выпадку БАСК — не жыхар Іспаніі. Гэта проста Бяляцкі, Акулін, Скачынскі і Кавалёў. Пачатак васьмідзясятых гадоў мінулага стагоддзя, Гомель.

**Алесь Бяляцкі:** Калі мы прыйшлі на вучобу ў Гомельскі ўніверсітэт на гісторыка-філалагічны факультэт, нам было тады па сямнаццаць гадоў. Але так атрымалася, што мае сябрукі, усе мы, брынчэлі на гітарах, кожны ў сябе: хто ў вёсках, хто ў мястэчках, хто ў гарадах Гомельскай вобласці... І ў студэнцкі інтэрнат мы прыцягнулі свае гітары. Таму першы-другі курс мы даволі часта збіраліся ў пакоях і ладзілі гітарныя спаборніцтвы: часам спявалі розныя песні, часам адну. Падбіралі мелодыі, падбіралі сола, рытм, басовыя партыі. Усё гэта адбывалася для сябе, для душы, без сур'ёзных задум і перспектыў. Але паступова, займаючыся беларускай справай і прапагандай беларушчыны ў сваім асяроддзі, сярод моладзі ва ўніверсітэце, я прыйшоў да высновы, што нам патрэбныя нейкія незвычайныя праекты, якія маглі б прыцягваць моладзь да беларускай мовы ў першую чаргу — так гэта бачылася. І таму мы пачалі пісаць нейкія песні, ізноў жа, спачатку ў бардаўскім выкананні, на беларускай мове. Гэта былі першыя спробы, пра якія цяпер, можа, і не варта казаць. Але наступны крок — гэта думка стварыць музычны рок-гурт, які спяваў бы па-беларуску, і такім чынам, улічваючы, што рок-музыка сярод моладзі была вельмі папулярнай на той час, прапагандаваць беларускую мову, праз музыку. Спалучаць карыснае з прыемным. Таму што нам падабалася граць, але ў той жа час мы маглі выконваць місію ўзняцця сацыяльнага статусу беларускай мовы сярод моладзі. А калі мы гэтую ідэю абмяркоўвалі з Едрусем Акуліным, ён падтрымаў мяне, захапіўся гэтым. І пасля мы далучылі сваіх аднакурснікаў: адзін граў на бубнах, на ўдарнай устаноўцы, яшчэ аднаму мы вызначылі ролю сола-гітарыста. Едрусь напісаў некалькі песень, і мы схадзілі да нашага факультэцкага начальства. Папрасілі, каб нам далі магчымасць рэпеціраваць на інструментах, што засталіся ад універсітэцкага гурта «Радзімічы», які быў у сямідзясятыя гады дастаткова папулярны ў Гомелі. На той час «Радзімічы» яшчэ існавалі, але я не памятаю, можа, у іх быў яшчэ другі камплект інструментаў. Нас пусцілі да сапраўды фірмовых на той час, дастаткова дарагіх інструментаў. Гэта былі ўжо не нашыя акустычныя гітары па сем рублёў, а сапраўдныя электрычныя інструменты вядомых на той час заходніх фірмаў. Напрыклад, бас-гітара ў мяне была «Fender» — на той час гэта была папулярная, дарагая гітара, звычайны студэнт нават марыць не мог, каб купіць такі інструмент.

**Міхал Андрасюк:** Ты граў на бас-гітары?

**Алесь Бяляцкі:** Я граў на бас-гітары, і для гэтага былі пэўныя падставы, бо я вучыўся ў музычнай школе, калі яшчэ хадзіў

у звычайную школу, на домры. Домра — гэта рускі народны інструмент. Чаму нас, беларусаў, вучылі граць на домры і яна лічылася народным інструментам для беларусаў — вялікае пытанне. Тым не менш у тыя гады такіх пытанняў я сабе не задаваў і проста вучыўся граць. І пальцы ў мяне дастаткова нармальна былі распрацаваныя. Тыя, хто ведае, што такое домра, ведаюць, што вельмі часта партыі домраў складаюцца з 1/8, 1/16, 1/32 нотаў. І скочыўшы чатыры класы школы, я кінуў гэтую школу, бо зразумеў, што мяне можа зацягнуць у музвучэльню. Прынамсі, мая настаўніца па домры хацела, каб я паступіў у Гомельскую музвучэльню на клас домры — але такой будучыні я для сябе не бачыў. Таму я вырашыў паступіць радыкальна — кінуў гэтую школу і, адпаведна, у мяне гэтая спакуса адпала.

**Міхал Андрасюк:** Пальцы былі распрацаваныя — а як цяпер, у 2016-м?

**Алесь Бяляцкі:** Не, цяпер ужо не. Усё мінула.

**Міхал Андрасюк:** Але я маю неспадзяванку. Я тут маю з сабой гітару, Алесь. Вось бас-гітара, якая ў пачатку васьмідзясятых грала на вяселлях на Гайнаўшчыне і на Беласточчыне.

**Алесь Бяляцкі:** Сапраўды, падобны інструмент, больш просты, чым быў у мяне. Але, сапраўды, усё, што трэба для бас-гітары, тут ёсць. Ёсць чатыры струны, ёсць цяжкая аснова і ёсць пераключальнікі гуку і змены тэмбру. Адным словам, рарытэт трыццацігадовай даўніны. Адпаведна, пасля домры мне на бас-гітары гралася дастаткова проста, я дастаткова хутка засвоіў гэты інструмент. Песні ў нас пісаў у асноўным Едрусь Акулін, мелодыі і частку словаў мы адшліфоўвалі ўсе разам, нам гэта прыносіла вялікае задавальненне. І пасля пэўнага часу рэпетыцый мы ўрэшце пачалі выязджаць, рэпеціраваць. Асноўная нашая кар'ера сапраўды складалася ў гранні ці на вясковых танцах, куды нас запрашалі, ці мы самі знаходзілі нейкую магчымасць выступіць на вяселлях, у асноўным — сваіх сяброў, аднакурснікаў, аднагрупнікаў. На студэнцкіх вяселлях, куды мы ездзілі, каб адкатаць свой рэпертуар, які складаўся ў асноўным з беларускіх песень. Ці, часткова, з рускіх хітоў — зразумела, што некаторыя рускія песні нам таксама прыходзілася граць. Нашая беларуская частка праграмы заўсёды карысталася вялікай папулярнасцю, бо гэта было нечакана, па-беларуску, свежа. На тыя часы, вядома, існавалі «Песняры» і «Сябры» — але гэта былі яшчэ вакальна-інструментальныя ансамблі. Яны гралі меладычную музыку, ніякіх рокавых нотаў не было. А мы ўжо брынчэлі, нашыя барабаны стучэлі і грукаталі, і бас біў, і голас вельмі часта пераходзіў з лірыкі на хрып. Адным словам, мы спрабавалі ўжо асучасніць і ўнесці нейкія рокавыя ноты ў беларускую музыку.

**Міхал Андрасюк:** Пра гурт «БАСКі» я даведаўся з газеты «Новы Час», бо, як аказваецца, рыхтуецца да выдання твая новая кніга — «Бой з сабой». Кніга ў асноўным пра Эдуарда Акуліна. Але і гісторыя пра «БАСКаў» знайшла сваё месца ў гэтай кнізе.

**Алесь Бяляцкі:** Сапраўды, асноўны матыў — гэта паэтычная творчасць Эдуарда Акуліна, майго сябра яшчэ з універсітэцкіх часоў, які вырас, я перакананы, у аднаго з выбітных беларускіх паэтаў сучаснасці, але з'яўляецца прадстаўніком нашага пакалення. Пакаленне «Тутэйшых», пакаленне маладых беларускіх літаратараў, якія ўвайшлі ў літаратуру ў васьмідзясятыя гады,

пакалення, якое змагалася за ідэалы незалежнасці Беларусі ў сваёй творчасці. Якое прапагандавала гэтыя ідэалы, якому вельмі балела тое, што адбываецца з беларускай культурай, з беларускай мовай апошнія дваццаць гадоў. Ён сапраўды з'яўляецца адбіткам усіх тых перамог і параз нашага пакалення, якія мы адчулі на сабе, на сваім уласным лёсе за апошнія трыццаць гадоў. І таму, пішучы пра яго, я, вядома, не мог не пісаць пра ўсё нашае пакаленне, пра пакаленне тых, каму цяпер пяцьдзясят і за пяцьдзясят. Пра тых, хто яшчэ працягвае змагацца за беларускую ідэю, пачаўшы гэта рабіць трыццаць гадоў таму. Працягвае змагацца, не губляючы надзеі на нашую перамогу.

**Міхал Андрасюк:** У гэтай кнізе я таксама знайшоў: паехалі «БАСКі» граць дзесьці на вясковым вяселлі, а пасля... А пасля ў выніку гэтай паездкі ў тваім жыцці з'явілася дзяўчына. Такія радкі пачытаем у кнізе «Бой з сабой». Дзяўчына ў крэмавай сукенцы з кароткім рукавом, з коратка пастрыжанымі кучаравымі чорнымі валасамі.

**Алесь Бяляцкі:** Сапраўды, гэта было такое вясельнае знаёмства. Гэтая дзяўчынка была стрыечнай сястрой нашага аднакурсніка, які жаніўся і да якога мы прыехалі граць на вяселле ў мястэчка Лоеў. Гэта вельмі прыгожае ўсходнепалескае мястэчка, якое стаіць на зліцці рэк, там Сож упадае ў Дняпро. І там выключныя краявіды, вельмі прыгожыя, непаўторныя. Такое, я думаю, у Беларусі мала дзе можна ўбачыць. Там адбывалася гэтае вяселле — і там мы пазнаёміліся. І так атрымалася, што нашае знаёмства не скончылася адным вечарам, мы працягвалі сустракацца. Затым Наталля паступіла ў Гомельскі ўніверсітэт, на той жа факультэт, дзе вучыўся я. І затым нашае сяброўства працягнулася. І праз пяць гадоў мы ажаніліся.





Сапраўды, даволі складаны і нечаканы лёс гэтага знаёмства прывёў да шлюбу. І вось ужо фактычна больш за трыццаць гадоў мы працягваем ісці па жыцці разам.

**Міхал Андрасюк:** Колькі часу існаваў гурт «БАСКі»?

**Алесь Бяляцкі:** Ён праіснаваў да лета 1984 года, бо ў гэтым годзе мы скончылі ўніверсітэт. А ўсе мы вучыліся на адным курсе. І былі размеркаваныя ў розныя куткі Гомельшчыны. Раз'ехаліся па розных раёнах. І з тых часоў «БАСКі» засталіся толькі ў гісторыі. Пасля гэтага мы збіраліся, можа, яшчэ пару разоў і гралі разам, але гэта былі ўжо настальгічныя сустрэчы. Трэба сказаць, да канца пятага курса я зразумеў, што гэты праект не будзе мець такога працягу, як мы меркавалі. Бо калі б мы заставаліся ў горадзе, нам трэба было б ісці ў войска, гэтага ніяк немагчыма было пазбавіцца. Калі мы раз'язджаліся па вёсках — само сабой, мы не маглі сабрацца разам, каб граць. Гэты шлях быў складаны на той час — не для людзей, якія не мелі дзе жыць у горадзе. Я ўжо не кажу, дзе працаваць. Таму гэты праект быў абмежаваны часам нашай вучобы. Тым не менш, Едрусь Акулін працягнуў спяваць далей ужо як бард. І ён у першай палове васьмідзясятых гадоў справакаваў яшчэ некалькі чалавек з вядомых беларускіх бардаў, якія пачалі спяваць далей. І ягоная роля як спевака беларускіх песень у васьмідзясятых гадах — адназначная. Яны заклалі аснову беларускай бардаўскай песні, якая паспяхова развіваецца і цяпер. Песні Эдзіка, прысвечаныя Беларусі, гучалі не адзін раз на мітынгах у Менску, на шматтысячных мітынгах. Нагадаю, што ён адзін спяваў, напрыклад, на мітынгу «Марш свабоды», дзе было некалькі дзясяткаў тысяч чалавек. І цяпер ён вельмі багата выступае па беларускіх школах, ездзіць па ўсёй

Беларусі. На ўсе свае выступы ён бярэ гітару і спявае. Гэта вельмі важны канал, каб дайсці да беларускай душы, і прапаганда беларускага слова. Таму што не бачыў я тых людзей на яго канцэртах, якія б выказвалі сваё незадавальненне. Ёсць у яго такі талент. Я думаю, што «БАСКі» дапамаглі яму развіць гэты талент. Гісторыя нашага гурта працягваецца.

**Міхал Андрасюк:** А куды павёў лёс астатніх «БАСКаў»?

**Алесь Бяляцкі:** Нашыя сябрукі, паехаўшы працаваць, засталіся ў тых раёнах. Анатоль Кавалёў і цяпер працуе настаўнікам беларускай мовы ў Жлобінскім раёне, выкладае, можа, яшчэ нейкія прадметы, як заўсёды ў вясковых школах. Сяргей Скачынскі працаваў настаўнікам, дырэктарам школы, працаваў ва Управе культуры Веткаўскага раёна пад Гомелем, але гэта вельмі радыяцыйны раён. І ён працягвае жыць там.

**Міхал Андрасюк:** Ёсць у цябе ўлюбёная песня Эдуарда Акуліна?

**Алесь Бяляцкі:** У яго ёсць некалькі вельмі файных песень, якія мне падабаюцца. Цяжка назваць штосьці адно — можа, «Жоўтая вяргіня»... Гэта адная з яго найбольш лірычных песень. Тое, што мы спявалі і што засталося ў ягоным рэпертуары, гэта «Сумую без тваіх воч». Гэтую песню мы спявалі ў «БАСКах», ён яе працягвае спяваць сола.

*2016 год*



## Успаміны пра музей Максіма Багдановіча

*У 2021—2022 гадах зняволены Алесь Бяляцкі з-за кратаў СІЗА на вуліцы Валадарскага ў Менску піша ўспаміны пра Літаратурны музей Максіма Багдановіча, дзе працаваў дырэктарам з 1989-га па 1998 год.*

### Выбар зроблены

Мінула трыццаць гадоў. Згадваючы той час, разумею, што буду пісаць найперш пра людзей. Бо гэта перадусім тыя, хто працуе там і стварае адметную аўру. Тут варта распавесці пра некалькі падзей, якія адбыліся за лета — ранняю восень 1989-га. У перыяд укаранення дэмакратычных элементаў кіравання ў СССР ішла кампанія выбараў кіраўнікоў установаў і прадпрыемстваў. Размова пра значныя пасады: дырэктараў заводаў, фабрык, інстытутаў, лабараторый. Дакацілася гэтая хваля і да нашага Міністэрства культуры. Улетку былі абвешчаныя выбары кіраўніка Музея гісторыі беларускай літаратуры, дзе я працаваў. Выбіраць мусіў (нечуваная дагэтуль справа!) увесь працоўны калектыў. І вось у «ЛіМе» размясцілі аб'яву пра конкурс. І тады ж да мяне падышла невысокая, у акулярах Вера Мікута і прапанавала падацца. Гэта сталася поўнай нечаканасцю. Вера настойліва ўгаворвала, запэўнівала,

што калектыў падтрымае, бо апошнімі месяцамі пільнаназіраюць за маімі паводзінамі. Так, я любіў паэзію Максіма Багдановіча, добра ведаў час, у якім ён жыў, і адчуваў эпоху новага беларускага адраджэння. У сваёй кандыдацкай разглядаў публіцыстычныя вершы паэта. Але я амаль нічога не ведаў пра музейную справу! І ўвогуле ніколі не займаўся ніякай гаспадаркай. На мае развагі і сумненні Вера супакойвала: дапаможам. Заўважу, на тую пару мы працавалі над зборам музейных матэрыялаў ужо некалькі гадоў, сабралі нямала экспанатаў, у тым ліку ўнікальных. Два гады таму атрымалі будынак пад установу, цяпер працавалі над тэматычным планам... Я сказаў, што падумаю. У гэтыя ж хвіліны зразумеў — лёс дае мне нейкія неверагодныя шанцы і аніяк не выпадае адступаць... Выбар быў зроблены.

*27 ліпеня 2021 года*

### Нашая агульная задача была — адчыніць музей

Недзе праз месяц завітаў у музей намеснік міністра культуры Мацвееў, мажны, добразычлівы дзядзька з цёмнымі плямамі пад вачыма. Паглядзець, што ў нас робіцца. Я сядзеў у сваім вялікім кабінеце, у старым швэдры грубай вязкі, падскочыў, калі ўбачыў яго, нешта распавёў. Ён пайшоў, здаецца, не расчараваны. А я паглядзеў на сябе збоку — кашлаты, з вялізнай дзіркай на рукаве — і сумеўся: абадранец нейкі. Неўзабаве перабраўся ў меншы пакой на першым паверсе, а ў гэты вялікі пераехалі навуковыя супрацоўнікі. Тут кантроль міністэрства за мной скончыўся. У наступныя два гады яму відавочна было не да нас. Правай маёй рукой у гаспадарчых справах быў загадчык гаспадаркі Якаў Прадушчака. Невялікі ростам, сухі і нервовы пенсіянер-адстаўнік, які ўсё жыццё праслужыў у войску прапаршчыкам. Якаў Сцяпанавіч, патрапіўшы ў музей, добрасумленна выконваў сваю працу. Я, удвая маладзейшы, быў для яго безумоўным аўтарытэтам, камандзірам, загады якога не абмяркоўваліся, а выконваліся. Гэткія стасункі бянтэжылі, але прыстасаваўся, бо сам нядаўна служыў у войску і ведаў тып такіх людзей, разумеў, што змены могуць прынесці толькі клопат. Нашая агульная задача была — адчыніць музей. Задача няпростая: 1990 год, у які мы непрыкметна ўвайшлі, як і наступны, былі часам татальнага дэфіцыту і крыху пазней — жахлівай інфляцыі. Нечакана для мяне гаспадарчае забеспячэнне музея стала вельмі важным. Так, былі сродкі, быў неблагі на той час бюджэт. Але нягледзячы на тое, што мы лічыліся дзяржаўнай установай, за гэтыя грошы вольна амаль нічога немагчыма было купіць. Усё — ад негабляванай дошкі, фарбы, шкла да эксклюзіўнай фурнітуры — даводзілася даставаць з боем ці хітрасцю. Чатыры пятыя майго працоўнага часу займала гэтае рашэнне і даставанне. Такое становішча ўносіла душэўны разлад. Ідучы на дырэктара, я збіраўся пісаць, вывучаць творчую спадчыну паэта, магчыма, працаваць з Верай Мікутай над тэматычным планам экспазіцыі, прасоўваць багдановічазнаўства. Я ж вучыўся на гэта! Літаратуразнаўства было маёй любімай справай, але я мусіў насіцца са Сцяпанавічам па крамах і базах, даставаць гіпс, каляровы метал, заключаць дамовы з фабрыкамі, брыгадамі працаўнікоў і мастакамі. Але куды адступаць?.. Я быў гатовы разбіцца ўшчэнт, але адчыніць музей. Неўзабаве Мінкульт дадаў у музей яшчэ адну стаўку навуковай супрацоўніцы. Мае знаёмыя дзяўчаты-філфакаўкі вучыліся ўжо на пятым курсе. Леаніду Хадкевічу ў Музей гісторыі беларускай літаратуры я параіў на вольнае месца Наталлю Кавалеўскую, і ён узяў яе на працу. Да нас жа прыйшла Алена

Кісялевіч, маленькая, танклявая дзяўчына. Наталля і Алена былі не чужыя ў беларускім моладзевым руху. Праз некалькі месяцаў на чарговую стаўку навуковай супрацоўніцы, якую я абгрунтаваў патрэбай працы над экспазіцыяй, залічылі маю маладзейшую сяброўку Паліну Качаткову. Як Ірына Марачкіна зусім нядаўна ўцягнула мяне ў музейнае кола, гэтак жа і я заманіў на працу сваіх знаёмых дзяўчат. Зразумела, што сціплыя заробкі не маглі быць дастатковай аплатай за працу. Патрабавалася яшчэ нешта, што дазволіла б зрабіць з музея не месца для адпачынку і адседжвання жонак забяспечаных мужоў. Такім маторам магла стаць матываванасць працы дзеля беларускай культуры. У гэтых дзяўчат яна была.

*30 ліпеня 2021 года*

## «Беларуская хатка» — філія музея

Пішучы пра музей Максіма Багдановіча, нельга не згадаць пра філію — «Беларускую хатку». Адчынялі яе ўлетку 1991 года. Так склалася, што адкрыццё стала генеральнай рэпетыцыяй перад прэзентацыяй экспазіцыі ў цэнтральным будынку музея ў Траецкім прадмесці. Цікавая гісторыя «Беларускай хаткі». Дом стаяў непадалёк ад чыгункі. Крытая бляхай драўляная будыніна з двума ганкамі на дзве паловы, моцны зруб смалістых сцен плошчай каля ста квадратных метраў. Падчас Першай сусветнай вайны яе здымаў разам з дзвюма сёстрамі Самуіл Плаўнік, які пісаў і дзейнічаў у беларускім нацыянальным руху пад псеўданімам Змітрок Бядуля. У 1916 годзе Максім Багдановіч прыехаў з Яраслаўля на Радзіму ў Менск пасля сканчэння юрыдычнага ліцэя. Змітрок Бядуля прапанаваў яму пасяліцца ў вольным пакойчыку. Максім пагадзіўся.





Так у адной хаце жылі разам шэсць месяцаў маладыя, самыя таленавітыя на той час беларускія пісьменнікі — эмацыйны містык і ўдалы апавядальнік Змітрок Бядуля і мадэрновы паэт еўрапейскага кшталту, асветнік Максім Багдановіч. Выхаваныя ў розных культурных асяродках, з розным узроўнем атрыманай адукацыі, яны былі злучаныя адной ідэяй — адраджэння Беларусі. Абодва надзвычай шмат для гэтага зрабілі. Абодва сталі класікамі літаратуры. Гэтае сяброўства Бядуля згадваў як найвялікшую падзею ў сваім жыцці. Незвычайнае тое суседства і для Максіма Багдановіча. Тут ён мог пастаянна чуць ад Змітрака і ягоных сёстраў жывую беларускую мову, якой тыя валодалі дасканала. Важнай для беларусаў гэтая хата стала яшчэ і з той нагоды, што менавіта тут Максім Багдановіч напісаў культавы верш «Пагоня». Пакладзены на музыку, ён стаў адным з беларускіх гімнаў. У халодныя і галодныя месяцы, калі прыфрантавы Менск быў перапоўнены ўцекачамі, параненымі і хворымі жаўнерамі, Багдановіч жыў на мяжы жабрацтва. Увага і клопат Рэні і Гені не маглі замяніць догляду, які слабы здароўем Максім меў у бацькоўскай сям'і. Ягоная надзвычайная сціпласць прывяла да скрушных вынікаў. Максім захварэў на сухоты, пастаянна тэмпературыў, горлам ішла кроў. Менавіта адсюль Багдановіч быў ледзь не пад прымусам адпраўлены менскай інтэлігенцыяй у Ялту на лячэнне, дзе неўзабаве і памёр. У першай палове васьмідзясятых пытанне пра захаванне дома і яго мемарыялізацыю паставіў адзін мастацтвазнаўца, коратка напісаўшы пра яго гісторыю ў «Вячэрнім Мінску». Гэта супала з часам стварэння музея. Дому пашанцавала. Яго захавалі і перадалі на баланс музея. Адно перанеслі з месца, дзе ён стаяў на вуліцы Талстога і дзе пабудавалі шматпавярховік, метраў на дзвесце, у дворык інтэрната Інстытута культуры, на вуліцу Рабкораўскую. Дамок стаў бачны з Маскоўскай. Ён

стаяў голы і неабгароджаны. Камунікацыі падвялі з інтэрнату, і ў гэтым была праблема, з якой мы сутыкнуліся пазней. Леанід Хадкевіч, былы дырэктар музея, дамовіўся, каб яму аддалі стаўку вартаўніка. Ён начаваў у хаце, ахоўваў. Я не пераняў гэтай падпрацоўкі, у хаце не было чаго красці. Неўзабаве паставілі ў доме аўтаномную сігналізацыю з магутным равуном. І пытанне аховы было вырашанае. Дом у экспазіцыйным плане назвалі «Беларускай хаткай». Так ён і фігураваў далей як філія Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Праўдзівая ж «Беларуская хатка» знаходзілася на Захар’еўскай вуліцы наўскасяк ад Чырвонага касцёла. Там збіралася і дзеяла тагачасная менская беларуская грамада: Зоська Верас, Ядвігін Ш., Лявон Заяц, Альберт Паўловіч, імаверна, і Раман Скірмунт. Праводзіў там свой вольны ад працы час і Максім Багдановіч.

*6 жніўня 2021 года*

## Патрапілі ў атмасферу пачатку XX стагоддзя

Нічога не засталося з былога інтэр’ера хаты таго часу, як у ёй дружна жылі Змітрок Бядуля з сёстрамі Рэняй і Геняй ды Максімам. Таму, думаючы пра музей, усё даводзілася ўяўляць і аднаўляць. З успамінаў Змітрака — пакой Максіма Багдановіча. Шырокія пафарбаваныя масніцы, белыя сцены і зацемненыя вокны: ноч на двары, запаленая лямпа-газніца, аскетычны жалезны ложак, у куце — куфэрак для рэчаў, саматканы ходнік, некалькі кніжак, гімназічны шынель на кручку, тумбачка з лекамі... Вось і ўся мэбля. Але калі мы расставілі і выклалі рэчы, кнігі, жалезны ложак, мяне ахапіла пачуццё, што Максім толькі што пакінуў гэта ўсё і з’ехаў у Ялту. Некаторыя рэчы для пакоя: посуд, медную ступку і каменны песцік для размолвання



Пра музей Максіма Багдановіча

пігулак, ложак — нашыя дзяўчаты здабылі ў старых менскіх дамах. Некалькі такіх на вуліцы каля Юбілейнай плошчы цудам захаваліся дасюль. Мы хадзілі туды ў дзевяностых з Верай і Таццянай Шубінай. Ускараскаліся па драўлянай лесвіцы на пагорак і апынуліся на старасвецкай вуліцы: на доле брук, вішні за плотам і брэх сабак. Побач будаваўся шматпавярховік, за спінаю засталася гаргара Тэатра музкамедыі. А тут мы акунуліся ў атмасферу мястэчковасці. На двары, куды зайшлі, пад вадасцёкам стаяла дзіўнай формы ацынкаваная балея. «Такіх ужо даўно не робяць», — сказала Вера. Яна і Таццяна павіталіся з гаспадыняй, мы зайшлі ў дом — стары, яшчэ дарэвалюцыйны. Буфет, венскія крэслы, посуд — патрапілі ў атмасферу пачатку XX стагоддзя. Дзіўнае адчуванне ахапіла мяне. Ні змена ўлады, ні вайна і паваенны час, здаецца, сюды не дапялі. Тут было ўсё так, як у часы Максіма Багдановіча. Выкупілі ў гаспадыні нейкую драбязу, здаецца, тую ступку з песцікам, якая неўзабаве стала на тумбачку ў мемарыяльным пакоі Максіма ў «Беларускай хатцы», а таксама ручную машынку з англійскім лейблам для выціскання бялізны, і вярнуліся задаволеныя ў музей.

*22 жніўня 2021 года*

## Пакой Максіма Багдановіча

Трэба сказаць, што ідэя размясціць экспазіцыю ў складнях, якія ўяўляюць з сябе аканіцы мястэчковага дома, была выпрабаваная за некалькі месяцаў да адкрыцця «Беларускай хаткі». Гэткім чынам аформілі выставу, прысвечаную жыццю і творчасці Максіма Багдановіча. Яе змест закранаў усю творчасць паэта і ўсе перыяды яго жыцця, ад нараджэння

да смерці. Фактычна гэта была нашая першая экспазіцыя, прысвечаная нацыянальнаму генію. Мне хацелася, каб пакой Максіма Багдановіча ў «Хатцы» застаўся не толькі ў памяці супрацоўнікаў музея і наведвальнікаў ды на фотаздымках, таму папрасіў Уладзіміра Сулкоўскага намаляваць яго. Валодзя — свядомы і патрыятычны мастак, які браў удзел у грамадскім руху, аздабляў Дзяды, Чарнобыльскі шлях, нёс некалькі разоў падчас Шляху спецыяльна выліты звон. Ён выдатна адчуваў і маляваў інтэр’ер. Уладзімір Сулкоўскі рана памёр. Памяткай у нашым музеі застаўся па-мастацку намаляваны ім пакой Максіма.

*9 жніўня 2021 года*

## Вяззе

У «Беларускай хатцы» мая старая і добрая сяброўка Арына В. пару разоў ладзіла дзіцячыя Каляды. Бралі ў іх удзел сыны і дочкі нядаўніх талакоўцаў, іншых свядомых беларускіх сем’яў. Адной з арганізатарак Калядаў была талакоўка, рэжысёрка Ірына. Дзеці збіраліся на рэпетыцыі, вучылі ролі, бацькі шылі для іх касцюмы. Засталіся фотаздымкі, на якіх малыя бегаюць, вяселяцца, і сярод іх — наш Алесь, Кастусь Костка і малая яшчэ Ірэна. Ірэны ўжо няма, нашыя дзеці выраслі і пайшлі сваімі шляхамі. Некаторыя з іх працягваюць тое, што мы некалі падхапілі ад «недабіткаў» — так горка называлі сябе тыя з беларускай інтэлігенцыі, якія перажылі трыццатыя — пяцідзясятыя гады і засталіся жывымі. Улетку 1991 года мы вазілі выставу Максіма Багдановіча ў вёску Вяззе. Яна ў Асіповіцкім раёне — памятная мясціна для сям’і Багдановічаў. Тут леснікам служыў швагер паэтавай маці. Летам 1895 года Багдановічы з сынамі Вадзімам, Львом і Максімам на некалькі месяцаў прыехалі сюды з Горадні. У даволі вялікім доме лесніка усім хапала месца. У сядзібе была немалая гаспадарка: каровы, свінні, коні і птушкі. Дзеці спазнавалі беларускую прыроду, гулялі з тутэйшымі і хутка пераймалі іх мову. Бацька Максіма, Адам Багдановіч, быў вялікім прыхільнікам і энтузіястам беларускага слова, любіў народныя песні, казкі, паданні. Але дома з маці Максіма яны размаўлялі па-руску — прамы вынік адмысловай палітыкі ў Расійскай імперыі. Дзіва, але захаваўся да пачатку дзевяностых дом лесніка ў Вяззі: перабудаваны, падлатаны, але зруб цэлы і пакрыты шыферам. У нашых планах было адбудаваць тую сядзібу і зрабіць там экспазіцыю, прысвечаную сям’і Багдановічаў, а таксама паказаць быт лесніка, які служыў у Радзівілаў. У Мікалаеўшчыне ў той самы час леснікам служыў бацька Якуба Коласа, Мікалай Міцкевіч. Марыя Багдановіч падчас жыцця ў Вяззі лячыла вясковых дзяцей. Хоць і не была доктаркай, але давала тыя лекі, пра якія сама ведала. Мы хацелі перадаць атмасферу вялікай любові ў сям’і Багдановічаў, у якой праходзіла маленства Максіма. На жаль, адбудаваць філію музея ў Вяззі не ўдалося, хоць быў зроблены праект рэстаўрацыі сядзібы. Вяззе — немалая вёска, стаіць на беразе Свіслачы і вадасховішча, недалёка ад Асіповічаў і Бабруйска. У перспектыве там мог узнікнуць новы турыстычны аб’ект, які паказваў бы беларускую культуру. Але нашыя планы не спраўдзіліся. У сярэдзіне дзевяностых фінансаванне амаль спынілася. Яшчэ неяк давалі грошы на штат супрацоўнікаў. Мы рухалі, як маглі, адбудову фальварка ў Ракуцёўшчыне, гэта быў для нас прыярытэт. А пасля 1994 года ўсё знерухомела. З сярэдзіны дзевяностых я ў Вяззі не быў. Хату лесніка сельсавет разабраў, бо выконвалі загад па добраўпарадкаванні вёсак. Пэўна, аўтэнтычнае бярвенне зруба ўжо даўно згніло, але ці

застаўся пустым пляц, ці там нехта пабудаваў хату — не ведаю. Я чамусьці спадзяваўся, што філія Музея Максіма Багдановіча ў сядзібе лесніка ў Вяззі яшчэ з'явіцца. Таму вяртаюся да таго, як мы вазілі туды нашую выставу. Праходзіла гэта ў рамках святкавання сотай гадавіны з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Да гэтага меў дачыненне аддзел культуры Магілёўскага аблвыканкама. У Вяззі пабудавалі спецыяльную сцэну ў цэнтры, паставілі лаўкі. З Магілёва прыехаў загадчык аддзела культуры аблвыканкама — неймаверны хамуйла і цынік. Хваліўся, што да гэтай пары рабіў першым сакратаром Мсціслаўскага райкама. У культуры нічога не разумеў, дый моцна не хаваў гэтага, грэбаваў ёй. Мы размясцілі выставу ў фае Дома культуры. Разгорнутыя складні стаялі на адметных падстаўках, зробленых з акуратна таніраваных брускоў. Алена Кісялевіч адчайна смела правяла першую экскурсію.

*23 жніўня 2021 года*

## «Страцім-лебедзь»

На жаль, свята паэзіі ў Вяззі не стала традыцыйным так, як гэта адбылося ў Ракуцёўшчыне. На ўсходзе Беларусі разуменне каштоўнасці святаў беларускай паэзіі, роднага слова было невялікім. Мы адныя не змаглі пераламаць сітуацыю. Гартаючы зборнік вершаў Максіма Багдановіча, шукаю вершы, якія маглі быць напісаныя ім у «Хатцы». З успамінаў Змітрака Бядулі мы дакладна ведаем пра паэму «Страцім-лебедзь», якую Багдановіч чытаў тут у канцы 1916 года перад беларускім актывам. Некалькі твораў у ягоным зборы пазначаныя 1915—1917 гадамі. Яны маглі быць напісаныя і ў Яраслаўлі, і ў Менску ці ў Ялце. Маю ўвагу прыцягваюць два вершы, якія





па змесце вельмі верагодна маглі быць напісаныя менавіта ў Менску:

*Выйшаў з хаты, ціха спіць надворак...*
*Не злічыць у сэрцы светлых дум.*

Быўшы ўвечары ў «Беларускай хатцы», я ясна ўяўляю, як Максім выходзіў са свайго пакоя ў агульны калідорчык, не турбуючы Плаўнікаў, з яго — на ганак і на двор. Ціхая, зімняя ясная ноч. Зоркі, якія тады можна было ўбачыць у Менску. Брэх сабакаў. І другі верш. Хоць і напісаў некалі даследчык творчасці Максіма Багдановіча, што ён, хутчэй за ўсё, створаны ў Ялце, але мне хочацца верыць: гэта яшчэ менскі верш.

*Набягае яно*
*Вечарамі, начамі,*
*Адчыняе вакно*
*І шамрэе кустамі.*
*І гавора адну*
*Старадаўнюю казку —*
*Аб любоў і вясну*
*І жаночую ласку.*

Магчыма, верш навеяны хваравітым станам паэта. Ізноў жа, я ўяўляю, як Максім ляжыць у сваім мулкім жалезным ложку ў гарачцы, мокры ад поту, выпівае парашкі, якія збіваюць тэмпературу, настой траў і ўпадае ў начное марыва трызненняў і мрояў. Часам ён гушкаецца на хвалях нябачнай сусветнай энергіі, чуе шамаценне, невядомыя гукі, якія пранікаюць праз акно ў пакой. Затым ізноў забыццё, паэту здаецца, што нехта лунае ў пакоі, зазірае яму ў вочы.

Здаецца, каханне і смерць па чарзе залятаюць у пакой да Максіма. На гэтых арэлях лёс гушкае яго ў апошнія месяцы жыцця, то ўздымаючы высока ў неба, то скідаючы ў пекла.

*28 жніўня 2021 года*

**Экспазіцыя «Беларускай хаткі»**

Адзін з вялікіх пакояў у «Беларускай хатцы» пакінулі пад музейную экспазіцыю і батлейку. Інфармацыю пра «Хатку», пра жыццё Максіма Багдановіча Эдуард Агуновіч прапанаваў размясціць у складнях, зробленых у форме аканіцаў. Складні меліся быць размешчаныя на сценах. Сам жа пакой уяўляў вялікую залу з драўлянымі лавамі і сцэнаю, на якой стаяла батлейка. Драўляная, збітая з дошак скрыня з двума ўзроўнямі і каляднай зоркай наверсе. Копія старой батлейкі, якая захоўвалася ў пецярбургскім этнаграфічным музеі і была прывезеная туды на пачатку ХХ стагоддзя. Зрабіць батлеечны тэатр у «Хатцы» — вельмі ўдалая ідэя. Адна экскурсія без інтэрактыву была б занадта сумнай для наведвальнікаў, асноўная частка якіх — школьнікі. Першым батлеечнікам стаў мой стары сябар Сяржук Вітушка. Мы яшчэ не адчынілі экспазіцыі, а Сяржук на народных вулічных святах паказваў традыцыйную народную п'есу. Адзін з паказаў быў каля Белай дачы. Батлейка нязменна выклікала гарачае захапленне. Аднак Вітушка доўга ў музеі не затрымаўся. Неўзабаве ён ажаніўся з вілянчанкай, беларускай актывісткай, нашай сяброўкай Людвікай і пераехаў у Вільню. У гэты самы час у Менск перабраўся мой сябар са студэнцкіх часоў, паэт Едрусь Акулін. Я прапанаваў яму далучыцца да музейнай каманды, пайсці на загадчыка філіі ў «Беларускую хатку». Так яна знайшла свайго сапраўднага гаспадара. Наступныя дванаццаць гадоў можна смела назваць перыядам Едруся Акуліна. Ён віртуозна засвоіў батлейку, вадзіў лялькі, спяваў на розныя галасы пад гітару, захоплена распавядаў пра жыццё і творчасць Максіма Багдановіча, кожны раз упадаючы ў тэатральна-апавядальны транс. Едрусь даглядаў і гаспадарку: абкошваў двор, падсаджваў дрэвы і кусты. У «Хатцы» збіраўся клуб аматараў паэзіі, там прайшлі дзясяткі сустрэч. Заглядваў у госці да Едруся і Анатоль Сыс. За гады працы Едрусь правёў тысячы экскурсій, быў надзейным памочнікам і маторам у музейных справах. У 1992-м у «Хатцы» стала працаваць Наталля Акуліна, жонка Едруся, нашая аднакурсніца. Яна замяніла Таццяну Шэляговіч, якая перайшла ў экскурсійны аддзел цэнтральнага музея. Наталля таксама навучылася выдатна праводзіць экскурсіі і паказваць батлейку. Праца Наталлі і Едруся была каштоўным здабыткам для музея. Адкрыццё «Беларускай хаткі» запланавалі на лета 1991 года. Экспазіцыя рабілася, побач з музейным дваром скульптар Уладзімір Слабодчыкаў усталяваў скульптуру паэта. Дамаўляўся наконт яе вырабу Эдуард Агуновіч. Скульптура была выкананая ў выглядзе невялікай стэлы з ружовага граніту і бронзавага бюста. Яна выглядала непрыкметнай, не кідалася ў вочы, яе мінімалізм характэрны для Слабодчыкава. Але не прахадная, адметная і ўнікальная, пасуе да характару самога Максіма, які пісаў пра сябе: «Я — непрыкметны, шэры чалавек», але меў у душы жыватворчы агонь генія. Да адкрыцця «Хаткі» заставалася два месяцы, а яна стаяла неабгароджаная. Гарадская ўправа, адказная за добраўпарадкаванне тэрыторыі, зусім не спяшалася, а можа, і зусім не збіралася гэтага рабіць. Паводле рэспубліканскіх планаў святкавання сотай гадавіны з дня нараджэння Максіма Багдановіча, зацверджаных Саветам

міністраў, менавіта горад адказваў за гэта. Але 1991-ы быў вельмі няпросты для Менска. Цяжкая эканамічная сітуацыя, палітычныя змены — багата якія планы не выконваліся...

*15 жніўня 2021 года*

## Дэпутацтва было карысным для музея

У 1990-м я быў абраны дэпутатам Менскага гарадскога савета. У траўні — чэрвені 1991 года пісьмова звярнуўся да старшыні гарсавета з просьбай паўплываць на кіраўніцтва будаўнічага трэсту, каб давесці прымузейную тэрыторыю да ладу. Старшыня Аляксандр Герасіменка націснуў — і праз пару тыдняў пачаліся працы.

Я вылучаўся кандыдатам у дэпутаты ад музея, ад працоўнага калектыву. Разам з камандаю мы паставілі задачаю абысці ўсе кватэры ў акрузе. Іх было каля дзвюх тысяч. Мы хацелі аддаць улёткі з інфармацыяй пра мяне кароткімі тэзісамі праграмы людзям у рукі, а таксама запрасіць іх, угаварыць галасаваць за мяне. Іншыя кандыдаты, мае супернікі, ніякіх іншых дзеянняў не рабілі, толькі надрукавалі ўлёткі. Не ведаю, ці не хацелі, ці не ўмелі. На фоне іх пасіўнасці наша выбарчая тактыка аказалася моцна прагрэсіўнай.

Па выніках у другі тур выйшлі я і іераманах Серафім. Я быў першым. На час выбараў мне далі адпачынак, прадугледжаны кандыдатам у дэпутаты. Я амаль не скарыстаў яго. Прападаў увесь час у музеі: і ў працоўныя дні, і ў выходныя. А хто б за мяне ў музеі рабіў бы маю работу? Праз два тыдні на паўторным галасаванні выбаршчыкі ўжо выбіралі паміж нас двух. У Вярхоўны Савет па нашай акрузе прайшлі Філарэт і Будзінас. Філарэту не хапіла пары адсоткаў да перамогі.





Па выніках другога тура Філарэт стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета. У гарадскі савет я быў першым, але трохі не дабраў да пяцідзесяці адсоткаў. Абавязковай умовай выйгрышу на выбарах было пяцьдзясят адсоткаў плюс адзін выбаршчык. Таму па нашай акрузе былі абвешчаныя перавыбары. Я зноў вылучыўся ў кандыдаты. Другі раз нас было шасцёра. Пасля першага тура зноў засталіся двое — я і завадскі майстар, сябра камуністычнай партыі гадоў сарака пяці. Іераманах Серафім больш на выбары не пайшоў. І ў нас з майстрам-камуністам атрымаўся чыста ідэалагічны двубой. Ізноў мы хадзілі па кватэрах і агітавалі за мяне, а майстар нічога не рабіў.

От жа чацвёрты раз выбаршчыкі пайшлі на выбарчыя ўчасткі. Гэтым разам я перамог, набраўшы недзе пяцьдзясят пяць адсоткаў. У дваццаць восем гадоў я стаў адным з самых маладых дэпутатаў Менскага гарсавета. Сапраўды, маё дэпутацтва было карысным для музея. Музей ведала і кіраўніцтва горада, я некалькі разоў размаўляў пра музейныя справы са старшынём гарсавета Герасіменкам, з загадчыкам аддзела культуры ішла размова пра адкрыццё «Беларускай хаткі». Дэпутацтва прыкрывала музей ад лішніх турбот і апекі з боку міністэрства. Са мною як з дэпутатам лічыліся.

Мы адзначылі маё абранне ў гарсавет у аспіранцкім інтэрнаце ў пакоі, у якім яшчэ год таму жыў я, а цяпер жыў і давучваўся Ігар Дамброўскі, матэматык з Львова. Прыйшлі ўсе мае сябры і сяброўкі, якія дапамагалі мне падчас выбарчай кампаніі. Тры гады я пражыў у гэтым інтэрнаце на Акадэмічнай, 3. Тут нарадзілася Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». Сюды да мяне прыходзілі і літаратары, і гісторыкі, і філосафы: Анатоль Сыс, Лёня Баршчэўскі, Ігар Бабкоў, Едрусь Акулін, Вітаўт Чаропка, Андрэй Федарэнка, Вітаўт Чаропка, Генадзь Сагановіч, Ірына Ганецкая, Мікола

Крывальцэвіч, Алесь Жлутка, Паліна Качаткова. Забягалі ў інтэрнат і Сяргей Шупа, і Вінцук Вячорка, і Віктар Івашкевіч, і многія іншыя. Тут я друкаваў «Бурачок» і «Кантроль». У гэты ж пакой, дарэчы, на паўстагоддзя раней прыходзіў да сваіх сяброўаспірантаў Уладзімір Караткевіч. Яшчэ год таму я не ведаў, як складзецца мой лёс, у якім горадзе я буду жыць і дзе буду працаваць. А цяпер я быў нядаўна абраным дырэктарам музея і свежаабраным дэпутатам сталічнага гарсавета. Такі быў час.

### Дні беларускай культуры

У 1991 годзе ў межах святкавання сотай гадавіны з дня нараджэння Максіма Багдановіча былі праведзеныя Дні беларускай культуры ў Горкім (Ніжнім Ноўгарадзе) і Яраслаўлі. Чаму ў гэтых расійскіх гарадах? Бо Адам Багдановіч, бацька Максіма, пасля смерці жонкі, Марыі, забраў сям'ю і пераехаў у Ніжні Ноўгарад. Там у Ніжнім Ноўгарадзе ўтварылася «беларуская калонія» — родныя сёстры Адама з дзецьмі. Адам, пасля смерці другой жонкі, якая памерла пры родах, і старэйшага сына Вадзіма, памерлага ад сухотаў, пераязджае ў Яраслаўль. У Яраслаўлі Адам Багдановіч жэніцца трэці раз, з роднай сястрой першай жонкі, Аляксандай Мякотай. У іх нараджаецца пяцёра сыноў, зводных братоў Максіма. Жывучы ў Яраслаўлі, Адам Багдановіч робіць выключную для сялянскага сына кар'еру — бацька яго быў прыгонным кухарам у пана Лапы ў Халопенічах. Адам Багдановіч становіцца кіраўніком банкаўскіх спраў, нягледзячы на бурлівую нарадавольніцкую маладосць у Менску. У нейкім сэнсе ён працягвае народніцкую працу, бо банк фінансуе куплю дзясяткаў тысяч гектараў сялянамі. Штогод ён чытае дзясяткі бясплатных лекцый,





займаецца выхаваннем і навучаннем сваіх дзяцей, як можа. Рэвалюцыя і далейшае ліхалецце моцна падкасіла сям'ю Багдановічаў. Трагічна складаецца лёс старэйшых сыноў. У траўні 1917 года ў Ялце памірае Максім. Бацька, які ў той час быў па справах банка зусім побач, у Сімферопалі, нават не ведае пра гэта. У 1918 годзе ў Кіеве раз'юшаны натоўп жаўнераў забівае малодшага брата Максіма — Льва, выдатнага матэматыка, які, паранены падчас баёў Першай сусветнай вайны, ляжаў у шпіталі. Яго выкінулі на брук з акна бальнічнай палаты, бо ён быў афіцэрам. У 1917 годзе памірае самы малодшы сын Адама Багдановіча ад трэцяга шлюбу, Раман.

У дваццатыя гады Адам Багдановіч шмат робіць для захавання самага свайго таленавітага сына, Максіма, якога высока ацанілі ў Беларусі. Ён піша ўспаміны пра яго, перадае рукапісы сынавых твораў, якія цудам захаваліся пасля таго, як дом, у якім жылі Багдановічы ў Яраслаўлі, згарэў падчас грамадзянскай вайны, у 1918 годзе. Большая частка не надрукаваных да таго часу твораў Максіма Багдановіча такім чынам з'яўляецца ў двухтомніку паэта, выдадзеным у 1927 годзе. У трыццатыя гады Адам Багдановіч, ужо ў сталым узросце (нашая розніца ў гадах, дарэчы, сто гадоў), займаецца краязнаўствам, гісторыяй, піша выдатныя ўспаміны пра сваё дзяцінства ў Халопенічах, вучобу ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, юнацтва, настаўніцкую працу ў Менску. Ён стварае аб'ёмную працу пра паходжанне тапанімік Беларусі і Расіі, даследуе іх фіна-ўгорскія, балтыйскія і славянскія карані. У 1932 годзе Адама Багдановіча затрымліваюць, але яму шанцуе, яго выпускаюць на волю. Памірае Адам Багдановіч ў 1940 годзе, перажыўшы васьмярых з дзесяцярых дзяцей. Жонка Адама Багдановіча хавае яго і памірае сама, перажыўшы яго на сем гадоў. І ў Ніжнім Ноўгарадзе, і ў Яраслаўлі Багдановічы не мелі ўласнага дома,

заўсёды здымалі дамы для шматлюднага сямейства. У абодвух гарадах гэта былі аднапавярховыя драўляныя дамы. У іх працсей было падтрымліваць цёплае і сухое паветра. Адам Багдановіч клапаціўся пра дзяцей, схільных да сухотаў.

Ал Міністэрства культуры было дзве паездкі, у Горкі і ў Яраслаўль. У першую паездку, мэтай якой было канкрэтна, у дэталях дамовіцца, дзе і што будзе адбывацца, выбралася невялікая група: намеснік міністра культуры Уладзімір Гілеп, рэжысёр-пастаноўшчык Аляксандр Бажко, які адказваў за драматычна-музычную частку святкаванняў, ягоная памочніца і я. Мы ехалі ў адным купе да Масквы. У Маскве пераселі на цягнік да Горкага. Гэта ўжо была глыбінная Расія, для нас — далёкія землі.

У Горкім мы схадзілі ў гарвыканкам, абмеркавалі мерапрыемствы, якія планавалася правесці ў гонар Багдановіча.

Нам паказалі два дамы, у якіх некалі жыла сям’я Максіма Багдановіча. На адным з іх вісела мемарыяльная шыльда ў гонар паэта. Старыя кварталы з дзясяткамі дамоў, цэлымі вуліцамі, пабудаванымі да рэвалюцыі, уразілі мяне. У Менску і блізка такога не было. Менск выгараў падчас вайны, а тое, што заставалася, пазней было разбуранае. Аднапавярховыя грунтоўныя драўляныя дамы стаялі на цагляных падмурках. Двухпавярховыя былі складзеныя з цэглы. І цяпер яны выглядалі салідна і цікава, хаця былі часта недагледжаныя. Некаторыя з іх былі пабудаваныя ў стылі мадэрн, з характэрнымі для сэцэсіі плаўнымі лініямі і выгінамі. Уваход у адзін з такіх асабнякоў быў зроблены ў выглядзе вялікай падковы. Дзе стаяць Брусель і Парыж, радзіма мадэрну, — а дзе гэты Ніжні Ноўгарад? Але ж моцны штуршок даў міжнародны кірмаш. Нішто так, як гэты мадэрн у горкаўскіх будынках, не сведчыла, наколькі Расія была блізкай да Еўропы. Доўгі час Горкі быў



Пра музей Максіма Багдановіча

закрытым горадам. Сюды быў высланы Андрэй Сахараў. Калі мы былі там, яго, здаецца, ужо адкрылі, але візуальна нішто не сведчыла пра гэта.

Затым мы пераехалі ў Яраслаўль. Праграма візіту была больш насычаная. З намі ўвесь час хадзіў або ездзіў загадчык аддзела культуры выканкаму Яраслаўля, які пазнаёміў нас з маім калегам, музейшчыкам, дырэктарам сядзібы-музея Някрасава — кандыдатам філалагічных навук, беларусам па паходжанні, хоць і народжаным у Расіі. Мы разам абмеркавалі ідэю, якую раней ужо перадавалі ў Яраслаўль, зрабіць у адным з дамоў, дзе жылі Багдановічы, музей. Нам паказалі гэты дом, ён быў расселены і стаяў пусты. Вуліца з некалькімі такімі дамамі была недалёка ад цэнтра горада. Меркавалася, што музей Някрасава будзе апекавацца гэтай хатай, а музей Максіма Багдановіча будзе яго філіяй. Нас задавальняла гэтая камбінацыя, галоўнае, каб быў захаваны мемарыяльны дом і музей Максіма Багдановіча ў Яраслаўлі запрацаваў. Я ж запэўніў, што мы гатовыя зрабіць музейную экспазіцыю. Хата гэтая нагадвала «Беларускую хатку» ў Менску. Забягу наперад і скажу, што за наступныя некалькі гадоў гэта нам удалося. Мы сустрэліся і з кіраўнічкай беларускага зямляцтва. Яна распавяла, што ў Яраслаўлі жывуць некалькі сотняў беларусаў, абуджэнне нацыянальнай свядомасці ў беларусаў падштурхнула іх да аб’яднання. Я быў рады сустрэцца з ёй. Мы заклікалі іх і далей трымацца беларускай культуры, запрасілі на будучыню сустракацца ў меркаваным музеі Максіма Багдановіча.

Пра ўсё дамовіўшыся, мы вярнуліся ў Беларусь. А недзе праз месяц з Менска выбралася вялікая каманда артыстаў па тым самым маршруце. На пачатку быў Горкі, а за ім — Яраслаўль. Ад музея Максіма Багдановіча ў гэтай грамадзе былі

я і Паліна Качаткова, мая сяброўка і навуковая супрацоўніца музея. Мы везлі з сабой выставу ў складнях, прысвечаную Максіму Багдановічу. Для перавозкі складняў Якаў Сцяпанавіч замовіў спецыяльна пашытыя з брызенту торбы-мяхі з лейцамі. Складні ж былі дубовыя і кожны з іх важыў кіло трыццаць, а ўсіх іх было каля дзесяці. З намі былі артысты, з якіх я памятаю дзяўчат-цымбалістак, а таксама ансамбль «Свята» з салістам Міхасём Пацуком.

Святочныя вечарыны і ў Горкім, і ў Яраслаўлі праходзілі з аншлагам. На іх прыходзіла багата тутэйшых беларусаў. Асабліва папулярным было «Свята». Пацук выходзіў на сцэну, выпінаючы грудзі, уздымаючы высока ўгору калені, а потым безаглядна кідаўся ў танец. Гледачы пляскалі яму, не шкадуючы далоняў, яго не адпускалі са сцэны пад вокліч «Біс!», а ён жыў на сцэне сапраўдным жыццём.

*15 жніўня 2021 года*

## У напружаным стваральным рытме

Увесь 1990-ы і 1991 гады прайшлі ў напружаным стваральным рытме. Галоўны мастак экспазіцыі Эдуард Агуновіч падключаў да працы вопытных і вядомых мастакоў. Меркавалася, што экспазіцыя будзе размяшчацца на другім паверсе ў пяці невялікіх залах, можна сказаць, нават пакойчыках, аб'яднаных скразным праходам з лесвічнай пляцоўкі. Эдуард вельмі перажываў, што плошча невялікая і ў пакоях невысокія столі. Не было дзе разгарнуцца напоўніцу. Ён увесь час шукаў выйсце з гэтай праблемы. На першым паверсе — прасторны ход, за ім зала, якая меркавалася як выставачная. Яе мы разглядалі ў другую чаргу. Галоўнай мэтай было запусціць да





стагоддзя Максіма Багдановіча экспазіцыю. Пачыналася яна аб'ёмным макетам старога Менска. Макет мастак Пётр Драчоў зрабіў з кардону на паперы, як пап'е-машэ. Ён быў маляўніча расфарбаваны. Старыя кварталы дамоў, пакрытыя чырвонай дахоўкай, Верхні горад, Няміга, Траецкае прадмесце — усё вельмі дакладна паказвала горад канца XIX — пачатку XX стагоддзя, які быў у значнай ступені страчаны. Сярод дамкоў Траецкага прадмесця — і дом, важны для нас. У ім на першым паверсе — школа, а на другім у службовай кватэры жыла сям'я Багдановічаў. Там у снежні 1891 года нарадзіўся Максім. Ён быў другім хлопчыкам у сям'і. У школе рабіў настаўнікам бацька Максіма. Першы паверх цагляны, а другі — драўляны. Да дзевяностых гадоў дом не захаваўся. Ён моцна пацярпеў падчас вайны. Але яшчэ меліся падмуркі, схаваныя пад зямлёй. Яны знаходзіліся ў двары на тагачаснай вуліцы Максіма Горкага пад павільёнам крамы гародніны і пунктам прыёму шклатары. У нашых наступных планах было пераканаць гарадскія ўлады і Міністэрства культуры аднавіць гэты дом. Мастак Эдуард Агуновіч марыў перамясціць туды ў будучыні музей. Я ж хацеў прапанаваць зрабіць там культурна-асветніцкую пляцоўку, скіраваную на літаратурную моладзь. На жаль, гэтыя планы, як і планы аднавіць хату лесніка ў Вяззі, не адбыліся. У сярэдзіне дзевяностых Міністэрства культуры перастала вылучаць сродкі на мемарыялізацыю мясцін, звязаных з Максімам Багдановічам. Не дапамагло і тое, што тагачасны міністр культуры Сасноўскі сам родам з Вяззя. Мы з Белрэстаўрацыяй падрыхтавалі праект аднаўлення дома, дзе нарадзіўся Максім Багдановіч, але далей справа не пайшла. Пазней, ужо ў двухтысячныя, на гэтым месцы быў пабудаваны «дом Чыжа». Пра былы дом-школу нагадвае выродлівая памятная шыльда. Але вернемся на Траецкае прадмесце, дзе

на пачатку дзевяностых мы шчыравалі над будучай экспазіцыяй музея. Засталася брашура, якая даволі падрабязна апісвае яе. Я спынюся толькі на некаторых памятных для мяне кропках. Унікальныя шрыфты і выкананне надпісаў, подпісаў для экспазіцыі рабіў вядомы шрыфтавік Семчанка, хіба што найлепшы мастак-шрыфтавік у Беларусі. Мы з Эдуардам Агуновічам ездзілі да яго ў майстэрню. Нешматслоўны, з вялікай чорнай барадой, Семчанка нагадваў мне перапісчыка з верша Максіма Багдановіча. Ён паказваў нам спробныя адмысловыя ўзоры, падабраныя да шрыфтоў.

*2 верасня 2021 года*

## Жырандоль

Упрыгожаннем Цэнтральнага музея Багдановіча ў Траецкім прадмесці з'яўляецца вялікая жырандоль шасціметровай даўжыні. Яна вісіць у пралёце, калі з хола ўздымаешся на другі паверх. Ідэя зрабіць такую аб'ёмную жырандоль належала, ізноў жа, Эдуарду Агуновічу. Рабіла яе каманда мастакоў — Дубатоўк ды іншыя. Мы ездзілі з Агуновічам да іх у майстэрню. Трое працавалі з жалезам. Я з цікавасцю разглядаў каваны і гравіраваныя мячы, латы, даспехі, выкаваную і сплеценую кальчугу. Пазней яны зрабілі багата зброі і рыштунку для музеяў у Мірскім і Нясвіжскім замках. Жырандоль для музея прапанавалі зрабіць з латуневых прутоў, дадаўшы плафоны-кветкі. Матэрыялы мусілі замаўляць мы. Плафоны-кветкі замовілі на шклозаводзе ў Бярозе. Дазвол на метал выпісала Міністэрства забеспячэння пасля адмысловага ліста, які я пісаў туды. Яны ўпіраліся, адказвалі на пачатку, што ўсе фонды ўжо размеркаваныя. Але пасля таго, як падключыў Мінкульт, згадзіліся.





З гэтым дазволам мы са Сцяпанавічам паехалі на металабазу ў Шабаны. Памятаю, як з нейкай завадской кацельнай праз дарогу на шэрыя пяціпавярховікі цягнуліся рваныя космы дыму. У вялізным складзе-ангары загрузілі амаль тону тоўстых квадратных у разрэзе чатырохметровых у даўжыню і больш тонкіх круглых латуневых прутоў. Мы завезлі іх у музей і перацягнулі ў пограб. Дзесьці праз месяц мастакі прывезлі ў музей дэталі сплеценай з латуневых прутоў жырандолі, скруцілі і змантавалі яе, а затым павесілі ў вызначаным месцы. Мы замацавалі плафоны і ўкруцілі лямпачкі. Жырандоль, стылізаваная пад арт-дэко, атрымалася вытанчанай і святочнай. Яна ўражвала наступныя шматлікія экскурсіі і настройвала наведвальнікаў музея на ўзнёслы лад.

*7 верасня 2021 года*

## «Мадонны»

У кожнай з залаў цэнтральнага музея быў вызначаная як мінімум адна эмацыйная кропка. Прычым для кожнага з наведвальнікаў музея яны былі розныя. Спынюся на сваіх. Пра першую залу і аб'ёмную панараму Менска я ўжо пісаў. Яшчэ я заўсёды спыняўся каля гімназічнага атэстата Максіма: адны трайбаны. Крыху чацвёрак па літаратуры, астатнія прадметы ледзь-ледзь. Я ўсміхаюся. Колькі юнакоў і юначак з іхнімі бацькамі былі б у роспачы ад такіх адзнак. Для мяне сярэдненькія адзнакі ў атэстаце Максіма гавораць багата пра што. І пра тое, што бацька не вісеў над ім і не назаляў, чаму такія слабыя адзнакі, шанаваў яго заняткі нефармальнай адукацыяй, захапленне беларушчынай і вершаскладанне па-беларуску. За гэта дакладна адзнак Максім у атэстат не атрымліваў. Ягонае «честолюбие» было накіраванае

на іншае. Ён паставіў сабе за мэту, жывучы за тысячу кіламетраў ад Беларусі, засвоіць беларускую мову, каб упэўнена пісаць на ёй артыкулы, зацемкі і ўрэшце — вершы. Задача найскладанейшая, улічваючы тое, што новая літаратурная беларуская мова тады толькі ўнармоўвалася. Гэта быў адначасова цяжкі і захаплялььны працэс — паэтычная і моўная творчасць. У беларускай мове раскрыўся геній Максіма Багдановіча. Гэта выразна бачна, калі параўноўваеш яго вершы на беларускай і рускай мовах. Яшчэ больш дзіўна таму, што руская была для Максіма фактычна роднай. У Беларусі ён пражыў першыя пяць гадоў жыцця, затым, пасля смерці маці, Марыі Багдановіч, бацька з дзецьмі выехалі ў глыбінку Расіі, у Ніжні Ноўгарад, затым — у Яраслаўль. Максім вярнуўся ў 1916 годзе на паўгода ў Менск і з'ехаў у 1917 годзе. Нягледзячы на тройкі і нават на адзін год, які давялося паўтарыць у гімназіі, лаціна, нямецкая, французская мовы, іншыя гуманітарныя веды, закладзеныя падчас навучання, далі магчымасць Максіму вольна перакладаць з гэтых моваў на беларускую. Відавочна, што ён быў у курсе навінак рускай літаратуры. Не толькі руская класіка, але і зоркі расійскай паэзіі Срэбнага веку, тагачасныя актуальныя літаратурныя плыні, кірункі, гурты: сімвалісты, акмеісты, імажыністы — былі яму добра вядомыя. Максім Багдановіч жыў у адзін час з Блокам, Ахматавай, Гіпіус, Цвятаевай, Мандэльштамам. Ён ведаў іхнюю паэзію, і гэта не магло не адбіцца на ягонай творчасці. Яшчэ адну кропку я ніколі не прамінаў у чацвёртай зале экспазіцыі — літаграфію «Мадонны» Рафаэля. Нічога асаблівага ў тыя часы ў гэтай літаграфіі не было. Такое можна часта заўважыць у інтэр'ерах інтэлігенцыі пачатку XX стагоддзя. Я прыкмеціў яе на фотаздымку ў кватэры сям'і Лесі Украінкі ў Кіеве. Вось жа яна была і ў Багдановічаў, пераязджала з адной здымнай кватэры на іншую. Сотні разоў погляд Максіма затрымліваўся на ёй. Пэўна, ён не раз згадваў пра





яе, пішучы вершы, якія ўвайшлі ў цыкл «Мадонны», шукаючы ў ёй *«штось вышэйшае, што Рафаэль вялікі / Стараўся выявіць праз Маці Божай лікі»*. Падчас грамадзянскай вайны дом, дзе жылі Багдановічы, згарэў. Максіма ўжо не было ў жывых, калі ягоны бацька з трэцяй жонкай і дзецьмі ад яе вярнуліся ў Яраслаўль, некалькі месяцаў хаваліся ў вёсцы пад горадам. На папялішчы Адам Багдановіч падабраў літаграфію «Мадонны». Яна дзіўным чынам захавалася, толькі адзін бок злёгку падгарэў. З пограбу Адам Багдановіч дастаў куфэрак з вершамі і рукапісамі Максіма. Два цуды. Вершы і рукапісы Максіма Адам Багдановіч аддаў у Інбелкульт у Менск, і большасць з іх была надрукаваная. А літаграфію «Мадонны» Рафаэля захавалі сваякі Максіма і перадалі ў музей. Гэты «неапаленая купіна» і цяпер захоўваецца ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча.

*9 верасня 2021 года*

## Жанчыны ў жыцці Максіма Багдановіча

Чацвёртая зала ў музеі была прысвечаная жанчынам у жыцці і творчасці Максіма Багдановіча. А яны сапраўды мелі месца. Яны былі вельмі розныя, стаўленне Максіма да іх таксама было празнае, але заўсёды вельмі кранальнае і надзвычай уважлівае. Максім ніколі і нічога не пісаў пра сваю маці. Яе вобраз, відаць, быў занадта туманны і расплывісты. Яму было ўсяго пяць, калі яна памерла. Успаміны пра яе падаваліся, напэўна, вельмі прыватнымі. Урэшце, і пра свайго бацьку, які шмат даў Максіму, каб той стаў тым, кім стаў. А вось трэцяя жонка Адама Багдановіча, якая была роднай цёткай Максіма, малодшай сястрой маці, прыцягвала пільную ўвагу. З русявай касой, не такая прыгожая, як старэйшая сястра Марыя. Ёй было

двaццaць шэсць, калі яна прыехала з Менска дапамагаць Адаму Багдановічу даглядаць малых яшчэ пляменнікаў. Там і здарылася гэтая гісторыя кахання, якая, пэўна, была незвычайная для таго часу. Хоць Адам і належаў да дэмакратычнага кола інтэлігенцыі, Аляксандра, паводле успамінаў сваякоў, камплексавала ўсё сваё жыццё. Яна выхоўвала трох пляменнікаў і нарадзіла яшчэ пяць сыноў. Пазбягала кола знаёмстваў мужа і амаль увесь час праводзіла дома. Вось жа за пастаяннымі цяжарнасцямі сваёй мачахі-цёткі і назіраў Максім. У выніку з'явіўся цыкл вершаў «Каханне і смерць». Ніхто з нашай паэзіі не напісаў лепш пра стан цяжарнасці жанчыны, пра цуд з'яўлення новага чалавечага жыцця:

*Ціха ідзеш ты, у нетрах дзіцёнка хадою калышаш,*
*Цёмнай і цёплай яму служыш калыскай цяпер.*

Папярэдняя жонка бацькі, Аляксандра Волжына, якая даводзілася залоўкай Максіму Горкаму, моцна ўразіла Максіма Багдановіча сваёй смерцю — яна памерла дзевятнаццацігадовай пры родах:

*Белы крыж, пліта, пад ёй — магіла;*
*Мілым кветам рожа зацвіла.*
*Тут калісьці ты, мой друг, спачыла, —*
*Спарадзіла ў муках і лягла.*

Быў выстаўлены ў чацвёртай зале і фотаздымак стрыечнай сястры Максіма Багдановіча, Ганны Гапановіч. Здымак, як на мой густ, статычны. У жыцці яна была значна жвавейшай і прыгажэйшай. З Максімам яны сімпатызавалі адно аднаму як брат і сястра. Паэт прысвяціў Нюце зборнік вершаў-перакладаў на рускую мову «Зеленя». Ён выстаўлены ў чацвёртай зале музея.

Аня Какуева, сястра Рафаіла Какуева, сябрука Максіма па гімназіі, была шчырым каханнем Максіма. «Прыгожая дзяўчына», — згадваў пра яе бацька Максіма. Ёй паэт прысвяціў шмат кранальных лірычных вершаў.

*Толькі чаму ж гэта ў ночы глыбокія,*
*Даўшы спачынак стамлёным вачам,*
*Я шапачу цераз сны адзінокія:*
*«Аня... мая.. нікаму не аддам».*

Пра любоўную лірыку Максіма Багдановіча можна гаварыць і гаварыць, хапіла б на поўную экскурсію. Гэтыя вершы, створаныя пад уплывам пачуццяў да Ганны Какуевай, я вучыў на памяць у сямнаццаць гадоў, калі адкрыў для сябе паэзію Багдановіча, затым чытаў падчас экскурсій у чацвёртай зале музея «Жанчыны ў жыцці Максіма Багдановіча». Яны кранаюць мяне і цяпер, калі я сяджу на нарах, праглядаю абдрапаны томік вершаў 1868 года выдання з выдранымі некаторымі старонкамі і паглядаю на вежу Пішчалаўскага замка, якая ззяе белізной на вераснёвым сонцы.

*Я — непрыкметны, шэры чалавек.*
*Але Вамі, толькі Вамі паўна мая душа.*
*І ліюцца з яе «вершы» аб Вас,*
*Як ліецца вясной праз кару чысты сок*
*З перапоўненага ім шэрага клёна.*

І яшчэ:

*Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы*
*У ціхую, сінюю ноч...*

Платанічнае каханне да Ані Какуевай узносіла Максіма да мараў, фантазій пра магчымыя далейшыя сумесныя планы, пра іх агульнае дзіцё — і менавіта дзяўчынку:

*Больш за ўсё на свеце жадаю я,*
*Каб у мяне быў свой дзіцёнак —*
*Маленькая дачушка-немаўляшка,*
*Аня Максімаўна...*
*Зусім такая, як Вы,*
*Калі Вы былі маленькай дзяўчынкай.*
*15 верасня 2021 года*

## Не паспелі надрукаваць «інтымны» дзённік Багдановіча

Летам 1915 года Максім Багдановіч жыў у пансіёне для людзей, схільных да сухотаў, у Старым Крыме. На летні адпачынак яго адправіў бацька. Туды ж на лячэнне прыязджае маладая замужняя жанчына, напалову армянка. Завуць яе Клава. У Максіма і Клавы разгарэўся раман. Пасля хуткаплыннага кахання застаўся верш на рускай мове.

*Забудется многое, Клава,*
*Но буду я помнить всегда.*
*Как в сердце шипела отрава*
*Любви, и тоски, и стыда.*





Відавочна, што гэта была шалёная страсць, якая ахапіла Максіма і Клаву цалкам па-за разважлівасцю і логікай. Засталося некалькі старонак інтымных запісаў, занатаваных Максімам на хуткую руку алоўкам. Запісы паўсцёртыя ад часу, некаторыя словы неразборлівыя, але зразумелы асноўны змест. Максім па днях апісвае галоўныя эпізоды знаёмства з Клавай. З дзённікавых запісаў становіцца зразумелым, што ў іх была інтымная сувязь. Палкі курортны раман цалкам захапляе Максіма. Невядомы далейшы лёс Клавы. І паэту заставалася жыць менш за два гады. Яны, як летнія матылькі, імкнуліся паспець схапіць салодкае імгненне хуткаплыннага шчасця. На экспазіцыі музея пра гэтае крымскае захапленне распавядаецца небагата. Не надта яно ўпісвалася ў вобраз самотнага і беспрытульнага паэта. Крыху пазней у коле супрацоўнікаў музея абмяркоўвалі магчымасць друку «інтымнага» дзённіка. Расчытала дзённік (тое, што можна было зразумець) яшчэ ў сямідзясятыя гады Ніна Ватацы, бібліёграф, даследчыца творчасці Максіма. Яна ж зрабіла і першае публічнае апісанне дзённіка, пераказаўшы тое, што можна было, не кранаючы інтымных падрабязнасцяў. Але асобныя цытаты, якія прыводзіла Ніна Ватацы, не давалі ўяўлення пра змест. Усё ж такі гэта быў тэкст вялікага паэта. Мы разважалі: ці мелі права трымаць яго пад замком, ці яго варта было паказаць шырокаму чытачу? Усе пагадзіліся, што друкаваць гэты тэкст ранавата. Занадта ён інтымны, нават фізіялагічны. Максім пісаў толькі для сябе. Некалькі разоў мы вярталіся да гэтага тэксту. Прафесар Вячаслаў Рагойша на адной з нашых навуковых канферэнцый выказаўся, што можна і варта зрабіць гэта ў спецыяльным навуковым выданні, якія выходзяць невялікім накладам з каментарамі. Я нават загарэўся гэтай ідэяй, мяркуючы, што каментары мог бы напісаць сам

Вячаслаў Рагойша. Не хацелася выглядаць на жрацоў, якія любым коштам ахоўваюць таямніцу свайго бога. Але не паспеў.

У Максіма Багдановіча ёсць некалькі вершаў, дзе ён апісвае стан палкай страсці.

*Прынадна вочы ззяюць да мяне;*
*Чароўна усміхаючыся, губы*
*Адкрылі буйныя бялеючыя зубы...*
*Ласкавы шэпт... Гарачай хваляй мкне...*

Гэты санет быў напісаны ў 1914 годзе. Каму ён быў прысвечаны, ці апісваў ён натуральныя пачуцці і любоўныя перажыванні Максіма, ці з'яўляецца домыслам, паэтычнай фантазіяй — можна толькі здагадвацца. Інтуітыўна я адчуваю: гэтыя радкі маюць пад сабой рэальны жыццёвы досвед паэта. Зоська Верас у сваіх успамінах згадвае, што Максім Багдановіч жадаў пазнаёміцца з беларускай свядомай дзяўчынай. Яна звяла яго са сваёй сяброўкай, але тая не спадабалася паэту. Так што ўсе рамантычныя гісторыі, улюблёнасці і каханні Максіма Багдановіча звязаныя з Яраслаўлем і Крымам. Завяршаючы свае развагі пра ролю і вобраз дзяўчыны ў творчасці Максіма Багдановіча, не магу не згадаць радкі ягонага трыялета:

*Мне доўгае расстанне з Вамі*
*Чарней ад Вашых чорных кос.*
*Чаму ж нядобры час прынёс*
*Мне доўгае расстанне з Вамі?*
*Я пабляднеў ад горкіх слёз*
*І трыялет пачаў славамі:*
*Мне доўгае расстанне з Вамі*
*Чарней ад Вашых чорных кос.*





У перакладзе на рускую мову верш пазначаны як трыялет XVIII стагоддзя. Можа, і існуе ў еўрапейскай паэзіі ўзор-аналаг гэтага трыялета, але для мяне ён застаецца адным з найлепшых вершаў пра каханне ў беларускай паэзіі.

*12 верасня 2021 года*

### Гэты верш быў прысягай Беларусі

Апошняя, пятая зала музея мае няпростую перадгісторыю. Яна прысвечаная ўсяго двум творам паэта — паэме «Страцім-лебедзь» і вершу «Пагоня». Перад маім прыходам у музей было абмеркаванне канцэпцыі музея. Пятро Краўчанка, які на той час быў другім сакратаром гаркама камуністычнай партыі ў Менску, выказаўся рэзка пра прысвячэнне гэтай часткі экспазіцыі вершу.

Гэты верш быў не тое каб забаронены. Прынамсі, у акадэмічных выданнях 1968-га і 1988 года ён быў выдрукаваны. Праўда, на верш была накладзеная негалосная забарона. Чытаць «Пагоню», выступаць з вершам або перадрукоўваць яго было нельга. Бо сімвал, якому прысвечаны верш, успрымаўся вельмі неадназначна. Памятаю, як мы, свядомая беларуская моладзь, спявалі «Пагоню» на матыў французскай «Марсельезы». Рабілі гэта звычайна святочна, стоячы. Словы верша мы прымервалі да сябе, багата хто прыйшоў неафітам у маладзевы рух. Гэты верш быў пэўнай прысягай Беларусі, якой мы збіраліся трымацца ў жыцці.

Абмеркаванне, як мне распавядалі Вера Мікута і Эдуард Агуновіч, было бурлівым. Краўчанка ціснуў аўтарытэтам, безапеляцыйна сцвярджаў, што гэты верш не варты такой увагі. Але музейныя супрацоўніцы і мастак былі не менш

цвёрдыя і ўпартыя. Яны пераконвалі Пятра Краўчанку, што верш — адзін з найлепшых і найважнейшых вершаў Максіма Багдановіча. Леанід Хадкевіч, тагачасны дырэктар музея, дыпламатычна маўчаў. Урэшце, кожны застаўся пры сваім. Афіцыйнага дазволу на такую экспазіцыю музей не атрымаў. Але гэтае абмеркаванне праходзіла ў 1987 годзе, а ў 1988 годзе змены ў грамадстве набралі абароты. Актыўна друкаваліся творы раней забароненых пісьменнікаў і асобныя вершы і тэксты вядомых. Загучалі ў беларускай літаратуры прозвішчы Алеся Гаруна, Францішка Аляхновіча, Язэпа Лёсіка, Наталлі Арсенневай, Антона Луцкевіча, Вацлава Ластоўскага ды іншых. Прыклаў да гэтага руку і я, выдрукаваўшы ў 1987—1988 гадах, пасля доўгага замоўчвання, у часопісе «Нёман» каля дваццаці забароненых вершаў Янкі Купалы, а таксама зрабіўшы першыя вялікія аглядныя артыкулы пра літаратуразнаўцу Антона Луцкевіча і драматурга Францішка Аляхновіча. Гаркаму партыі ў гэтыя часы стала не да музея. Болей ніхто не ўмешваўся ў нашую канцэпцыю экспазіцыі і тэматычны план.

*21 верасня 2021 года*

## Клопаты пра музей і гістарычныя падзеі 1991 года

За клопатамі пра музей ды гістарычнымі падзеямі 1991 года непрыкметна набліжалася дата адкрыцця музея, прымеркаваная да стагоддзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Падчас жнівеньскага путчу мы, дэпутаты Менскага гарадскога савета, аб'яднаныя ў дэпутацкае згуртаванне «Дэмакратычная плынь», прынялі адмысловую заяву ў абарону дэмакратычных каштоўнасцяў і заклікалі людзей не падтрымліваць ГКЧП. У гэтыя дні я быў на сходах «Мартыралога». Быў і на плошчы Незалежнасці, тады яшчэ плошчы Леніна, дзе збіраліся неабыякавыя людзі, збіраліся дэпутаты Вярхоўнага Савета. Паліна Качаткова згадвала, што я адгаворваў іх (яе і Алену Кісялевіч) хадзіць на плошчу, казаў, што ў нас свая галоўная задача — адкрыццё музея. Не памятаю, але не адмаўляюся, што такое магло быць. Занадта важным для мяне было адкрыццё музея. Эдуард Агуновіч параіў мастакоў, якія распрацавалі канцэпцыю добраўпарадкавання каля музейнай тэрыторыі. Будынак музея ахоўваецца дзяржавай, лічыцца помнікам архітэктуры XIX стагоддзя. Пры рэстаўрацыі ад старога, аўтэнтычнага будынка засталася толькі задняя сценка, астатняе — навадзел. Будынак узнавілі са старых архіўных дакументаў. Рэстаўрацыю рабілі на савецкі капыл: усё разбурылі і склалі будынак па-новаму. Як для музея, можа, гэта і някепска — прынамсі, будынак сухі. Толькі старая сцяна была вечна вільготная — кепска зрабілі ізаляцыю. Такі будынак прыняў папярэдні дырэктар Леанід Хадкевіч. Гэтую вільготную сцяну мы падмазвалі і падфарбоўвалі кожны год. І штогод фарба злятала з яе. Да гэтай сцяны выходзіў запасны лесвічны пралёт. Ад яе былі далёка музейныя фонды і кабінеты супрацоўнікаў, таму некалькі гадоў мы абыходзіліся нязначным рамонтам. Праект па добраўпарадкаванні тэрыторыі атрымаўся занадта радыкальным. Мастакі прапанавалі закрыць фасад будынка вялізнай інсталяцыяй са шкла і храміраваных труб. Мы адмовіліся ад яго. Нам бы і не дазволілі паставіць такую гаргару. Мы самі паставілі чатыры бетонныя клумбы: дзве ля ўваходу і дзве з боку музея, бліжэй да Дома прыроды, у якім раней месцілася сінагога. Маёй ідэяй было ўпрыгожыць музей барэльефам з выявай Максіма Багдановіча. Скульптара Валяр'яна Янушкевіча я ведаў па Беларускай

каталіцкай грамадзе. З ягоным братам Язэпам Янушкевічам мы разам вучыліся ў аспірантуры. На пачатку дзевяностых грамадскі рух беларускіх каталікаў бурліва развіваўся. Створаная БКГ аб’ядноўвала некалькі сотняў чалавек, якія аднаўлялі касцельную традыцыю ў беларускамоўнай форме. Грамада гуртавала ў асноўным моладзь. Да яе дзейнасці ад самага пачатку актыўна далучыўся і я. У Менску нам удалося распачаць першыя рэгулярныя беларускамоўныя службы ў касцёле Святой Тройцы. З братоў Янушкевічаў найбольш актыўнічаў у БКГ старэйшы брат, Фелікс Янушкевіч, даволі вядомы ў творчым асяроддзі. Ён быў абраным старшынём БКГ, а я — адным з намеснікаў. Гады на чатыры, аж да спынення працы Грамады, у Фелікса Янушкевіча хапіла імпэту на яе. Валяр’ян быў у нашай каталіцкай касцельнай супольнасці болей як скульптар. У базавым для БКГ касцёле на Залатой Горцы ёсць некалькі зробленых ім прац, у тым ліку фігура Святога Роха, барэльефы крыжовага шляху ды іншыя. Ён фактычна стварыў усю манументальную аздобу касцёла, які пасля ўлады камуністаў стаяў зусім пусты. Валяр’ян, яшчэ малады зусім, быў ужо вядомым аўтарам помніка Адаму Міцкевічу ў Навагрудку. Валяр’яну ўласцівы стыль неарамантызму, у якім ён прапрацаваў усё жыццё і працягвае працаваць цяпер. Маёй ідэяй было ўпрыгожыць музей барэльефам з выявай Максіма Багдановіча, заадно зрабіўшы з бронзы надпіс, што тут знаходзіцца музей. З гэтай ідэяй я звярнуўся да Валяр’яна. Я хадзіў у майстэрню да яго на вуліцу Сурганава ў так званы дом мастакоў, дзе некалькі мастакоў мелі кватэры і майстэрні. У гэтым доме, які стаіць недалёка ад універсама «Рыга», жыў Эдуард Агуновіч, наш мастак, там жа ў яго была майстэрня. Валяр’ян дзяліў майстэрню з іншым маладым мастаком, Паўлам Лукам. Высокі, худы, з выразным тонкім носам, Валяр’ян



Пра музей Максіма Багдановіча

быў аскетам, бачыў у сваёй працы пакліканне звыш. Ён быў прыкаваны да мастацтва ланцугом і жыў мастацтвам. У свой свет ён пускаў далёка не кожнага. У майстэрні я ўпершыню ўбачыў і пазнаёміўся з Паўлам Лукам. Павел зрабіў на той час бюст Гашынскага ў Ашмянах. Таленавіты Павел вечна пасміхаўся, быў мяккім і ўдумлівым. Ягоны стыль працы быў класічным. Працы, якія я пабачыў у майстэрні, захапілі мяне лаканічнасцю і бездакорнасцю. З ім мы будзем працаваць пазней, усталёўваць у Яраслаўлі магільныя помнікі бацьку Максіма, Адаму Багдановічу, і яго трэцяй жонцы, Аляксандры. Пакуль жа я замовіў у Валяр’яна барэльеф на будынак музея ў Траецкім прадмесці. Валяр’ян Янушкевіч неўзабаве прыехаў агледзець будынак музея Максіма Багдановіча і прапанаваў эскіз барэльефу, а таксама ўзор надпісу: «Музэй Максіма Багдановіча». Барэльеф уяўляў даволі вялікае кола з выявай паэта ў сярэдзіне. Усім нам спадабалася ягоная праца. Ухваліў яе і Эдуард Агуновіч. Амаль адразу я замовіў Валяр’яну і барэльеф над аркай па вуліцы Максіма Горкага ў двор, дзе стаяў будынак музея. Валяр’ян зрабіў яшчэ адзін эскіз з музамі-русалкамі, якія трымалі шыльду з надпісам «Музэй Максіма Багдановіча». Мы таксама яго ўхвалілі. Затым ён выліў іх з бронзы ў майстэрні мастацкага цэху ў Калядзічах. Барэльефы і літары пры дапамозе пад’ёмнага крану былі прымацаваныя на фасад і арку музея. Слова «музэй» было напісанае праз літару «э», дарэформенным правапісам. Таксама тарашкевіцай была зробленая і новая пячатка, і музейны афіцыйны бланк. Я тлумачыў гэта тым, што сам Максім Багдановіч пісаў свае вершы, публіцыстычныя тэксты тагачасным правапісам, які стаў асновай для ўнармаванага ў 1918 годзе Браніславам Тарашкевічам беларускага літаратурнага правапісу. Максім Багдановіч пісаў «зорка Вэнэра», «Менск». Ён пісаў з мяккімі

знакамі. У слове «музэй» было жаданне адразу зацікавіць наведвальніка пры ўваходзе ў будынак, заінтрыгаваць яго. Гэта быў першы крок неафітаў у атмасферу новага беларускага адраджэння, у якой жыў і якой дыхаў паэт. Таксама важным быў іншы матыў. Мы, тутэйшаўцы, пісьменнікі, паэты, актыўна прапагандавалі тарашкевіцу, больш мілагучную і навукова абгрунтаваную, у адрозненне ад савецкай наркамаўкі, якая скалечыла беларускую мову. У Міністэрстве культуры ў той час нашае моўнае свавольства не выклікала ніякіх пярэчанняў. На вокны нам зварылі краты ў выглядзе каляднай зоркі, якую часта можна ўбачыць на беларускіх ткацкіх узорах. Задума была мая, а намаляваў эскіз Алесь Астраўцоў. Краты атрымаліся выразныя і адметныя. Музей стаіць на невялікай горцы. З правага боку на схіле мы са Сцяпанавічам і Астраўцовым высадзілі вярбу, каштан і ясень. Алеся Астраўцова, знаёмага мне яшчэ па моладзевым беларускім руху, я запрасіў у музей на пасаду інжынера. Алесь — родны брат журналіста і празаіка Сяргея Астраўцова, працаваў перад гэтым інжынерам на заводзе, вырашыў змяніць жыццё, болей займацца пісьменніцтвам, таму пагадзіўся пайсці ў музей на меншы заробак. Але ў больш творчым асяроддзі, якое склалася ў музеі на той час, музейны інжынер з яго быў не надта добры: не моцна ён улягаў у гэтую працу, якая вымагала, асабліва падчас адкрыцця музея, багата клопату. Часта мне прыходзілася падпіхваць яго. Якаў Сцяпанавіч, наш заўгас, часам аж калаціўся ад няспешнай манеры працы і жыцця Алеся. Але ўклад Алеся ў давядзенне музейнай гаспадаркі да ладу быў несумненным. Высокі, з хвалістай грывай валасоў, шырокімі грудзямі, заўсёды ўсмешлівы, з адкрытым тварам, Алесь дапаўняў нашую новую маладую каманду і ўносіў у яе свой пэўны стыль, эмоцыі і развагі. Багата што ў той час у музеі





мы рабілі сваімі рукамі: я, Сцяпанавіч, Астравец, Едрусь — мужчынскай часткай калектыву. Мы цягалі цяжкасці, перастаўлялі мэблю, рамантавалі, фарбавалі. Жанчыны ж прыбіралі, чысцілі, упрыгожвалі кабінеты і фае. Тэма падрыхтоўкі экспазіцыі павялічвалася бліжэй да адкрыцця. Апошнія месяцы мы працавалі ў музеі без выходных, кожны дзень. На пачатку снежня 1991 года мы прыходзілі ў музей рана ранкам і сыходзілі ўвечары пасля дзясятай. Я недасыпаў і амаль не быў дома. Памятаю, як у адзін з вечароў, за пару дзён да юбілею паэта і адкрыцця музея, ужо позна ўвечары мы прыбіралі залы экспазіцыі начыста: праціралі, падмяталі, перакладвалі апошнія цэтлікі. Я пачаў жартаваць, не мог спыніцца. Жарты мае падхапілі дзяўчыны, на якіх напаў нейкі істэрычны смех. Ніколі мы не смяяліся так заразліва і безаглядна.

*12 верасня 2021 года*

## Крым Багдановіча

У канцы 1989 года, літаральна праз месяц, як мяне выбралі дырэктарам музея, мы паехалі ў Крым. Перад гэтым была выраблена і адпраўленая ў Ялту мемарыяльная дошка, прысвечаная Максіму Багдановічу. Замаўляў выраб дошкі яшчэ ранейшы дырэктар, Леанід Хадкевіч. Адкрываць яе выбраліся пісьменнік Сяргей Панізнік, архітэктар Мурамцаў і я. Дошку ўсталявалі на будынку санаторыя Чарнаморскага флоту. На ёй разам з выявай Максіма было напісана, што на гэтым месцы ў траўні 1917 года стаяў яго дом. Засяліў нас проста ў гэты ж санаторый яго працаўнік у форме палкоўніка. Камандаванне Чарнаморскага флоту дало згоду на мемарыяльную дошку. Нічога ўжо не нагадвала, што тут некалі праходзіла ялцінская

вуліца, што тут стаяў дом, абмазаны глінай і пабелены вапнай. У ім Максім Багдановіч напісаў свае апошнія радкі:

*Ў краіне светлай, дзе я ўміраю,*
*У белым доме ля сіняй бухты,*
*Я не самотны, я кнігу маю*
*З друкарні пана Марціна Кухты.*

У гэтым лаканічным чатырохрадкоўі — падвядзенне вынікаў гэткага ж кароткага жыцця. У дваццаць пяць гадоў творчы чалавек толькі становіцца на ногі, а яму даводзілася ўжо развітвацца з гэтым светам. Сціплая кніга вершаў «Вянок», надрукаваная на жоўтай жорсткай паперы. На беларускай мове ў той час выйшла, можа, з дзясятак вершаваных зборнікаў: Францішак Багушэвіч, Цётка, Янка Купала ды Якуб Колас. Максім Багдановіч добра разумеў адметнасць сваёй паэзіі, яе каштоўнасць для беларусаў, пераважна сялянскага народу. Нездарма ж ён незласліва жартаваў са сваіх суайчыннікаў, беларускіх паэтаў, за іх няспешны «прагрэсу ход».

*Паўловіч сентыменталізмам*
*Там нас уздумаў частаваць,*
*А пан Купала рамантызмам*
*Сімвалістычным дзіваваць.*

Максім Багдановіч усведамляў, што ягоная паэзія за руку ўводзіць беларусаў у еўрапейскі культурны дом. «Вянок» быў адзіным, любімым, сціплым і някідкім дзіцём. Пра ўсё гэта думаў я, калі хадзіў па дагледжаных сцежках санаторыя, абсаджаных цёмна-зялёнымі туямі. Снегу ў Ялце яшчэ не было. Мы сустрэліся таксама з рэдактарам крымскай газеты, усмешлівым





беларусам з Магілёўшчыны. Ён распавёў, што ў Крыме жывуць некалькі тысяч беларусаў. На адкрыццё дошкі прыйшоў таксама Мікола Аўрамчык з жонкай. Сівы, высокі, худы і энергічны, са сталёвымі зубамі, спадар Мікола меў ужо гадоў семдзесят. Ён распавёў, што пасля палону, падчас якога ён працаваў на вугальных шахтах у Францыі, у яго слабыя лёгкія, не хапае паветра. Таму з кастрычніка па сакавік жыве ў Крыме. Дыхаў Аўрамчык сапраўды цяжка, ягоныя лёгкія ганялі паветра, як кавальскія мяхі. Спадар Мікола быў знаёмы з Сяргеем Панізнікам. Яны жыва, па-сяброўску размаўлялі адзін з адным. Мікола Аўрамчык між іншым згадаў вядомую гісторыю з пісьменнікам Аляксеем Карпюком. «І я таксама працаваў на шахтах, як і ён, — немцы плацілі нам нейкія капейкі, хоць мы і былі палонныя. Мы распісваліся за іх у ведамасці. Але ж мы рабілі ў шахце не па сваёй волі», — пераконваў ён нас. Было відаць, што гэтая гісторыя даўно і балюча турбавала яго. Сяргей Панізнік, падкрэслена інтэлігентны, яшчэ малады, з вусамі і бакенбардамі, выглядаў на моднага паэта. Я ведаў, што ў сямідзясятыя гады ён меў праблемы за беларускія погляды, што да гэтых праблем быццам бы прыклала руку яго былая жонка, паэтка Яўгенія Янішчыц. З ім мне было проста і лёгка, бо думалі мы практычна аднолькава. Архітэктар Мурамцаў, які дапамагаў яшчэ паставіць помнік Максіму Багдановічу каля Тэатра оперы і балета ў Менску, быў рускім, але ўпісаўся ў беларускую культуру і рабіў, што мог. Неўзабаве развалілася савецкае войска. Мяркую, што будынак санаторыя перайшоў да ўкраінскага флоту. Затым санаторый, хутчэй за ўсё, пераняў расійскі флот. Не ведаю, які лёс гэтай дошкі, ці пазначае яна яшчэ дзеі даўно мінулых дзён і памяць пра белы дом у старой Ялце, апошні прытулак «нямоглага паэта».

*21 верасня 2021 года*

### Алена Лапіцкая хавала страшную і сумную таямніцу свайго лёсу

Хадзілі мы і на Старыя могілкі ў Ялце. Невялікая, шэрая, пацямнелая ад часу стэла на магіле паэта была «мадэрнізаваная». Надпіс на помніку быў размаляваны алейнай фарбай у валошкі. Выглядала не надта. У Менску я распавёў пра гэта дзяўчатам. Вера Мікута і Таццяна Шубіна гучна абураліся такой самадзейнасцю. Ад іх я даведаўся, што гэта работа Вольгі (Алены) Лапіцкай, пра якую я распавяду пазней. Яна спецыяльна ездзіла ў Крым даглядаць магілу Максіма Багдановіча. Да канца жыцця яна заставалася сама сабой. Вольга (Алена) Лапіцкая, якая размалявала помнічак Максіму Багдановічу ў Ялце, была частай госцяй музея — і перад адкрыццём экспазіцыі для наведвальнікаў, і пасля. Ёй было за семдзесят, пажылая кабета, апранутая з прэтэнзіяй, сівая, твар у глыбокіх зморшчынах. Яна выглядала вельмі старой. Да ўсяго, яна мела дэфект маўлення. Калі яна штосьці гаварыла, зразумець яе было цяжка. Тады яна пісала на паперках, якія заўсёды насіла з сабой. Пані Лапіцкая імкнулася камунікаваць з Верай Мікутай, Таццянай Шубінай, наколькі ў іх хапала цярпення, ці проста праходзіла ў фае музея, адпачывала там, штосьці думала сваё. Да Максіма Багдановіча ў яе было асаблівае стаўленне. Яна жыла самотнай. Калі дзяўчаты стамляліся камунікаваць з ёй, пані Вольгу (Алену) адсылалі да мяне. Яна пісала мне цыдулкі, заўсёды па-беларуску, а я цярпліва адказваў ёй. Пані Вольга (Алена) пісала даволі празрыстыя аматарскія вершы. Мае каляжанкі называлі яе «нявестай Багдановіча». Яна абагаўляла Максіма Багдановіча, штогод ездзіла ў Ялту на яго магілу, прыбіралася там, падмалёўвала на помніку валошкі. У музей яна прыходзіла як у дом Максіма. Мы, маладыя, жыццярадасныя, вясёлыя, не разумелі яе. Мы не ведалі тады, што пані Вольга (Алена) хавала страшную і сумную таямніцу свайго лёсу і лёсу сваёй сям'і. Гэта я зразумеў ужо пазней. Вера Мікута распавядала, што Лапіцкая была рэпрэсаваная ў сталінскія часы. Пасля таго, як у двухтысячныя гады выйшла з друку брашура Міхася Чарняўскага пра Расціслава Лапіцкага, пачытаўшы яе, мы з Палінай Качатковай зразумелі, што Вольга (Алена) была ягонай роднай сястрой. Шкадую, што я нічога не распытаў, не папрасіў, каб яна запісала свае ўспаміны. Дачка святара і сястра Расціслава Лапіцкага, шчырая беларуска, яна не чакала асаблівай увагі і пашаны да сябе. Ніякія фізічныя вады, зламанае жыццё не прымусілі яе адмовіцца ад беларушчыны, ад любові да паэзіі Максіма Багдановіча. Да канца жыцця яна заставалася сама сабой. Савецкая крытыка і літаратуразнаўства мелі здольнасць вылушчваць і адбіваць любую цікавасць да беларускай літаратуры. Пэўныя падыходы рабілі творы пісьменнікаў малацікавымі. Гэта адчувалася і ў музеях нашых вялікіх Янкі Купалы і Якуба Коласа. Я, вядома ж, бываў у гэтых музеях і іх філіях у Вязынцы і ў Мікалаеўшчыне. З коласаўскай Мікалаеўшчыны пачынаўся ў 1981 годзе, пасля сустрэчы з мастаком Міколам Купавам, мой усвядомлены шлях. Нам у музеі Максіма Багдановіча пашанцавала пазбягаць фармальнага падыходу. Таму, мабыць, паспрыяла бяда — ранняя смерць Максіма Багдановіча, якога лёс не прымусіў пісаць супраць свайго сумлення. У свой прыезд у 1916 годзе ў Менск Максім Багдановіч далучыўся да партыйнага жыцця і нават стаў сябрам БСГ. Але пра гэта мала хто ведае, дый ягоная партыйнасць ніяк не адбівалася на ягонай творчасці, апроч агульных пажаданняў дабівацца нацыянальнага ды сацыяльнага вызвалення. Ён спецыяльна вывучаў гісторыю славянскіх народаў (чэхаў, славакаў,

украінцаў, палякаў), пісаў адмысловыя нарысы і канструяваў палітычнае абуджэнне і вызваленне беларусаў.

*Ты не згаснеш, ясная заранічка,*
*Ты яшчэ асвеціш родны край,*
*Беларусь мая! Краіна-браначка!*
*Ўстань, свабодны шлях сабе шукай!*

Але і ён не мог прадбачыць, які гэта будзе цяжкі і пакручасты шлях. Мы з юнацтва любілі Багдановіча за яго палітычную незаангажаванасць, за падкрэсленую ўвагу да формы верша. Ён быў не такі, як усе, для нас ён быў найлепшы.

*30 верасня 2021 года*

## Музей адчыніўся!

На 8 снежня 1991 года, напярэдадні сотай гадавіны з дня нараджэння, было прымеркаванае адкрыццё музея. Мы загадзя запрасілі ўсіх сяброў музея: пісьменнікаў, мастакоў, усіх, хто быў далучаны да стварэння музея. Мы моцна хваляваліся, бо гэта быў першы дзень, калі мы мусілі паказваць вынікі нашых намаганняў і працы ўсіх, хто рабіў музей на працягу дзесяці гадоў. Мы чакалі прыезду міністра культуры. Зранку а дзявятай мне патэлефанаваў з міністэрства Сяргей Маслоўскі. Ён запытаўся, ці гатовая экспазіцыя і ці варта міністру прыязджаць на адкрыццё. «Вядома, — запэўніў я, — няхай прыязджае, мы чакаем». Мяне самога здзівіла, што за апошні год увогуле ніхто з міністэрства не пацікавіўся, як у нас ідуць справы, ці паспяваем мы, якія ў нас праблемы, цяжкасці. Я кантактаваў адно толькі з бухгалтаркай міністэрства. Музейны аддзел бухгалтэрыі размяшчаўся тады ў Тэатры оперы і балета. Я часта хадзіў туды, тлумачыў нашыя патрэбы. Галоўная бухгалтарка, гаварлівая жанчына гадоў пяцідзесяці, ніколі ні ў чым нам не адмовіла. Яна распавядала, чуючы маю беларускую мову, што ў міністэрстве стварылі курсы беларускай мовы і што яна ходзіць туды, бо хутка ж без беларускай мовы ў нас будзе нікуды. Тое, што міністэрства не дакучала нам, мяне цалкам задавальняла. Але вось і наступіў той момант, калі трэба было справаздачыцца за такі вольны рэжым існавання. Міністр Яўген Вайтовіч прыехаў разам з паэтам Нілам Гілевічам, які тады быў старшынём камісіі Вярхоўнага Савета па культуры. Ніл Сымонавіч, высокі, мажны, сівавалосы, выглядаў манументальна. Я сам праводзіў для іх першую музейную экскурсію, скарочаны яе варыянт, каб не стаміць. Я паказваў і спыняўся каля найбольш выразных кропак у нашых выставачных залах. Міністр быў упершыню у будынку музея, як і Ніл Гілевіч. Ніла Сымонавіча я ведаў з 1984 года. У снежні мяне запрасілі на штогадовы семінар маладых літаратараў у Каралішчавічах. Я пазнаёміўся і пасябраваў там з маладымі пісьменнікамі Міхасём Скоблам, Анатолем Дэбішам, Андрэем Федарэнкам, без якіх цяжка цяпер уявіць беларускую літаратуру. Вось туды і прыязджаў Ніл Гілевіч, які тады быў старшынём Саюзу пісьменнікаў, з загадчыкам аддзела культуры ЦК КПБ Іванам Антановічам. Пасля іхняга сумеснага выступу я задаў пытанне, як так здарылася, што пры рэстаўрацыі быў цалкам разбураны дом, у якім упершыню Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч паставіў першы беларускі спектакль у XIX стагоддзі. Тады ж улетку 1984 года дванаццаць майстроўцаў выйшлі бараніць рэшткі будынка. Іван Антановіч быў адказаў, што шуміха вакол дома была паднятая штучна, бо ён належаў яўрэйскаму багацею і не меў ніякай каштоўнасці. Ён назваў яго

«яўрэйскім клапоўнікам». Я заўважыў, як тады перасмыкнуўся Ніл Гілевіч. Відаць было, што ён балюча перажываў знішчэнне важнага для беларускай культуры будынка.

Пазней, у 1987—1988 гадах, мы сустракаліся з ім у менскім Доме літаратара, у ягоным кабінеце. Я быў старшынём Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». Мы спрачаліся з ім, адстойвалі права на адкрытую дзейнасць, ён жа стрымліваў нас, папярэджваў — відаць, больш ведаў пра рэальныя рэчы, якія маглі б паўплываць на наш лёс. Я ўспрымаў Ніла Гілевіча як старэйшага таварыша, які, хоць і доўга насіў у кішэні партбілет, але ж рабіў шмат для беларускай мовы, культуры і літаратуры. Было відаць, што экспазіцыя спадабалася і міністру культуры, і Нілу Гілевічу. Яны былі ўсцешаныя і задаволеныя. Пасля было адкрыццё музея, мы рабілі яго ў двары перад уваходам у музей. Людзей сабралася больш за сотню. Выступоўцы стаялі на высокім музейным ганку. Прамаўлялі Ніл Гілевіч і міністр культуры, прафесар Вячаслаў Рагойша, выступаў і я. Прамова была нядоўгай і вольнай, на вуліцы стаяў мароз. Я выступаў, скінуўшы шапку, мароз шчыпаў мяне за вушы, ад хвалявання, святочнага настрою было зусім не холадна.

Урэшце мы запусцілі людзей усярэдзіну. У фае стаяў раяль, у лесвічны праёме на шляху да экспазіцыі свяцілася і блішчэла нашая незвычайная жырандоль, на свежай экспазіцыі, здавалася, не было ні пылінкі. Цёмнае дрэва стэндаў, ціснёная скура, бархатная папера ў аблямоўцы, рэльефны гіпс — усё выглядала святочна і камерна. Людзі зайшлі на экспазіцыю — і музей адчыніўся...

*6 кастрычніка 2021 года*





## Помнік Максіму Багдановічу ў Менску

Штогод 9 снежня, у дзень народзінаў Максіма Багдановіча, і 25 траўня, у дзень смерці, мы хадзілі да помніка Багдановічу, які стаяў каля тэатра Оперы і балета за дзвесце метраў ад музея.

Помнік паставілі да дзевяностай гадавіны з дня нараджэння паэта. Месца, дзе стаяў бронзавы Максім, было даволі ўдалым і недалёкім ад месца яго нараджэння, побач з тэатрам, фактычна ў цэнтры горада, куды прыходзілі тысячы людзей, ва ўтульным кутку.

З двух бакоў помніка быў парк, за спінаю — тэатр, перад помнікам — невялікі пляц, раскрыты на вуліцу Янкі Купалы. Помнік добра праглядаўся ад гэтай вуліцы. Звычайна напярэдадні дня нараджэння мы звязваліся з адной з менскіх школ, з настаўніцамі беларускай мовы і літаратуры, і да помніка прыходзілі некалькі класаў дзяцей. Таксама мы запрашалі пастаянных нашых сяброў, аматараў паэзіі Максіма Багдановіча. Прыходзілі з кветкамі, звычайна выступаў хтосьці з беларускіх пісьменнікаў, запрошаных намі, ці хтось прыходзіў сам. Спявалі барды, кожны раз, зразумела, выступаў з гітараю, чытаў свае вершы Едрусь Акулін. Памятаю, спяваў і Алесь Камоцкі. Дзеці чыталі вершы. Заўсёды казаў сваё слова і я. Помнік упрыгожваўся вымпеламі, часам цытатамі з вершаў паэта, напісанымі на палатне.

Пасля публічнай імпрэзы каля помніка Максіму мы запрашалі людзей у музей на бясплатную экскурсію. Таму, хто замерз, налівалі кубачак гарачай гарбаты. Такім чынам мы адзначалі штогод і дзень смерці паэта. Толькі дадаткова заўсёды да гэтага замаўлялі памінальную службу ў Петра-Паўлаўскай царкве на Нямізе. Цяпер, калі прыглядзецца, можна ўбачыць

кавалачак чырвонага даху гэтай царквы. Гэта была ці не адзіная царква, дзе святар мог правесці службу па-беларуску.

У арганізацыі службаў нам дапамагала Брацтва трох віленскіх пакутнікаў, дзе вёў рэй філосаф і свядомы беларус Мікола Матрунчык. Мы пазнаёміліся з ім на сустрэчы моладзі. Заўсёды пазітыўны, усмешлівы, нетаропкі ў рухах і словах Мікола, з доўгімі (ці то хіпстарскімі, ці то святарскімі) валасамі, моднай бародкай і вусамі, у акулярах з залатой асадай, бачыў сваю місію ў зліцці беларускай царквы з народным жыццём.

Манумент Максіму Багдановічу памятны мне асабіста яшчэ з адной нагоды. 17 красавіка 1987 года мы з Наталляй бралі шлюб у Менску. Я вучыўся ў аспірантуры ў Менску, яна — ва ўніверсітэце ў Гомелі. Мы вырашылі не рабіць вяселля. Я не хацеў, і яна не настойвала. Мы распісаліся ў ЗАГСе Першамайскага раёна ў Зялёным Лузе, а затым з нашымі дружкамі-сведкамі паехалі на таксоўцы да помніка Максіму Багдановічу і ўсклалі да яго кветкі. Хацелася ўсё ж надаць пачатку нашага шлюбу крыху святочнасці. Было халодна. Рэдкія сняжынкі лёталі і раставалі ў паветры. Тады мы ўпершыню ўсклалі кветкі да помніка. Затым з 1989-га па 1998-ы я рабіў гэта 9 снежня і 25 траўня кожны год.

*19 кастрычніка 2021 года*

## Святочная вечарына ў Тэатры оперы і балета

У 1991 годзе радасная і адказная мітусня 8 снежня, напярэдадні дня народзінаў Максіма Багдановіча, не скончалася. На вечар была запланаваная святочная вечарына ў Тэатры оперы і балета. Яна праходзіла на дзяржаўным узроўні. Мяне загадзя папярэдзілі, што на вечарыне мушу выступаць і я.





Вольнага часу на абдумванне выступу асабліва не было, але я прымусіў сябе падрыхтаваць дзве старонкі выступу на пяць-шэсць хвілін.

Я надрукаваў выступ на электрычнай друкарцы, якая стаяла на маім працоўным стале, і паклаў аркушы ў шуфлядку стала.

У маім кабінеце, куды я перабраўся на пачатку сваёй працы, над маім сталом вісела карціна Алеся Марачкіна, навеяная творчасцю Максіма Багдановіча. На сцяне над канапаю вісела акварэль Філіповіча, пазначаная 1929 годам, з размытым у тумане абрысам Чыгуначнай царквы, разбуранай у трыццатыя гады. Каля стала стаяла кніжная шафа з кнігамі, якія я выбраў з бібліятэкі музея.

І вось наступіў ранні змрок 8 снежня 1991 года. Я загадзя прыйшоў у тэатр у касцюме пад гальштукам, якіх амаль ніколі не насіў. Перад вечарынай быў наладжаны невялікі ўрадавы прыём. Міністр Яўген Вайтовіч, па-сяброўску настроены, пазнаёміў мяне з Філарэтам. Вайтовіч прыйшоў на пасаду міністра культуры з «Беларусьфільму», па-беларуску на той час не ўмеў ні слова. Філарэт — тым больш, бо быў масквічом. Філарэт быў у добрым гуморы. Ён пасміхаўся, жартаваў. У цесным коле, па ініцыятыве міністра, мы ўзялі чаркі з падноса, які насіла афіцыянтка, і выпілі за Максіма Багдановіча. Я ведаў, што Філарэт родам з інтэлігентнай рускай сям'і, і меркаваў, што яго веды ў беларускай культуры мінімальныя. Але першыя службы ў царкве на беларускай мове, звод беларускіх святых, які нядаўна быў сфармаваны, ягонае дэпутацтва ў Вярхоўным Савеце і вольны-нявольны ўдзел у грамадскім жыцці краіны, таксама як і ўдзел у нашым святкаванні юбілею паэта, паказвалі, што ён быў неабыякавым чалавекам. Успамінаючы Філарэта, трэба мець на ўвазе, што

камуністы трымалі царкву і касцёл у абцугах, амаль як беларускі рух. Ва ўціску, які працягваўся дзесяцігоддзямі, і ў новых магчымасцях, якія з'явіліся ў канцы васьмідзясятых, былі ў нас агульныя пункты судакранання.

З'явіўся на святочным прыёме і старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч. Але падыйсці да яго ў мяне не было ніякіх магчымасцяў. Натуральна, што я ведаў творчасць ягонага бацькі, Станіслава Шушкевіча, які быў рэпрэсаваны ў 1936 годзе, а вызваліўся ўжо толькі пасля смерці Сталіна. Вось вечарына пачалася, мы расселіся ў прэзідыуме ў два рады. Мне вызначылі месца ў першым радзе. Заслона расхінулася — уся зала была запоўненая людзьмі. На свята прыйшло больш за тысячу чалавек. Пачаліся першыя выступы, прамаўляў Станіслаў Шушкевіч, які паведаміў, што літаральна толькі што ўрад прыняў рашэнне перайменаваць вуліцу Горкага ў вуліцу Максіма Багдановіча. Уся зала выбухнула воплескамі. Не шкадаваў далоняў і я. Хоць і стаяла нашая прапанова перайменаваць вуліцу Горкага ў вуліцу Багдановіча ў плане мерапрыемстваў да стагоддзя паэта, зацверджаных урадам. Хоць і набралі мы разам з актывістамі некалькі соцень подпісаў ад жыхароў дамоў на вуліцы Максіма Горкага за перайменаванне. Хоць і камісія па культуры Менскага гарадскога савета, сябрам якой я быў, падтрымала гэтую прапанову. Тым не менш перайменаванне зацягвалася да апошняга. Мы ўжо не спадзяваліся, што гэта адбудзецца да дня нараджэння Максіма Багдановіча. Хапала ўплывовых людзей, якія ўспрымалі гэтую ідэю як падкоп. Максім Горкі быў узнесены на вяршыню славы. «З кім вы, майстры культуры?» — гэтае яго пытанне канчаткова падзяліла ў трыццатыя гады пісьменнікаў на «сваіх» і «чужых». Імем «бацькі сацыялістычнага рэалізму» называлі і гарады, і вуліцы, і заводы. Слухаючы першыя выступы, я палез у кішэню па паперку са сваім выступам і з жахам зразумеў, што яе там няма! У сённяшніх клопатах па адкрыцці музея, іншых мерапрыемствах, я забыўся свае аркушыкі ў музеі. Ніколі ў жыцці я не адчуваў сябе такім бездапаможным. У зале паўтары тысячы чалавек, мой выступ праз некалькі хвілін, а часу пісаць новую прамову зусім няма. Але я сабраўся з духам і пачаў ліхаманкава крэсліць на паперцы тэзы выступу. Паперу і асадку я папрасіў у суседа, здаецца, паэта Васіля Зуёнка. Урэшце назвалі маё імя. Вось жа, зазіраючы ў свае тэзы, давялося імправізаваць. Максім Багдановіч нарадзіўся на вуліцы, якую пазней перайменавалі ў вуліцу Максіма Горкага, таму, можна сказаць, была аднаўленая гістарычная справядлівасць. Выступ быў кароткі, хвілін на пяць. Я імкнуўся гаварыць эмацыйна. Сказаў пра музей, які сёння адчыніўся для наведвальнікаў, пра значнасць паэзіі Максіма Багдановіча для беларусаў і новага адраджэння. Зала грымела апладысментамі. Атрымалася лепей, чым я чытаў бы выступ з паперкі. На вечарыне хор выканаў славуты верш Багдановіча «Пагоня». Уся зала ўстала, як пад нацыянальны гімн. Літаральна назаўтра, пасля адкрыцця музея, пакуль мы адсыпаліся і прыходзілі ў сябе, у Белавежскай пушчы быў распушчаны Савецкі Саюз — і Беларусь стала незалежнай дзяржавай. Так скончыўся двухгадовы перыяд майго жыцця. Ён быў сур'ёзным выпрабаваннем і праверкай на сталасць. Здаецца, я вытрымаў гэты іспыт.

*19 кастрычніка 2021 года*



Пра музей Максіма Багдановіча



Філія Літаратурнага музея Максіма Багдановіча «Беларуская хатка». Менск, чэрвень 1991 года

«Беларуская хатка», з Наталляй Пінчук, Эдуардам Акуліным, Наталляй Акулінай і дзецьмі — Адамам Бяляцкім і Верасам Акуліным. Менск, 1990-ыя гады





Адкрыццё Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Менск, 8 снежня 1991 года



Адкрыццё Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Менск, 8 снежня 1991 года



## Інтэрв'ю

### Алесь Бяляцкі ў Варшаве пасля вызвалення

**Яна Запольская:** Праграму прысвячаем першаму пасля вызвалення візіту Алеся Бяляцкага ў Варшаву. Гэты візіт — завяршэнне еўрапейскага турнэ былога палітычнага вязня, старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» і віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH). Алесь Бяляцкі падчас сустрэчы ў Фондзе імя Стэфана Баторыя сказаў, што не мае крыўды на Літву і Польшчу. Менавіта з гэтых краін улады Беларусі атрымалі звесткі пра замежныя рахункі праваабаронцы, на якіх знаходзіліся грошы на дапамогу рэпрэсаваным у Беларусі. І гэтыя звесткі сталі падставай для таго, каб асудзіць лідара Праваабарончага цэнтра «Вясна» на чатыры з паловай года зняволення. Сустрэчу ў Варшаве праводзіла польская журналістка Марыя Пшэломец. І адно з яе першых пытанняў тычылася таго, чаму, нягледзячы на рэпрэсіі, Алесь Бяляцкі заяўляе аб працягу сваёй праваабарончай дзейнасці.

**Алесь Бяляцкі:** Мабыць, ёсць некалькі прычын. І адная з іх — таму што я ўсё жыццё займаўся дзейнасцю на перабудову Беларусі на незалежную дэмакратычную Беларусь. І гэта пачыналася яшчэ ў савецкія часы, калі крымінальная адказнасць за такую дзейнасць была большай і самі ўмовы ўтрымання

былі цяжэйшыя. І тады гэта было пытанне выбару далейшага шляху жыцця, так, як мы робім гэта ў дзевятнаццаць-дваццаць гадоў. Я як бы вырашыў тады — і цяпер гэтай сцежкі трымаюся, што б там ні было. Што тычыцца рызыкі працы грамадскіх актывістаў у беларускіх умовах, яна існуе ўсе дваццаць гадоў улады Лукашэнкі. Гэта і смешна, і страшна, так бы мовіць, бо фактычна гэта добрая частка нашага жыцця прайшла ў такой неспрыяльнай сітуацыі. І сталася так, што нягледзячы на гэта, ідзе сяпленне і станаўленне беларускага грамадства. Ідзе станаўленне Беларусі. Вось гэтае пытанне асабістай адказнасці за тое, што адбываецца ў тваёй краіне, яно ў мяне вельмі вострае. Я заўсёды гэта ўспрымаю як сваю асабістую адказнасць. Знаходзячыся нават тры гады ў зняволенні, я ніколі не адчуваў, што я па-за працэсам. Бо і нашае зняволенне — гэта была таксама, можа быць, найбольш актыўная барацьба ў тых умовах неспрыяльных у Беларусі, якія на сённяшні дзень ёсць. А ёсць пасіўнасць у грамадстве. Ёсць узровень страху ў грамадстве. Ёсць пэўная раздробленасць дэмакратычных сілаў. І нейкім чынам мы ўплывалі на гэта, седзячы ў турме. Мы ўплывалі на тое, каб людзі не так баяліся, людзі адчувалі, што можна жыць і там, падаваць нейкія імпульсы станоўчыя з гэтай сітуацыі.

**Марыя Пшэломец:** Пан сказаў вельмі сумную рэч: тое, што пан сядзеў за кратамі, была больш эфектыўная дзейнасць, чым дзейнасць дэмакратычных сіл на волі. Ці гэта не ёсць крыху безнадзейная барацьба? Таму што большасць беларускага грамадства пасіўная, а ў гэты час яшчэ папулярнасць Лукашэнкі ў сувязі з тым, што адбываецца ва Украіне, яшчэ ўзрасла.

**Алесь Бяляцкі:** Думаю, што гэта не безнадзейная пазіцыя. Таму што яна, насамрэч, мяне здзівіла. Дзесьці ў 2020 годзе, можа ў 1999-м, мы былі ў Сербіі і размаўлялі са сваім калегам, адным з кіраўнікоў няўрадавай арганізацыі, які сказаў, што ў нашай сітуацыі (у іх тады быў крызіс, Мілошавіча самыя часы былі), можа быць, найбольш эфектыўнае — гэта як бы нічога не рабіць. Галоўнае, каб мы былі і нічога не рабілі. Для мяне гэта сітуацыя была не зусім зразумелая, пакуль я сам не патрапіў у калонію, дзе атрымлівалася так, што я нічога не мог рабіць, я там быў звязаны па руках і па нагах, але вось такая форма пэўнага супраціву. Бо, канечне ж, улады хацелі, каб мы напісалі прашэнне аб памілаванні, каб была нейкая маральная перамога над тымі, хто знаходзіцца ў турме. Вось гэтая пазіцыя нічоганераблення ў маёй сітуацыі была больш эфектыўнай, чым бы я нават быў на свабодзе. Таму па сутнасці я ўспрымаю, што мая барацьба, мая праца працягвалася і там. І тое, што я выйшаў з маленькай калоніі ў трошку большую калонію, не змяніла маёй пазіцыі. Маё жыццё працягваецца. Вядома, мне трэба трошкі паправіць сваё здароўе, хоць збольшага, бо гэта не курорт, тры гады дзе я знаходзіўся. Тым не менш, наколькі хопіць маіх сілаў, я далей буду працягваць тое, што я рабіў усе апошнія трыццаць гадоў.

**Вячаслаў Сіўчык, старшыня Руху салідарнасці «Разам» і Беларускага цэнтра ва Украіне:** Ці можна было ўсё ж такі папрасіць выкарыстаць твой уплыў (сапраўды, цябе цяпер вельмі добра ведаюць у свеце), каб беларуская нацыя хаця б мела магчымасць дзесьці адбудаваць хоць адзін універсітэт? Таму што, на мой погляд, дзесяцімільённая нацыя ў Еўропе ў XXI стагоддзі не мае ніводнага ўніверсітэта на сваёй мове. А магчымасці развіваць такую структуру, напрыклад, у Беларусі, як ты ведаеш, няма. То досыць цяжка наогул гаварыць пра развіццё грамадзянскай супольнасці. Дзякуй — і спадзяюся,

што ты будзеш, як заўсёды, дзейнічаць эфектыўна, бо для Беларусі ты зрабіў вельмі-вельмі шмат.

**Алесь Бяляцкі:** Дзякуй, Вячаслаў. Што датычыцца вышэйшай адукацыі на беларускай мове, безумоўна, гэта патрэбна. Я асабіста з'яўляюся прыхільнікам актывізацыі працы па адкрыцці беларускіх універсітэтаў у самой Беларусі. Бо ёсць пэўныя праблемы ВНУ на эміграцы, якія раней ці пазней сутыкаюцца з пэўным крызісам самой ідэі. І мы бачым, як ЕГУ ў Вільні ўжо, на жаль, амаль не беларускі. Там іншая канцэпцыя, ён выжывае, ён становіцца агульнарэгіянальным — і беларускага там усё менш, і гэта вялікая праблема. І цяпер я размаўляю на гэтую тэму і ў Беларусі, што, можа быць, цяпер падыходзіць той час, калі мы агульнымі намаганнямі культурніцкіх, у першую чаргу, арганізацый Беларусі можам дабіцца нейкіх зрухаў у гэтым кірунку. Гэта надзвычай важна, таму што не будзе ў нас беларускай культуры — значыць, будзе руская культура. Месца пустога не бывае. Яно знікае — значыць, яно запаўняецца нечым іншым. І пытанне стаіць такім чынам.

**Ягор Астапеня:** Наколькі разумею, Клаўдыа Гуджэроці быў адзіным дыпламатам, які меў магчымасць сустракацца з палітычнымі вязнямі. І ў тым ліку з вамі. І хачу запытацца: як выглядалі гэтыя сустрэчы?

**Алесь Бяляцкі:** Сапраўды, гэта быў адзіны візіт з волі, апрача спатканняў з маёю жонкаю, вось гэта быў адзіны візіт іншага чалавека, які здолеў патрапіць на тэрыторыю калоніі. Не зусім так. Яшчэ быў візіт бабруйскага ксяндза, адзіны таксама. І потым вось візіт нунцыя, які адбыўся роўна ў дзень майго нараджэння, 25 верасня 2012 года. Гэта быў юбілей — мне было пяцьдзясят гадоў. І ён якраз у юбілей з'явіўся ў калоніі. Усё гэта выглядала дастаткова смешна і таямніча. Таму што, па-першае, мне ніхто не сказаў, з кім будзе сустрэча. Мяне папярэдзілі за дзве гадзіны: рыхтуйцеся, будзе сустрэча. З кім, там даведаецеся. Прыкладна за гадзіну калонія ўся была вычышчаная. Ні адзін чалавек не мог прайсці, дзве з паловай тысячы чалавек усе сядзелі ў сваіх казармах, і была поўная цішыня і пустата. Ну і з'яўленне нунцыя было — як быццам бы сышоў ледзь не Ісус Хрыстос у гэтую калонію. Ён ішоў з пасам чырвоным, вязні глядзелі ў вокны: хто гэта, што гэта? І мяне на гэтую сустрэчу завялі ў кабінет да начальніка калоніі. Яна адбывалася ў прысутнасці аднаго з кіраўнікоў выканання пакаранняў, які прыехаў з Менска, начальніка калоніі яны проста выгналі. Ён хуценька збег, хоць гэта самы важны чалавек у калоніі. І трэба было бачыць, як ён сыходзіць. І гэтая сустрэча, чым яна была для мяне асабіста важная — тым, што мяне за два дні перад ёй збіраліся пасадзіць у ШІЗА і ўжо афармілі гэтую пасадку, звадзілі на медыцынскае асведчанне, ужо рэчы я сабраў: туалетную паперу, тапачкі, усё, каб ісці ў гэты ШІЗА. А потым сказалі: не, заставайся. Было незразумела, у чым справа. А калі прыехаў нунцый, то я гэта звязаў у адно, што яны вырашылі не чапаць, а дазволіць гэтую сустрэчу.

**Беларускае Радыё Рацыя:** Такое асабістае пытанне: ці маеце вы нейкі план адпачынку, мары, як гэта будзе выглядаць?

**Алесь Бяляцкі:** Што датычыцца адпачынку, ізноў жа, мае мары былі, калі я хадзіў па гэтым дворыку турэмным, мары былі — пасля турмы паадпачываць у Крыме. Цяпер ужо зразумела, што мае мары не спраўдзяцца. У Крым я не патраплю ў найбліжэйшы час. Мне трэба ўсё ж такі яшчэ прызвычаіцца

да гэтага жыцця. Бо, ведаеце, тры гады прасядзеўшы ў зусім іншай псіхалагічнай сітуацыі. Ідзе працэс паступовай унутранай рэабілітацыі. Таму, думаю, да верасня ён будзе ісці. І ўжо ў верасні я буду ўжо ў зусім, мне здаецца, нармальнай форме, для таго, каб працягваць працу. Найбліжэйшы час пасля гэтага візіту ў Польшчу — усё, ніякіх візітаў больш не будзе. Я буду проста адпачываць, а дзе — яшчэ будзе вядома.

**Беларускае Радыё Рацыя:** Вы ўжо прыгадалі пра тое, што ў Беларусі застаюцца сем палітычных вязняў. Вы сказалі пра тое, што калі яны выйдуць на свабоду, і гэта бачыце сваёй першай задачай, што, магчыма, гэтае стаўленне, адносіны паміж ЕЗ і афіцыйнымі ўладамі Беларусі зменяцца. Як вы мяркуеце, чаму Лукашэнка не пойдзе на такі крок, не вызваліць сем чалавек? Бо гэта не такая вялікая колькасць, калі ён зацікаўлены ў ЕЗ, найбольш у грошах, якія могуць адтуль прыйсці.

**Алесь Бяляцкі:** Вось такая беларуская палітыка. Яна не такая простая, як здаецца. І часам нейкімі лагічнымі крокамі патлумачыць яе з пункту погляду звычайнага чалавека дастаткова цяжка. Хаця ў гэтым таксама ёсць пэўная логіка ўладаў. Гэтая логіка, мне бачыцца, заключаецца ў падтрыманні таго ўзроўню страху ў грамадстве, які існуе на сённяшні дзень. Бо наяўнасць палітвязняў, безумоўна, скоўвае актыўнасць грамадзянскай супольнасці ў Беларусі. Людзі адвольна, неадвольна — усё роўна прыкідваюць гэта на сябе, на свае сем'і, на сваіх сяброў, знаёмых. І гэта як той лёд, які скоўвае раку. Мне падаецца, гэта перашкаджае нармальнаму існаванню і развіццю беларускай грамадзянскай супольнасці. Улады гэта ведаюць і выкарыстоўваюць як інструмент кантролю за беларускім грамадствам, як інструмент пэўнага ціску. І атрымліваецца





так, што часам не трэба, каб сядзела семсот ці сем тысяч чалавек. Дастаткова сямі. А эфект атрымліваецца вельмі моцны.

**Беларускае Радыё Рацыя:** Вы ўжо паспелі трошкі пахадзіць па вуліцах Менска, праехацца ў метро. Нейкі ўзровень страху адчуваецца ў грамадстве?

**Алесь Бяляцкі:** Безумоўна, не. Калі ты ідзеш па Менску цяпер, то людзі вясёлыя, багата моладзі. Усе прыгожа апранутыя, страката. Дзяўчаты ўсміхаюцца. Гэта нармальна ў такой сітуацыі. Але ёсць пэўныя, я думаю, забароненыя тэмы, пра якія людзі не хочуць размаўляць ці размаўляюць у сваіх асяродках. Ці ўхіляюцца ўвогуле ад іх, як гэта часам бывае, калі чалавек не хоча думаць ні пра што паганае, а толькі пра харошае. І гэта ёсць. Гэта вельмі моцна, дарэчы, адчуваецца ў лагеры, зоне. Таму што на палітычныя тэмы са мной у прынцыпе было забаронена размаўляць, але людзі хацелі падтрымаць. То часам проста паказвалі адзін нейкі знак, палец падымалі, ці казалі «Трымайся!», ці «Жыве Беларусь!» маглі сказаць ціхенька. Большасць, канечне ж, маўчала і ўхілялася. Вось гэты нябачны кантроль — ён ёсць. Гэта адназначна, калі справа даходзіць да нейкіх больш вострых грамадскіх і палітычных пытанняў у грамадстве і калі людзі проста ўхіляюцца ад вырашэння ці не лічаць магчымым нейкім чынам вырашыць гэтае пытанне на станоўча.

**Беларускае Радыё Рацыя:** Вас ужо сёння неаднойчы назвалі «светлым, блакітнавокім сімвалам Беларусі». Наколькі, вы лічыце, асоба ёсць фактарам вызначальным у тым, як развіваюцца падзеі? І ці можа вырашаць штосьці адзін чалавек і на нешта паўплываць?

**Алесь Бяляцкі:** Грамадства будуецца з асоб. І асобы вызначаюць якасць грамадства, безумоўна. Таму я стаўлюся скептычна да сваёй ролі ў беларускім грамадстве. Яна такая, як ёсць, не большая і не меншая. Надзвычай важна, што ў нас ёсць шырокі праваабарончы рух. Надзвычай важна. Тыя пытанні, якія хвалююць мяне, хвалююць і сотні тысяч беларусаў, якія сёння яшчэ не могуць вырашыць гэтыя праблемы, якія мы маем. Але заўтра мы гэта, можа, здолеем, пры сваёй пэўнай паслядоўнай працы. Таму ўсе мы ўнікальныя, усе мы разнастайныя. Калі ў нас ёсць агульныя мэты, хаця б адно-два агульныя пытанні, якія могуць нас аб'яднаць, гэта ёсць рэальная магчымасць дасягнуць змен у сярэдзіне беларускага грамадства. У дадзеным выпадку мы хацелі б, каб мы былі больш дэмакратычным, больш прававым грамадствам і нармальнай дзяржавай, у якой мы і нашыя дзеці маглі б спакойна жыць.

**Беларускае Радыё Рацыя:** Вы не адзін раз падкрэслівалі, што такі пазітыўны погляд захоўваеце на жыццё, на дзейнасць, на тое, што адбываецца вакол вас і ў краіне. Ці можна назваць падставы, фундаменты гэтага пазітыўнага погляду на ўсё?

**Алесь Бяляцкі:** Той, хто не верыць ні ў што, той, хто нічога не робіць, той, як правіла нічога не дабіваецца. Тут трэба быць упартым дастаткова, трэба глядзець наперад і ісці наперад. І тады, як у той казцы — тая жабка, якая боўталася ў глечыку і ўрэшце збіла з малака кавалак масла і выскачыла з гэтага глечыка. Вось, можа, гэта і ёсць шлях нашага беларускага грамадства. Мы павінны няўхільна і няўтомна боўтаць лапкамі — і ўрэшце, думаю, што мы даб'ёмся свайго.





**Беларускае Радыё Рацыя:** Пытанне да Валянціна Стэфановіча, Праваабаронча цэнтра «Вясна». Ці штосьці змянілася ў працы і ў атмасферы самога цэнтра пасля таго, як Алесь Бяляцкі выйшаў на волю?

**Валянцін Стэфановіч:** Як мы жартуем у «Вясне» , калі Бяляцкага арыштавалі, гэта моцна дэзарганізавала працу арганізацыі. І калі яго вызвалілі, гэта таксама дэзарганізавала працу арганізацыі. Бо гэта ўнесла, канечне, радасны перапалох, таму што ніхто гэтага не чакаў. І, канечне, мы карэктавалі нашыя планы на найбліжэйшыя дні, таму што трэба было правесці шэраг прэс-канферэнцый, нейкіх іншых рэчаў. Ясна, што мы адкінулі нейкія нашыя бягучыя справы і займаліся гэтым. Але гэта радасныя клопаты. Гэта непараўнальна з тым, што было 4 жніўня 2011 года, таму мы вельмі радасныя з гэтай нагоды.

**Беларускае Радыё Рацыя:** Наколькі Алесь Бяляцкі той, які быў амаль тры гады таму, ці іншы?

**Валянцін Стэфановіч:** Не, я не думаю, што ён моцна змяніўся. Мы таксама хваляваліся, якога Алеся пабачым, таму што мы на практыцы, на жаль, ведаем, што турма пакідае свой адбітак на людзей. І шмат разоў бачылі гэта на ўласныя вочы. Яшчэ з першых хвілін, як Алесь выйшаў з цягніка, мы ўбачылі, што гэта той самы Алесь, які жартуе, які вельмі аптымістычны, такі вясёлы. Моцна ён не змяніўся. Хаця, канечне, я думаю, можа, ён стаў больш мудры, таму што ў яго было шмат часу разважаць над рознымі рэчамі, над нашым жыццём у шырокім сэнсе. Ён напісаў шэраг кніг, і я думаю, што цяпер ён яшчэ з большым імпэтам працягне сваю дзейнасць.

**Беларускае Радыё Рацыя:** Наколькі, вы ацэньваеце, вось тая падтрымка і салідарнасць праваабарончых арганізацый, грамадскіх арганізацый, звычайных грамадзян паспрыяла вызваленню Алеся Бяляцкага?

**Валянцін Стэфановіч:** Я мяркую асабіста, што гэта адыграла вырашальную ролю ў вызваленні Алеся Бяляцкага. Бо калі б не было гэтай хвалі салідарнасці, не было такога ціску на ўлады Беларусі з боку міжнародных праваабарончых арганізацый і праваабарончых арганізацый нашых калег, журналістаў, проста людзей па ўсім свеце, я сказаў бы. Бо Алесь — віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH). І ўсе сябры, якія ўваходзяць у Федэрацыю, натуральна, па ўсім свеце ладзілі акцыі ў падтрымку Алеся. Усё гэта ў выніку спрацавала. І Алесь быў вызвалены раней, чым гэта магло б адбыцца, бо ягоны тэрмін заканчваўся праз паўтара года. І мы ў прынцыпе настроеныя былі досыць песімістычна. Таму што падстаў для вызвалення Алеся прававых не было, хаця мы, канечне, разумелі, што ў нашай беларускай сітуацыі далёка, я сказаў бы, зусім не ўсё вырашаецца прававымі механізмамі. І галоўнае — гэта палітычная воля кіраўніцтва краіны, пры наяўнасці якой палітычныя вязні могуць быць вызваленыя. Прававыя механізмы — гэта ўжо пытанні другасныя. Тым не менш мы разумелі, што па Законе аб амністыі, які планаваўся і прымаўся парламентам, там было напісана, што на злосных парушальнікаў рэжыму ўтрымання амністыя не распаўсюджваецца. І ў 2012 годзе такая амністыя не закранула Алеся. Таму мы былі настроеныя досыць песімістычна. І для нас было досыць нечаканым сюрпрызам тое, што Алесь быў вызвалены ў першы ж дзень амністыі. І канечне, гэта заслуга ўсіх тых, хто падтрымліваў Алеся ўсе гэтыя гады.





**Беларускае Радыё Рацыя:** Як вы мяркуеце, сёння Лукашэнка будзе выкарыстоўваць гэтыя вызваленні ў сваіх мэтах?

**Валянцін Стэфановіч:** Я мяркую, што будзе. Таму што гэта было палітычнае рашэнне, а не прававое. Канечне, для ўнутранага спажыўца яны гавораць, што тут нічога экстраардынарнага няма — маўляў, патрапіў чалавек пад амністыю. Бо катэгорыя ягонага злачынства трапляла пад амністыю. Але на вонкавым рынку, так скажам, я думаю, што нашыя ўлады захочуць атрымаць нейкія бонусы ад гэтага. Але, я думаю, што міжнародная супольнасць будзе паслядоўнай у сваіх патрабаваннях і настойваць на вызваленні ўсіх палітычных вязняў, а не продажы іх па адным, як на базары. Таму я спадзяюся, што Еўрапейскі Звяз будзе паслядоўны і прынцыповы.

*11 ліпеня 2014 года*

## Алесь Бяляцкі: Я параўноўваю гісторыю народа з палатном, якое тчэцца

**Юрка Ляшчынскі:** Сёння вашай увазе прапануем размову з Алесем Бяляцкім — вядомым беларускім праваабаронцам, заснавальнікам праваабарончай арганізацыі «Вясна». Спадар Алесь з'яўляецца сябрам пяціасабовай Рады Цэнтра даследаванняў грамадзянскай супольнасці Беларусі. Архівы: якое яны маюць значэнне ўвогуле для беларускай гісторыі, для наступных пакаленняў?

**Алесь Бяляцкі:** У сённяшні час, калі ідзе ідэалагічнае змаганне, пытанні культуры, мовы, гісторыі Беларусі маюць не толькі культурніцкі і выхаваўчы кантэкст, але таксама

і палітычны, грамадскі кантэкст. Бо фактычна мы бачым, як новая гісторыя апошнія дваццаць-трыццаць гадоў у тых падручніках, якія вывучаюць беларускія дзеці цяпер, тое, што гучыць з афіцыйных СМІ, мае вельмі прыгладжаны выгляд. І прападаюць цэлыя кавалкі сапраўднай гісторыі, барацьбы за дэмакратыю, за незалежнасць, сведкамі якой былі і мы. Таму гэта яшчэ мае асаблівае значэнне цяпер, калі коціцца хваля «русского мира», ідэалогіі, якая мае на мэце анексаваць, правесці аншлюс у дачыненні да ўсіх постсавецкіх краін, можна так сказаць, і гэта мы выразна бачылі на прыкладзе Украіны, што там адбывалася апошні час. Што адбывалася ў Прыднястроўскім рэгіёне, у Малдове. Там, дзе ёсць руская мова, там, дзе ёсць «рускі мір», паўстае патэнцыйная пагроза для незалежнасці гэтых краін, якія вылamaліся ў свой час з Савецкага Саюза. Тое самае адбываецца фактычна і ў нас. Таму назапашванне, навуковая апрацоўка і прапаганда паказвання гістарычных набыткаў і сапраўднай гісторыі Беларусі, якая яна была апошнія дваццаць пяць гадоў, з'яўляецца надзвычай важным чыннікам для фармавання і кшталтавання беларусаў як народа. Фактычна ад гэтага шмат у чым залежыць, ці будуць беларусы еўрапейскім народам праз нейкі час, ці гэта будзе шэсць расійскіх губерняў, дзе ўсё, што звязана з Беларуссю, будзе ўспрымацца на дэкаратыўна-этнаграфічным роўні, што не мае ніякага значэння ў жыцці народа.

**Юрка Ляшчынскі:** Менавіта ў падручніках цяпер у Беларусі вывучаюць даволі спрошчаную гісторыю Беларусі.

**Алесь Бяляцкі:** Насамрэч, я якраз прыхільнік дастаткова простай гісторыі, нескладанай. Справа ў тым, што гэта сыходзіць з магчымасцяў чалавека ўспрымаць інфармацыю, сярэдняга чалавека ўспрымаць пэўны аб'ём інфармацыі. Ён не мусіць быць занадта складаным, ён не мусіць быць нецікавым. Ён мусіць быць просты, цікавы, захапляльны, пабудаваны на жыццёвых фактах, якія б кшталтавалі пэўны інтарэс да сваёй мінуўшчыны — і на базе гэтай мінуўшчыны ішла выбудова нейкіх сённяшніх дзеяў маладога пакалення і людзей. Ёсць розныя шляхі, узроўні разумення гісторыі і прапаганды гістарычных ведаў. Тое, што датычыцца такога простага ўзроўню, не патрабуе вялікіх складанасцяў, мне здаецца. Але патрабуе яснасці, дзеля чаго гэта ўсё робіцца і дзеля чаго гэтая гісторыя павінна быць зразумелай, скажам, ці прапагандаванай у беларускім грамадстве. Што тычыцца найноўшай гісторыі, тут сітуацыя яшчэ больш складаная. Таму што мы сутыкаемся з яўна ідэалагічным заказам уладаў Беларусі, каб проста замоўчваць цэлыя кавалкі беларускай гісторыі. І, напрыклад, прайшло ўжо дваццаць гадоў фактычна, калі цэлае пакаленне беларусаў выхавалася пры ўладзе Лукашэнкі, якія фактычна не памятаюць, што ў нас было, напрыклад, у канцы васьмідзясятых гадоў, што ў нас было на пачатку дзевяностых, як развіваліся пачаткі беларускага нацыянальнага, дэмакратычнага руху ў васьмідзясятых гадах, як гэта прывяло крок за крокам да здабыцця незалежнасці Беларусі ў 1991 годзе. Гэта ўсё з'яўляецца нашай гісторыяй, якую мы павінны, як я мяркую, цяпер паспець ухапіць яшчэ, апісаць і паказаць, што вельмі важна. Таму актуальнасць збору інфармацыі пра падзеі, якія праходзілі ў Беларусі ў васьмідзясятыя, дзевяностыя гады, тыя падзеі, якія звязаныя з грамадскім, палітычным жыццём Беларусі, з развіццём моладзевага дэмакратычнага руху, тагачасных культурніцкіх ініцыятыў, маюць надзвычай важнае значэнне для выхавання будучых пакаленняў. Таму



Інтэрв'ю

што мы, як гэта ні дзіўна, сталіся ўдзельнікамі вельмі яркіх і значных гістарычных падзей у Беларусі. Гэта і першая дэманстрацыя, першыя падпольныя моладзевыя беларускія арганізацыі, першая грамадская дзейнасць, якая працавала як ланцуговая рэакцыя. Яна выклікала потым вялікі грамадскі рэзананс. Яна прывяла да вялізных зрухаў ва ўсім грамадстве. І гэты перыяд патрабуе падрабязнага апісання, асэнсавання. І яшчэ раз я падкрэсліваю, гэтай папулярызацыяй, прапагандай мы павінны паказваць, якім у нас быў гэты шлях да незалежнасці Беларусі. Чаго мы дасягнулі і чаго нам яшчэ трэба дасягнуць, таму што насамрэч гэты шлях яшчэ не скончыўся. І гэтая новая гісторыя працягвае рабіцца нашымі рукамі і ўжо маладзейшым пакаленнем, але ў тым ліку яшчэ і намі.

**Юрка Ляшчынскі:** Пра васьмідзясятыя гады вы таксама пішаце ў сваёй кнізе ўспамінаў: як рабілі першыя дэманстрацыі, першыя літаратурныя сустрэчы, першыя мітынгі ля помнікаў... Гэтага няма ў падручніках гісторыі. Гэта пакуль што невялікім тыражом выдаецца, але ёсць гэты невялічкі ручаёк, які паказвае сапраўднасць, адкуль гэта пачалося.

**Алесь Бяляцкі:** Насамрэч я задумаўся пра гэта, калі прайшло ўжо там за сорак. Я задумаўся, што мы з'яўляліся і з'яўляемся ўдзельнікамі пэўных гістарычных падзей, якія патрабуюць сваёй фіксацыі і паказу. Вельмі важныя гэтыя ўспаміны, фотаздымкі і тыя друкаваныя матэрыялы, рукапісы, нейкія самвыдавецкія матэрыялы, якія выходзілі ў той час, для асэнсавання гістарычнага працэсу новага часу. Таму тое, што раблю я, гэта ёсць сапраўды фіксаванне сябе ў гістарычным працэсе. Што вельмі важна, мяркую, было б рабіць усім тым, хто браў удзел у грамадскіх, палітычных рухах васьмідзясятых,





дзевяностых і двухтысячных гадоў. Мы мусім гэта фіксаваць, мы мусім гэта паказваць, мы мусім гэта папулярызаваць, калі мы хочам, каб гісторыя мела сапраўды нейкае стэрэагучанне, каб яна не падавалася толькі з пункту погляду афіцыйных уладаў, афіцыйнага псеўданавуковага асэнсавання сучаснай новай беларускай гісторыі. І трэба сказаць, што ў Беларусі, насамрэч, некалькі на сённяшні дзень асяродкаў, навуковых ці грамадскіх, якія займаюцца зборам, папулярызацыяй такой інфармацыі. Я звярну ўвагу на сайт vytoki.net, які з'яўляецца вынікам працы некалькіх грамадскіх арганізацый, дзе перыядычна размяшчаюцца матэрыялы, якія датычацца найноўшай гісторыі Беларусі. І дзе, я спадзяюся, колькасць гэтых матэрыялаў будзе павялічвацца ўсё больш і больш. Таму што сайт гэты мае адкрытую прастору і можна любому чалавеку размясціць на гэтым сайце нейкія свае матэрыялы, якія маюць гістарычную каштоўнасць ці маюць дачыненне да гісторыі Беларусі. І тады гэта становіцца набыткам усяго грамадства.

**Юрка Ляшчынскі:** Часам улады замоўчвалі існаванне апазіцыі, незалежніцкага руху ў васьмідзясятыя гады. Ці можна цяпер дайсці нейкім чынам да тых афіцыйных дакументаў, што тады савецкая міліцыя рабіла, ці запісана, схавана гэта дзесь у архіве?

**Алесь Бяляцкі:** На сённяшні дзень гэтыя архівы яшчэ не даступныя для звычайнага грамадзяніна ці звычайнага навукоўца, які хацеў бы вывучаць гэты час. Гэта архівы, якія маюць пэўны ровень доступу. І таму вельмі важныя асабістыя архівы людзей. Асабістыя архівы, дзе ляжаць і пастановы судовыя, і апісанні нейкіх гістарычных падзей, і фотаздымкі. Вось гэта

цяпер надзвычай важна. Я проста з вялікім задавальненнем бачу, як асобныя людзі і палітзняволеныя некаторыя, Андрэй Клімаў, напрыклад, выстаўляе ў «Фэйсбуку» свае фотаздымкі, якія датычыліся ягонай палітычнай дзейнасці дзевяностых гадоў, да таго, як ён патрапіў у турму. І гэта ўжо ёсць кавалак беларускай гісторыі. Таму я заклікаў бы ўсіх грамадскіх актывістаў, хто працаваў і адышоў, хто цяпер яшчэ працуе, хто на пенсіі, заняцца ўпарадкаваннем сваіх архіваў і паказаць іх людзям, каб яны не прапалі. Таму што, на жаль, паперы і фотаздымкі прападаюць, а вельмі важна, каб гэта ўсё засталося для выхавання наступных пакаленняў беларусаў, для выхавання нашага беларускага грамадства, для аб'ектыўнага паказу беларускай гісторыі — такой, якой яна была цягам апошніх трагічных, драматычных дваццаці пяці гадоў.

**Юрка Ляшчынскі:** Чаму акурат Праваабарончы цэнтр «Вясна» заняўся гэтай справай? Гэта высакародная справа, але першнаперш мусяць гісторыкі, архівісты займацца гэтым. А заняліся вы.

**Алесь Бяляцкі:** Мы займаемся ўскосна, мы не займаемся наўпрост. Таму што гэта ёсць адна з ускосных нашых задач, не самая галоўная. Але мы бачым, як гісторыя беларускага праваабарончага руху патрабуе сваёй папулярызацыі, асэнсавання і збору матэрыялаў. І, канечне, мы зацікаўленыя ў тым, каб збіраліся матэрыялы, якія датычацца гісторыі праваабарончага руху, гісторыі барацьбы за правы чалавека ў Беларусі, якія шмат у чым перасякаюцца з грамадскай, палітычнай, культурніцкай барацьбой і культурніцкім жыццём Беларусі. І гэтая гісторыя надзвычай важная, таму што яна паказвае, як беларускі народ змагаецца за сваю незалежнасць. І канкрэтныя актывісты: за правы чалавека, за свае правы, за правы іншых беларускіх грамадзян. Гэта ёсць тое, у чым якраз вельмі не зацікаўленыя ўлады Беларусі — у тым, каб гэта было паказана на сённяшні дзень.

**Юрка Ляшчынскі:** Ці можа гэта памяняцца афіцыйна, калі зменіцца ўлада? Шмат не памяняецца?

**Алесь Бяляцкі:** На сённяшні дзень, можа быць, і так. Але гэта праца на гады, гэта праца на перспектыву, гэта праца, якая мае выхаваўчы і асветніцкі сэнс. І гэта праца цягнецца столькі, колькі існуе народ і колькі існуе нацыя. Увесь час трэба займацца гэтай працай. І трэба пачынаць яе рабіць сёння, трэба працягваць яе рабіць заўтра — паслязаўтра яшчэ хтосьці далей працягне яе. Тады, такім чынам, фармуецца фактычна нейкае народнае, нацыянальнае ўсведамленне сябе як народа. Сваіх правоў, свайго месца ў гэтым свеце і гэтак далей. Таму я не стаў бы рабіць акцэнт на гэтых выбарах, гэта не больш чым чарговая старонка ў гісторыі Беларусі, прычым, як бачна, прахадная старонка, яна не будзе нейкай гістарычна важнай. Тым не менш усё, што тычыцца змагання і адстойвання сваіх правоў у Беларусі, для нас цікавае. Таму і нашая праца па маніторынгу сітуацыі, па фіксацыі нейкіх эпізодаў сучаснай беларускай гісторыі, думаю, таксама важная, яна застанецца.

**Юрка Ляшчынскі:** Тады, можа, зрабіць нейкі заклік да людзей, якія часам выехалі з Беларусі, часам яшчэ жывуць, але ўжо афіцыйна, прафесійна не займаюцца такімі справамі, як архівізацыя сваёй мінуўшчыны?

**Алесь Бяляцкі:** Безумоўна, гэта вельмі важна. І гэта такі мінімальны культурніцкі ўзровень кожнага культурнага чалавека, які павінен пакінуць пасля сябе архіў у нармальным парадку. Каб ён быў упарадкаваны, па-першае. А па-другое — каб ён быў адкрыты. І ўлічваючы, што цяпер ёсць магчымасці доступу да «Фэйсбука», да сайтаў, да іншых сродкаў масавай інфармацыі, фактычна кожны чалавек можа зрабіць свой архіў у «Фэйсбуку», напрыклад. Ніхто не можа гэтага забараніць. І гэта надзвычай важна. Канечне, надзвычай важнае напісанне ўспамінаў, бо з гэтых суб'ектыўных успамінаў людзей потым складваецца рэальная гісторыя краіны, рэальная гісторыя народа. Таму гэта вельмі важна ўсім беларусам, якія працавалі дзеля Беларусі — і ў самой Беларусі, і па-за яе межамі. Таму што на сённяшні дзень можна жыць за мяжой Беларусі — і працаваць на Беларусь, настолькі свет гэты стаў маленькі, настолькі ён стаў празрысты. Такія магчымасці ёсць. І вельмі важна фіксаваць гэтую працу, вельмі важна паказваць грамадскія інтарэсы, грамадскі энтузіязм беларусаў, таму што яго цяпер надзвычай не хапае ў самой Беларусі.

**Юрка Ляшчынскі:** Часам звычайная штодзённая падзея можа аказацца праз некалькі гадоў ці некалькі дзясяткаў гадоў важным гістарычным фактарам, які вызначае нейкі шырэйшы лёс народа.

**Алесь Бяляцкі:** Я параўноўваў бы гісторыю народа з палатном, якое тчэцца. Вось каб саткаць гэта палатно, патрэбныя тысячы нітак. І тады яно атрымліваецца як бы суровым, надзейным і можа вытрымаць багата што. Таму вельмі важна, каб кожны з беларусаў плёў сваю нітачку ў агульны беларускі сувой.

*12 ліпеня 2015 года*




З бардам
Андрэем Мельнікавым
на мітынгу каля Опернага
тэатра. Менск, 1997 год



Чарнобыльскі шлях.
Менск, 1997 год.
*Аўтар фота:*
*Уладзімір Сапагоў*



Прэзентацыя першага «Агляду-хронікі парушэння правоў чалавека ў Беларусі». Менск, люты 1999 года.
*Аўтар фота: Уладзімір Сапагоў*




Алесь Бяляцкі і Валянцін Стэфановіч. Міжнародны дзень правоў чалавека. Менск, 10 снежня 2000 года

Вярхоўны суд Беларусі прыняў рашэнне аб ліквідацыі Праваабарончага цэнтра «Вясна». У знак нязгоды з судовым рашэннем вясноўцы селі на падлогу ў судовай зале і пачалі скандаваць «Ганьба!»
Менск, 28 кастрычніка 2003 года



Затрыманне Алеся Бяляцкага на Дзень Волі, плошча Свабоды. Менск, 25 сакавіка 2004 года





На святкаванні пяцігоддзя Праваабарончага цэнтра «Вясна» з пісьменнікам Кастусём Тарасавым. Менск, 2001 год



З супрацоўнікамі штотыднёвіка беларусаў Польшчы «Ніва». Беласток, 2006 год



З Яўгенам Вапам на святкаванні пяцідзесяцігоддзя штотыднёвіка беларусаў Польшчы «Ніва». Беласток, 2006 год



З Івонкай Сурвілай на святкаванні пяцідзесяцігоддзя штотыднёвіка беларусаў Польшчы «Ніва». Беласток, 2006 год





У судзе Маскоўскага раёна.
Менск, лістапад 2011 года



Палітвязень калоніі № 2.
Бабруйск, 2013 год





Марцін Рэмбач,
Алесь Бяляцкі,
Юрка Ляшчынскі,
Вольга Ахрук. Варшава,
ліпень 2014 года



У Еўрапейскім парламенце
разам з нобелеўскай
лаўрэаткай Святланай
Алексіевіч. Брусель,
27 чэрвеня 2017 года




З Міколам Дзядком, Таццянай Нядбай, Уладзімірам Някляевым, Дзмітрыем Драздом і Аляксандрам Лукашуком падчас уручэння прэміі Францішка Аляхновіча за найлепшы твор, напісаны ў турме. Менск, 2019 год



Алесь Бяляцкі і старшыня Беларускага Хельсінкскага Камітэта Алег Гулак

## Алесь Бяляцкі: Як краіна, як народ мы толькі адбываемся

**Таццяна Смоткіна:** Госць праграмы «Мы бачым» — праваабаронца і публіцыст, кіраўнік Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі. З ім мы сустрэліся напярэдадні Міжнароднага дня правоў чалавека. У 2018 годзе Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека спаўняецца 70 гадоў. Яе прынялі 10 снежня 1948 года. Дакумент перакладзены больш як на 370 моваў і дыялектаў свету. Дэкларацыю падпісалі ўсе чальцы ААН. Гэта 192 краіны. Сёння ў перадачы будзем размаўляць на гэтую тэму. У прыватнасці, пагаворым пра стан з правамі чалавека ў Беларусі.
У адным з раздзелаў вашай кнігі было напісана, што сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі — гэта проста катастрофа. Кніга выдавалася ў 2014 годзе. Як вы лічыце, за гэты час змянілася штосьці да лепшага? Ці ўвогуле штосьці змянілася?

**Алесь Бяляцкі:** Так, гэта кніжка «Халоднае крыло Радзімы», яна выйшла ў 2014 годзе. Была складзеная фактычна з тэкстаў, якія напісаў яшчэ да турмы, частку з іх, а частка была напісаная ў турме. І вось гэты сказ адносіцца да тэкстаў, якія былі напісаныя яшчэ да 2011 года. Таму можна сказаць, што па вялікім рахунку ў Беларусі мала што мяняецца апошнія дваццаць пяць гадоў. Мы сутыкаемся ўвесь час з тым, што дзяржава спрабуе абмежаваць правы чалавека, канкрэтных грамадзян. І гэта самыя разнастайныя правы, не толькі грамадска-палітычныя і сацыяльныя. Мінулы год выразна паказаў, гэтыя акцыі пратэсту, якія пайшлі супраць Дэкрэта аб дармаедах. Яны паказалі, што значная колькасць людзей пачынае рэагаваць на парушэнне іх правоў — і сацыяльных,

і эканамічных, і экалагічных. Вось 2018 год вызначыўся перманентнымі, пастаяннымі акцыямі супраць пабудовы шкодных прадпрыемстваў у Светлагорску, у Берасці — гэтых заводаў, якія будуюцца за кітайскія крэдыты. І відавочна, што калі людзям наступаюць на балючы мазоль, людзі пачынаюць супраціўляцца, адчайна. Хоць беларусы вельмі цярплівыя, яны цярпяць да апошняга — але надыходзіць такая рыса, калі проста гэтае цярпенне заканчваецца. І на жаль, агульная сітуацыя з правамі чалавека ў нас застаецца кепскай. І нейкіх сур'ёзных прарываў, сур'ёзных паляпшэнняў няма. Усё ўлады стараюцца трымаць пад кантролем. І нават тыя апошнія экалагічныя акцыі паказваюць, што калі ў Светлагорску было адзінаццаць заявак на правядзенне пікетаў, дзе людзі хацелі выказаць сваю думку, яны атрымалі адзінаццаць адмоваў. У Берасці гэты лік трыццаць сем — адзін. Трыццаць сем адмоваў — і адзін дазвол. Відавочна, што ўлады парушаюць права беларускіх грамадзян на мітынгі, на сходы, на магчымасць мірна выказацца, давесці сваю думку да ўладаў, паспрабаваць неяк змяніць сітуацыю. І ў гэтым ёсць праблема. Праблема ёсць таксама і ў распаўсюдзе інфармацыі. Мы бачым, якія цяпер былі крымінальныя справы — так званая справа БелТА ў гэтым годзе. Праблемы ёсць з працай няўрадавых арганізацый. Мы бачым, што ў гэтым годзе былі адмовы ў рэгістрацыі няўрадавых арганізацый. Ну і судовы працэс над лідарамі прафсаюзаў паказвае, што і ў незалежных прафсаюзах улады таксама бачаць патэнцыйную небяспеку. І гэтая сітуацыя ненармальная. Нягледзячы на тое, што Дэкларацыі правоў чалавека вось ужо семдзесят гадоў, але вось гэты сталінскі падыход... Таму што яна прымалася яшчэ ў 1948 годзе, тады, калі ў нас лютавала сталіншчына і пра ніякія правы чалавека ўвогуле гаварыць не даводзілася... Тым не менш рэцыдывы





сталіншчыны тых часоў, знявагі да правоў чалавека перайшлі ў сённяшні час і, на жаль, гэтая сітуацыя ніяк не канчаецца.

**Таццяна Смоткіна:** Вы ў гэтай кнізе параўналі нашую краіну з дзвюма птушкамі — гэта зязюля і чайка. Гэта было, усё ж такі, некалькі гадоў таму. А цяпер з якой птушкай вы параўналі б нашую краіну?

**Алесь Бяляцкі:** Цяжка, мне нічога не прыходзіць у галаў, з чым можна параўнаць Беларусь. Можа нават, не з птушкай. Можна параўнаць з такім хваравітым дзіцём. Таму што як краіна, як народ мы толькі адбываемся цяпер. І ў нас вельмі багата праблем. І нам варта вырашаць гэтыя праблемы, не паглыбляць тыя хваробы, на якія хварэе нашае грамадства, яшчэ пачынаючы з савецкіх, са сталінскіх часоў. Гэта татальныя парушэнні правоў чалавека, гэта недаацэнка каштоўнасці асобы чалавечай, гэта адсутнасць салідарнасці. Гэта праблемы, з якімі мы мусім працаваць далей, нягледзячы на тыя перашкоды, якія стаяць перад намі. І відавочна, што свет не такі просты. Не так проста можна ўсё выправіць за год-паўтара, як камусьці хацелася. Як, можа, мы думалі гадоў трыццаць таму, што мы даволі хутка можам змяніць свет. Насамрэч — не. Свет мяняецца павольна, але няўхільна. І дзеля гэтага трэба працаваць. Я думаю, што свае хваробы, гэтыя дзіцячыя хваробы Беларусь пераадолее — і мы выб'емся на больш-менш прыстойны і прымальны ровень самапавагі, павагі да правоў чалавека, павагі да дэмакратыі, ну і эканамічнага дабрабыту.

**Таццяна Смоткіна:** Колькі яшчэ трэба гадоў, на вашую думку?

**Алесь Бяляцкі:** Майсей вадзіў яўрэяў сорак гадоў па пустыні, пакуль яны знайшлі сваю абетаваную краіну. Вось мы зараз знаходзімся ў гэтым самым паходзе. Будзем лічыць, што з 1991 года мы ўжо прайшлі дваццаць сем гадоў. Значыць, яшчэ трынаццаць засталося. Можа быць, гэта сімвалічная дата, яна не будзе дакладна такой, але я вельмі спадзяюся на тое, што нас чакаюць лепшыя часы.

**Таццяна Смоткіна:** Вы сказалі, што за дзесяць гадоў было больш за дзвесце палітычных зняволеных. Але мне падаецца, што ўсё ж такі апошнім часам іх становіцца ўсё менш. Чаму так? Напрыклад, чакалі ўсе, што, напэўна, і Фядыніч з Комлікам будуць палітзняволенымі, але ўсё ж такі іх не пасадзілі.

**Алесь Бяляцкі:** Улады сапраўды цяпер дзейнічаюць больш абачліва, калі параўнаць з тым, як гэта было дзесяць-пятнаццаць гадоў таму, і шукаюць іншыя механізмы ўціску на грамадскіх актывістаў, на палітычных актывістаў, якія не звязаныя з брутальным зняволеннем. Але ў той жа час і агульная сітуацыя ў нас цяпер не вызначаецца нейкай палітычнай, грамадскай актыўнасцю. А мы ведаем, што рэпрэсіі наступаюць тады, калі ўздымаецца грамадская актыўнасць. Летась, у 2017 годзе, калі вясною адбываліся маршы пратэстаў супраць дэкрэта, калі адзначалася з вялікім шумам і праблемамі дата незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, мы памятаем так званую справу патрыётаў, па якой праходзілі амаль сорак чалавек. І там таксама людзей трымалі і месяц, і два, і болей у зняволенні. І ўрэшце выпусцілі без прад'яўлення якога-небудзь абвінавачання. Гэта відавочна быў ціск на грамадскіх актывістаў з мэтай узняць ровень страху ў грамадстве. Таму я думаю, калі грамадская актыўнасць у нас будзе з тых ці іншых прычын уздымацца — вось нас чакае прэзідэнцкая кампанія, паглядзім, як яна будзе адбывацца праз год... Я думаю, што ўлады не спыняцца перад тым, каб ізноў у нас з'явіліся палітычныя зняволеныя. Такіх жорсткіх абмежаванняў, скажам, у іхняй псіхалогіі, у іхніх паводзінах я не бачыў. Гэта неаднойчы ўжо паўтаралася: калі мы выходзілі, здавалася б, амаль на мінімальную колькасць палітзняволеных — потым надыходзіў нейкі палітычны крызіс і ўсё пачыналася наноў, дзясяткі людзей ізноў траплялі ў турмы.

**Таццяна Смоткіна:** Ці не падаецца вам, што вашая арганізацыя, «Вясна», знаходзіцца ў небяспецы? Таму што вы, атрымоўваецца, дзейнічаеце ад імя незарэгістраванай арганізацыі.

**Алесь Бяляцкі:** Я не думаю, што праваабаронцы — у першых шэрагах тых, каго ўлады лічаць сваімі сур'ёзнымі ці небяспечнымі апанентамі. Хутчэй за ўсё, для іх больш, як яны ўяўляюць, небяспечныя моладзевыя арганізацыі, палітычныя арганізацыі. Але праваабаронцы і журналісты, мне падаецца, ідуць другім эшалонам, а часам гэты эшалон выходзіць і на першыя ролі, на першыя месцы. Вось так, як сёлета адбылося з журналістамі з вядомых буйных інфармацыйных агенцтваў, якія праходзяць па «справе БелТА». Пераслед праваабаронцаў адбываецца фактычна ўвесь час. І пасля таго, як мяне выпусцілі, нагадаю, была з краіны фактычна выкінутая Алена Танкачова — праваабаронца, якая цяпер вярнулася ў Беларусь пасля трохгадовай высылкі. І відавочна, што за намі пільна назіраюць, за нашымі дзеямі. Але з другога боку, улічваючы, што беларуская праваабарончая супольнасць даволі вопытная, спелая і пашыраная і што кантроль ці маніторынг сітуацыі з правамі чалавека пастаянна робяць міжнародныя структуры,

такія, як Камітэт па правах чалавека ААН, спецдакладчык па правах чалавека, Рада Еўропы, Еўрапейскі Звяз, то вось гэтыя міжнародныя механізмы з'яўляюцца ў пэўнай ступені і нашай, хай і не стопрацэнтнай, але хоць нейкай гарантыяй таго, што рэпрэсіі супраць праваабаронцаў не набудуць нейкага фатальнага, крытычнага роўню. Я на гэта спадзяюся, хаця жыццё пакажа, як далей будуць развівацца ў нас дэмакратычныя працэсы, у які бок яны ўвогуле пойдуць. Бо гісторыя можа рабіць розныя зігзагі. Мы шчыра, сумленна выконваем сваю працу. Не збіраемся здавацца. Але што будзе, тое будзе.

**Таццяна Смоткіна:** Сапраўды, калі на ўладу ціснуць міжнародныя структуры, то тады нейкая рэакцыя ёсць. Толькі так яны рэагуюць. Нават не так на салідарнасць у краіне, як на міжнародныя структуры.

**Алесь Бяляцкі:** Безумоўна, гэта спрацоўвае. І Беларусь не такая вялікая, як Расія, і яна не можа так цынічна не зважаць на тыя крокі, якія робіць міжнародная, дэмакратычная супольнасць у адказ на татальнае парушэнне правоў. Беларусь — меншая краіна, яна больш чуйна рэагуе на такія сігналы. Таму нашая задача — таксама рыхтаваць якасныя аб'ектыўныя маніторынгі і паказваць, што тут адбываецца насамрэч, як беларусам, так і ўсяму сусветнаму грамадству.

*9 снежня 2018 года*





## Алесь Бяляцкі: Людзі сядзяць у турме гадамі за дробныя парушэнні

**Беларускае Радыё Рацыя:** Некалькі дзён таму вы былі ў Бабруйску, мабыць, у горадзе для вас не вельмі прыемным — вы там некалькі гадоў правялі ў калоніі. Цікава, хадзілі вы да гэтай калоніі?

**Алесь Бяляцкі:** Гэтым разам не. Сапраўды, у нас была іншая мэта візіту, хаця звязаная яна з палітычнымі рэпрэсаванымі. Мы прывозілі туды выставу, прысвечаную салідарнасці з палітрэпрэсаванымі, перапіскай з палітычнымі вязнямі, адпаведна, лістамі да іх і лістамі з калоній, якія з'яўляюцца цяпер ужо часткай нашай драматычнай гісторыі змагання за дэмакратыю, за правы чалавека ў Беларусі. За апошнія дваццаць гадоў больш за трыста асоб у нас ужо пераследаваліся ў крымінальным парадку за свае палітычныя погляды і перакананні. І гэтая выстава мае на мэце, канечне ж, актывізаваць падтрымку палітзняволеных, якія ёсць у нас увесь час. Мы прывезлі яе ў Бабруйск — там сядзіць цяпер Зміцер Паліенка ў бабруйскай калоніі, фактычна, у маёй роднай калоніі, калі можна так з іроніяй сказаць, дзе я правёў больш за два гады свайго жыцця. І мы хацелі прыцягнуць увагу да яго становішча, каб актывізаваць падтрымку — лістоўную, маральную, якую можа зрабіць кожны беларус. Бабруйск, сапраўды, горад для мяне не чужы. Па-першае, таму, што сваё юнацтва і дзяцінства я правёў у Светлагорску, а гэта недалёка. Мы даволі часта бывалі ў Бабруйску па розных сямейных пытаннях. Потым так склалася, што я сядзеў у бабруйскай калоніі і, шчыра кажучы, там было дастаткова нармальна псіхалагічна ў тым плане, што

я адчуваў сябе дзесьці блізка ад тога месца, дзе я правёў дзяцінства і юнацтва. Побач цякла тая самая Бярэзіна, бо калонія стаіць недалёка ад рэчкі. Таксама я правёў там багата часу ў дзяцінстве і калі ў школе вучыўся. Так што ўсё тут з'яўляецца такой лакальнай радзімай. Мне там было камфортна, сказаў бы. У псіхалагічным плане як геаграфічнага месца. А ў плане ўтрымання, канечне, ужо багата казалася мною і іншымі палітычнымі зняволенымі.

Сённяшнія калоніі патрабуюць вельмі сур'ёзнага рэфармавання. Таму што там асноўны кірунак уплыву на зняволеных — праз страх, праз запалохванні, праз абмежаванні і праз жаданне знішчыць асабістае «я». Тое, што было яшчэ ў свой час у савецкіх турмах і калоніях. Яно перайшло цяпер у беларускую сістэму пакаранняў і існуе. Гэта ёсць, і з гэтым мірыцца нельга. І гэта патрабуе вельмі сур'ёзнага рэфармавання. Ізноў жа, думаю, пры сённяшняй уладзе гэтага рэфармавання не адбудзецца. Але магчымыя, можа быць, нейкія невялікія, паступовыя крокі, якія б тым не менш паляпшалі агульную сітуацыю зняволеных у калоніях Беларусі. Бо ўсё ж такі час ідзе і няўхільна адбываюцца, хай і павольна, нейкія змены там, за кратамі.

**Беларускае Радыё Рацыя:** Асудзілі вас на чатыры з паловай года, прызнаўшы вінаватым ва ўхіленні ад падаткаабкладання. Вы віны сваёй не прызналі — тым не менш, тэрмін атрымалі. Цяпер падобная справа пачынае зноўку раскручвацца ў Беларусі — супраць кіраўнікоў прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Генадзя Фядыніча і Ігара Комліка. Тая ж самая схема. Нейкія рахункі за мяжой, з якіх яны не плацілі падаткі. Лідары прафсаюзу кажуць, што гэта не нашыя грошы, але следства не хоча чуць. Што рабіць?





**Алесь Бяляцкі:** Падрабязнасцяў па гэтай справе мы яшчэ не ведаем, але, наколькі я ведаю інфармацыю, то пакуль што ім не могуць прад'явіць нават таго, што прад'явілі мне. Паглядзім яшчэ, што на судзе пакажа следства, якія дакументы з'явяцца, якія б пацвярджалі атрыманне гэтых грошай, наколькі гэтыя дакументы будуць вартыя ўвагі. Пакуль што ні Генадзь Фядыніч, ні Ігар Комлік не прызнаюць сваёй віны, яны адмаўляюць атрыманне гэтых грошай на дзейнасць свайго прафсаюза. Будзем глядзець, што суд пакажа. Але агульная схема ціску на грамадзянскую супольнасць, на актыўныя арганізацыі — у дадзеным выпадку гэта прафсаюзы незалежныя, а сем гадоў таму гэта быў Праваабарончы цэнтр «Вясна» — назіраецца. Улады шукаюць, і ў першую чаргу КДБ, канечне ж, першую скрыпку грае, шукаюць шляхі абмежавання актыўнасці незалежных дэмакратычных няўрадавых арганізацый, незалежных прафсаюзаў Беларусі. І выкарыстоўваюць такія падступныя шляхі, абвінавачваючы лідараў арганізацый у няўплаце падаткаў, у тым, што яны ў нечым вінаватыя. Дарэчы, калі мяне абвінавачвалі ў тым, што я не плаціў свае падаткі, і на судзе нам удалося даказаць, што грошы ўсё ж такі ішлі на фінансаванне «Вясны», то спадароў Фядыніча і Комліка абвінавачваюць як кіраўнікоў прафсаюза, які атрымліваў незаконныя грошы. Тут у іх як бы іншы статус атрымліваецца. Хаця вынікі справы непрадказальныя. З аднаго боку, вельмі добра, што яны цяпер знаходзяцца на волі. І я не ведаю, як там будзе адбывацца суд і які будзе прысуд, але вельмі спадзяюся, што яны застануцца на волі. А з другога боку, жывучы ў нашай дзяржаве, ніколі не ведаеш, як можа пайсці гэтая справа. І як будзе трактавацца іхняя цвёрдая пазіцыя непрызнання віны і судом, і ўладамі Беларусі. Таму што зразумела, што

ў гэтай справе суд не будзе незалежным. І нашая задача тут — максімальна дапамагчы ім і грамадскай кампаніяй, і грамадскім рэзанансам. Я вельмі спадзяюся, што калі справа дойдзе да суда — а калі яны ўжо пачалі знаёміцца цяпер з крымінальнай справай, то так яно і выглядае, што будзе суд неўзабаве, можа праз месяц, два, тры... То я вельмі спадзяюся, што грамадзянская супольнасць, нашае грамадства будзе максімальна падтрымліваць іх у гэтай сітуацыі. І сваёй прысутнасцю на судах, і праз іншыя механізмы ўплыву, скажам, на гэтую сітуацыю. Таму што тут важная і міжнародная рэакцыя на гэтае незаконнае пакаранне, дзе суд адыгрывае мінімальную ролю. Мы ж усе выдатна разумеем, што гэта палітычны заказ. І гэты палітычны заказ на задушэнне актыўнасці ў грамадстве выконваецца такімі фармальнымі інструментамі, якія так фармальна маюць дачыненне да праўдзівасці правасуддзя.

**Беларускае Радыё Рацыя:** Уражанне, што ў нас непрадказальны не толькі суд, але і следства. Літаральна некалькі дзён таму гэтую справу адносна Фядыніча і Комліка працягнулі яшчэ на месяц. І раптам — менш чым праз тыдзень усё нехта перайграў. Такое ўражанне, што ўмяшаліся ў працу следства і загадалі.

**Алесь Бяляцкі:** Справа ў тым, што тэрміны, з аднаго боку, дазваляюць следства працягнуць. З другога боку, яны падціскаюць. І відавочна, што цяпер следчыя, якія вядуць гэтую справу, зразумелі, што ніякіх дадатковых фактаў, нейкай цікавай для іх фактуры яны ўжо не знойдуць. Былі апытаныя некалькі соцень сябраў прафсаюза па ўсёй Беларусі. Гэта, дарэчы, беспрэцэдэнтна, калі па крымінальнай справе супраць грамадскай арганізацыі была апытаная такая колькасць людзей. Зразумела, што гэтае апытванне таксама ёсць формай уціску на прафсаюзных актывістаў, таму што персанальна кожнаму трэба ісці адказваць на нейкія пытанні ў Следчы камітэт у сваім горадзе ці іншым месцы, дзе жыве гэты чалавек. І канечне, з таго, што яны цяпер змаглі сабраць, відавочна, што нічога большага і іншага ў іх ужо не атрымаецца. Таму справа падыходзіць да свайго завяршэння. Хаця, шчыра кажучы, я спадзяваўся, што яна да суда не дойдзе. Але відавочна, што рэпрэсіўныя механізмы, нягледзячы на адносны штыль у грамадскім, палітычным жыцці, тым не менш працуюць, працуюць на апярэджанне. Яны працуюць, сыходзячы з нейкіх агульных, стратэгічных для іх меркаванняў. Можа быць, тут і Арменія паўплывала — боязь нейкіх грамадскіх і народных зрухаў прымушае іх займацца гэтым незаконным прэсінгам, рэпрэсіямі супраць грамадскіх, прафсаюзных актывістаў. І гэта яшчэ раз падкрэслівае, што па сваёй сутнасці ўлада ў Беларусі з'яўляецца аўтарытарнай, антыдэмакратычнай і антынароднай.

**Беларускае Радыё Рацыя:** А як гэта можа паўплываць на адносіны з Захадам? Бо гэтыя адносіны пачалі станавіцца больш-менш дзелавымі, скажам так, пасля таго, як улады Беларусі вызвалілі палітвязняў і паабяцалі, што палітычнага пераследу не будзе. А тут усё больш і больш у няволі апынаецца людзей па палітычных матывах. Вы прыводзіце прозвішчы двух чалавек, Паліенкі і Жамчужнага. Некаторыя актывісты лічаць, што і іншыя пакараныя, сем чалавек яны называюць. Тут яшчэ і Фядыніч з Комлікам могуць апынуцца ў гэтым спісе, на жаль.

**Алесь Бяляцкі:** Улады Беларусі знаходзяцца ў складанай сітуацыі. З аднаго боку, сапраўды, жыццё іх падштурхоўвае да паляпшэння кантактаў і сувязяў у першую чаргу з Еўразвязам, таму што там грошы, там інвестыцыі, там крэдыты, там сучасныя тэхналогіі. Усё, што патрэбна для падтрымання беларускай эканомікі на нармальным роўні, таму што кітайскімі гэтымі заводамі яны толькі загадзілі Беларусь. Паглядзіце апошнія самыя вялікія праекты: акумулятарны завод пад Берасцем, цэлюлозны завод у Светлагорску — усе гэтыя кітайскія праекты канчаюцца верагоднай экалагічнай катастрофай. Урэшце, і расійскія праекты: тая ж атамная электрастанцыя пад Астраўцом — праект, які не вытрымлівае ніякай крытыкі з пункту погляду надзейнасці, экалагічнай бяспекі. Гэта ўсё вельмі небяспечныя, рызыкоўныя праекты. І на гэтых праектах не пабудуеш устойлівай эканомікі. Таму яны вымушаныя кантактаваць з Еўразвязам па розных эканамічных пытаннях. І ў той жа час другі відавочны момант — тое, што яны нічога не хочуць мяняць у палітычнай сістэме, якая склалася цягам апошніх дваццаці гадоў. І гэта з'яўляецца фундаментальнай праблемай, якая прымушае ўлады Беларусі праводзіць рэпрэсіўную палітыку ў адносінах да сваіх палітычных апанентаў, грамадскіх апанентаў у самой Беларусі. Я думаю, што, канечне ж, гэты судовы працэс не дадасць аўтарытэту, стабільнасці, іміджу ўладам. Наадварот, ён можа перакрэсліць тыя спробы, якія былі зробленыя за апошнія два гады. І гэта сур'ёзны выклік для стабільнасці адносін Беларусі з ЕЗ. Таму што гэтага суда не будзе цярпець еўрапейская супольнасць. І тут я перакананы, што рэакцыя будзе негатыўная. І дастаткова сур'ёзныя адмоўныя вынікі могуць атрымаць улады Беларусі ў выніку гэтага судовага працэсу.



Інтэрв'ю

**Беларускае Радыё Рацыя:** Яшчэ адна тэма, якая цяпер хвалюе беларускае грамадства, гэта пратэсты родных, блізкіх, маці тых людзей, якія асуджаныя за спажыванне ці продаж наркатычных сродкаў. Праслед нарказалежных людзей ці тых, хто распаўсюджвае, пачынаецца з чатырнаццаці гадоў. І тэрміны адразу велізарныя: дзесяць, пятнаццаць гадоў! Вы як праваабаронца як гэтую сітуацыю ацэньваеце? На чыім вы баку: улады, якая кажа, што наркотыкі гэта велізарнае зло, ці маці, якія кажуць, што зажорстка караеце?

**Алесь Бяляцкі:** Я таксама лічу, што гэтае пакаранне несувымернае з тымі праступкамі, хаця я не апраўдваю ўжывання наркотыкаў ні ў якай меры. Але пакаранне сапраўды вельмі жорсткае ў адносінах да людзей, якія з'яўляюцца ў першую чаргу наркаманамі. Тых, хто спажываюць гэтыя наркотыкі. Бо вельмі часта я з гэтым сутыкаўся ў калоніі, сядзеў з такімі людзьмі, калі відавочна, што размова не ішла ні пра які гандаль, ні пра які трафік, ні пра якую спробу нажыцца за кошт наркотыкаў. Гэта проста хворыя людзі, якіх рэальна трэба было лячыць, а не саджаць у турму і абвінавачваць у распаўсюдзе наркотыкаў. Бо заўсёды выплывалі нейкія смешныя дозы: палова грама, адзін грам... Што гэта, наркабароны беларускія, якіх сапраўды садзяць, даючы нейкія неверагодныя тэрміны? Я сядзеў яшчэ перад тым, як зрабілі больш жорсткім гэты артыкул, але ўсё роўна, людзі атрымлівалі шэсць, дзесяць гадоў. І гэта сапраўды вялізны кавалак жыцця чалавека. Замест таго, каб траціць грошы, сапраўды, на нейкія рэабілітацыйныя праграмы, на прыпыненне каналаў вялікіх паставак наркотыкаў у Беларусь, якія цяпер вялікай хваляй ідуць якраз з Расіі, з Усходу сюды... Прывозяць гэтую гадасць сюды, тут жа мяжа адкрытая, вязі што хочаш. Дык не, гэта лічыцца не

праблемай, бо тут палітыка, вельмі важна захоўваць добрыя адносіны з усходнім магутным суседам. А з другога боку, гэта робіцца за кошт самых звычайных людзей, моладзі ў першую чаргу. Таму што сядзяць маладыя людзі. Канечне, гэта вялізныя пакаранні, асабліва калі чалавек першы раз трапляе за краты, яны не даюць нічога добрага, яны фактычна ламаюць, перакрэсліваюць жыццё маладым людзям. Гэта сур'ёзная праблема, хаця, я паўтараюся, з гэтай праблемай — наркаманіяй, трафікам наркотыкаў як у Беларусь, так і праз Беларусь, трэба змагацца на іншым роўні. Гэтая праблема ёсць, і мірыцца з ёй нельга.

**Беларускае Радыё Рацыя:** Хаця, мабыць, нейкая логіка ва ўладаў ёсць. Не будзе спажывання тут — не будуць і наркотыкі сюды везці.

**Алесь Бяляцкі:** Ну, гэта так не робіцца і так не вырашаецца, за кошт лёсаў маладых людзей! І тыя галадоўкі сваякоў, якія цяпер прайшлі, гэта крык адчаю, можна сказаць. Таму што яны легальнымі спосабамі, легальнымі метадамі спрабавалі неяк завастрыць пытанне надзвычай вялікіх тэрмінаў па артыкуле 328. Гэта ўсё ўпіралася ў сцяну неразумення. Канечне, міліцыі так прасцей: пасадзіць усіх наркаманаў, прыбраць усіх алкаголікаў у ЛПП, расчысціць вуліцы. І ўсё, і праблемы няма. Гэта значна прасцей, чым працаваць з такім кантынгентам. Прычым працаваць тады трэба ўжо не толькі міліцыі, а і Міністэрству аховы здароўя, і Міністэрству адукацыі. І увогуле, усёй сістэме нашага грамадства трэба працаваць з гэтай праблемай. Не, прасцей, што называецца, дастаць шашку і парубіць ворагаў, пасадзіць гэтых хворых людзей, фактычна ізаляваць іх. Таму я, канечне, падтрымліваю іх сваякоў. Гэта сапраўды страшная бяда. І тое, што яны ў адчаі пачалі сваю галадоўку, — сур'ёзны званок. Прычым як дзяржаве, так і грамадству. Таму што праблема наркаманіі, праблема высокіх тэрмінаў за наркотыкі — праблема не толькі сваякоў. Ну і не толькі за наркотыкі — за іншае таксама даюць вельмі часта непрапарцыйна высокія тэрміны адказнасці. Людзі сядзяць у турме гадамі фактычна за дробныя парушэнні, калі б яны маглі значна больш і лепш выправіцца і штосьці зрабіць карыснае, калі б яны былі на волі. Нікому ад гэтага лепей не становіцца. Таму я падтрымліваю гэтых сваякоў і лічу, што яны вельмі правільна робяць, калі пачынаюць актыўныя акцыі з тым, каб яшчэ больш прыцягнуць увагу да праблем беларускага заканадаўства.

*11 траўня 2018 года*

## Пра перапахаванне парэшткаў Кастуся Каліноўскага: «Ён быў прадвеснікам нашай Незалежнасці»

*Алесь Бяляцкі параўнаў сітуацыю перапахавання парэшткаў Кастуся Каліноўскага з праблемай, якой прыйшлося займацца амаль трыццаць гадоў таму, — пераносу парэшткаў паэта Максіма Багдановіча з Ялты, дзе ён памёр у 1917 годзе, у Менск.*

**Алесь Бяляцкі:** На пачатку дзевяностых гадоў на ўзроўні Міністэрства культуры паўстала пытанне пераносу парэшткаў Максіма Багдановіча ў Менск. Я тады быў дырэктарам Музея Максіма Багдановіча. Мы прыйшлі тады да высновы, што лепш не чапаць гэтага пахавання. Бо сапраўды адбыўся вельмі моцны землятрус у канцы дваццатых гадоў. І месца адразу не было пазначана, пазначалі яго фактычна праз дзесяць

гадоў пасля смерці Максіма эксперыментальным шляхам: прыкладалі шыльдачку, якая проста валялася, да найбліжэйшых крыжоў, і вызначалі, куды яна больш падыходзіць. Таму мы вырашылі не чапаць таго пахавання. І быў другі важны аргумент — што перанос у Менск парэшткаў Максіма Багдановіча не адыграў бы той важнай сімвалічнай ролі, якую мусіў адыграць перанос парэшткаў вялікага класіка беларускай літаратуры. Бо дзяржава не надавала гэтаму патрэбнай увагі. Так застаецца і да гэтай пары. Што тычыцца сітуацыі з Кастусём Каліноўскім, то мне здаецца, для нас было б вельмі важна ведаць, што ў Вільні будуць перапахаваныя ягоныя парэшткі. І калі гэта будзе вядома на сто працэнтаў, значыць, мы сапраўды можам туды ехаць і ўшаноўваць яго. Для нашай гісторыі, для дэмакратычнай Беларусі, для незалежнай Беларусі ягоная асоба выключна важная. Ён быў прадвеснікам нашай Незалежнасці.

*8 ліпеня 2019 года*

## Алесь Бяляцкі: Мемуары для мяне — адзін з самых захапляльных жанраў літаратуры

*Гутарка пра мемуарную літаратуру і найноўшую гісторыю з Алесем Бяляцкім — літаратарам і праваабаронцам.*

**Беларускае Радыё Рацыя:** У 1994 годзе, падчас працы дырэктарам музея Максіма Багдановіча, вы ініцыявалі і зрабілі з супрацоўнікамі музея расчытку і падрыхтоўку да выдання мемуараў Адама Багдановіча — этнографа, бацькі паэта. «Мае ўспаміны» былі надрукаваныя ў часопісе «Нёман», і ў той жа год Васіль Быкаў назваў іх найлепшай кнігай года. Ва ўступе да ўспамінаў Адам Багдановіч наракае на недахоп мемуараў пра беларускую штодзённасць. Мемуары Адам Багдановіч пісаў у трыццатыя гады XX стагоддзя. Як вы ацэньваеце стан на сёння — усё ў парадку з беларускімі мемуарамі?

**Алесь Бяляцкі:** «Мае ўспаміны» Адама Багдановіча — адзін з самых цікавых твораў беларускай мемуарыстыкі. Нам пашанцавала ў свой час адкрыць гэты твор для шырокага чытача. У ім з фатаграфічнай дакладнасцю апісаная самабытнасць беларускага народа, адметнасць ягонага жыцця ў шасцідзясятыя — сямідзясятыя гады XIX стагоддзя. Для тых, хто шукае адказу на пытанне, чым беларусы адрозніваюцца ад суседніх народаў, у гэтых успамінах ёсць вельмі багата фактаў. Урэшце, яны даюць зразумець, адкуль у Максіма Багдановіча былі глыбокія веды пра жыццё і псіхалогію беларусаў, хоць ён амаль і не жыў на Радзіме. Гэтыя веды, у значнай ступені, ён атрымаў ад бацькі. Можна меркаваць, што і ягоны літаратурны талент генетычна выходзіць з творчых здольнасцяў бацькі і маці. Мемуары для мяне — адзін з самых захапляльных жанраў літаратуры. Яны цікавыя тым, што фіксуюць цякучае жыццё і бягучыя падзеі праз прызму суб'ектыўнага ўспрыняцця аднаго канкрэтнага чалавека. Яны істотна пашыраюць межы літаратуры. Цяпер большая частка чытанага мной — эсэ, успаміны, дзённікі, лісты. Нязмушаная жыццёвая праўда падаецца мне цікавейшай за фабулярную, прыдуманую літаратуру. На жаль, гісторыя апошняга стагоддзя беларусаў не была спрыяльнай для захавання дзённікаў, лістоў, напісання мемуараў. Адгукаецца траўма, атрыманая ў трыццатыя — пяцідзясятыя гады, калі за шчырыя асабістыя запісы можна было вельмі проста страціць свабоду, а то і жыццё. Дый у наступныя гады цэнзар страху моцна абмяжоўваў мемуарную літаратуру,

асабістыя запісы, якія часта становяцца асновай для мемуараў. Дастаткова згадаць выпадак з вядомым беларускім публіцыстам і гісторыкам Анатолем Сідарэвічам. За скрадзены ў яго ў 1967 годзе дзённік, у якім ён крытыкаваў ідэі Леніна, Анатоль Сідарэвіч быў звольнены з раённай газеты і неўзабаве патрапіў у вар'ятню. Таму мемуары і ўспаміны тых гадоў заўсёды трэба ацэньваць з разуменнем таго часу, у які яны ствараліся. Найбольш каштоўнымі з іх з'яўляюцца тыя, якія пісаліся «ў шуфляду», для сябе, не для друку. Я назаву два творы, напісаныя ў тыя нялёгкія савецкія часы, якія ўразілі мяне. Гэта «Аповесць для сябе» пісьменніка, вязня сталінскіх лагераў Барыса Мікуліча і «Споведзь» паэткі і зняволенай ГУЛАГа Ларысы Геніюш. Мемуары ж савецкіх партызан, людзей, якія прайшлі вайну, на жаль, былі, як правіла, вылегчаныя і мусілі служыць савецкай прапагандзе. Там вельмі мала шчырасці. Сітуацыя змянілася ў канцы васьмідзясятых, калі багата хто з людзей стаміўся баяцца і пачаў запісваць праўду. «Доўгая дарога дадому» Васіля Быкава, шасцітомныя дзённікавыя запісы Рыгора Барадуліна, якія яшчэ друкуюцца, — гэта толькі пачатак. Я думаю, што дзённікі і мемуары найноўшага часу хоць часткова запоўняць прыкры прабел у беларускім пісьменстве.

**Беларускае Радыё Рацыя:** Вы пачалі пісаць успаміны пра нацыянальна арыентаваны моладзевы рух васьмідзясятых яшчэ на пачатку двухтысячных, яны друкаваліся ў часопісе «Асамблея». Падчас зняволення вы напісалі пяць кніг, якія па праву адносяцца да літаратуры нон-фікшн. Успаміны ў іх дзеляцца на тры часткі: нацыянальна арыентаваны падпольны, паўпадпольны рух і культурны супраціў васьмідзясятых, праваабарончая дзейнасць і турма. Што пішаце цяпер?





**Алесь Бяляцкі:** Найбольшы папрок сабе — гэта тое, што я не вёў рэгулярных дзённікаў. У юнацтве рабіў асобныя запісы, урыўкі. А так шкада, бо часта апынаўся ў віры беларускіх падзей канца васьмідзясятых — пачатку дзевяностых гадоў. Больш-менш рэгулярны дзённік вёў у турме. Ён выйшаў асобнай кнігай «Турэмныя сшыткі» ў 2019-м, у серыі мемуараў і дзённікаў беларускіх вязняў апошняй хвалі «Беларуская турэмная літаратура». Я са шкадаваннем сутыкаюся з тым, з чым і большасць людзей: усё перажытае забываецца. Мне вельмі хочацца напісаць успаміны пра нашую працу ў музеі Максіма Багдановіча. Пра тыя часы, калі мы былі маладыя, апантаныя новым беларускім адраджэннем, у якім бралі актыўны ўдзел і ў музеі, і па-за яго сценамі. Але цяпер ёсць вялікая ўнутраная патрэба апісаць сваё перабыванне ў турме, 2011—2014 гады. Таму хачу зрабіць гэта найперш. Турэмныя ўспаміны натуральным чынам дзеляцца на тры часткі, прывязаныя да месцаў зняволення: Валадарка, СІЗА ў Жодзіне, калонія ў Бабруйску. Першую частку я ўжо амаль скончыў і цяпер штотыдзень выстаўляю тэкст у сваім блогу.

**Беларускае Радыё Рацыя:** У інтэрнэце пад успамінамі пра васьмідзясятыя — дзевяностыя гады часта з'яўляюцца з'едлівыя каментары, накшталт «успаміны і ніякай будучыні», папрокі ў палітычных паразах. Але напрыканцы васьмідзясятых быў цэлы шэраг пераможных грамадскіх ініцыятыў, акцый, якія былі абсалютна паспяховымі і дагэтуль уплываюць на рэчаіснасць, у якой мы жывём — накшталт акцыі ў абарону Верхняга горада ў 1989 годзе, экалагічнага ралі «Дзвіна-Daugava-87». Параза — гэта таксама вынік барацьбы, але тут поспех, рэальны поспех. Як гэты досвед выкарыстоўваць для моладзі?

**Алесь Бяляцкі:** Марная справа — ацэньваць каштоўнасць мемуараў у крытэрыях грамадскага ці асабістага поспеху. Нездарма найбольш цікавыя мемуары апісваюць трагічныя ці драматычныя старонкі жыцця чалавека ці тых падзей, пра якія ён піша. Чалавеку сытаму і задаволенаму жыццём часта няма пра што пісаць. Таму мне так цікава чытаць «У кіпцюрох ГПУ» Францішка Аляхновіча, пра гісторыю ягонага сямігадовага выжывання ў лагеры на Салаўках, ці ўспаміны беларускага дысідэнта Міхася Кукабакі, які шаснаццаць гадоў гарамычыў па турмах і псіхушках. Яны выйшлі ў кнізе «Міхась Кукабака», у 2016 годзе. Адказы ж на пытанне, што такое поспех, а што — параза, у грамадска-палітычным жыцці вельмі часта ўмоўныя. Здавалася б, на беларускім пытанні як на палітычнай з'яве ў сямідзясятыя гады XX стагоддзя савецкая ўлада паставіла крыж. Не было ніякіх падстаў спадзявацца на адраджэнне беларусаў як паўнавартаснага народа. Але у канцы сямідзясятых — пачатку васьмідзясятых гадоў, у гэты самы цяжкі для ўсіх дысідэнцкіх, праваабарончых і нацыянальных рухаў час савецкага валадарства, у нас узнікае новая хваля беларускага нацыянальна-дэмакратычнага адраджэння, якая арыентавалася на еўрапейскія каштоўнасці і марыла пра незалежную дэмакратычную Беларусь. Адкат, які пачаўся ў 1994 годзе з прыходам да ўлады прасавецкі настроенага прэзідэнта, запаволіў, але не спыніў нацыятворчых працэсаў ў шырокім беларускім асяроддзі, глыбокага ўсведамлення дэмакратычных каштоўнасцяў, у тым ліку — і правоў чалавека. Можна ўпэўнена сказаць, што беларусы як народ не знікнуць у сярэдняй перспектыве. Як гэта ацэньваць — як поспех? Зразумела, хацелася б большага. Як паразу? За трыццаць гадоў канчаткова не вырашана ніводнага пытання, якое мы ставілі ў канцы васьмідзясятых. Досвед кожнага пакалення застаецца з ім. Але непарыўнасць стваральнага гістарычнага працэсу забяспечваецца супольнай працай людзей з розных пакаленняў. Так падтрымліваюцца і ствараюцца традыцыі, нормы паводзінаў, грамадская мараль. Мы вымушаныя былі адкінуць савецкую лжывую мараль і займацца рэстаўрацыяй пераемнасці з тымі, каго з намі не было побач, хто быў забіты, высланы, эміграваў, затаіўся. Складаючы яе па кавалачках, як тую смальту ў мазаіцы. Спадзяюся, што маладзейшым цяпер у гэтым сэнсе лягчэй.

**Беларускае Радыё Рацыя:** Моладзь ужо і цяпер мае цьмянае ўяўленне пра канец васьмідзясятых — пачатак дзевяностых. Ці ёсць шанц ўсё ж зафіксаваць той час адэкватна, каб да яго мелі доступ тыя, хто хоча ведаць несфальсіфікаваную гісторыю?

**Алесь Бяляцкі:** На жаль, і нашая дэмакратычная супольнасць не ўсведамляе цалкам важнасці захавання памяці, у розных яе праявах, пра часы паўстання незалежнасці Беларусі. Не гаворачы ўжо пра калгасную дзяржаву, якая малюе ўласную версію падзей, герояў, гісторыі. Ад няведання часта можна сустрэць такое выказванне, што незалежнасць нечакана ўпала беларусам ледзь не з неба. А тое, што атрыманае надурніцу, адпаведна так і цэніцца... Я катэгарычна з гэтым не згодны. Ланцужок супраціву і барацьбы за незалежную, дэмакратычную, еўрапейскую Беларусь выразна прасочваецца з часоў паўстання Кастуся Каліноўскага. Тым не менш, штосьці робіцца. Гэтым у нас цяпер займаюцца асобныя даследчыкі, навукоўцы: Вацлаў Арэшка, Юры Лаўрык, Ларыса Андросік, Алег Дзярновіч ды іншыя. Цяпер у гэтым кірунку актыўна працуе Паліна Сцепаненка. Праведзеныя фотавыставы,

прысвечаныя падзеям васьмідзясятых гадоў, публікацыі ў СМІ — таму сведчаннем. Сайт vytoki.net, які рэгулярна папаўняецца і з'яўляецца пляцоўкай некалькіх няўрадавых дэмакратычных арганізацый, — сёння самая галоўная адкрытая крыніца дакументаў, фотаздымкаў, самвыдатаў па познесавецкім часе. У 2019 годзе даследаванне, прысвечанае беларускаму супраціву, «Іншадумства ў савецкай Беларусі (1968—1988)», выдала па-англійску навукоўца Тацццяна Астроўская. Спадзяюся, сёлета яно выйдзе па-беларуску.

**Беларускае Радыё Рацыя:** Што трэба рабіць цяпер, калі дзяржава мае іншую версію гісторыі, як захаваць, перадаць і грамадскі досвед, і гістарычныя факты?

**Алесь Бяляцкі:** Трэба працягваць незалежную працу па зборы, апісанні, асэнсаванні і публікацыі матэрыялаў, фактаў, падзей таго часу на розных узроўнях. Тут важныя і ўспаміны, і дзённікі, і фотаздымкі, і артэфакты, якія маюць дачыненне да перыяду супраціву з пасляваеннага часу да сённяшніх дзён. Што тычыцца перыяду новага адраджэння (канец сямідзясятых — 1991 год), надзвычай важна стварыць летапіс падзей. Гэта значыць, па падзеях, па арганізацыях, па персаналіях, па развіцці ідэяў, па датах паслядоўна распісаць, якім чынам развіваўся моладзевы нацыянальна-дэмакратычны рух. Ён стаў і запальнікам, і асновай для імклівых дэмакратычных змен, якія адбываліся ў Беларусі ў той час. На вагу золата любыя факты. Не ведаю, хто б узяўся за гэтую працу. Можа, яна будзе рабіцца паволі, агульнымі намаганнямі. Спадзяюся, у ёй будзе і наш уклад.

*16 красавіка 2020 года*



З мастаком
Алесем Пушкіным. Менск,
18 красавіка 2019 года



Алесь Бяляцкі
і Наталля Пінчук.
Тэатр оперы і балета,
святочны канцэрт
на двухсотую гадавіну
нараджэння Станіслава
Манюшкі. Менск,
16 траўня 2019 года



З Наталляй Пінчук і паэтам Уладзімірам Някляевым. Перапахаванне парэшткаў Кастуся Каліноўскага і яго паплечнікаў — павешаных і расстраляных паўстанцаў. Вільня, 22 лістапада 2019 года



Судовы працэс у справе пісьменніка Уладзіміра Арлова. Суд Ленінскага раёна Менска, 10 студзеня 2020 года

## Наталля Пінчук: Важна, каб тэма Беларусі не сыходзіла з міжнароднай павесткі

*Напярэдадні ўрачыстай цырымоніі ўручэння Нобелеўскай прэміі міру журналіст Беларускага Радыё Рацыя Міхал Андрасюк паразмаўляў з Наталляй Пінчук, жонкай Алеся Бяляцкага.*

**Міхал Андрасюк:** Наталля, можа, і банальнае пытанне — тым не менш: было ў вас такое маленькае спадзяванне, што ў гэтым годзе лаўрэатам Нобелеўскай прэміі міру стане Алесь Бяляцкі?

**Наталля Пінчук:** Пра што думак не ўзнікала, то менавіта пра гэта, шчыра кажучы. Па той простай прычыне, што сітуацыя змянілася. Калі дзесяць гадоў таму Алесь знаходзіўся ў зняволенні, увага да яго асобы была асабліва адчувальная і відавочная. Што тычыцца цяперашняй сітуацыі, то склалася такое ўражанне, што яго асоба не настолькі важная. Для мяне гэта было зразумела, таму што зараз не ён адзін і не дзесяць чалавек знаходзяцца ў вязніцы. Зараз тысячы людзей знаходзяцца ў турмах за сваю грамадскую пазіцыю. Дык вось гэтым я тлумачыла, што ўвага размеркаваная паміж усімі іншымі. І таму абсалютна ніякіх думак, звязаных з прэміяй, не магло ўзнікнуць, не было глебы для гэтага. Таму навіна аб узнагароджанні была проста ашаламляльнай.

**Міхал Андрасюк:** Ад сяброўкі вы даведаліся, што Алесь Бяляцкі стаў лаўрэатам Нобелеўскай прэміі міру?

**Наталля Пінчук:** Так, было каротка і сцісла. Я тады зразумела толькі агульны сэнс. Яна сама тады хутка спыніла размову

і сказала, што зараз мне будуць усе тэлефанаваць. А я паглядзела ў тэлефон і ўбачыла, што сапраўды ўжо было шмат званкоў і паведамленняў.

**Міхал Андрасюк:** Алесь таксама, здаецца, хутка даведаўся пра гэты факт. Ці пасля таго ўжо, калі ён стаў лаўрэатам Нобелеўскай прэміі міру, нешта змянілася ў стаўленні да яго з боку следчых, турэмнай адміністрацыі? Ці нешта вам пра тое вядома ўвогуле? Які ў вас зараз кантакт з мужам, ці штосьці змянілася?

**Наталля Пінчук:** Рэальна такіх відавочных змен няма. Як тады на той момант працягваліся следчыя дзеянні па яго справе, так яны і працягваліся надалей. Зараз яны ўжо завяршыліся. Што тычыцца яго знаходжання, то ён знаходзіцца па-ранейшаму на Валадарцы ў СІЗА № 1. Што цікава, за гэты час я не атрымала ад яго ніводнага ліста, у якім ён бы апісваў свае ўражанні ад гэтай падзеі. Лісты прыходзяць, яны тычацца абсалютна розных момантаў, але не прэміі.

**Міхал Андрасюк:** Можа, тут праблема ў цэнзуры проста?

**Наталля Пінчук:** Цалкам верагодна. Іншая справа, што ў нас было спатканне — і вось на спатканні там мы ўжо добра пра гэта пагаварылі. Але што датычыцца нашай пісьмовай камунікацыі, то там гэтага няма.

**Міхал Андрасюк:** Літаральна днямі стала вядома, што справа Алеся Бяляцкага і яго паплечнікаў накіраваная ў суд за два тыдні да таго, калі будзе ўручацца Нобелеўская прэмія ў Осла. Як мяркуеце, гэта мэтанакіраванасць, выпадковасць, доказ





сілы дыктатуры? А можа, дыктатура хоча неяк выйсці з гэтай сітуацыі і ў судзе вызваліць Алеся, змяніць меру стрымання, пакарання?

**Наталля Пінчук:** Пра такія рэчы я баюся разважаць, бо маю ўжо дастаткова вялікі вопыт таго, што кожныя спадзяванні могуць ушчэнт разбіцца і кожныя прагнозы могуць таксама не спраўдзіцца. У гэтым сэнсе я ўжо стараюся не спадзявацца на нешта, а проста глядзець, як будуць разгортвацца падзеі. На лепшае я не асабліва разлічваю, шчыра скажу. Хутчэй за ўсё, справа ідзе сваім ходам, як яна ішла, і падзеі разгортваюцца так, як планавалася.

**Міхал Андрасюк:** 10 снежня ў Осла будзеце прымаць удзел у цырымоніі ўручэння Нобелеўскай прэміі міру. Калі не сакрэт, што хочаце сказаць прысутным там і таксама мільёнам людзей на свеце, якія будуць услухоўвацца ў кожнае вашае слова?

**Наталля Пінчук:** Так, я буду прысутнічаць на цырымоніі. Паколькі Алесь там не зможа быць з прычыны вядомых абставін, таму што ён знаходзіцца ў турме, то мая задача будзе якраз палягаць на тым, каб перадаць ягоныя словы. І хай ён не мог сам напісаць іх, але шукаюцца зараз тыя словы, якія адлюстроўвалі б сітуацыю, якая зараз у нас, у Беларусі. Ёсць шмат розных момантаў, якія тычацца і людзей у зняволенні, і геапалітычнай сітуацыі, і розных іншых спраў, пра якія Алесь яшчэ да таго, як патрапіў у турму, гаварыў неаднаразова. Вось гэтыя яго выказванні, яго думкі будуць абвешчаныя.

**Міхал Андрасюк:** Што для вас абазначае быць жонкай самага вядомага беларускага палітычнага вязня, ці ўвогуле — самага вядомага палітычнага вязня ў свеце? Нобелеўская прэмія штосьці змяніла ў вашым асабістым, прыватным жыцці?

**Наталля Пінчук:** Прэмія ў маім асабістым жыцці не змяніла нічога. Усё ідзе сваім ходам. Іншая справа, што накладаюцца большыя абавязкі і большая адказнасць. І ў гэтым сэнсе, можна сказаць, змяніла. А ў адносінах да Алеся я скажу, што прэмія — гэта ўсё ж прызнанне яго працы, яго пастаяннай дзейнасці ў галіне праваабароны, гэта ганаровае званне. Верагодна, гэта нешта зменіць у ягоным жыцці. А можа, і не зменіць. Тут цяжка сказаць. Але ў маім жыцці пакуль што нічога не змянілася.

**Міхал Андрасюк:** Для Алеся, на жаль, гэта не першы тэрмін за кратамі. Скажыце, што вам дапамагае вытрымаць напругу ў такіх экстрэмальных сітуацыях?

**Наталля Пінчук:** Так, у маім жыцці гэта не першы такі сумны вопыт, звязаны з увязненнем Алеся. Вытрымаць усё гэта дапамагаюць найперш людзі. Гэта тычыцца як бліжняга кола сяброў, так і людзей знаёмых, малазнаёмых і зусім незнаёмых. Блізкае кола сяброў у мяне сфармавалася яшчэ ў час першай, доўгай адседкі Алеся. Гэта тыя жанчыны, сыны, мужы якіх тады сядзелі адначасова. І вось гэтыя сувязі замацаваліся, не разарваліся пасля таго, як нашых родных вызвалілі. І ў другі час вось такой сітуацыі мы зноў патрапілі амаль адначасова ў падобнае. І зноў мы сталі адна для адной апораю. І разам выстойваць значна лягчэй.





**Міхал Андрасюк:** Палітычных вязняў у Беларусі зараз далёка больш за тысячу. Што б вы сказалі для іншых жанчын, жонак, маці, як не паддавацца гэтай сітуацыі?

**Наталля Пінчук:** У гэтай сітуацыі трэба, па-першае, берагчы сябе. Бо зберагаючы сябе, вы даяце шанц выжыць сваім блізкім, вы даяце шанц пасляць ім вестку аб тым, што пра іх памятаюць, што пра іх клапоцяцца. Гэта вельмі важна для тых, хто знаходзіцца на сённяшні дзень за сценамі турмаў. Будзеце вы мець здароўе, будзеце мець сілы — будуць і вашы блізкія, якія там знаходзяцца, мець падтрымку. І будуць яны мець сілы ўсё гэта вытрываць і выстаяць.

**Міхал Андрасюк:** Як мы, звычайныя грамадзяне, хто на свабодзе, можам дапамагчы Алесю Бяляцкаму, падтрымаць яго, што можа зрабіць грамадзянская супольнасць, звычайныя беларусы, і не толькі беларусы?

**Наталля Пінчук:** Што тычыцца беларусаў, грамадзянскай супольнасці, тых, хто знаходзіцца за мяжой, важная менавіта іх актыўная дзейнасць па тым, каб знаходзіць падтрымку і салідарнасць у іншых дэмакратычных краінах, увогуле ўздымаць пытанне беларусаў, актуалізаваць яго, каб тэма Беларусі не сыходзіла з міжнароднай павесткі, каб пра Беларусь памяталі, памяталі пра яе праблемы і ў пэўнай ступені выказвалі б беларусам падтрымку. Я не кажу пра беларусаў у самой Беларусі. Якраз тут звяртаю ўвагу на тых беларусаў, якія воляй неспрыяльнага лёсу апынуліся за яе межамі.

*Лістапад 2022 года*



Праваабарончы цэнтр «Вясна» ўзнагародзілі прэміяй «За годны лад жыцця», якую называюць «альтэрнатыўнай Нобелеўскай прэміяй». Стакгольм, 4 снежня 2020 года

Наталля Пінчук і Яўген Вапа. Осла, 10 снежня 2022 года





Урачыстая цырымонія ўручэння Нобелеўскай прэміі міру, якую атрымалі кіраўнік «Вясны» Алесь Бяляцкі, украінскі Цэнтр грамадзянскіх свабод і расійскі «Мемарыял». Осла, 10 снежня 2022 года



Наталля Пінчук упершыню ў гісторыі выступае з Нобелеўскай прамовай на беларускай мове. Осла, 10 снежня 2022 года



## Нобелеўская прамова 10 снежня 2022 года

*10 снежня, у Міжнародны дзень правоў чалавека, у Осла адбылася цырымонія ўручэння Нобелеўскай прэміі міру. У 2022 годзе прэмію атрымалі старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна», праваабаронца і літаратар Алесь Бяляцкі, Цэнтр грамадзянскіх свабод (Украіна) і «Мемарыял» (Расія).*

*Прэмію міру, паводле тастамента Альфрэда Нобеля, прысуджаюць «асобе, якая дасягнула найбольшых поспехаў або зрабіла больш за іншых у справе згуртавання народаў і скарачэння колькасці дзейных войск, а таксама за правядзенне мірных кангрэсаў і прыцягненне да іх увагі».*

*Алесь Бяляцкі не змог асабіста атрымаць Нобелеўскай прэміі, бо быў зняволены за праваабарончую дзейнасць.*

*На цырымоніі ўручэння прэміі выступіла жонка Алеся Бяляцкага, гісторык Наталля Пінчук.*

*Прамова была пабудаваная на выказваннях, перададзеных Алесем Бяляцкім з-за кратаў Следчага ізалятара на вуліцы Валадарскага ў Менску.*

*10 снежня 2022 года ў Осла ўпершыню ў гісторыі прэміі Нобелеўская прамова прагучала на беларускай мове.*

Вашыя Каралеўскія Міласці, Вашыя Каралеўскія Высокасці, шаноўныя сябры Нобелеўскага камітэта, шаноўнае спадарства!

З вялікім хваляваннем выпадае мне гонар выступіць тут на ўшанаванні лаўрэатаў прэміі міру за 2022 год. Сярод іх і мой муж Алесь Бяляцкі.

На жаль, ён не можа прыняць узнагароду асабіста. Ён за кратамі ў Беларусі. Таму я стаю за гэтай трыбунай.

Хачу выказаць вялікую падзяку:

Нарвежскаму Нобелеўскаму камітэту, рашэнне якога ўмацавала Алеся ў гатоўнасці стаяць у сваёй праўдзе і дае надзею ўсім беларусам, што можна разлічваць на дэмакратычную салідарнасць у барацьбе за свае правы.

Дзякуй усім, хто падтрымліваў Алеся, яго сяброў і яго справу ўсе гэтыя гады і падтрымлівае цяпер.

Шчыра віншую Цэнтр грамадзянскіх свабод і Міжнароднае таварыства «Мемарыял» з заслужанай узнагародай. Алесь і ўсе мы ўсведамляем, наколькі важна і рызыкоўна выконваць місію праваабаронцаў, асабліва ў трагічны час агрэсіі Расіі супраць Украіны.

Не толькі Алесь у турме — тысячы беларусаў, дзясяткі тысяч рэпрэсаваных, зняволеных за сваю грамадзянскую пазіцыю знаходзяцца там. Сотні тысяч вымушаныя ўцякаць з краіны толькі таму, што хацелі жыць у дэмакратычнай дзяржаве. У Беларусі, на жаль, ужо гадамі працягваецца вайна ўлады супраць уласнага народа, мовы, гісторыі, супраць дэмакратычных каштоўнасцяў. Пра гэта гавару тут з болем і перасцярогай, бо сённяшнія палітычныя і ваенныя падзеі пагражаюць Беларусі стратаю дзяржаўнасці і незалежнасці.

На жаль, улада з грамадствам размаўляе толькі пры дапамозе сілы — гранатаў, дубінак, электрашокераў, бясконцых арыштаў і катаванняў. Пра нацыянальны кампраміс або дыялог няма размовы. Пераследуюць дзяўчат і хлопцаў, жанчын і мужчын, непаўналетніх і людзей сталага ўзросту. У беларускіх турмах уладарыць нечалавечае аблічча сістэмы, асабліва для тых, хто марыў быць свабоднымі людзьмі!

У такой сітуацыі невыпадкова, што за дэмакратычныя перакананні і праваабарончую дзейнасць улады арыштавалі Алеся і яго паплечнікаў з Праваабарончага цэнтра «Вясна»: у вязніцах Марфа Рабкова, Валянцін Стэфановіч, Уладзімір Лабковіч, Леанід Судаленка, Андрэй Чапюк і іншыя праваабаронцы. Другія зараз яшчэ пад следствам і пракурорскімі абвінавачваннямі, трэція вымушаныя былі эміграваць за мяжу. Але створанага звыш дваццаці пяці гадоў таму Алесем і яго аднадумцамі Праваабарончага цэнтра «Вясна-96» — не разбіць, не спыніць, не стрымаць!

Алесь не мог перадаць на волю тэкст свайго выступу, ён паспеў сказаць мне літаральна пару сказаў. Таму падзялюся з вамі ягонымі думкамі — і гэтымі, і запісанымі раней. Гэта фрагменты яго ранейшых выказванняў, твораў, размоў. Тут яго думкі аб мінулым і будучыні Беларусі, аб правах чалавека, аб лёсах міру і свабоды.

То перадаю слова Алесю:

«Так бывае, што людзі, якія найбольш цэняць свабоду, часта пазбаўленыя яе. Я ўспамінаю сваіх сяброў — праваабаронцаў з Кубы, Азербайджана, Узбекістана, я ўспамінаю сваю духоўную сястру Насрын Сатудэ з Ірана. Я захапляюся кардыналам Язэпам Чэнем з Ганконга. Зараз у Беларусі тысячы людзей знаходзяцца за кратамі па палітычных матывах, і яны ўсе мае браты і сёстры. Нішто не можа спыніць прагу людзей да волі. Тут зараз у турме ўся Беларусь. Сядзяць журналісты, палітолагі, прафсаюзныя лідары, сярод іх багата

маіх знаёмых і сяброў... Суды працуюць як канвеер, асуджаных развозяць па калоніях, а новыя хвалі палітзняволеных займаюць іх месца...

Гэтая прэмія належыць усім маім сябрам-праваабаронцам, усім грамадскім актывістам, дзясяткам тысяч беларусаў, якія прайшлі праз збіццё, катаванні, арышты, турму. Гэтая прэмія — узнагарода мільёнам беларускіх грамадзян, якія выступілі ў абарону сваіх грамадзянскіх правоў. Яна падкрэслівае тую драматычную сітуацыю, якая склалася з правамі чалавека ў краіне.

Нядаўна ў мяне адбыўся кароткі дыялог.

— Калі на волю? — спыталіся ў мяне.

— А я і так вольны, у душы, — адказаў я.

Мой вольны дух лунае па-над вязніцай і над кляновым лістом абрысаў Беларусі.

Я зазіраю сабе ўсярэдзіну, і здаецца, што мае ідэалы не змяніліся, не страцілі каштоўнасць, не патускнелі. Яны заўжды са мной, і я ахоўваю іх, як магу. Яны — як адлітыя з золата, і іх не бярэ іржа.

Мы хочам уладкаваць нашае грамадства як больш гарманічнае, справядлівае і спагаднае. Дабіцца незалежнай, дэмакратычнай Беларусі. Марым, каб яна была ўтульнай і прывабнай для жыцця. Гэтая ідэя высакародная, сугучная агульным для свету цывілізацыйным уяўленням. Мы ж не марым пра штосьці надзвычайнае, мы хочам усяго толькі „людзьмі звацца", як сказаў наш класік Янка Купала. Тут — і павага да сябе саміх, і да іншых, тут і правы чалавека, дэмакратычны лад жыцця, беларуская мова і нашая гісторыя.

Я веру, бо ведаю, што мінае ноч і надыходзіць ранак. Я ведаю, што нас няўтомна штурхае наперад, дык гэта надзея і мара.





Марцін Лютэр Кінг заплаціў за сваю мару жыццём, яго застрэлілі. Мая плата за маю мару меншая, але ўсё роўна за яе даводзіцца плаціць. Я не шкадую ні кроплі. Бо мая мара вартая гэтага. Мае ідэалы сугучныя з ідэаламі маіх старэйшых сяброў і духоўных настаўнікаў чэха Вацлава Гавэла і беларуса Васіля Быкава. Абодва яны прайшлі праз вялікія жыццёвыя выпрабаванні, абодва багата чаго зрабілі для сваіх народаў і культуры, абодва змагаліся за дэмакратыю і правы чалавека да апошніх хвілін свайго жыцця.

Немагчыма, каб на пустым полі адразу вырас добры ўраджай. Поле трэба добра ўгнойваць, камяні выбіраць... А тое, што пакінула ў Беларусі камуністычная ўлада за семдзесят гадоў, можна назваць выпаленай зямлёй... Былі часы ў канцы васьмідзясятых гадоў, калі мы літаральна ведалі адзін аднаго ў твар... Але на пачатку дзевяностых з'явіліся тысячы і дзясяткі тысяч...

9 жніўня 2020 года ў Беларусі прайшлі прэзідэнцкія выбары. Масавыя фальсіфікацыі прывялі да таго, што людзі выйшлі на вуліцу. У двубоі сышліся Дабро і Зло. Зло — добра ўзброенае. А з боку Дабра — толькі нечуваныя для краіны мірныя масавыя пратэсты, якія збіралі сотні тысяч людзей.

Улады напоўніцу запусцілі рэпрэсіўны механізм катаванняў і забойстваў — Рамана Бандарэнкі, Вітольда Ашурка і многіх іншых.

Гэта найвышэйшы і нечуваны па сваёй жорсткасці ўзровень рэпрэсій. Людзі праходзяць праз неймаверныя катаванні і пакуты.

Камеры і турмы больш нагадваюць савецкія грамадскія прыбіральні, дзе людзей трымаюць месяцамі і гадамі. Я абсалютна супраць таго, каб жанчыны знаходзіліся ў турме, а ўявіце, як ім даводзіцца ў турме Беларусі — у гэтым філіяле пекла на зямлі!

Выказванні Лукашэнкі пацвярджаюць, што выканаўцам дадзены карт-бланш, каб праз страх спыніць людзей. Але грамадзяне Беларусі патрабуюць справядлівасці. Яны патрабуюць, каб тыя, хто ўчыняў масавыя злачынствы, былі пакараныя. Патрабуюць свабодных выбараў. Ніколі ўжо Беларусь і беларускае грамадства не будуць ранейшымі, калі былі цалкам звязаныя па руках і нагах. Людзі прачнуліся...

Зараз перманентная барацьба дабра і зла разгарнулася ледзь не ў чыстым выглядзе ўва ўсім рэгіёне. Халодная сцюжа з Усходу сутыкнулася з цяплом еўрапейскага рэнесансу.

Мала быць адукаваным і дэмакратычным, мала быць гуманным і міласэрным. Трэба ўмець бараніць свой набытак і сваю Айчыну. Недарэмна ў сярэднявеччы паняцце Айчыны было тоесным паняццю свабоды.

Я дакладна ведаю, якая Украіна задавальняла б Расію і Пуціна — несамастойная дыктатура. Такая, як сённяшняя Беларусь, дзе не чуваць голасу прыдушанага народа.

Расійскія вайсковыя базы, велічэзная эканамічная залежнасць, культурная і моўная русіфікацыя — вось адказ, на чыім баку Лукашэнка. Улады Беларусі незалежныя толькі ў той ступені, у якой ім дазваляе Пуцін. І таму трэба змагацца супраць „інтэрнацыяналу дыктатур".

Я праваабаронца і таму прыхільнік негвалтоўнага супраціву. Я — не агрэсіўны па натуры чалавек, імкнуся гэтак заўсёды паводзіць сябе. Аднак я таксама добра разумею, што дабро і праўда павінны ўмець абараняць сябе. Як магу, трымаю мір у маёй душы, гадую яго, як далікатную кветку, адганяю злосць. І малюся, каб рэчаіснасць не прымусіла мяне адкапаць даўно закапаную сякеру і бараніць праўду з сякерай у руках. Мір. Няхай мір застанецца ў маёй душы.





А 10 снежня мне хочацца паўтарыць для ўсіх: „Не бойцеся!" Гэта тое, што сказаў у васьмідзясятыя Папа Ян Павел II, калі прыехаў у камуністычную Польшчу. Больш ён нічога тады не сказаў, але хапіла. Я веру, бо ведаю, што **пасля зімы наступае вясна**».

Я цытавала Алеся Бяляцкага. І завяршу выступ воклічамі ягонай душы: **свабоду беларускаму народу! Свабоду Вясне! Жыве Беларусь!**

*Осла, 10 снежня 2022 года*



Нобелеўскую прэмію міру
атрымалі: кіраўнік «Вясны»
Алесь Бяляцкі, украінскі
Цэнтр грамадзянскіх свабод
у асобе Аляксандры Матвійчук
і расійскі «Мемарыял» у асобе
Яна Рачынскага.
Осла, 10 снежня 2022 года



Наталля Пінчук,
Аляксандра Матвійчук,
Ян Рачынскі вітаюць
з балкона «Гранд-гатэля»
ўдзельнікаў урачыстага
шэсця.
Осла, 10 снежня 2022 года

Яўген Вапа, Наталля Пінчук,
і Алесь Лагвінец.
Осла, 10 снежня 2022 года



Удзельнікі беларускай
нобелеўскай дэлегацыі —
сябры і калегі
Алеся Бяляцкага.
Осла, 10 снежня 2022 года






## Апошняе слова Алеся Бяляцкага ў судзе Ленінскага раёна г. Менска

*13 лютага 2023 года ў судзе Ленінскага раёна Менска падчас працэсу ў крымінальнай справе Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі выступіў з апошнім словам.*

Крымінальная справа супраць нас — праваабаронцаў «Вясны» — палітычна матываваная. Уся гэтая эпапея на 284 тамы, сотні вобшукаў і допытаў па ўсёй краіне не мае нічога агульнага з папярэднім следствам, плюс палітычны падтэкст.

А за ім не было і справядлівага судовага разбіральніцтва. Паўтара года цягнулася расследаванне гэтак званай крымінальнай справы. З чатырох адвакатаў, якія на розных этапах абаранялі мяне, адзін з іх — Віталь Брагінец, які апынуўся ў турме і быў зняволены на восем гадоў, яшчэ двое былі пазбаўленыя ліцэнзіі цягам апошніх месяцаў, і толькі адна дайшла да фінішу. Такі беспрэцэндэнтны ціск на адвакатаў паказвае, у якіх цяжкіх і небяспечных умовах ім прыходзіцца абараняць сваіх кліентаў.

Відавочна, калі мы азнаёміліся з некаторымі тамамі так званай крымінальнай справы, следства выконвала пастаўленую перад імі задачу: зняволіць праваабаронцаў «Вясны» любым коштам, знішчыць «Вясну» і спыніць нашую працу. Так можна патлумачыць нечаканую змену абвінавачвання

з «нявыплаты падаткаў» (яно існавала фактычна 13 месяцаў фактычна са дня нашага затрымання) на «кантрабанду арганізаванай злачыннай групіроўкай», якую зрабілі з «Вясны». Відавочна, што ўлады парушаюць узятыя на сябе міжнародныя абавязкі ў галіне абароны праваабаронцаў у межах аб'яднаных пагадненняў ААН і АБСЕ.

Асобна трэба адзначыць моцна негатыўную суб'ектыўную ацэнку праваабаронцаў «Вясны» падчас папярэдняга расследавання з боку дзяржаўных СМІ: розных тэлеканалаў і газеты «Беларусь сегодня», заснавальнікамі якой з'яўляецца Адміністрацыя прэзідэнта. Так, ужо ў верасні мінулага года ў тэкстах сцвярджалася, што «праваабаронцы распаўсюджвалі экстрэмісцкія матэрыялы, а таксама фінансавалі пратэсты».

Асобна выбрас у два кашы розных плётак, хлусні, маны быў зроблены за апошні тыдзень і ўчора [12 лютага] гэта ўсё актыўна дэманстравалася і паказвалася па дзяржаўных тэлеканалах, дзе нас абвінавачвалі ў розных грахах, да якіх не дадумвалася нават следства і пракуратура. Мне тут бачыцца парушэнне прэзумпцыі невінаватасці, прамога ціску на суд, бо нас яшчэ не асудзілі, але дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі ўжо называюць нас злачынцамі.

Надзвычайна склалася сітуацыя з мовай у судзе: абвінавачванне і суд катэгарычна адмовіліся размаўляць па-беларуску, нягледзячы на тое, што я, як абвінавачаны, з'яўляюся беларускамоўным у жыцці чалавекам. Я размаўляю, пішу, думаю на беларускай мове. Нагадваю, што беларуская мова з'яўляецца дзяржаўнай мовай і вы, як дзяржаўныя чыноўнікі, павінны ведаць дзве дзяржаўныя мовы, у тым ліку і беларускую, а не пыкаць і бэкаць. Таму вы абавязаныя размаўляць адпаведна з беларускамоўнымі грамадзянамі па-беларуску.





Напрыклад так, як гэта прадугледжвае Закон «Аб зваротах грамадзян»: калі ты пішаш на беларускай, то любое чыноўніцкае ведамства адказвае табе на беларускай мове. Гэтым самым мяне паставілі ў няроўнае становішча з бокам абвінавачвання. Мне не далі магчымасці грунтоўна і падрабязна патлумачыць сваю пазіцыю, аспрэчваць несправядлівае бязглуздае абвінавачванне.

Абвінавачванне і суд практычна адмовіліся ад допыту, ад пытанняў, якія іх цікавілі падчас працэсу і майго допыту. Складаецца ўражанне, што ні пракуратуру, ні суд увогуле не цікавіць праўда, для іх усё было зразумела з самага пачатку яшчэ да суда. Нагадваю, што ні пракуратура, ні суд так і не далі мне магчымасці азнаёміцца з усімі 284 тамамі так званай крымінальнай справы.

Пра палітычную падаплёку гэтай крымінальнай справы супраць праваабаронцаў «Вясны» сведчыць і агульная сітуацыя ў краіне, прасякнутая масавымі рэпрэсіямі і татальнымі парушэннямі правоў чалавека, якія абрынуліся на грамадства падчас і пасля выбарчай кампаніі ў 2020 годзе. Замест таго, каб пачуць голас народа, у Беларусь прыйшла наймацнейшая рэакцыя. Відавочна, палітычным рашэннем уладаў было разграміць і знішчыць грамадзянскую супольнасць Беларусі. Пад катком рэпрэсій апынуліся незалежныя журналісты і блогеры, самастойныя аналітыкі і палітолагі, прафсаюзныя актывісты з незалежных прафсаюзаў, лідары і актывісты палітычных партый і рухаў, актывісты выбарчых штабоў кандыдатаў у прэзідэнты, як і самі кандыдаты ў прэзідэнты, дзеячы беларускай культуры, пісьменнікі, музыкі, мастакі, выкладчыкі і студэнты, спартсмены, шараговыя ўдзельнікі мірных пратэстаў дый проста выпадковыя людзі. У краіне сёння паўтары тысячы палітычных зняволеных. Сотні за апошнія два

з паловай гады ўжо прайшлі праз турмы і пасля пакарання выйшлі на волю. Дзясяткі тысяч мірных актывістаў былі арыштаваныя і асуджаныя за гэты час па адміністрацыйных справах. Нічога дзіўнага, што ў гэты час, калі ў Беларусі паляцелі ў тартарары правы чалавека, і праваабаронцы таксама апынуліся ў турме. Гэта кіраўніца Валанцёрскай службы «Вясны» Марфа Рабкова, валанцёр Андрэй Чапюк, гомельскі праваабаронца Леанід Судаленка, валанцёрка Таццяна Ласіца і іншыя валанцёры, якія дапамагалі ахвярам масавых рэпрэсій.

Рэпрэсіі ў краіне працягваюцца і сёння. Пра гэта сведчаць усё новыя і новыя палітычныя зняволеныя, якія з'яўляюцца ў СІЗА. Так, нядаўна была арыштаваная праваабаронца Наста Лойка. Чарадою ідуць судовыя працэсы па палітычна матываваных крымінальных справах. Неверагодны, неўяўляльны і нябачны дагэтуль узровень рэпрэсій, усемагчымага ціску на грамадства з боку ўладаў! У нашай гісторыі такое было толькі ў царскія і сталінскія змрочныя гады аж да смерці Сталіна ў 1953 годзе. На пачатку васьмідзясятых гадоў, калі ў СССР быў пік змагання з дысідэнтамі, праваабаронцамі, актывістамі нацыянальных і рэлігійных рухаў, палітзняволеных было каля трох тысяч на ўсю агромністую савецкую імперыю, у якой жыло 250 мільёнаў чалавек. А зараз на адну Беларусь — паўтары тысячы палітзняволеных.

Я перакананы, што курс, узяты ўладамі на татальны кантроль грамадства і жорсткае задушэнне іншадумства, поўную адмову ад плюралізму думак, пераўладкаванне дзяржаўнага ладу па ўзору таталітарнага грамадства а-ля «Савецкі Саюз сямідзясятых гадоў», зусім бесперспектыўны. Свет ідзе наперад — у постындустрыяльную эпоху. Ужо вырасла новае пакаленне, мільёны беларусаў, якія маюць інакшыя ад яшчэ





той савецкай эпохі цывілізацыйныя каштоўнасці. Яны не хочуць жыць у савецкай казарме. Для іх мала скарынкі хлеба, палітай вадой і пасыпанай цукрам, ці сала, пасмажанага на ражончыку. Яны хочуць і патрабуюць, каб іх голас быў пачутым, улічаным і палічаным. Яны хочуць жыць у эканамічна развітой, дэмакратычнай і незалежнай Беларусі.

Падзеі 2020 года, масавыя пратэсты супраць фальсіфікацый вынікаў выбараў, супраць парушэнняў правоў чалавека выразна паказалі, лепей за любую сацыялогію. Багата для каго гэтыя падзеі былі нечаканасцю, а для ўладаў — непрыемным сюрпрызам. Трэба прызнаць, што грамадства і людзі ў краіне моцна падзеленыя ідэалагічна, каштоўнасна, ментальна. Але тым, хто жыве ў грамадстве, відаць, што гэты падзел ідзе па ўзросце, па месцы пражывання, па ўзроўні адукацыі, хаця нічога дзіўнага, адметнага і ўнікальнага ў гэтым няма. Па ўсім свеце грамадствы неаднародныя. Яны складаюцца з розных людзей розных поглядаў, іхнія інтарэсы прадстаўляюць палітычныя партыі, а сапраўды справядлівыя выбары даюць магчымасць адносіцца з больш-менш пэўным даверам да ўлады. Падзел беларускага грамадства не фатальны. З ім і грамадства, і дзяржава могуць жыць, але яго існаванне трэба ясна ўсведамляць, а не заплюшчваць вочы і не будаваць сабе ўтульны свет так, як камусьці хацелася б. Мільёны беларусаў думаюць і разважаюць, урэшце, жывуць вось так, а мільёны — па-іншаму. І не так важна, каго сёння больш. І адных, і другіх — мільёны. Важна зразумець, што такі ўнутраны падзел грамадства — надоўга. І з гэтым падзелам нам усім — усяму беларускаму грамадству, незалежна ад нашых поглядаў і перакананняў, — прыйдзецца яшчэ доўга жыць. У гэтай сітуацыі курс на канфрантацыю, калі адная частка: сілавыя структуры, спецслужбы, пракуратура, следчы апарат, суды — ціснe

і душыць другую, небяспечны і бесперспектыўны. Ён вядзе ў нікуды. Гісторыя краін Лацінскай Амерыкі XX стагоддзя: Чылі, Аргенціны, Гаіці і іншых краін — гэтаму пацверджанне. Хунты бананавай рэспублікі, дыктатуры не маюць перспектывы для доўгага жыцця і развіцця. Вынікі такой палітыкі нецярпімасці, канфрантацыі і поўнай адмовы ад палітычнага плюралізму — гэта няспынны грамадска-палітычны, сацыяльны, эканамічны крызісы, масавая міграцыя. Усё гэта туга завязана паміж сабой.

Сітуацыя поўнамаштабнага крызісу ў дзяржаве моцна небяспечная для суверэнітэту Беларусі. Перад намі агромністыя геапалітычныя выклікі — краіна зайшла ў тупік. Як казалі нашыя продкі, той самы нерат, з якога ні ўзад, ні ўперад. Адзіным магчымым выйсцем з усебаковага крызісу, у якім апынулася Беларусь, бачыцца пастаянны доўгатэрміновы пошук кансэнсусу, раўнавагі ў грамадстве з улікам інтарэсаў розных слаёў грамадства. Дзеля захавання Беларусі як дзяржавы, дзеля будучыні нашага народа, нам усім, а найперш — уладам, трэба праявіць мудрасць і дальнабачнасць. Я згадваю наш заклік, Праваабарончага цэнтра «Вясна», перад выбарамі 2020 года, які быў апублікаваны на нашым сайце і ў іншых сродках масавай інфармацыі. У ім мы заклікалі ўлады не ўжываць гвалт супраць мірных дэманстрантаў. Ужылі — і чым гэта скончылася?

Трэба пачаць шырокі грамадскі дыялог, накіраваны на нацыянальнае прымірэнне, як бы цяжка ні здавалася камусьці пайсці на гэта. Перадумовай такога дыялогу мусіць быць вызваленне ўсіх палітычных зняволеных, правядзенне шырокамаштабнай амністыі, спыненне рэпрэсій. Бо няма сэнсу ў амністыі, калі адной рукой людзей вызваляюць, а другой працягваюць саджаць. У такім дыялогу павінны ўзяць удзел як прадстаўнікі



У судзе Ленінскага раёна адбываецца разгляд крымінальнай справы Праваабарончага цэнтра «Вясна». Менск, студзень 2023 года



ўладаў, так і прадстаўнікі шырокай грамадскасці, палітычных партый і рухаў, тыя, хто зараз знаходзіцца ў турмах, і тыя, хто ратуецца ад рэпрэсій і вымушаны быў з'ехаць за мяжу. Гэта рэальная прапанова, абы было жаданне і палітычная воля. Грамадска-палітычны крызіс у Беларусі не ўнікальны. Вось проста зараз выхадам з падобных крызісаў займаюцца іншыя краіны ў розных кутках свету. Улады і грамадскасць у Казахстане, у Венесуэле і нават у Іране. Трэба ясна ўсвядоміць, што лепей цяжкія перамовы і паступовы выхад з крызісу, чым бязлітаснае супрацьстаянне, якое можа прывесці да вельмі сур'ёзных наступстваў: да беднасці і жабрацтва, да гвалту і несправядлівасці, якія спустошаць Беларусь. Калі мы думаем пра Беларусь як пра нашую супольную для ўсіх беларускіх грамадзян Радзіму, у якой, нягледзячы на розныя палітычныя погляды і геапалітычныя прыхільнасці, ёсць месца ўсім. Калі мы не хочам пагрузіць краіну ў галечу, калі мы не хочам дапусціць масавы вымушаны выезд беларусаў у свет па лепшую долю, калі мы хочам атрымаць шанц на эканамічнае, сацыяльнае, грамадска-палітычнае, экалагічнае развіццё нашага народа, мы павінны распачаць гэты грамадскі дыялог. Досыць, трэба спыняць гэтую грамадзянскую вайну! Я спадзяюся, мяне пачуюць.

*Менск, 13 лютага 2023 года*



## Лісты з войска (1985—1986)

*У 2016 годзе ў Беластоку Алесь Бяляцкі пісаў успаміны, а таксама займаўся ўпарадкаваннем лістоў розных гадоў, сярод іх — і лісты з войска 1986 года. Лісты напісаныя ў 1985—1986 гадах да Ірыны Бязручкі, якая выкладала этнаграфію і гісторыю культуры ў Гомельскім ўніверсітэце, і яе дачкі Паліны Кačатковай. Публікуюцца ўпершыню, з захаваннем арфаграфіі і пунктуацыі аўтара.*

Добры дзень, Ірэна Пятроўна!

Ня ведаю ўжо і ці застане Вас мой ліст. Нікому не пішу, закансерваваўся, бо павінны адправіць адсюль з дня на дзень. Асноўная частка, як і меркавалася, паляцела ў Нямеччыну, а куды ўжо нас пашлюць — ніхто не ведае, а хто ведае, дык той маўчыць. Вельмі верагодна, што ў Чэхаславаччыну ці Вугоршчыну, а можа і па Саюзу. Увесну апошніх такіх недабіткаў адсылалі на Камчатку, карацей, несправядальны шляхі гасподні. Курсантаў яшчэ толькі пачалі прывозіць сюды, бегаюць усе напужаныя, у мятым адзеньні, паслухмяныя бы авечкі. Людзей у палку зараз мала і іх адразу ж запрагаюць на розныя працы — падмятаць, мыць, прыбіраць. Цэлы тыдзень мы літаральна разрываліся, зараз палягчэла, але ўсё

роўна, пакуль яшчэ прымуць прысягу і навучацца, на нашых плячах — каравул. Ходзім праз дзень, суткі мы, суткі яшчэ адна зьмена, сьпім па чатыры гадзіны, усе нявыспаныя, злыя, клянуць і начальства і ўральскае надвор'е (тут ужо сьнег, заўсёды вецер, а хутка марозы будуць да 40 градусаў) і лёс свой, што выхапіў іх з агульнага рэчышча, але я цвёрда зразумеў, што тут нельга загадваць ці планаваць што-небудзь, ніколі ня ведаеш, што будзе з табою праз дзень, што ты будзеш рабіць, дзе апынешся. Безумоўна, хацелася б трапіць у Чэхаславаччыну, славянскія народы, параўнаўча нядаўна атрымаўшыя незалежнасьць, лёс іхнай культуры нечым нагадваў лёс нашай (і мова і ўсё астатняе), цікава было б паглядзець, як яны жывуць. Там, у Празе, у 20-40 г. была беларуская калёнія, яны выпускалі часапісы, газэты і нават ксёнжачкі. З Прагаю зьвязана і дзейнасьць партыі акцябрыстаў ва главе з Тамашом Грыбам (адзін з паплечнікаў Ц. Гартнага па бел. нац. кому) — партыя, якая з беларускіх партый бліжэй за ўсё стаяла да пляцформы расейскіх камуністых (праграмы былі амаль ідэнтычныя, толькі іх бяда — незалежнасьць сацыяльную яны зьвязвалі зь незалежнасьцю палітычнай, таму і апынуліся ў Празе). Дарэчы, Грыб выдаў там ксёнжачку нейкую загадкавую «Іскры Скарыны», а пра што яна — ніхто з нас ня ведае. Там жа ж у 42 годзе выдала сваю ксёнжачку вершаў і Ларыса Геніюш, а што там яшчэ выходзіла — цьмяна. У тыя ж гады там жыў эміграцыйны ўрад бел. нар. рэсп., сакратаркай у якім пэўны час працавала і Геніюш, чым яны там займаліся, што выдавалі — таксама невядома. У Празе на Альшанскіх могілках пахаваны Забэйда-Суміцкі, яшчэ адзін сьветлы і журботны радок у жыцьцяпісе нашай культуры. Лепшы тэнар Эўропы ў 30-х гадох, які вынес на эўрапейскую арэну беларускую песьню, а большую частку жыцьця пражыў па-за межамі Радзімы, у Празе, дзе і памёр у пач. 80-х гадоў. Вось і ўся вядомая мне інфармацыя пра беларусоў у Чэхаславаччыне. Ня ведаю, ці мажліва гэта ці не, але можа там можна было б замовіць ксеракопіі самых цікавых, на Ваш погляд, рэчаў, наколькі мне вядома, у Польшчы, напрыклад, такія паслугі робяць навукоўцам бесплатна. Вы бы зрабілі вельмі карысную справу, але адразу прашу прабачэньня, ведаю, наколькі гэта рэальна (Ірына Бяручка ў 1986 годзе жыла ў Празе, дзе яе муж Уладзімір Качаткоў выкладаў у Карлавым ўніверсітэце. — *Рэд.*).

У апошнім лісьце Вы характэрызуеце мае эстэтычныя погляды як рамантычныя. Гэта не зусім так, хаця я ўсёй душой вітаю зьяўленне твораў такога накірунку, таму як рамантызм заўсёды суправаджаў пачатак новага, якаснага этапу ў жыцьці народа, у яго культуры. Ён павевы сьвежага ветрыку, спадзяваньне на нешта лепшае ў будучым. Гэтак сама я вітаю і фармальныя пошукі нашых творцаў, яны дазваляюць глыбей уздыхнуць, разнявольваюць думку, паказваюць магчымасьці інтэлекту аўтара, магчымасьці слова (калі ёсьць гэта — ніколі не будзе душэўнай хваравітасьці, сумненьняў, а ці можна на нашай мове выказаць найтанчэйшыя зрухі душы, не будзе адчуваньня яе перэферыйнасьці ці калгаснасьці, што зараз ой як важна). Гэтак сама я буду вітаць усё, што пашырае даляглядры нашай літаратуры, што ідзе на карысьць разьвіцьця нацыі. Але бліжай да мяне прынцыпы жорсткага, праўдзівага рэалізму (гэта не значыць безгустоўнага), без прыўкрас і недагаворак, што ў свой час былі ў творах М. Гарэцкага, а цяпер дык і не ў кога няма, бо няма абставінаў для іх зьяўленьня. (І надрукаваньня). Нават Быкаў шмат чаго не дагаворвае (адчуваецца, што ня хоча, а што і ня можа). Гэта вялікая прывілея для літаратуры і ня ўсім даступная — жыць як ёй хочацца.

Прачытаў ксёнжачку Пазьняка пра Менск, вельмі прыемны такі філасофскі погляд на архітэктуру, адчуваецца, што гэта толькі надводная частка айсьбергу, таго, што ён мае. А ў нас жа амаль не зачэпаныя (не кажу пра ранейшых дасьледчыкаў, бо ня ведаю) Гродня, і Вільня, і Вітэбск, Нясьвіж з Наваградкам, госпадзі, колькі працы, а хто гэта будзе рабіць?

Паціху выбіваюцца і нашыя гомельцы-паэты, што радуе, бо за тры гады ніхто з перыферыі не даў столькі новых сілаў, як гомельцы. У 87 годзе выйдуць зборнічкі вершаў у Едруся Акуліна і Анатоля Сыса, абодва будуць зьяваю ў нашай паэзіі.

Наступны раз зноў напішу я, ужо з новага мейсца. Цікава, як там Паліна, ці не расчаравала яе асяроддзе будучых беларусазанаўцаў? А я зараз размаўляю па-беларуску ў асноўным толькі пра сябе, бо палова маіх знаёмых і рускую з цяжкасцю разьбіраюць.

Да пабачэння. Алесь.
*Пісана 29 кастрычніка.*





Добры дзень, Ірэна Пятроўна.

Выбачайце, што доўга не пісаў, але на гэта былі прычыны. Прайшлі адныя вучэньні, зараз ідуць другія, і так да канца лютага, ня ведаеш, ці будзеш заўтра спаць цэлы дзень, ці працаваць без адпачынку. Мы былі там, дзе паштовых скрынак няма, а зараз на непрацяглы час вярнуліся «да дому». Карыстаюся гэтым. Атрымаў шмат лістоў, і ўжо другі ад Вашай дачкі. Піша цікава і хораша. Я рады, што Вы падштурхнулі яе да перапіскі са мною, бо са сталіцы да мяне лістоў амаль не прыходзіць. І навіны студэнцкага жыцьця, культурнага Менскага жыцьця вельмі каштоўныя для мяне. Толькі няёмка, што яна чытала тыя радкі пра сябе. Каб ведаў — пісаў бы мягчэй, далікатней. Але што ўжо зробіш.

Атрымаў першы ліст ад Казловага (Анатоль Казлоў — пісьменнік (1962—2023), вучыўся разам з Алесем Бяляцкім, у 1986 годзе таксама быў у войску ў Навасібірскай вобласці, пасёлку Качанёва. — *Рэд.*). Яму, беднаму, зараз прыходзіцца нялёгка. Жыцьцё курсанта зімою — ня вельмі прыемная рэч. У параўнаньні з ім я жыву вельмі добра. А першыя тры месяцы — самыя нудотныя. Ведаю па сабе, увесь час згадваеш Радзіму, мову. З гэтым у мяне зараз, дарэчы, праблема. Добра, што хоць яшчэ адзін «бульба», як нас тут мянуюць, служыць са мною разам. То я яго да мовы прывучыў, ды ўсё роўна, цяжка. Застой поўны. «Актыў» пераходзіць у «пасіў». Але нічога, вярнуся, хутка ўсё ўзнаўлю.

Перад вучэннямі пашэнціла ў горадзе трапіць на Адамовіцкі «Ідзі і глядзі». Тры дні хадзіў пад уражаннем ад убачанага.

Фільм ідзе на мяшанцы, мабыць ёсьць і беларуская чыстая копія для рэспублікі. Багата зацягнутых момантаў, але за кошт «звычайнага рэалізму», не выбарачнага, эфектнага, для кадра, без падфарбоўваньня, дасягаецца вялікі эфект. І гэта наступны значны пасьля «Чужой бацькаўшчыны» БЕЛАРУСКІ фільм. Яны ў нас выходзяць недзе раз у два гады. Так, пры маёй памяці пайшлі: «Дзікае паляванне караля Стаха», «Людзі на балоце», «Чужая бацькаўшчына», а вось цяпер «Ідзі і глядзі». Што і казаць, калі вось так палілі вёску маёй маці. Яны ўцяклі, а хто не ўцёк — загінуў.

Да майго «аўрэа медыёктрытас» застаўся тыдзень, да гэтага ішоў у гору, а пасьля справы пойдуць на сход. Да гэтага лічыў, колькі праслужыў, а цяпер — колькі засталося. Дзякуй Богу, за ўсімі клопатамі гэтымі час ідзе хутка. З хлопцамі жывем добра, от толькі ўсе свае культурныя «выабцасваньні» прыходзіцца трымаць пры сабе. У вучэбцы там хоць сустракаўся са сваімі «сябрамі па няшчасцю» — таксама пасля ВНУ — гісторык адзін, пакінулі яго на катэдры Кіраўскага інстытуту, юрыст з Чэлябінску, артыст з Чэлябінскага драмтэатру. Сабярэмся, пагаворым, пасьмяемся са сваіх камандзіраў, з сябе саміх, такія разумныя хлопчыкі былі, і яшчэ мой сябра, да якога я меў найбольшую сімпатыю з прычыны беларускага яго паходжаньня, свердлаўчаніна ў другім калене па прозьвішчу Станкевіч, то нейк весялей было, а зараз такая пустка вакол... Добра, што бібліятэка ёсьць.

Жыцьцё ў войску зьдзіўляе сваёй аднастайнасьцю і размаітасьцю аднachасова. Першае заключаецца ў раскладзе — у адзін час пад'ём, сьнеданьне, развод на працу і г. д. І дзень прайшоў, і тыдзень, і месяц — а ўсё ў адзін час. Як тут кажуць, вайна вайной, а абед абедам — хоць неба раскаліся — у тры пойдзем палуднаваць. А другое ў тым — што ніколі не даўмеесься якая будзе праца, куды цябе пашлюць, што загадаюць рабіць. Кім толькі тут не давялося і яшчэ не давядзецца пабыць. Цікава...

Адно забівае літаральна — бескарыснае існаваньне. Як кажуць, ні Богу свечка, ні чорту памяло. Суцяшаю сябе тым, што чалавек павінен паспытаць усяго, як у нас гавораць, «войска трэ' было б увесці толькі для таго, каб на ўсю поўніцу адчуваць прыгажосьць цывільнага жыцьця», а якое яно — у кожнага сваё разуменне. Мабыць і мне наканавана прайсьці праз адарваньне, ізаляцыю, каб па вяртаньні працаваць болей, энергічней.

Пішыце. Алесь.<br>*Пісана 7 лютага 86 року.*

Добры дзень, Ірэна Пятроўна!

Вы слушна заўважылі — гэты час, адбыты ў войску, не міне для мяне бязсьледна. І як для чалавека — я стаў горшым — уведаў на што здатны, навучыўся ліха хлусіць, пра вайсковае жыцьцё на гэты конт ёсьць трапная прымаўка, але я змаўчу. Інакш нельга. Каставасьць у расейскім войску захавалася. Афіцэра і жаўнераў разьдзяляюць вялікая прорва. Галоўная задача афіцэра — як зрабіць так, каб жаўнер не «прастойваў» ні хвіліны, метады для гэтага так сама адпаведныя, і тут ужо не ўтрымаюся, так, у майго самага галоўнага непасрэднага камандзіра адна з хадавых прымавак: «Куды жаўнера не цалуй — паўсюль с...». Адпаведна жаўнеры спрабуюць унікнуць ад працы, ці робяць яе як мага павольней, а самыя хітрэйшыя — зрабіць імітацыю шалёнай працы, робячы як меней. Добрасумленнасьць адзначаецца рэдка. Колькі разоў я быў сведкаю, калі людзі працавалі дзень і ноч не прасыхаючы, а ўзнагарода — паўгадзінная прамова афіцэра, дзе словы «лайдак», «абібока» — самыя мяккія. А было і наадварот. Гэта дэзарганізуе і самых працавітых. Праўда, ёсьць і выключэнні. Калі качаесься ў брудзе, то ён, хочаш ты ці не, ліпне да цябе. Некаторыя з мясцовых «настаўнікаў» мянуюць гэта жыцьцёвым вопытам. Магчыма. Што тычыцца мяне і як спецыяліста, то тут я безнадзейна адстаю ад тых, з кім ішоў разам. За паўтары гады можна гару перавярнуць, а я толькі назіраю, як гэта робяць іншыя. Зараз у маёй душы разброд, што амаль заўсёды здараецца вясной. Ва універсітэце я звычайна ў такі час з’язджаў зь лекцый на тыдзень-два «ў Беларусь», піў бярозавік, смажыў сала з алкаголікамі, хадзіў па шыю мокры, але шчаслівы.

Я з болем думаю над тым, чаму беларушчына была і ёсьць удзелам выбраных? Калі якасьць урэшце пачне перарастаць у колькасць? Якую цану за гэта трэба заплаціць? Нашая інтэлігенцыя такая бяззубая. Яна мне нагадвае тонкі слой плесьні на акрайцы хлеба, які можна лёгка зьняць, скаблянуўшы раз-другі нажом, што ўжо рабілі і з больш зубатымі. Зараз прачытаў У. Арлова «...І вярталіся мы» ў ксёнжцы. Якая яна недасканалая, але балючая рэч. Гэта як дзіцё, што толькі нарадзілася, непрыгожае, чырвонае яшчэ, але ў ім закладзена ўсё тое, што разьвернецца потым у найвышэйшае стварэнне боскае. Ня гледзячы на дзіцячую недасканаласьць яго аповесьць — зараз вяршыня сучаснай літаратуры. Ён ідзе нават далей за Караткевіча, па якасьці гэта — ніжэй яшчэ, але ўжо новы, больш высокі вíток.

Зараз нас вельмі ліхаманіць. Канец вучэбнага паўгоддзя — праверка, але нічога.

Пішыце. Алесь.

*Пісана 18 сакавіка 1986 р.*

Добры дзень, Ірэна Пятроўна!

Усё маніцца — яшчэ трошкі паслужу — а там і час вольны з'явіцца, а на самой справе — як было так і застаецца. Адно робім — іншае надыходзіць і толькі пасьпявай круціцца. Але так яно можа яшчэ і лепш — хутка ляціць час. Адно трохі хвалюе — зборы афіцэраў запасу, якія мне належыць яшчэ прайсці ў гэтую вясну адсунулі на 2 месяцы, гэтак жа ж будзе, мабыць, і ўвосень, а гэта значыць, добра, калі дадому траплю на каляды. Пісаць пра мясцовае жыцьцё ня хочацца — надта яно шэрае нейкае. Ды і не пра ўсё напішаш.

Знайшоў згадку пра сябе ў «ЛГ», пра якую вы напісалі мне — гэта, безумоўна, кампліменты, бо ўсе напісаныя мною рэцэнзійкі дастаткова сярэдненькія і аматарскія, напісаныя яны на «патрэбу дня». І толькі таму і напісаныя. У ва мне столькі жоўці, прыкрасьці, ледзь не нянавісьці скапілася на нашую літаратуру і крытыку сучасную, на яе ацэнкі (ёсьць, вядома, і выключэнні), што я так шкадую, што ў нас няма якой-небудзь «бульварнай газецёнкі» — першы пайшоў бы ў яе працаваць — зь якім задавальненнем пабоўтаў бы пяром у нашай культурна-пісьменніцкай каламуці. Уяўляю, як закруціліся, бы вужакі, усе нашыя «славутасьці». Блага, калі пісьменнік не забясьпечаны і вымушаны перабівацца (схематычна кажучы) з хлеба на ваду — як на Захадзе, але яшчэ блажэй, калі іх закармліваюць, не пасьпелі яны і вылупіцца.

Самае нядобрае ў нашай літаратуры гэта тое, што ў масавасьці сваёй яна стала літаратурай элітарнай — для выбраных, тых хто ўмее і хоча чытаць па-беларуску. У беларусаў няма адносінаў да сваёй літаратуры, як у рускіх ці літоўцаў, напрыклад (дарэчы адзін жэмайт сьпіць насупраць мяне і я, часам, маю зь ім гутаркі). І гэтая элітарнасьць, як бы не стараліся кожны па-асобку, робіць літаратурную сучасную плынь шмат у чым ненатуральнай, фальшывай. Няма гармоніі, гэта, дарэчы, заўважаюць лепшыя яе прадстаўнікі — Казько, Арлоў.

Вы слушна пішаце пра тое, што цалкам, у больш-меньш поўным аб'ёме культ. здабыткі — здабытак меньшасьці. Але культура народа ўяўляецца мне айсбергам 1/20 якога, вяршыня, павінна быць агульнавядомай, павінна быць уцмактана з малаком маці. Хто захоча — пойдзе глыбей, гэтую абэцэду павінны ведаць усе. Усе беларусы, напрыклад, з гісторыі павінны ведаць, што такое на самай справе была Кіеўская Русь, што такое Грунвальд, Люблінская вунія, тры падзелы Рэчы Паспалітай, хто такія Ефрасіньня Полацкая, Вітаўт Вялікі, Францыск Скарына, Леў Сапега, Кастусь Каліноўскі, што ўяўляюць сабой першая ўсходнеславянская друкаваная кніга і Статут Вял. кн. Літ., усе павінны ведаць, што азначае вершнік з узнятым мячом і г. д.

Мяне зьдзівіла навіна пра гомельскіх краязнаўцаў, якія заварушыліся зь вясною — я і раней чуў пра гэтую ідэю, якая «лунала ў гомельскім паветры», але каб вось так — некалькі чалавек, як вы пішыце — гэта ўжо цікава, хай бы і на самой справе што-небудзь вартае атрымалася, працы там — як і паўсюль у нас — аблога нячэпаная — нат' гісторыі Гомеля больш-меньш прыстойнай няма, а што казаць ужо пра Мазыр, Рагачоў, Чачэрск, Лоеў (дарэчы, пра Лоеў, пра яго заснаваньне я тое-сёе выкапаў), а этнаграфія, фальклор, палітычную гісторыю — бы ў пустцы жывём — дзе акрамя нас ніхто болей ня жыў.

Ёсьць у мяне задумка і пра Паўлюка Труса, гэтага «савецкага маладнякоўскага Багдановіча», які жыў у Гомлі 2 гады,

шмат друкаваўся ў гомельскай газеце, але што — ніхто не ведае, бо поўнага камплекту ў Беларусі няма, а толькі, мабыць, у Ленінградзе, куды і трэба зьездзіць.

Гомля, дарэчы, вельмі перспектыўнае места з боку утварэньня там другога культурнага цэнтру Беларусі, хай сабе і меньшага па колькасьці актыўнай інтэлігенцыі, але дзейснай, прадуктыўнай, але час пакажа, год праз 5 пабачым. Я то дакладна ведаю — у Менску не застануся, а паеду ці ў Гомлю ці ў Гродню, таксама, час і варункі жыцьця пакажуць.

А як вы жывеце, як там нашая катэдра славутая маецца? Пішыце, калі ласка, мне цікава усё.

Алесь

*Пісана 26 красавіка 86 р.*





Добры дзень, Ірэна Пятроўна!

Дзякуй за файныя паштоўкі, яны, бы кавалачкі нейкага дзіўнага, прывабнага сьвету (паштоўкі з Прагі. — *Рэд.*). Чэхам можна пазайзросьціць. От у нас усё цікава робіцца — усё, што нейкім цудам ацалела — пад корань. Затое як проста жыць — нічога не маючы за сьпінаю, акрамя цяжкай мінуўшчыны, якой сьветлай і прываблівай уяўляецца будучыня. Тым болі, дзіўнымі здаюцца выбрыкі гомельскіх краязнаўцаў, калі ўвесь народ — наперад, а яны? Чаго дамагаюцца яны? Не дай Божа, ім яшчэ дадуць магчымасьць выступаць з лекцыямі, друкавацца (у цяжкія буржуазныя часы ў Віцебску выходзіў жа нейкі там краязнаўчы часопісік), у нашыя часы, я думаю, да такога ім дакаціцца не дадуць, а без свайго часопіса — ці доўга яны пратрымаюцца, пабачым. І тое, што яны ўзьнімаюць голас аб рэстаўрацыі былых рассаднікаў «каноплі для народу» — культавых будынкаў — дастаткова красамоўна гаворыць аб іх сутнасьці. Ды зараз лета, горача, яны, мабыць і так у норы пазалазілі.

Жыцьцё ідзе сваёю колеяй — для каго паўнакроўна і шматфарбна, а для каго — не. На Беларусі вялікія зьмены, адбываюцца цікавыя рэчы, накшталт разгону сьвята вясны на Траецкім (які менскія ўлады прызначылі на 20 красавіка, у нядзельку, а ўлады раёну, у якім знаходзіцца Траецкае, сабралі перад гэтым былых «афганцаў» і папярэдзілі аб магчымых выступах на 20 і пра тое, што гэта можа адбывацца ў «национальной расфасовке», вучняў са школы-інтэрнату мастацкай, што былі апранутыя ў строі з веснавою птушкаю

і штосьці спявалі і танчылі — разганялі былыя воіны, багата каму дасталося, нат’ дзяўчатам. Крычалі: «Заткнитесь, не говорите па-бел.!» І білі. Міліцыя стаяла побач. Весела жывецца ў Менску. А назаўтра папаўзьлі плёткі (і адкуль яны толькі ўзяліся...), што на Траецкім спрабавалі сабрацца фашысты, якія размаўлялі па-бел. У жыцьці грамадства мала рэчаў выпадковых, усё шчыльна зьвязана паміж сабою. Не выпадковыя гэтыя плёткі, не выпадковае зьнішчэньне помнікаў архітэктуры ў нас.

Мяне не зьдзіўляе, калі хлопец-беларус, што вучыцца ў Вітэбскім інстытуце (мед) (я зь ім гутару, часам), ня ведаў, што ў нас выдаецца такі часопіс як «Маладосьць», хаця сам прыхільна ставіцца да беларусшчыны, ён ня ведаў, хаця сам цікавіцца жывапісам, што ў Вітэбску жылі і Малевіч, і Шагал, і Надзея Лежэ — тыповы прадстаўнік «беларускай» інтэлігенцыі. Ня першы раз сутыкаюся я з такім, а ўсё ніяк не магу звыкнуцца, ды, мабыць, і ня звыкнуся ніколі, заўсёды будзе сорамна і больна.

Што тычыцца майго цяперашняга жыцьця, то яно дастаткова разнаітае зараз на розныя вайсковыя падзеі, зараз трывогі, трывогі, хутка, мабыць, паедзем на вучэньні, абстаноўка накаляецца, бачна і па нашаму злучэньню, але афіцэры пра вайну думаць баяцца, бо ведаюць, чым усё скончыцца.

Мне застаецца толькі цярпліва чакаць зімы.

У мінулую нядзельку хадзіў адзін у звальненне, натуральна, пацягнуўся ў старую частку места, пабыў там, дзе расстралялі Н. II (цара Мікалая II. — *Рэд.*) каля царквы былой (аказалася, там цяпер гіст. рэв. музэй) натрапіў на сьвежую траншэю, прачнулася душа археолага, сьмешна, мабыць, было з боку назіраць, як жаўнер у парадным форме нечага шукае ў траншэі. Знайшоў на шчасьце сабе зламаную падкову, невялічкае донца глечыка і венчык — узяў сабе на памяць. У музеі — касьлінскае ліцьцё — цудоўныя некаторыя рэчы, выстава кітайскага шкла, парцэляны і таксама ліцьця (статуэткі Будды па 1000 год, а адна — са свастыкай на грудзях — сімвалу сонца ў свой час). Вайна не дайшла да іх і ўсё засталося.

Пішыце. Алесь.<br>*Пісана 5 чэрвеня.*<br>Выбачайце за нязлажанасць думак, але часу мала.

Добры дзень, Паліна.

Быў прыемна здзіўлены, атрымаўшы твой ліст. Я вось ужо другі раз спрабую адказаць (першы раз не паспеў скончыць — пачаліся вучэнні, а зараз пішу праз тыдзень ужо). Я знаёмы з тваёй маці і паважаю яе, як гісторыка, этнографа і як разумную жанчыну, таму мяне і цікавіць твой лёс, а што самае галоўнае — выбраны табой шлях. Адзін з маіх знаёмых сяброў зрабіў мапу Беларусі, адзначыўшы на ёй кропкамі адкуль паходзяць «сьведамыя людзі», як раней казалі. То Гомельшчына аказалася самай беднай, а найбольш «заплямленыя» — Навагрудчына, Віленшчына, Случчына, Міншчына. Таму я радуюся кожнаму чалавеку, што выходзіць з Гомельшчыны, прысвяціўшы сябе беларушчыне. Нажаль, з нашага Гомельскага універсітэту, іх выйшла небагата. У асноўным беларуская літаратурная мова, культура нашай Радзімы з'яўляецца для нашых выкладчыкаў і студэнтаў — у будучым — сродкам для здабываньня «хлеба з маслам». Ад гэтага робіцца вельмі горка. Справа, якую пачынаў і наш зямляк Сяргей Палуян, незакончаная. З аднаго боку, здаецца, мы маем добрую літ-ру і адну з развітых у свеце моў і багацейшую культуру, а з другога боку — народ адыходзіць ад мовы — ці не самага каштоўнага культурнага свайго набытку, адыходзіць ад сваёй крэўнай культуры, замяняючы яе на сурагат нейкі, эрзацкультуру. І галоўная задача, што стаяла і 100 год таму перад Багушэвічам і 70 год — перад Палуянам, Купалам, Цёткай — засталася стаяць перад намі — даказаць народу свайму, што ягоная мова, што дае найбольшыя магчымасьці





для яго ўнутранага разьвіцьця «гэткая ж людская, як расейская і французская», што без сваёй мовы, без сваёй ушанаванай гісторыі, этнаграфіі, фальклору ён хутка ператворыцца ў прыдатак свайго «вялікага брата», а хутка і зьнікне зусім, і разам з ім лягуць у нябыт творы геніяльных пісьменнікаў, знікне з далягляду сьвету непаўторная, унікальная еднасць, якую ўяўляюць сабой беларусы. Да Сяргея Палуяна ў мяне асаблівыя адносіны. Я заўсёды згадваю пра яго з сумам і замілаваньнем. Ён ужо малодшы за мяне па ўзросце, але не на багата, і зямляк да ўсяго. Нарадзіўся ў Каленкавіцкім раёне, у 30 км. ад Сьветлагорска, адкуль я. Мне здаецца, у яго быў нейкі псіхічны разлад — гэта бачна з яго экзальтаваных, эмацыйных твораў і з апошняга пасьмяротнага ліста. А які талент быў. Буйны, бліскучы бы каштоўны, неабгранены яшчэ камень, які пад разцом вопыту і часу заблішчэў бы ва ўсё моц, ды не дадзена. І застаўся пасьля яго сьлед чысты, бы пасьля зьнічкі ў небе, ды нашая памяць як аб чалавеку, што да астатку прысвяціў сябе ці не самай пачэснай справе — служэньню Радзіме.

Мне няёмка за свае «прароцтвы» наконт цябе, але бачыць Бог не для тваіх вачэй яны пісаліся (як ніяк мы адно пакаленьне, таму бяру на сябе смеласць размаўляць з табой на «ты» і прашу да мяне зьвяртацца гэтак жа), каб ведаў, што яны трапяць да цябе, зрабіў бы гэта далікатней, але што зроблена, то і зроблена. Зараз у цябе цікавае жыцьцё пазнаваньня. Паўсюль ходзіш, усё бачыш і па вечарах і па сустрэчах, і літаратуры любой — цэлая «ленінка». Можна пазайздросьціць. Пішы мне калі ласка, дзе вы бываеце, што робіце, якое ў вас асяроддзе ці ёсьць разумненькія хлопчыкі з дзяўчатамі, якія ў вас настроі, размовы, як увогуле справы ў Менску і сярод студэнтаў? Як выкладчыкі, заняткі?

Ці размаўляюць у вас на мове? Як ставяцца да яе твае аднагрупнікі? Мяне цікавіць усё.

Што тычыцца маіх справаў — я зараз адарваны ад ўсяго і толькі лісты асьвятляюць крыху сітуёвіну. Але нічога. Засталося ўжо няшмат. Служба самая звычайная, як у соцен тысяч іншых. Стараюся чытаць, калі з'яўляецца час, але яго, нажаль, вольнага — мала.

Увогуле — усё нармалёва. Хапае ўсяго і сьмешнага і грэшнага.

Пішы, Алесь
*Пісана 22 студзеня 1986 року.*





Добры дзень, Паліна.

Даўно я так не сьмяяўся, атрымаўшы твой ліст (яшчэ раз шчыра прашу размаўляць са мной на «ты»). Вельмі цікавыя характарыстыкі даеш ты сваім сукурсьнікам. Адразу ўяўляеш сабе ўсе вяршкі будучай беларускай інтэлегенцыі. Дарэчы, ваш Рагойша слушна зазначыў на гэты конт. Універсітэт дае найбольшую колькасьць думаючых людзей, ня гледзячы на ўсю вашу цяперашнюю арыгінальнасьць аднаго перад адным. З часам гэта пройдзе. А потым ідуць Менскі пед., а потым, як ні дзіўна наш Гомельскі універ. Хаця, здавалася б, у такім месьце як Гродня, насычаным нашай гісторыяй, мінулым беларусы павінны былі б найбольш адчуваць сябе беларусамі, прабач БЕЛАРУСАМІ.

Што тычыцца Г. (аднакурснік. — *Рэд.*), то не дай бог яму пайсьці па шляху нашых ведамых землякоў Вані Шамякіна, нябожчыка Макаёнка, маладога, ды з раньніх як раней казалі «барзапісцаў» Міколы (Мятліцкага — надпісана ў тэксце зверху ручкай. — *Рэд.*), госпадзі, забыўся на яго прозьвішча, з Хойніцкага раёну ён, з в. Бабчын, зараз часьценька выступае ад імя «здольнага маладога пакаленьня». Як прыеду — абавязкова пазнаёмлюся зь ім, калі толькі ў войска не сыйдзе. А здольнасьці ў яго, безумоўна, ёсьць. Але наш час такі, што здольнасьці, на жаль, не галоўнае. Талент творцы, як не дзіўна, яго мейсца ў такой духоўнай сьферы, як літаратура, вырашае яго грамадзянская пазіцыя. Прасьцей кажучы — ці хопіць у творцы моцы не клюнуць на «прозу» — кватэру ў сталіцы, грошы, машыну. Творчасьць патрабуе ахвяравання і ў наш,

здавалася б уладкаваны час. Зараз, як раней, інтэлегенцыю прыручаюць адноснай забясьпечанасьцю. І наша сучасная беларуская інтэлегенцыя, у большасьці сваёй (у апошні час толькі справа зьмянілася) вясковая, «заглытвае асьцё».

Друкую ліст, каб было разборліва. Часу няма, таму друкую «кавалкамі», калі льга. Вам можна пазайздросьціць. У вас ужо на першым курсе ёсьць людзі, што размаўляюць па-беларуску, адказваюць на ёй. Дый выкладчыкі па-салідней. А от як мы пачыналі — такая пустка была перад намі... Першыя месяцы на нас і ў групе пальцамі паказвалі, а было гэта толькі ў 4 семейстры. У вас усё прасьцей, натуральней. Хаця, таксама, безумоўна, асабліва ад дзяўчыны, патрабуе пэўнай мужнасьці грамадзянскай. Цяжка на першых тыднях. А потым прыходзіць упэўненасьць. І ўнутраная раўнавага, задавальненне нейкае — дасягнуў свайго натуральнага КРЭЎНАГА стану, стаў такім, якім і павінен быць. Чым болей пагружаесься ў моўную стыхію, тым вальней там сябе адчуваеш, тым болі асалоды атрымліваеш ад крэўнага слова. І толькі гэта зьяўляецца першапачаткам, плятформаю для далейшага штуршка якаснага. Гэтак было і ў мяне і ў сяброў маіх, што не зь вёскі, а з места, што адчулі мову не праз вусны маці, а генна. Ра́джу з усёй упэўненасьцю — калі ўсе гэтыя справы для цябе не забаўка, не чарговы модны выхіл гарадскога дзіцяці, пераходзь на мову — паўсядзённую, штогадзінную, штохвілінную, каб пачалі сны на ёй сьніцца, каб праз сон на ёй размаўляць, каб быць праз яе вышэй за ўсё мяшчанскае сьмецце нашага жыцьця. Прабач, што трохі груба, але гэта вельмі сур'ёзна, каб хаваць у абалонку вытанчанага стылю. Адразу скажу — спачатку не будзе гладка атрымоўвацца, але месяц — і ўсё пойдзе.

Замежная літаратура, нажаль, у нас выкладалася вельмі дрэнна і я стараўся пазьбягаць гэтых лекцый, за што аднаго разу і стыпендыяй паплаціўся, але не шкадую, бо эканоміў час. Тое, што ты ходзіш туды — добра, калі падабаецца. Дарма ты жалісься на памылкі свае. Яны сустракаюцца вельмі рэдка, ды за 4,5 гады гэта пройдзе, хо, каб гэта было галоўным... Ці мала прыкладаў, калі людзі выдатна ведаючыя і пішучыя без памылак, на мове не размаўляюць і грэбуюць ёю. А калькаванасьць нашай мовы — гэта агульная наша бяда, ад якой трэба пазбаўляцца як толькі можна. Ёсьць выдатныя слоўнікі В. Ластоўскага, Некрашэвіча 20-х гадоў, адкуль многа што пераходзіць зараз у мову сучасную. Добрая была задума, як у чэхаў, зрабіць генеральную чыстку мовы, замяніўшы ўсё ненатуральнае, але да гэтага адразу ж прыляпілі адпаведныя ярлыкі і «могучий и великий» стаў для нас узорам. Дасюль у слоўніку на І-м мейсцы чытаеш «тапор», а не сякера, кап'ё, а не дзіда, поезд, а не цягнік.

Цікава, увогуле, вам там жывецца. Хутка зьявіцца ксёнжачка У. Арлова — зьвярні на яе ўвагу, калі ласка.

Як ты склала іспыты ў першай сэсіі? Як у вас там жыцьцё ідзе? Як твае аднакласьнікі адносяцца да такога «дзіўнага» выбару? А што ў Гомлі?

Пішы. Алесь.
*Пісана 5 лютага 86 року.*

Забыўся напісаць некалькі слоў аб сабе. У вольны час папаўняю свой «базіс». Чытаю рускую, замежную клясыку. Тое, на што гарэлі вочы, але не хапіла часу на цывільлі. Перачытваю некаторыя рэчы. Зараз чытаю «Уваскрасеньне» Льва Талстога, але гэта ўсё так марудна, бо вольнага часу мала і вам можна толькі пазайздросьціць.

Добры дзень, Паліна!

Дзякуй, што выбіраеш час, адрываеш такія важныя хвіліны з такіх зьмястоўных лекцый як па гісторыі БССР, ды і ад такіх прыемных заняткаў, як зьнішчэньне бутэрбродаў ці спакойнага іх пераварваньня. Такія лісты адрываюць мяне ад рэчаіснасьці, прымушаюць згадваць раптам, што недзе ж ёсьць такое мейсца, дзе жывуць амаль адныя беларусы, ужо нейк і ня верыцца. Мае землякі тут рассыпаны бы залацінкі па ўсёй гэтай шэрай разнастайнай жаўнерскай масе. Што казаць, калі з нас, шасьці чалавек у нашым аддзеле (добрае беларускае слова, што азначае падразьдзяленьне) 5 нацыянальнасьцяў дзе мы «бульбы», як нас тут мянуюць, складаем большасьць, бо нас двое і дзе «вялікі і магутны» прадстаўлены такім масёхам і путам, што няёмка пра яго распавядаць.

Зараз завалілі мяне часопісамі нашымі, а «Нёман» дык і ўвогуле прадаецца ў месце праз кіёск і я накінуўся на ўсё гэта, спачатку глытаючы без разбору, а потым перачытваючы вартае. «Маці ветра» — лепшая п'еса Уладзіміра Сямёнавіча. Перад войскам, на Радуніцу, ці як у цэнтры кажуць, на Дзяды, я быў на яго магіле — багата было моладзі, сьвечачкі стаялі, вершы чыталі, песьні яго любімыя сьпявалі («Не загасьне зорка ў небе» і г. д.) добра так запомнілася. Такі чалавек памёр, апраўданасьць ЖЫВОГА таленту, як мне здаецца, вымяраецца творчым шляхам пісьменьніка. Так, Шамякін ужо падводзіць рахункі, робіць гэта, да яго гонару, грунтоўна, не ўпрыгожваючыся ў галоўным (узяць яго ўспаміны пра бацькоў, пра Макаёнка — гэта і адказы на тыя пытаньні, што заўсёды хвалююць біёграфаў пасьля адыходу пісьменьніка, а ён робіць усё сам, можна пазайздросьціць такому спакою). У апошнія гады ён у творчасьці стаў, дарэчы, больш беларускім, больш адчуў сувязі з нашай зямлёю. А Танк і Панчанка і Лужанін і Шушкевіч ужо адыйшлі, хоць яшчэ і жывуць, але яны перажылі ў сябе ТВОРЦАЎ. Так, як пераҗыў сябе Купала аж на 11 год (гэта найвялікшая трагедыя нашай літаратуры, ды і ня толькі нашай, калі геніі з прычыны зьнешніх абставінаў свайго жыцьця раптам замаўкаюць, ня могуць больш пець. Таму і сьмерць Купалы, яго самагубства — гэта не самагубства Палуяна, а сьмерць чалавека, які на самай справе больш не бачыць для сябе выйсьця, які зразумеў, што для яго ўжо ўсё скончана. Гэта мужны ўчынак.)

А калі паназіраць за напісаным Караткевічам, то можна заўважыць, што ён увесь час ішоў па ўзыходзячай. Пасьля кожнай рэчы яго, што чыталася, думалася, во, добра, цудоўна, геніяльна, але адчуваецца — гэта не апошні сузгук, самае лепшае яшчэ наперадзе. Яшчэ не напісана. І хаця лепшым творам яго я лічу «Хрыстоса», але прачытаў яго ў дзевятай клясе і з тых часоў увесь час чакаў — зьявіцца нешта большае, магутнейшае. І ўпэўнены і зараз — яму б яшчэ 10 год — і зьявілася б. Ды і ўсё, што напісана пасьля «Хрыста» — не ніжэйшае, а проста на другім вітку, бо яго творчасьць ішла па сьпіралі. Пасумаваў, прачытаўшы «Маці», падумалася — от нам бы такіх пьесаў 50 мець ( пісалі ж некалі людзі па 50 і па 100 і па болей пьес), якімі б мы тады былі багатымі. Нашыя драматургі не разумеюць усёй той важкасьці адказнасьці за выхаваньне нацыі, што ляжыць на іх (ды што казаць, калі на ўсю рэспубліку — 3 беларускія тэатры, у той час калі ў той жа ж Літве — 1 нацыянальны тэатр на 100 тысяч жыхароў!!!). Паглядзець рэпертуар літоўскіх тэатраў — большасьць пьесаў,

пісаных літоўскімі драматургамі — гістарычныя драмы, трагедыі з жыцьця літоўцаў. Ды і рэдка можна знайсьці сучасную пьесу, у якой бы не закранaлася ў тым ці іншым асьпекце мінулае літоўцаў, якім яны ганарацца, якое ўмеюць паказаць, праз якое яны выхоўваюць любоў да мовы, культуры, праз якое сьцьвярджаюць сваё хай і невялікае, усяго на 2,5 міліёны, але адметнае, самабытнае і непаўторнае Я. Вось у каго нам трэба яшчэ вучыцца і вучыцца. Дарэчы, тая гісторыя, якую вам выкладаюць (БССР) — на 80 % — фальсіфікацыя. Складаецца ўражанне, што гісторыі да рэвалюцыі ў нас не было зусім, што акрамя таго як енчыць ды плакаць аб нялёгкай долі беларусы былі больш ні на што ня здатныя і гэта ў той час, калі за сьпіною — паходы на Візантыю, спыненьне і разгром татарскай навалы, вызваленьне ад іх Украіны, пераможная Грунвальдская бойка, 20-гадовая Лівонская вайна з расейцамі, амаль поўстагоддзя хваляваньняў у 17 стагоддзі — і г. д. А хто з цяперашніх «імянітых» можа пахваліцца Рымскай ці Балоньскай адукацыяй? А 5 стагоддзяў такі беларус быў ня рэдкасьць.

Зараз займацца выключна беларускай філёлёгіяй, літаратуразнаўствам у чыстым выглядзе немагчыма. Ёсьць такія людзі, але іхняя абмежаванасьць адразу ж кідаецца ў вочы. Іх можна вывучаць, а потым і працаваць над імі толькі ў комплексе: мова-літаратура-гісторыя-сацыялёгія-культуразнаўства. Абсяг неахопны, але толькі ў гэтым выпадку можна нешта ўведаць, выпрацаваць нейкія аб'ектыўныя крытэрыі. Сучасны беларускі інтэлігент павінен быць абазнаны ва ўсім, умець паказаць лепшы, прываблівы бок усякай грані, што тычыцца яго народу, інакш тыкалі і будуць тыкаць «лапцямі», «вульгарнай гаворкай», «бязспадчыннасьцю». І галоўная задача нашай інтэлігенцыі — паказаць, што ня толькі Зьміцер хіцер, але і Саўка не дурны.

Але буду заканчваць.

Пішы, калі ласка.

Алесь.

*Пісана 3 сакавіка 86 року.*

Добры дзень, Паліна!

Як заўсёды, з цікавасцю прачытаў твой ліст. Нехта яшчэ поўгода таму енчыў, што ня ведае мову, што памылкі робіць, а зараз я раблю камплімент — мова зусім прыстойная і ўпэўніваю, што пройдзе яшчэ троху і ўсе «небеларусізмы» тыповыя зьнікнуць. Так, раю не ўжываць суфікса -ір- — ён не наш (сфармуліраваць, дэрыжыраваць, планіраваць, гастраліраваць — сфармуляваць, дырыгаваць, планаваць, гастраляваць), а таксама -н- у словах тыпу — авангардна-, стальны, металічны — авангардовы, сталёвы, металёвы (хаця тут пэўнага правіла няма і некаторыя словы — немагчымы — так, клясычны і будзе клясычны і г. д., а дзе перапробка магчыма — там пажадана ўжываць, недзе год 5 таму новае слова Разанавым пушчанае пайшло ўжо — нармалёвы). Але гэта дробязі. Як адбіўся зьезд пісьменьніцкі і на вашым жыцьці? А што там людзі кажуць? Пра сьвята на 25 траўня ў Менску нават Камсамолка напісала, не кажучы ўжо пра «Чырвонку». Файны там фатаздымак такі са шляпаю вялікаю і надпісам на ёй — «ярмарка ремесел» здаецца, адразу бачна — што ў Беларусі. Вы, мабыць там таксама ля Купалы былі, ці на Траецкім — а што бачылі? А ў Заслаўі які файны косьцел стаіць 17 ст. — такія лініі!! Памёрці можна — а нікому рукі не даходзяць, такое барока — галава адвальваецца. І ўсе, хто ў Вязынку едзе — глядзіце, калі ласка, от як у нас ставяцца да помнікаў культуры. І архітэктуры (бо не ўсе далёка рэлігію атаясамліваюць з культураю). Што тычыцца Т. (аднакурснік. — *Рэд.*) — то ён усё ж такі, хоць і міжволі можа, абразіў памяць Купалы. Чаму Купала стаў БЕЛАРУСКІМ паэтам? Ці стаў бы ён паэтам увогуле (усё магло бы і скончыцца на першых спробах па-польску), каб не было адзінай усё падпарадкоўваючай мэты — давесьці беларусам, што яны НАЦЫЯ, а ў гэта паняцьце уходзіць у першую чаргу родная мова! Вось табе 18, у цябе нямае часова жытла — прыемна табе? А ён яго ня меў у 30 і ў 35 — і гэта пры нармалёвай на тыя часы адукацыяй, якая, калі б ён захацеў, безумоўна, дала бы такую-сякую дастатковую для пракорму сябе і сямьі капейку. Але, я ўпэўнены, ён выдатна разумеў, што таго, што ён можа зрабіць для свайго народу — ніхто за яго ня зробіць і таму адкінуў уладаванае спакойнае жыцьцё дзеля таго (можа і сваё шчасьце спакойнае адкінуў) каб вось такія як ты, я, Т. размаўлялі па-беларуску і разумелі сваё мейсца ў гэтым жыцьці і мейсца свайго самабытнага, таленавітага, вялікага ў сваіх страданьнях народу. Гэта можа высокія словы, але і Купала — не Лойка. Уменьне ахвяраваць асабістым дадзена далёка не ўсім. Гэты выпадак нагадвае мне яшчэ адзін з гісторыі — першы помнік К. Марксу паставілі ангельскія буржуа за тое, што ён раскрыў механізм эксплуатацыі і што дазволіла яго яшчэ больш удасканаліць. Прырода ня трывае пусткі і гэта факт — змагаючыся за беларускую мову Купала гэтым самым, толькі гэтым ужо змагаўся супраць ужываньня беларусамі польскай і расейскай моў. Сацыяльнай згоды ў сьферы лінгвістыкі дабіцца немагчыма — гэта не грамадства і тут ідзе барацьба (хай сабе і запаволеная, скрытая, прыглушаная). І вось табе маем — перад помнікам чалавека, які ўсю душу сваю ўклаў у беларускую мову (у супрацьлегласьць рас. і поль.) беларус чытае вершы па-расейску. Гаворачы ужо — дарэмна ты, чалавеча, пнуўся, воз наадварот яшчэ назад адкаціўся. Гэта ўрэшце, проста не этычна. І такія рэчы заўсёды рэжуць па майму сэрцу, хочацца плюнуць і праваліцца

куды-небудзь, каб і не бачыць гэтага сьвету. Ну чаго ён на беларускую не пяройдзе, гэты ваш Т.? Сходзіць ён у войска, тут яго (калі яшчэ ня быў) як вымуштруюць, як напалохаюць чым трэба на палітзанятках і палітінфармацыях — во файны хлопец прыйдзе, хоць куды — хоць у багну, а хоць у твань. (Але гэта ў мяне такія змрочныя жарты). Яго ж авангардовасьць і натуралізм — цікава, калі толькі не з навеваў і подыхаў «могучей и великой», розныя літаратуры — розныя сістэмы, сусьветы (як і мовы, дарэчы, яны хоць і перакрыжоўваюцца, але і адпіхваюцца адначасова). Таму тое, што можа табе і здаецца цікавым — для нас, правінцыялаў у расейскай (веданьні) культуры, на самой справе зусім і не нова, а можа і не — завочна казаць што-небудзь цяжка. Пра сьмерць Александровіча я не ведаў — вялікай душы быў чалавек. Добрыя людзі паміраюць, а рызьзё living розн застаецца. Даўна хацеў у цябе спытаць, хоць, канешне, можаш і не адказваць — а ці пішаш ты, ці спрабуеш? Мне поўгода таму прыйшла такая думка ў голаў — якія ж слабыя нашыя кабеты ў літаратуры — у прозе асабліва, якія бездапаможныя — ніводнага рамана! напісанага жанчынаю — гэта ненармальна, у той час калі за мяжою — я думаю ня трэба і казаць табе — у некаторых пісьменніц па 10-20 раманаў і яшчэ якіх, а куды ж нашыя раманісткі падзеліся? Ну хай бы хто сабе за мэту паставіў — як Жылуновіч у свой час — напісаць раман. Але што зробіш. Проза «Маладосьці» на самой справе слабая ў асноўным, але гэта зьвязана, на маю думку перш за ўсё з тымі ўстаноўкамі, якімі карыстаецца паважаная рэдакцыя пры адборы тых або іншых твораў — а гэта, у сваю чаргу выклікае і адпаведныя творы (хоць і не па заказу, але з улікам... — так цяпер пішуць пачынаючыя). Сапраўды ж таленавітым рэчам прабіцца цяжка — так, гады два таму ўжо забракавалі аповесьць Мінкіна — рэч таленавітую і вострасучасную, фантастычная аповесьць-казка, растлумачылі тым, што — так, сапраўды таленавіта, але надрукаваць зараз не можам, от як станеш клясыкам — тады і надрукуем. Цяпер «Современников» няма. Тое ж тычыцца і крытыкі. Дыскусія перад зьездам была ў ЛІМе — літаральна ў кожным нумары выказваньні — чаму крытыка адстае, што і чаго толькі не вярзлі, пакуль, урэшце К. Крапіва не сказаў — «каб была сучаснай крытыка і каб яна была... (усё, што ад яе патрабуецца) — трэба спрыяльныя ўмовы для яе існаваньня». А цяпер любы крытычны матэрыял залежыць, у першую чаргу, ад рэдактара, а той, у сваю чаргу таксама не Някрасаў — і над ім пэўныя людзі стаяць з аддзела культуры ЦК КПБ, а ўжо наколькі тыя людзі разьбіраюцца ў мастацтве — адзін Езус ведае. Ён стары чалавек сказаў па старасьці — што яму губляць, праўду, а вось колькі маладых, адкормленых, выпешчаных калялітаратурным жыцьцём «літаратараў» выдатна ўсё ведаючы толькі каламуцілі ваду? Хай ім бог дарue, толькі не я. Залежнасьць Мінкіна ад Багдановіча, а Арлова ад Караткевіча ты, здаецца мне, перавялічваеш. Больш дакладней, яна ёсьць, але яны не эпігоны, яны роўныя (калі не па таленту, то па асобе) пасьлядоўнікі. І ў першых іх кніжках яўна праглядваюцца тыя кірункі, куды яны пойдуць — сваім, адметным, гэтак жа ж як і ў вышэйнайменаваных клясыкаў, шляхам. Пішучы ж пра гісторыю свайго краю — кіравацца на ўзоры іншых літаратур — ці трэба? Арлоў ніколі не стане Скотам ці Сінкевічам, ці Янам — надта моцны кантэкст нашага народу (гэта спецыфіка усякай гістарычнай літаратуры, яна найбольш своеасаблівая і нацыянальная). Караткевіч паказаў наш адметны шлях, Арлоў кладзе баразну не ўпоперак, а паралельна, а гэта ўжо залежыць ад суб'ектыўных адметнасьцяў таленту. Я ўпэўнены,

ён пойдзе далей за Уладзіміра Сымонавіча, бо той быў адзінокім зубрам, а гэты — далёка не адзін і ведае гэта і сыходзіць з гэтага, пісучы пра 63 год, ён піша пра 80-я гады, дай бог яму здароўя і цьвёрдай рукі.

Пішы. Алесь

*Пісана 3 чэрвеня.*





Добры дзень, Паліна.

Як заўсёды, з цікавасцю прачытаў твой зьместоўны і сьмешны ліст і як заўсёды пазайздросьціў бурліваму менскаму жыцьцю, якое ты гэтак каларытна апісваеш. Прыймі гэта за камплімент. Словам ты валодаеш дастаткова ўпэўнена і можаш дакладна перадаваць тое, што хочаш, а гэта вельмі істотна, шкада, калі гэта не пойдзе далей за эпісталярны жанр, але, я думаю, прадказваць тут што-небудзь рана і будучае пакажа. Параю толькі не баяцца брацца пісаць (нат' калі напачатку гэта і алегарычныя аповяды) ня трэба баяцца таго, што і мову добра яшчэ не ведаеш, наўрад ці хто можа сказаць, што ведае яе добра. Згадай, з якой мовы пачынаў Быкаў і як важка налілася яна ў апошніх яго творах? Не атрымоўваецца ў таго, хто нічога не робіць — гэта дакладна. Той жа Мінкін яшчэ 5 год таму толькі напісаў першы вершык па-беларуску, а да гэтага амаль 10 год пісаў па-расейску. От такія справы. Не ўтрымаюся і згадаю клясычнае прызнаньне-скаргу А. Пушкіна, што ў адным са сваіх лістоў наракаў на няведаньне расейскай мовы (у літаральным, а не дзеля красаваньня, сэнсе). Ён пісаў, што выказваць думкі па-французску, здаецца, яму лягчэй значна, чым па-расейску, але ці ня гэтае адчуваньне збоку навізны роднай мовы і дало яму магчымасьць быць у ёй дакладным і сьвежым?

Пазьняк, гэта сьвяты чалавек. Пры пэўных умовах з такіх людзей атрымоўваюцца Мараты, а пры нашым жыцьці-быцьці — ён як рыбіна, выкінутая на бераг (уяўляю, колькі ён бы ўжо надрукаваў ксёнжак, калі б яму далі такую магчымасьць,

выказацца напоўніцу) вось і з-за такіх людзей я злы такі, здаецца, любога бы зьеў — засмажыў бы і зьеў, запіваючы са здавальненьнем якім-небудзь чарнілам. Але, нажаль, наша гісторыя сьведчыць аб тым, што болі такіх людзей зьядалі. Ён згадваў Баразну, а цяпер згадай «І вярталіся мы» Арловага, бачыш, як там усё перавілася — гэтым яна і геніяльная яго аповесьць — бо зрэзак, сгустак апошняга 15-годдзя. Да мяне ўсё амаль даходзіць са спазьненьнем — Сідарэвіч, здаецца, напісаў на яго рэцэнзію, а яшчэ ж ён на Мінкіна напісаў — нагадвае мне Донкіхота, які б'ецца і сам ня ведае з чым. Бывае трапна каму стукне, а бывае — бог ты мой, думаеш, хай бы ты супакоіўся ды выпіў якую чарку, палягчэла б, адыйшоў бы, ён жа ж добры дзядзька, па-сутнасьці. Прачытаў рэцэнзію на Мінкіна ў «Маладосьці» Клышкавую — от яшчэ адзін прыклад, як чалавек глухі на вуха — то што ўжо зробіш (хоць і яго я таксама паважаю). Адчуваньне паэзіі, гэта як адчуваньне музыкі, мабыць (музычны слых) даецца ня кожнаму, хоць кожны можа меркаваць аб ёй і ганіць ці хваліць (як, прынамсі і аб музыцы).

Але буду ўжо канчаць. Што тычыцца маёй службы, то яна ідзе паціху, я ўваўсю ваюю прыкладна з тваімі аднагодкамі (ну, можа на год старэйшымі) і не надта заўважаецца розьніца ў гадох. Старэць будзем, як вернемся.

Пішы. Алесь.
*Пісана 19 чэрвеня.*





Добры дзень, Паліна.

Прашу адразу прабачэньня за тое, што доўга маўчаў і яшчэ большага за тое, што заяжджаючы ў Менск, не сходзіў на раскопкі (Дамініканскага касцёла ў Менску. — *Рэд.*), але шляхі Езусавы неспавядальныя і значыць так было наканавана. Я зьявіўся нечакана, «яко тать в нощи», нарабіў багата вэрхалу і перапалоху, ня ведаю толькі, ці карыснага. І зьнік у свой ужо Сьвярдлоўск. А канчаткова зьяўлюся недзе пад зіму. Вось зараз сяджу і думаю, які я — шчаслівы ці не шчаслівы чалавек і нічога не магу сказаць. Павыходзіла шмат цікавай літаратуры і пераклады і навуковая і з мастацкай тое-сёе пракідваецца, цікава так, а з сабою я ўзяў толькі «Быў, ёсьць, буду». І дарма ты так на Уладзіміра Сямёнавіча накінулася — сьмерць, напоі, ну і што? Урэшце і першае і другое не такія ўжо і благія рэчы. Гэтая яго ксёнжка — апошняя кропка, а ці багата хто асьмельваецца яе паставіць? Зрэшты, табе над такімі рэчамі яшчэ мабыць і зарана думаць. Жыццёвы вопыт — рэч, якую не пераскокнеш. Дзе ж ты зараз, што ты робіш? Як прайшла практыка? Што новага вышукалі вы? Гляджу на наклады нашых часопісаў літаратурных і думаю, госпадзі, якое ж яно элітарнае ўсё ж такі нашае мастацкае слова. Нейкі там башкірскі часопіс выходзіць накладам 50 000 асобнікаў, а нашае «Полымя» павольна згасае, і «Маладосць» даўно ўжо не першай сьвежасьці, ды пісьменнікам, мабыць усё роўна, абы добра плацілі, а што не чытаюць — не іх клопат. Ну і злы ж я прыеду дадому. Файны аповяд зьявіўся Уладзі Арловага ў ЛІМе пра Грынявіцкага, во хто малайчынка, а Мінкін пасьля

ўсіх тых атрыманых пілюляў ці не закінуў паэзію ўвогуле, кажуць, некуды на зарабкі падаўся, а потым будуць пець — не ўгледзелі, не ацанілі, як заўсёды, ня ў кожнага хапае такой настойлівасьці як у Караткевіча. І што хочаш, тое і рабі, няшчасная краіна, няшчасны народ.

Друкую, звычайна, у нарадзе па штабу, таму і ліст такі памяты — прыходзіцца выцягваць і як хутчэй, як хто з афіцэраў заходзіць. Так ссумаваўся па беларускаму слову — прыеду — і буду цэлы месяц чытаць, во асалода, во ўжо начытаюся. Багата плянаў, шмат募 мараў, а як яны выканаюцца...

Усё. Пішы. Алесь.
*Пісана 12 жніўня.*





Добры дзень, Паліна!

Твой ліст пэўны час ляжаў, чакаў, пакуль я прыеду з... Гомлі. Так-так. З 1 па 8 верасьня я зноў быў у Гомлі, маёй любай і такой цудоўнай увосень Гомлі. Лёс круціць нас як захоча і часам шэнціць вось на такія камандзіроўкі, нават не па сабе нейк робіцца, бо адчуваньне (гэта яшчэ не ўпэўненасьць, а толькі адчуваньне, як подых Сіверу), што за ўсё на гэтым сьвеце трэба плаціць, прымушае трымацца насьцярожана, надта ж шэнціць мне ў такіх вось дробязях, значыць у нечым больш істотным будзе пралёт. Тут і не захочаш, дык гэткім сузіральнікам накшталт Сагайдачнага за Сьмірновага «Трывожны месяц верасень» станеш, ці накшталт тваёй паважанай маці. Хаця, часам (як, напрыклад у наш безпрынцыпны і «нізкі» час) і такая нейтральная пазіцыя жыцьцёвая шмат значыць і аказвае свой уплыў. Шкода, што твая маці кінула універ. Ці думае яна туды вяртацца? Наколькі яе вынесла за мяжу? (У Прагу на 2 гады. — *Рэд*.) Яна разьвіталася са мною «па-ангельскі», не разьвітваючыся, але тут вінаваты я сам — бо не адпісаў апошні раз, а зайшоў сам у Гомлі ды нікога ўжо не было. Адразу папрашу ў цябе, калі ты перапісваешся з ёю — перадай маё «прабачэньне», у сэнсе, што я прашу.

Столькі ўсяго павыходзіла па-беларуску... Перакладаў шмат цікавых, плануецца распачаць выданне 100томнай «літаратуры сусьветнай», адныя пераклады Марыяка і Камю чаго вартыя. Прыемна, што з перакладамі нешта пачало набываць сістэмнасьць, каб яшчэ свае страсянулі галовамі — дык зусім цікава было б, а сьпяць, а паабрасталі тлушчам і задаволенасьцю

і сьпяць, чорт бы іх усіх парэзаў! Мяне, мабыць, нельга пускаць у крытыку сучасную, палічаць за шалёнага. Набраў ЛІМаў за ўсё лета, зараз праглядаю — ЛІМ «абарзеў», праз нумар — такія думкі па гісторыі, культуры, і ўсяму падобнаму праходзяць, якія б два гады таму не прайшлі. Мы жывем у цікавы перыяд менавіта СТАНАЎЛЕНЬНЯ беларускай культуры, нацыянальнай сьвядомасьці зараз у асяроддзі інтэлігенцыі, а што будзе далей — пабачымо. Толькі ж нельга, пэўне, і самаму стаяць убаку.

Прачытаў інтэрвью месячнай недзе даўнасьці Айтматава ў Литературке, во дзядзька, абурэў, такія думкі піхае, ну малайчына проста. Поўная неўспрымальнасьць канцэпцыі «зьліцьця і аб'яднаньня» і адкрытым тэкстам — пра сваю Кіргізію, пра ўвесь Звёнзак, пра нац. праблемы.

Загаманілі, урэшце, і ў нас, той жа ж «Беларусь» за ліпень, ці вось як піша Сачанка ў ЛІМе, гэты «патаньнелы» зямляк наш:

«Баімся, каб не зьніклі асобныя віды расьлін, птушак, жывёл — заносім іх у «Чырвоную кнігу», усяляк аберагаем, ахоўваем, бо са зьнікненнем іх бяднеем мы самі, бяднее наша матухна-зямля... І разам з тым... Марым пра адну-адзіную, агульную, зразумелую для ўсіх людзей мову, у якую быццам зьліюцца ўсе мовы... Памірае адзін чалавек і то яго шкада. А калі памрэ народ, яго мова а, значыцца, і нацыянальная самабытнасьць, своеасаблівасьць, непаўторнасьць, яго душа — культура? Ды не адзін жа народ, не адна культура, а ўсе народы, усе культуры? І будзе... Што б ні было, але яно будзе адно, аднолькавае для ўсіх і ўсюды. А прыгажосьць жа, радасьць жыцьця як раз у непаўторнасьці, разнастайнасьці, зьменлівасьці... Мудрая прырода стварыла столькі ўсяго рознага, ані не падобнага ні на што — жыцьця не хапае, каб усё ўбачыць, вывучыць, спазнаць. І невіліраваць, зьнішчаць тое, што стварыла прырода... Ці не лепш будзе вывучаць, спазнаваць, узбагачаць, разьвіваць, яшчэ больш разнастаіць, удасканальваць...

Асабліва, калі размова ідзе пра такія багацьці, як мовы, культуры...

Каб ён яшчэ ў сваёй творчасьці прытрымліваўся гэтых думак, о добра было б, але... будзем жыць, пабачым.

«Плаху» І ч. я прачытаў таксама. Файная, вельмі файная рэч, хоць напісана на нездаровай нейкай мове «инородца», ды за яго ўсё-роўна ніхто лепш з кіргізскай не перакладзе (ён, як і Быкаў, робіць гэта паралельна). Гэта не «сацыялістычны рэалізм», як, дарэчы, і «Завейны палустанак». А якія выдатныя выступы былі Б. Алейніка на зьездзе, нічога так сказаў Н. Гілевіч пра мову і іншыя таксама — пра не выцясьненьне з «акраін імперыі» «великим и могучим», але пабачым як гэта адаб'ецца ў нас, бо мы ж беларусы заўсёды першыя і «зьліцца» таксама прэм, аж духі займае!

Але ўсё. Буду тут пэўна яшчэ да 20 кастрычніка, а далей — ня ведаю, мабыць на паўтары месяцы перавядуць некуды.

Пішы. Алесь.<br>*Пісана 12 верасьня*